ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/1
(277)
студзень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
"РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**"Беларуская мова
і літаратура ў школе"**)



**WWW.RS.UNIBEL.BY**

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Размова пра істотнае*

## ЛІТАРАТУРНАЯ СІСТЭМА КААРДЫНАТ ЯНКІ СІПАКОВА



75

Іван Данілавіч Сіпакоў – паэт, празаік, перакладчык. Нарадзіўся 15 студзеня 1936 г. у вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна.

Аўтар кніг паэзіі “Сонечны дождж” (1960), “Лірычны вырай” (1965), “Дзень” (1968), “З вясны ў лета” (1972), “Веча славянскіх балад” (1973), “У поўдзень, да вады” (1976), “Вочы ў вочы” (выбранае, 1978), “Усміхніся мне” (1984); нарысаў “Па зялёную маланку” (1971); аповесцяў і апавяданняў “Крыло цішыні” (1976), “Жанчына сярод мужчын” (1980), “Усе мы з хат” (1982), “Спадзяванне на радасць” (1983), “Пяць струн” (1984), “Сад людзей” (1985), “Журба ў стылі рэтра” (1990); перакладаў “Лісце травы” У. Уітмэна (1978), “Турэмны дзённік” Хо Шы Міна (1985), “Санеты смутку” Ф. Прэшэрна (1987) і інш.; эсэ “Зялёны лісток на планеце Зямля. Партрэт Беларусі” (2010); рамана ў апавяданнях “Зубрэвіцкая сага” (2010).

**– Іван Данілавіч, як вядома, Вы належыце да прадстаўнікоў філалагічнага пакалення пісьменнікаў. Раскажыце, калі ласка, як прыходзіла моладзь у літаратуру ў пасляваенны час?**

– На мой погляд, дзеці вайны – магутнае творчае пакаленне, якое працавала ў беларускай літаратуры шчыра, захоплена, апантана і стварыла сваю, сумленную і высакародную, літаратуру. Літаратуру ў літаратуры. Нібыта сам Бог пасля такой навалы, якую перажылі мы, злітаваўся над намі і падараваў нашаму прыгожаму пісьменству моцную і слаўную кагорту сапраўдных талентаў!

Мы, сіроты і партызанскія дзеці, галодныя і босыя, але багатыя душою, чыстыя і сумленныя, са шчырымі памкненнямі і асалодаю настойліва ўзяліся за працу.

Да літаратуры ў нас былі вельмі цнатлівыя і чыстыя адносіны – мы любілі яе і пакланяліся ёй. Яна была для нас сапраўдным храмам, і мы, перад тым як увайсці ў гэтую святыню, доўга і цярпліва выціралі ногі… І ўсе мы яшчэ апантана любілі сваю Радзіму.

Мы ішлі ў літаратуру не кожны паасобку, а менавіта пакаленнем – плячо ў плячо. Таму і радаваліся не толькі сваім поспехам, але і поспехам сяброў і паплечнікаў.

А якіх Асоб, якіх вялікіх Майстроў нарадзіла дарагое маё пакаленне!

І найперш, вядома ж, ён, наш незабыўны і непаўторны Уладзімір Караткевіч. Класік і сучаснік. Геній і просты ў таварышаванні чалавек. Я ганаруся, што мы з Уладзімірам Сямёнавічам землякі. Сваю кнігу “Зямля пад белымі крыламі” ён падараваў мне са шчырым подпісам: “Дарагому другу і земляку ва ўсіх сэнсах (і па зямлі, і па сэрцы) Янку Сіпакову на добры ўспамін”. А які водгук ён напісаў на маё “Веча славянскіх балад”! Караткевіч – бясспрэчны важак нашага выраю.

Наша пакаленне – гэта, я лічу, тыя творцы, якія нарадзіліся паміж 1930 і 1940 гг. Усяго толькі дзесяць гадоў! А як прафесійна і як шмат зроблена імі! І што цікава – кожны з нас спяваў сваім голасам.

Наша пакаленне – гэта Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Анатоль Вярцінскі, Алег Лойка, Еўдакія Лось, Сцяпан Гаўрусёў, Пятрусь Макаль, Мікола Арочка, Павел Місько, Артур Вольскі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Барыс Сачанка, Васіль Зуёнак, Сымон Блатун, Міхась Стральцоў, Юрась Свірка, Алесь Наўроцкі, Алесь Ставер, Анатоль Кудравец, Анатоль Грачанікаў, Уладзі-

мір Дамашэвіч, Уладзімір Паўлаў, Раман Тармола, Данута Бічэль, Віктар Карамазаў, Віктар Казько, Міхась Рудкоўскі, Яўген Крупенька, Мікола Купрэеў, Ігар Хадановіч, Мікола Гіль, Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Ян Чыквін, Леанід Левановіч, Уладзімір Ліпскі, Леанід Дайнека…

А яшчэ ж Анатоль Клышка – аўтар беларускага буквара, галоўнай кнігі беларусаў. Вячаслаў Чамярыцкі – слынны даследчык нашых старадаўніх летапісаў. Васіль Сёмуха – перакладчык "Фаўста" Гётэ і "Песні Саламона". Нашы выдатныя краязнаўцы – Генадзь Кісялёў, Генадзь Каханоўскі, Святаслаў Асіноўскі. Этнограф Арсень Ліс, энцыклапедыст Янка Саламевіч, мовазнаўцы Аляксандр Падлужны і Алесь Булыка, тэатравед Анатоль Сабалеўскі, кінарэжысёры Ігар Дабралюбаў і Віктар Дашук. Крытыкі і літаратуразнаўцы Варлен Бечык, Серафім Андраюк, Міхась Мушынскі, Васіль Жураўлёў, Алесь Яскевіч, Мікола Мішчанчук, Антаніна Лысенка.

Доўгі пералік – мой гімн майму пакаленню, маім паплечнікам, якія ў XX ст. сумленна працавалі на стварэнне нашай роднай літаратуры. Ганаруся, што да гэтага пакалення належу і сам.

**– Калі ўзнікла ў Вас мара прысвяціць жыццё працы з родным беларускім словам?**

– Такое немагчыма спланаваць: а вось заўтра я напішу верш на беларускай мове. Гэта прыходзіць само сабою. Невядома адкуль, невядома чаму і невядома навошта.

Праблем з моваю тады ў нас, пасляваенных школьнікаў, не было: у Зубрэвіцкай школе ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Апрача рускай мовы і рускай літаратуры. Я і да сёння памятаю тую пяшчотную беларускую мову з вуснаў Раісы Цімафееўны Саўчук, выкладчыцы хіміі і біялогіі, з яе прыгожым "альбо".

Мы з прыемнасцю вучылі Коласава "Мамачка, галубка, / Просіць сын так міла…". Ага, мы і самі на санках, не дзіцячых, а сапраўдных санях, заклаўшы аглоблі назад, з'язджалі па крутым Канстанцінавым раўку аж да самай рэчкі.

Мы з прыемнасцю вучылі купалаўскае "Мой мілы таварыш, мой лётчык. / Вазьмі ты з сабою мяне…".

Бо і гэта зноў жа было наша. Мае Зубрэвічы – за сем кіламетраў ад вялікага ваеннага аэрадрома, на які найперш прысылалі самыя новыя савецкія самалёты. Яны над нашай вёскаю, над маёй хатаю ўзляталі з аэрадрома і садзіліся на яго. Самалёты ляцелі так нізка, што я бачыў у кабінах лётчыкаў: я махаў ім рукою, і яны, усміхаючыся, махалі мне.

Але вось нейкі зрух у маім разуменні паэзіі адбыўся тады, калі я прачытаў томік Максіма Багдановіча. Там усё было неяк не так – нова і незвычайна:

*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі з ярма,*
*І душу тваю абакралі, –*
*У ёй нават мовы няма.*

А затым і ўпартая, нястрыманая "Пагоня": "Толькі ў сэрцы трывожным пачую / За краіну радзімую жах…"

Не, усё ж паэтам я пачаў нараджацца толькі з лёгкай рукі Максіма Багдановіча. Не было б яго, мусіць, не было б і мяне…

**– Іван Данілавіч, ведаю, што Вы пабывалі ў многіх мясцінах свету – на Каўказе і ў Запаляр'і, на Ціхім і Ледавітым акіянах, бачылі сібірскія рэкі і пяскі ў Каракумах. А аднойчы Вы сказалі, што марыце пабываць у Індыі. Чым прываблівае Вас гэтая краіна?**

– Ведаеце, у Індыі на мове хіндзі выйшла салідная кніга маёй паэзіі "Чорны Бог і іншыя вершы". Пераклаў яе прафесар Дэлійскага ўніверсітэта Вар'ям Сінг. Прадмову напісаў індыйскі крытык Хемант Кукрэці. У Дэлі адбылася прэзентацыя, на якой прысутнічаў і тагачасны прэзідэнт Індыі. Таксама паэт. Яму "Чорны Бог" спадабаўся, і ён выступіў на сустрэчы. Усе яны ў маіх вершах знайшлі нейкае падабенства з індыйскім разуменнем жыцця і чалавека. Вось таму я і хацеў пабываць у Індыі, каб зразумець, чаму ж індусам блізкая мая паэзія.

**– Вашы пераклады дапамагаюць беларускаму чытачу пазнаёміцца з творчасцю літаратараў іншых краін, а нядаўна ўбачылі свет пераклады ўнікальных старажытнаіндыйскіх твораў – гімнаў з "Рыгведы" і замоў з "Атхарваведы". Думаю, не памылюся, калі скажу, што помнікі 2-й паловы II тыс. да н. э., створаныя на ведыйскай мове, на пачатку XXI ст. упершыню дзякуючы Вам убачылі свет па-беларуску. Як працавалася над гэтымі няпростымі тэкстамі?**

– Да перакладаў я заўсёды ставіўся вельмі сур'ёзна і паважліва. Лічу, што без іх не можа абысціся ніводная літаратура, якая паважае сябе, гэта жывая кроў літаратуры.

Выйшла кніга маіх перакладаў з літаратур свету "На волю птушку выпускаю". Асобнымі кнігамі выдадзены "Лісце травы" Уолта Уітмена, "Санеты смутку" Франца Прэшэрна, "Турэмны дзённік" Хо Шы Міна і "Вершы ў прозе" Івана Тургенева.

І раптам – аж да няўсцерпу! – захацелася, каб па-беларуску загаварылі тыя вядомыя і невядомыя аўтары, якія тварылі тысячу, дзве, тры тысячы гадоў да нашага з'яўлення на планеце Зямля. Апантана ўзяўся за вавілонскую паэзію – ёй жа каля 4 тысяч гадоў! Як яны, вавіланяне, трымтліва і шчыра маліліся!

*Я ж, божа мой, што я зрабіў?*
*Божа мой, госпадзе, што я зрабіў?*

*Багіня, матулька мая, што я зрабіў?*
*О той, у чыім доме я рабом нарадзіўся,*
*што я зрабіў?*
*О той, чый я раб, што я зрабіў?*
*Не пашкадаваў для яго быка са стойла,*
*Не пашкадаваў для яго дабра, што маю.*
*Хлеб знайду – адзін не з'ядаю,*
*Ваду знайду – адзін не вып'ю…*

Клінапіс, вершы на гліняных таблічках. Большасць тэкстаў дайшло да нас у абломках. Шмат дзе ў парадкоўніках пазначана: "астатняе разбіта", "далей разбураны тэкст", "сорак два радкі захаваліся дрэнна", "далей не хапае дваццаць вершаваных радкоў". Цяжка перакладаць, але ж трэба! І я пераклаў і надрукаваў у "Полымі" вялікую падборку з вавілонскай паэзіі. З прадмоваю і каментарыямі.

Са старажытнымі грэкамі і рымлянамі было крыху лягчэй. Ёсць жа слоўнікі лацінскай і старагрэчаскай моў, пераклады на нямецкую і польскую мовы. Была магчымасць параўнаць, а як, да прыкладу, вось гэтую страфу пераклалі немцы ці палякі?

Былі тут і свае складанасці. Антычныя ж вершы напісаны на папірусе, а папірус у Еўропе недаўгавечны. Таму скруткі з вершамі лепш за ўсё захаваліся ў сухіх пясках Егіпта, і то ў абрыўках. З вялікай спадчыны Сапфо да нас дайшло ўсяго некалькіх цэлых вершаў…

Анакрэонт, Алкман, Архілох і іншыя паэты Элады. І рымляне: Гарацый з сям'і раба-вольнаадпушчаніка; коннік Тыбул; Авідзій, які з'яднаў сабою дзве эры і якога імператар Аўгуст Актавіян за паэму "Майстэрства кахання" выслаў з Рыма. Катул, Праперцый, Марцыял, Луксорый… Я вучыў іх гаварыць на нашай роднай мове.

А "Рыгведа", адна з самых старажытных кніг свету, дзе гімны незразумелых да сёння арыйцаў – адкуль яны прыйшлі? – дзе словы "арыі" і "веды" значаць тое, што і ў нас: "араць" і "ведаць", і да гэтага часу на рускую мову яшчэ не перакладзеная. Я карыстаўся парадкоўнікам, зробленым з нямецкага перакладу: ні коскі табе, ні кропкі, ні клічніка – стаў усё гэта дзе сам захочаш… Словам, ніякіх знакаў прыпынку! А вобразнасць "Рыгведы" такая шматзначная, складаная, нечаканая…

**– Шмат гадоў Вашага жыцця аддадзена працы ў часопісе "Вожык" і дваццаць гадоў – у "Маладосці". Якім згадваецца той час?**

– Пачынаў я працу ў Шклоўскай раённай газеце літсупрацоўнікам. У "Вожык" мяне ўзялі яшчэ студэнтам аддзялення журналістыкі БДУ. Дзякуючы "Вожыку" я аб'ездзіў амаль усю Беларусь. Тыдзень быў у камандзіроўках, тыдзень адпісваўся. А ў "Маладосць" мяне запрасіў Генадзь Бураўкін. Ён прыйшоў разам з Барысам Сачанкам і Іванам Чыгрынавым да мяне дахаты, і яны ўгаварылі мяне перайсці з "Вожыка" ў "Маладосць". Пераходзячы, ледзь не плакаў – так палюбіў "вожыкаўскі" калектыў! Ды і ў "Маладосці" потым я перасядзеў чатырох рэдактараў: Бураўкін, Зуёнак, Грачанікаў, Далідовіч. Мяняліся рэдактары, абнаўляўся калектыў, але сам часопіс, яго кірунак і твар заўсёды заставаліся тымі ж: "Маладосць" імкнулася надрукаваць усё самае лепшае, цікавае, вострае, таленавітае.

Ведаеце, мне нават здаецца, што часопіс "Маладосць", заснаваны ў 1953 г., як усё роўна падараваны менавіта нашаму пакаленню. "Маладосць" была нашай лабараторыяй! Мы неслі ў часопіс усё, што пісалі, і ён цярпліва рабіў з нас, пачаткоўцаў, пісьменнікаў.

Якім згадваецца той час? Як самы шчаслівы! Гэта ж маладосць! Калі, не зважаючы на тое, што нешта не ўдаецца і нешта не атрымліваецца, усё роўна жыццё і праца ўспрымаецца толькі разам і толькі як свята. Тады ж, як усміхаецца народ, было "нам і мора па калена, / Нам і жыта – па плячо". Радасна працавалася! Бо калі б было дрэнна, хіба столькі вытрымаў бы: трынаццаць гадоў у "Вожыку" і аж дваццаць – у "Маладосці"!

**– Пэўны перыяд Вы ўзначальвалі ў Саюзе пісьменнікаў Камісію па рабоце з маладымі літаратарамі. Якія, на Ваш погляд, парады можна даць маладым не абдзеленым талентам людзям, што толькі пачынаюць працаваць са словам?**

– І не "пэўны перыяд", а гадоў дваццаць я ўзначальваў Камісію па рабоце з маладымі пры Саюзе пісьменнікаў БССР. Пятрусь Усцінавіч Броўка, на той час старшыня СП БССР, калі мяне абралі членам прэзідыума і мне трэба была нейкая нагрузка ў гэтай ролі, прапанаваў Камісію па рабоце з маладымі. Я аднекваўся: маўляў, сам малады, не пацягну. Аднак Пятрусь Усцінавіч супакойваў: "І нічога, справіцеся. А калі што якое – мы вам паможам".

Гэта быў залаты час для літаратурнай моладзі – пра маладых клапаціліся, іх заўважалі, падтрымлівалі.

Тады штогод, звычайна зімою, у Доме творчасці пісьменнікаў "Каралішчавічы", што пад Мінскам (былая дача Цанавы), адбываліся семінары, на якія запрашаліся пачаткоўцы з усёй рэспублікі. Маладыя тыдзень жылі там, да іх на сустрэчы прыязджалі найлепшыя нашы пісьменнікі, разам яны абмяркоўвалі творы ўдзельнікаў нарады. А самае галоўнае – размовы паміж сабою: яны знаёміліся, пачыналі сябраваць і гаварылі, гаварылі, гаварылі – і пра літаратуру, і пра жыццё.

Я ўзначальваў гэтую камісію, калі кіравалі і Броўка, і Танк, і Шамякін, і Гілевіч. І я рады, што ўсе, хто сёння пазнавальны ў беларускай літаратуры, прайшлі праз нашы Каралішчавічанскія семінары.

Дарэчы, і Вы, Зоя Іванаўна, нядаўна на сваім творчым вечары згадалі, як Вас з сястрою Таісай

Трафімавай на прэзідыуме аднагалосна прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Я памятаю тое пасяджэнне, на якім усе так хвалілі Вас, і мне прыемна, што і я тады – і як член прэзідыума, і як старшыня па рабоце з маладымі – шчыра прагаласаваў за Вас.

…Парады маладым? Працаваць і шукаць! Але шукаць толькі дзеля стварэння, а не дзеля разбурэння.

**– Іван Данілавіч, даруйце, але так хочацца зазірнуць у дамашнюю бібліятэку пісьменніка Янкі Сіпакова. Якія аўтары наталяюць Вашу літаратурную смагу, з кім "размаўляеце", "раіцеся", беручы ў рукі Яе Вялікасць Кнігу?**

– У мяне і праўда багатая хатняя бібліятэка – можа, на дзесяць тысяч тамоў. Некаторыя бібліяфілы лічылі яе адным з найлепшых хатніх кнігазбораў у горадзе Мінску. Я ж сам так не лічыў, бо ведаў сапраўдных бібліяманаў – як, да прыкладу, мой найлепшы сябра Барыс Сачанка. Тады кніжку цяжка было купіць, таму мы – Барыс, Анатоль Вярцінскі, Серафім Андраюк, Алесь Гардзіцкі – нават арганізаваліся ў своеасаблівы калектыў, дзе "Сачанка Бора быў начальнік збораў". У пошуках кніг мы лёталі па кнігарнях, кніжных базах ды па прыватных калекцыях. І амаль ніколі я ў той час не вяртаўся дадому без кнігі ў руках.

Барыс ганяўся за рарытэтамі – першае выданне, пятае выданне, прыжыццёвае… У мяне ж рарытэтаў, прызнаюся, малавата. Я ствараў сабе бібліятэку жывую – для працы і насалоды.

У мяне сабрана амаль уся антычная літаратура: "Эллинские поэты", "Историки Рима", "Историки Греции", "Жизнь двенадцати цезарей" Светонія. "Императорский Рим в лицах" – гэта Аўгуст Актавіян у мармуры, Клеапатра ў вапняку, Луцый у бронзе, Тыберый, Калігула, Клаўдзій у вобразе Юпітэра, Нерон з рымскага музея тэрмаў, Актавія, дачка Месаліны.

Канфуцый. У чатырох-пяці перакладах аднаго і таго ж афарызма – часам яны ў розных перакладчыкаў гучаць як самастойныя творы.

"Махабхарата" – самая старажытная кніга на Зямлі. З яе я даведаўся, што ў тых далёкіх войнах ваявалі не ўсе супраць усіх, а кожны воін станавіўся на сечу насупраць таго воіна, якога ён павінен перамагчы.

"Гісторыя" Герадота, "Гісторыя Фларэнцыі" Макіявелі, "Гісторыя інкаў", Гамер – "Іліяда" і "Адысея".

Сусветная паэзія ва ўсіх магчымых і немагчымых серыях і без серый. "Літаратурная гісторыя ЗША" ў трох кнігах.

Найпаўнейшая Пушкініяна, Талстаніяна. А выдатная серыя "Майстры сучаснай прозы"! У мяне яна сабрана, здаецца, поўнасцю. Вось нядаўна чую па радыё: лаўрэатам Нобелеўскай прэміі стаў Марка Варчас Льёса. Падыходжу да паліцы, бяру ў рукі томік і зноў зачытваюся…

Ёсць у маёй бібліятэцы і беларускія рарытэты. Трыццаць пяты том з "Поўнага збору рускіх летапісаў". Гэта – беларускі том. У ім летапісы беларуска-літоўскія: Нікіфараўскі, Супрасльскі, Слуцкі, Акадэмічны, Віленскі, Летапіс Археалагічнага таварыства і інш.

Я ганаруся важкім фаліянтам "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага, якая выйшла ў Коўне ў 1926 г. Гэта "спроба паяснiцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагоддзя". Я прывёз яе з Вільні, з кніжных развалаў Станкевіча, якія захаваліся ў Віленскіх мурах…

У маёй бібліятэцы ёсць і іншыя рарытэты – першыя кніжкі Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Н. Арсенневай, К. Буйло, М. Гарэцкага. "Мая ліра" К. Сваяка, "Матчын дар" А. Гаруна, "Беларуская граматыка" Б. Тарашкевіча, "Пережитки древняго міросозерцанія у белоруссовъ" Адама Багдановіча… Праўда, гэта ўсяго толькі факсімільныя выданні. Аднак жа іменна такімі бачылі свае кнігі нашы шаноўныя класікі!

Гэтак жа, як і "Біблію" Скарыны, выдадзеную факсімільна ў трох вялікіх тамах. Гэтак жа, як і Статут Вялікага Княства Літоўскага. Адным словам, пра маю багатую бібліятэку цяжка, немагчыма расказваць коратка. Хоць я і спрабую – пішу твор "Мая бібліятэка". Яго з першага нумара гэтага года пачынае друкаваць часопіс "Маладосць"…

**– Іван Данілавіч, як вядома, Вы стваральнік першых балад у беларускай літаратуры, кнігі паэм у прозе, прытчаў… Даследчыкі часта называюць Вашу паэзію эксперыментальнай. А як Вы самі лічыце?**

– Я не стваральнік першых балад у беларускай літаратуры – балада ў ёй распрацавана да мяне і даволі грунтоўна. І прытчы для нас не навіна. А вось асобных, цэласных кніг балад, прытчаў ды паэм у прозе, і праўда, у нашай літаратуры не было. Паэмы ў прозе – увогуле экзатычны ў нас жанр. На маю думку, любая самадастатковая літаратура ў свеце не павінна цурацца ніякай экзотыкі, калі яна не пярэчыць жыццю і норавам народа. Сапраўды, я ў сваёй творчасці шмат эксперыментаваў. Вядомы даследчык нашай літаратуры ў Вялікабрытаніі Арнольд Макмілін у кнізе "Беларуская літаратура ў 50 – 60-я гады XX ст." напісаў пра гэта: "У паслясталінскі перыяд эксперыментальная паэзія асацыіравалася пераважна з фігурай Янкі Сіпакова, якога неаднакроць як расхвальвалі, так і бэсцілі".

Ведаеце, я не люблю эксперыменты дзеля эксперыментаў. Яны разбуральныя! А я ніколі не працаваў на разбурэнне: усе мае пошукі і ў паэзіі, і ў прозе, і ў эсэістыцы – толькі стваральныя. Я так люблю жыццё, што не маю жадання марнаваць час на нейкія глупствы, якія разбураюць яго.

**– Іван Данілавіч, Вы – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі за кнігу “Веча славянскіх балад”. Думаю, чытачам будзе цікава даведацца пра гісторыю напісання гэтага цыкла…**

– Не, гэта не цыкл балад, а паўнакроўная кніга са сваімі сюжэтамі, пабудоваю, формаю і, калі хочаце, нават са сваёю моваю. Вядома, цяжка было над ёй працаваць, але гэтая цяжкасць выклікала ў мяне нават нейкі азарт: а я ўсё ж адолею!

Сюжэт у “Вечы”, так бы мовіць, перакулены: ад нашых дзён і – у глыбіню стагоддзяў. Спачатку я дайшоў толькі да X ст. А потым зразумеў: не, трэба ісці далей! І глыбей. Бо незапатрабаванымі ж засталіся і хрышчэнне, і дулебы, і анты, і барацьба з аварамі, готы і рымляне, паходы на Візантыю, і расаманы, і венеры… І я зноў заглыбіўся ў “Веча”. І дайшоў са славянамі да І ст.

Ад “Веча” цяжка адыходзіў. Хацелася і далей пісаць так, як ужо навучыўся. Аднак я рашуча, хоць і з цяжкасцю, адмовіўся ад таго, што ўжо так добра асвоіў. Нейкі час маўчаў. Гады тры. Потым з’явілася кніга элегій “У поўдзень, да вады”.

**– З асаблівым хваляваннем перачытваю Вашу кнігу “Зялёны лісток на планеце Зямля”. Ведаю, што ў некаторых адукацыйных установах на аснове кнігі складзены план работы этнаграфічных музеяў. Кожнае з 30 эсэ знаёміць вучняў з жыццём і побытам беларусаў, прыродай і традыцыямі. Як ствараўся гэты своеасаблівы партрэт Беларусі?**

– Пачатак яго – у часопісе “Беларусь”, дзе я тады працаваў. Тагачасны рэдактар Аляксандр Андрэевіч Шабалін меў добры намер – мару выдаваць “Беларусь” акрамя беларускага і рускага варыянтаў яшчэ і на асноўных мовах свету. На англійскай мове мы нават паспелі выпусціць некалькі нумароў. Я прапанаваў адкрываць кожны замежны нумар невялічкімі эсэ, якія расказвалі б іншаземнаму чытачу пра Беларусь і беларусаў: дзе мы знаходзімся на планеце, што ядзім, з чаго смяёмся, якія песні спяваем і г. д. Мне спадабалася рабіць гэтыя эсэ, а калектыву – чытаць іх. Таму калі іншамоўныя варыянты пазакрываліся, я перанёс эсэ ў галоўны беларускамоўны часопіс і некалькі гадоў з нумара ў нумар друкаваў на адкрыццё свой “Партрэт Беларусі”. Калі ўбачыў, што ўсё разам становіцца Кнігай, я яшчэ з большым натхненнем працаваў над ёю, дапаўняючы, пашыраючы, вывяраючы яе.

**– Іван Данілавіч, аднойчы Вы сказалі, што “сапраўдны пісьменнік павінен абавязкова стварыць сваю літаратурную сістэму каардынат, прапанаваць свой лад творчых каштоўнасцяў”…**

– Пісьменнік павінен быць пазнавальным. Нават па адным сказе, адным радку. Па стылі ж, па манеры пісьма не зблытаеш вялікіх Талстога і Дастаеўскага, Чэхава і Буніна. Ды і нашых Купалу і Коласа, Барадуліна і Гілевіча, Вярцінскага і Пісьмянкова. Пісьменнік павінен быць своеасаблівы, арыгінальны, не падобны ні на кога не толькі тым, як ён піша, але і тым, як ён думае, разважае, бачыць. Вось гэта і ёсць тая “сістэма каардынат”, пра якую я згадаў раней.

**– Па традыцыі, раскажыце, калі ласка, чытачам пра Вашы творчыя планы…**

– Летась у выдавецтве “Літаратура і мастацтва” выйшла кніга “Зубрэвіцкая сага” – раман у апавяданнях, над якім я працаваў дзесяць гадоў. Закончыў працу над зборнікам мужчынскіх апавяданняў “Малады вецер”. Цяпер працую, як я ўжо і казаў, над кнігаю пра кнігі “Мая бібліятэка”. Ёсць і яшчэ пэўныя задумы. Дай Бог іх здзейсніць.

**– Іван Данілавіч, як галоўны рэдактар “Роднага слова” я шчыра ўдзячна Вам за асаблівую прыхільнасць да нашага выдання. Ваша меркаванне аб ім як літаратара і старэйшага сябра нам вельмі важна. Што маглі б Вы сказаць пра часопіс і што пажадаць роднасловаўцам?**

– “Роднае слова” – вельмі патрэбны Беларусі часопіс. І менавіта цяпер, калі беларускаму народу даводзіцца нанава вучыцца роднай, дзяржаўнай мове, ад якой ён ужо адвык.

Я пастаянны чытач “Роднага слова” і ведаю, Зоя Іванаўна, з якім піетэтам і пашанаю заўсёды гаворыце Вы пра свой часопіс, як любіце яго. Рады, што ў вас падабраўся такі дружны, таленавіты, шчыры душою калектыў, з якім горы можна звярнуць. Як Вы кажаце, роднасловаўцы!..

Бачу, што выданне змяшчае нарматыўныя дакументы, канцэпцыі, адукацыйныя стандарты, схемы ўрокаў – часопіс жа найперш для настаўнікаў. Шмат цікавых матэрыялаў па культуралогіі, мастацтве. Не ведаю, якім чынам удаецца Вам усё гэта аб’яднаць, знайсці тыя словы і формы падыходу да матэрыялаў, што ўсё ў Вашым – і нашым – часопісе чытаецца з неаслабнай увагаю. Прызнаюся, што і я новую рэдакцыю беларускага правапісу вывучаю па нашым з Вамі часопісе – па апорных схемах Віктара Іўчанкава.

Веру: ад таго, што Вы сустрэліся з “Родным словам”, выйгралі і часопіс, і Вы. Часопіс – што займеў такога шчырага абаронцу, а Вы – што набылі ў сябры такіх аднадумцаў. Адным словам, я захоплены Вашаю дружбаю!

Разумею і пэўныя складанасці “Роднага слова”. І хочацца пажадаць, каб тыя, ад каго залежыць лёс “Роднага слова”, звярнулі на часопіс большую ўвагу: ён жа, ведаю, пакуль што на самаакупе. А часопіс, які так рупіцца пра лёс дзяржаўнай мовы, павінен мець і дзяржаўную падтрымку.

Веру, шаноўныя роднасловаўцы, у вашы вялікія поспехі і перамогі!

Гутарыла **Зоя ПАДЛІПСКАЯ.**

Сяргей ШАПРАН

# ДОН КІХОТ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА

## ДА 75-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ СЁМУХІ

18 студзеня споўнілася 75 гадоў Васілю Сяргеевічу Сёмуху, беларускаму перакладчыку. Гэта той рэдкі выпадак, калі імя чалавека агульнавядомае, хоць і не абцяжарана ні пасадамі, ні званнямі, а яго біяграфія, на першы погляд, нібыта не выклікае асаблівай цікавасці: выкладчык нямецкай мовы ў сярэдніх школах, літсупрацоўнік "ЛіМа", рэдактар рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Але найлепшая ва ўсе часы рэкамендацыя – не пасады і не званні, а зробленае. І калі б Васіль Сёмуха пераклаў на беларускую мову толькі Біблію ці толькі гётаўскага "Фаўста", то ўжо адным гэтым ён назаўсёды ўпісаў бы сваё імя ў гісторыю беларускай культуры.



### ПА РЭКАМЕНДАЦЫІ КАРАТКЕВІЧА

Лёс Васіля Сёмухі, ураджэнца хутара Ясенец Кобрынскага павета Брэсцкага ваяводства (цяпер – Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці), складваўся драматычна ўжо з самага пачатку – яго бацькоў у 1942 г. расстралялі фашысты. Здавалася б, сын лесніка павінен быў узненавідзець усё нямецкае, але Васіль Сёмуха, паступіўшы ў 1954 г. на рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава, наадварот, захапіўся нямецкай мовай і ўжо ў 23 гады пачаў перакладаць "Фаўста" І. В. Гётэ. "Мама ведала нямецкую мову, таму і я павінен быў яе вывучыць, – скажа ён значна пазней. – Ужо пасля прыйшло асэнсаванне таго, што калі вывучу мову, дык знайду ў немцаў адказы на свае дзіцячыя пытанні: чаму і за што забілі маіх родных?.. З цягам часу нямецкая мова захапіла мяне, і я зразумеў, што нельга жыць нянавісцю да гэтай вялікай нацыі, якая ў той час знаходзілася пад дыктатурай".

У 1967 г. ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Рэкамендацыю даў у тым ліку блізкі сябра Уладзімір Караткевіч: «…ведаю Васіля Сяргеевіча Сёмуху некалькі год, з тых часоў, калі ён быў рэдактарам адной з маіх кніг. Рэдактарам зычлівым, высокакультурным, суровым ва ўсім, што датычылася таго, каб кніга зрабілася лепшай. Тое самае могуць сказаць і іншыя пісьменнікі, кнігі якіх ён рэдагаваў. Пачуццё стылю, выключнае веданне моў і, перш за ўсё, сваёй, беларускай, аж да тых тонкасцяў яе, да якіх ведаюць яе лічаныя, веданне ўсіх яе стыхій, дыялектаў, гаворак, арго – рабіла заўсёды неацэнную дапамогу людзям, якіх ён рэдагаваў. Вельмі карыснае было, таксама, веданне ім некалькіх іншых моў. Наколькі я магу меркаваць – дасканалае веданне.

Я не казаў бы пра гэта, каб усе тыя якасці спаўна не выявіліся ў яго перакладах. Ён выпусціў у свет некалькі перакладаў кніг нямецкай літаратуры, сярод якіх я лічу асабліва ўдалым пераклад кнігі Людзвіга Рэна. Часамі мне даводзіцца чуць аб гатовых працах, якія ляжаць у яго ў партфелі, перакладах з Шылера, Гейнэ, Навaліса, Рыльке.

Некаторы час таму назад В. Сёмуха скончыў вялікую, амаль неверагодную па маштабу працу: першы пераклад на беларускую мову "Фаўста" Гётэ. Я сачу за гэтай працай даўно і адзінае, што выклікае ў мяне непаразуменне, гэта тое, што пераклад дагэтуль не надрукаваны, не выдадзены асобнай кніжкай.

Шмат людзей ужо чыталі яго, і таму я магу казаць аб перакладзе "Фаўста", як аб перакладзе высокамастацкім, выключна-дакладным, паэтычным. Гэта сам Гётэ і, у той жа час, Гётэ,

які, нібыта, напісаў сваю вялікую паэму па-беларуску. Я ведаю некаторыя пераклады паэмы і смела лічу, што пераклад В. Сёмухі па мастацкай дакладнасці вышэй за рускі пераклад Пастарнака і роўны з лепшым, дагэтуль, латышскім перакладам Я. Райніса (дарэчы, Сёмуха ў працэсе працы вывучыў гэты пераклад, як і шматлікія іншыя, дзеля таго, каб ведаць вопыт перакладчыкаў і пазбегнуць іхніх памылак; ён ведае латышскую мову і перакладае цяпер, а мо і пераклаў ужо, драму Я. Райніса "Агонь і ноч").

Лічу, што такі перакладчык – вялікі набытак для нашай пісьменніцкай арганізацыі…»*.

#### ЗРАЗУМЕЛЫ БОЛЬ БЭЛШАВІЦЫ

Што тычыцца працы над "Фаўстам", дык сапраўды, дзеля таго каб прачытаць геніяльную трагедыю ў перакладзе класіка латышскай літаратуры Яніса Райніса, В. Сёмуха вывучыў латышскую мову. Адным з вынікаў такой падзвіжніцкай працы сталі не толькі яго пераклады з Райніса, але і кніга Візмы Бэлшавіцы "Белы алень", якая выйшла ў Мінску ў 1985 г. і якую Васіль Сяргеевіч лічыць адной з галоўных прац свайго жыцця. «Хоць гэта кніга засталася абсалютна не заўважана ў Беларусі, – гаворыць ён, – толькі лічаныя пісьменнікі сказалі: "Васіль, на сённяшні дзень гэта тваё найлепшае. Гэта вялікая паэтэса". Бэлшавіца – гэта не беларускі менталітэт. Вось калі пачалася перабудова, нам, беларусам, было незразумела, чаму Прыбалтыка так паўстала за сваю незалежнасць. Нам быў незразумелы гэты боль прыбалтаў, а Бэлшавіца пісала пра гэта. Таму латышы імгненна зразумелі яе, ім не трэба было лішніх слоў. Яе кніга выйшла накладам у чатырнаццаць з паловай тысяч асобнікаў і, скрадзеная з тыпаграфіі, прадавалася па шалёных цэнах. Любы беларускі паэт можа толькі марыць пра гэта. Хто б не жадаў такога? А на долю Візмы гэта выпала. Аднак быў жа і іншы час, калі яе ўвогуле не друкавалі – не друкавалі на працягу цэлых васьмі гадоў. Ніводнага верша, ніводнага радка! І ўсё за міні-паэму «Нататкі Індрыка Латыша на палях "Лівонскай хронікі"», за якую яна пасля, калі ўжо прыйшлі іншыя часы, стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі… Яе паэзія – гэта тое, чым я жыў тады, тое, што мне балела. Сам я пра гэта не мог напісаць, бо не паэт, але затое я знайшоў гэта ў латышоў. Увогуле, галоўныя фігуры майго жыцця ў паэзіі – гэта Гётэ, Бэлшавіца і Рыльке. Аднак на першае месца трэба ставіць

* Рэкамендацыя У. Караткевіча ад 18 лютага 1966 г. Асабістая справа пісьменніка В. С. Сёмухі.



**Васіль Сёмуха з дачкой Алесяй.**

Бэлшавіцу. Гётэ і Рыльке – гэта ўсё ж гісторыя, а Візма – мая сучасніца, яна піша аб тым, пра што я сам думаю».

Увогуле пачатак перакладніцкай працы В. Сёмухі быў не толькі плённым, але і па-выдавецку даволі ўдалым: яго пераклады з нямецкай, дацкай, шведскай друкаваліся ў часопісах, з'яўляліся ў зборніках "Дзень паэзіі" і выходзілі асобнымі кнігамі ў Дзяржвыдавецтве БССР (пазней – выдавецтва "Беларусь") – В. Брэдэль, Р. Кірш, Х. Лакснес, Л. Рэн, Я. Фрыдэгор, В. Хейнесен, Э. Штрытматэр… Але ўжо хутка ў лёсе В. Сёмухі адбыліся змены, якія не абяцалі яму нічога добрага.

#### У ЗМАГАННІ ЗА "ФАЎСТА"

Выданне перакладу "Фаўста" было запланавана даволі няпэўна – недзе ў 1965 – 1967 гг., а пасля ўвогуле перанесена на 1971 г. І гэта пераклад, пра які Уладзімір Караткевіч пасля напісаў: "…перакладчык дасягнуў дзіўнага: з намі гаворыць вялікі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску"**.

У выніку В. Сёмуха быў вымушаны звярнуцца ў сакратарыят Саюза пісьменнікаў БССР з

** Караткевіч, У. Зб. тв.: у 8 т. / У. Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1991. – Т. 8, кн. 2: З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, постаці, крытычныя творы, інтэрв'ю, летапіс жыцця і творчасці. – С. 409. Упершыню: Караткевіч, У. І наш "Фаўст" / У. Караткевіч // Маладосць. – 1978. – № 5.



*Сяргей Уладзіміравіч Шапран – журналіст, публіцыст. Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1992). Доўгі час працаваў карэспандэнтам і аглядальнікам шэрагу латвійскіх і беларускіх газет. Укладальнік кніг: "Дажыць да зялёнай травы…: ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960 – 2003)" (2008), "Паслаў бы табе душу…: ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954 – 1971)" (разам з Н. Давыдзенкай; 2009). Аўтар кнігі "Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах" (2009).*

просьбай падтрымаць у выдавецтве "Беларусь" яго хадайніцтва пра перанясенне тэрмінаў выдання "Фаўста" на 1968 г., бо, "не маючы цвёрдых гарантый ад выдавецтва", ён не мог быць "упэўнены ў тым, што намечаны тэрмін можа быць канчатковым"*. І хоць сакратарыят СП быццам бы рабіў захады ў падтрымку выдання гэтага перакладу, аднак размова па-ранейшаму ішла выключна пра перспектыўныя планы. Што і прымусіла перакладчыка пайсці на незвычайны і рызыкоўны крок: у снежні 1967 г. ён звярнуўся да пасла ФРГ у Маскве з наступным лістом:

«Прашу Вас, пан пасол, раз'ясніць мне наступнае: у сувязі з тым, што германскія акупацыйныя ўлады ў 1942 годзе знішчылі ўсю маёмасць маёй сям'і, а таксама расстралялі маіх бацькоў, я б хацеў ведаць, ці магу я прэтэндаваць на атрыманне ад ураду ФРГ адпаведнай кампенсацыі за нанесеныя страты, якой дастаткова для

а) будаўніцтва новай кватэры;

б) выдання "Фаўста" Гётэ, перакладзенага мною на беларускую мову і не выдадзенага ў сувязі з нерэнтабельнасцю яго публікацыі на беларускай мове»**.

Аднак пісьмо да адрасата не дайшло – перададзенае В. Сёмухам у Міністэрства замежных спраў БССР, яно было накіравана не ў пасольства ФРГ, а… у ЦК КПБ(б), а адтуль – у Саюз пісьменнікаў. У выніку пачаўся разбор персанальнай справы перакладчыка – спачатку на сакратарыяце, затым і на прэзідыуме СП БССР, бо, па словах Івана Мележа, які выступіў тады на пасяджэнні прэзідыума, "В. Сёмуха ў сваёй пісьмовай заяве даў дадатковыя тлумачэнні, у іх ён па сутнасці адстойвае сваю ранейшую памылковую і выключна няправільную пазіцыю". Вердыкт амаль адзінадушнага галасавання (супраць быў толькі Васіль Вітка, устрымаўся Васіль Быкаў) – выключыць з шэрагаў СП «за недастойны члена Саюза пісьменнікаў учынак, які выразіўся ў тым, што В. Сёмуха з мэтай палітычнага шантажу і вымагацельства імкнуўся звязацца з пасольствам ФРГ у Маскве, паклёпніцкі скардзіўся пасольству, што Саюз пісьменнікаў адмаўляецца даць яму кватэру, а выдавецтва адмаўляецца выдаваць пераклад на беларускую мову "Фаўста" Гётэ, пытаўся аб магчымасці выдання гэтага пераклада ў ФРГ…»

У маладыя гады мы часта прыспешваем падзеі і грукаемся ў дзверы, якія на той момант наглуха для нас зачынены. Толькі з цягам часу, пабітыя не дужа літасцівым лёсам, мы навучаемся ўменню цярпець і чакаць. Пераклад "Фаўста" В. Сёмухі ўсё-такі ўбачыў свет, але толькі ў 1976 г., і з таго часу вытрымаў не адно перавыданне. Больш за тое, гэтая праца была названа немцамі найлепшым перакладам "Фаўста" на славянскія мовы. Сам Васіль Сяргеевіч у 1977 г. быў зноў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, і хоць яму прапанавалі проста ўзнавіцца, ён прынцыпова прайшоў усю працэдуру ўступлення ў СП ад самага пачатку.

Сёння ў яго творчым набытку пераклады не толькі ўжо названых нямецкамоўных аўтараў, але і Г. дэ Бройна, Ю. Брэзана, Ш. Гайма, Г. Гейнэ, Г. Гесэ, Г. Гофэ, Я. Грымельсгаўзена, Ф. Дзюрэнмата, П. Зюскінда, Г. Майрынка, Ф. Ніцшэ, Р.-М. Рыльке, Г. Фалады, Ф. Фюмана, Ш. Хэрмліна, Ф. Шылера. Невыпадкова перакладчык быў узнагароджаны "Залатым Знакам Гонару" ГДР (1981) і ордэнам "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй" (2001), а за пераклад "Доктара Фаўстуса" Томаса Мана атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа (1992). У сваю чаргу Латвійская Рэспубліка ўганаравала яго найвышэйшай узнагародай – "Ордэнам Трох Зорак".

Увогуле спіс замежных аўтараў, якія дзякуючы В. Сёмуху "загаварылі" на мове Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, можна доўжыць і доўжыць, бо акрамя прыгаданых латышскіх паэтаў ім таксама перакладзены А. Бэлс, Э. Вілкс, Л. Думберс, І. Зіеданіс, А. Клявіс, В. Лаціс, Э. Лук'янскіс, З. Скуіньш, А. Чакс, М. Чаклайс, Р. Эзера, К. Элсбергс; палякі Я. Гушча, М. Канапніцкая, А. Каспровіч, А. Міцкевіч, Ц. Норвід, Ю. Славацкі, Г. Тракль, Ю. Тувім, Ф. Фарналь-

* Паводле заявы В. Сёмухі ў сакратарыят СП БССР ад 19 кастрычніка 1966 г. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Фонд 78. – Воп. 1. – Адз. зах. 143. – Арк. 172.

** Тут і далей цытуецца паводле "Выпіскі з пратакола № 2 пасяджэння Прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР" ад 14 сакавіка 1968 г. за подпісам І. Шамякіна. Асабістая справа пісьменніка В. С. Сёмухі.

чык; украінцы Ю. Гойда, І. Калянік, А. Капштэйн. Нават пры самым дакладным пераліку ўсё роўна застаецца небяспека некага не назваць.

**БІБЛІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

У 1988 г. Васіль Сёмуха распачаў працу над перакладам Бібліі, кніг Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў. Каб хоць у нейкай ступені ўявіць тытанічнасць гэтай невераемнай працы, прыгадаем сведчанне самога Васіля Сяргеевіча: «Хоць перакладаў я з царкоўнаславянскай мовы, але на кожным кроку кансультаваўся з іншымі перакладамі і каментарыямі, крытычнай літаратурай і працамі багасловаў. Перакладаў было шмат: сінадальны пераклад на рускую мову, пераклады на ўкраінскую, польскую, нямецкую, балгарскую і чэшскую мовы. Адзіны не царкоўны пераклад, якім я карыстаўся, – гэта пераклад Францыска Скарыны. Скарына быў свецкім чалавекам і зрабіў працу, якую цэрквы дасюль не прызналі – на мой вялікі жаль і да сораму ўсіх цэркваў. Аднак больш за ўсё мяне цікавіла, як тое ці іншае месца трактуюць праваслаўе і каталіцызм. Былі і пратэстанцкія пераклады. Вельмі мне дапамог пераклад Марціна Лютэра, зроблены ў XVI ст., ён здаўся мне больш пераканаўчым і зразумелым, чым рускі сінадальны і пазнейшыя нямецкія. Да прыкладу, я пытаўся ў многіх, што азначае фраза "суета сует и томление духа". І беларусы, і рускія разумелі пад "суетой" тое, што перадаецца беларускім словам "мітусня". Але ў біблійнай фразе "суета" ўжыта ў іншым сэнсе – як "напрасность", "пустота", "ничто". Такога значэння сучасны чалавек ужо не ўлоўліваў. І калі ў праваслаўных перакладах (украінскім, рускім, балгарскім) гэта фраза засталася, дык у каталіцкіх раптам з'ўлялася іншая: "і пагоня за ветрам" (ці як у нямецкім – "паляванне на вецер"). Можа здацца, што гэта несумяшчальныя рэчы. Але і той, і другі пераклад правільныя – усё залежыць ад таго, як старажытныя яўрэі разумелі слова "дух", бо ўсё тое няўлоўнае і неадчувальнае, што ёсць у чалавеку і ва ўсім жывым, – усё гэта перадавалася адным словам. Аднак у ніводнай сучаснай мове такога ўніверсальнага слова ўжо няма. Таму адны перакладалі гэта як "дух", іншыя – як "дунавенне", трэція – як "вецер". І такіх месцаў у Бібліі – сотні».

Праўда, з выданнем перакладу Бібліі таксама ўзніклі праблемы. Кніга магла з'явіцца і раней – дзякуючы біблійнай камісіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ЗША і Канады, у супрацоўніцтве з хрысціянскай місіяй Global Missionary Ministries (Канада), аднак Алеся Сёмуха, дачка Васіля Сяргеевіча, якой і належаць аўтарскія правы на пераклад, выказалася за тое, каб першае выданне выйшла абавязкова ў Беларусі. "І хаця мы страцілі на гэтым шмат грошай, але я быў у захапленні ад такога рашэння Алесі, – прызнаецца пасля Васіль Сяргеевіч. – Я задаволены больш нават тым, што Бог даў мне такіх добрых дзяцей, якія не толькі разумеюць мяне, але і сталі апірышчам у гэтай справе – менавіта дачка Алеся і сын Сяргей збіралі грошы на гэтае выданне. Я толькі з жалем магу канстатаваць, што ні дзяржава, ні грамадскія аб'яднанні – грамадзянскія і царкоўныя – не дапамаглі. Дапамагла беларуская дыяспара Амерыкі, Канады, Аўстраліі і Еўропы, а таксама нашы прадпрымальнікі, якія лепей за дзяржаву разумелі важнасць гэтай справы".

У выніку ў 2002 г. дабраславёны першаіерархам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы ЗША і Канады мітрапалітам Мікалаем на карыстанне ў Беларускай праваслаўнай царкве пераклад Бібліі быў выдадзены. Васіль Сёмуха завяршыў яшчэ адну вялікую працу свайго жыцця. Магчыма, найгалоўнейшую, толькі дзеля ажыццяўлення якой і варта было прыйсці ў гэты свет.

**КАЛІ КОЛА ЗАМЫКАЕЦЦА**

У 2000 г. спраўдзілася даўняя мара Васіля Сёмухі: ён упершыню наведаў Германію, убачыць якую хацеў усё жыццё, але адначасова баяўся гэтай сустрэчы. «Я ж помсціў немцам! – скажа ён пасля. – Я так і сказаў ім: "Без вашага дазволу я браў у вас тое, што лічыў найлепшым, і перакладаў на беларускую мову. Па-першае, для ўласнага самавыхавання, а па-другое, для сваёй краіны. Я "прысвойваў" гэта, пашыраючы вашу культуру і літаратуру, а з іншага боку, "паразітуючы", бо сам адначасова ўзбагачаўся… Нямецкая культура арганічна ўвайшла ў маё жыццё адразу пасля вайны. І чым далей, тым больш духоўна я рабіўся немцам. Хаця гэта даволі дзіўна, бо менавіта немцы зрабілі мне больш за ўсіх зла. І таму яшчэ ў дзяцінстве я задаўся пытаннем: за што? Мы жылі як нармальныя людзі і нікому не рабілі зла. Аднак прыйшлі немцы і, усіх забіўшы, пакінулі мяне аднаго на белым свеце. Але адна справа – чытаць пра гэта ў нашых газетах і кнігах, іншая – паглядзець на праблему вачыма саміх немцаў. Гэта магчыма было зрабіць толькі дзякуючы мове. Тым больш што нямецкая культура – культура сусветнага значэння. Натуральна, яна не магла не паўплываць на мяне. І таму легла на маю душу, зрабілася роднай і блізкай, таксама як і беларуская».

Аднак вядомаму перакладчыку не дазвалялі выязджаць з краіны не толькі тады, калі немцы

запрасілі яго пасля выдання “Фаўста” ў 1976 г., але і пазней. Ужо яго дарослыя дзеці пачалі падарожнічаць па свеце, а яго самога па-ранейшаму не выпускалі далей за Гродна, хоць на дворы быў ужо 1991 г.

Чарговым разам немцы запрасілі В. Сёмуху ў 2000-м. Васіль Сяргеевіч пасля прызнаваўся, што паехаў усё-ткі не без боязі, бо адна справа – літаратура, зусім іншая – рэальнае жыццё і рэальныя людзі. Ён вельмі баяўся сустрэцца ў Германіі з нечым, што не адпавядала б яго чыста літаратурным уяўленням пра немцаў. І гэтыя страхі аказаліся недарэмнымі: у першыя ж дні ў яго скралі дакументы і грошы. І якраз у той час, калі беларускае консульства не спяшалася дапамагчы суайчынніку, немцы праявілі сябе з таго боку, з якога В. Сёмуха не мог і чакаць, – знаёмыя і незнаёмыя не толькі збіралі грошы, але і штодзень клапаціліся пра яго. Урэшце, такая ўвага не магла не паставіць госця ў няёмкае становішча, і ён пачаў адмаўляцца ад дапамогі. Аднак у адказ гаспадыня дома, дзе ён кватараваў, папрасіла: “Гер Сёмуха, мы вельмі добра ведаем, што Вы зрабілі для Германіі. І нам таксама добра вядома, што зрабіла Германія для Вас. Таму не пазбаўляйце нас магчымасці даказаць і паказаць Вам, што мы, немцы, зусім не тыя немцы, якіх Вы бачылі падчас Вашай першай сустрэчы, – ёсць і іншыя немцы”.

І тады ж адбылася гісторыя, пра якую найлепш распавесці словамі самога Васіля Сяргеевіча: «Перад тым як у 1942 г. адбылася гэта трагедыя, ці тое мама, ці бацька, калі былі ў Пружанах, набылі мне керамічную свістульку – коніка, якога я так палюбіў, што хаваў ад усіх пад страхой, каб, крый божа, ніхто яго не ўзяў, і даставаў толькі тады, калі ніхто мяне не бачыў. Я пасвістваў у таго коніка і радаваўся свайму жыццю. Калі ж наш хутар спалілі, згарэў і мой конік. Можа здацца дзіўным, але я – дзіця – больш за ўсё шкадаваў не бацькоў (цётка супакойвала мяне: “Вернецца мама, вернецца бацька”), а гэтую сваю свістульку… І вось апошні дзень майго жыцця ў Германіі. Гаспадары ўручаюць мне падарункі: “Гэта нявестцы… Гэты сыну Сярожу… А вось гэта, гер Сёмуха… Справа ў тым, што наша дачка – мастачка, яна робіць керамічныя рэчы і прасіла перадаць вось гэтую цацку…” Я зніякавеў! – гэта была зязюлька. І калі апрытомнеў, сказаў гаспадыні, што расцэньваю гэта як дзіўны знак лёсу, бо першая мая сустрэча з немцамі была адзначана стратай падобнай свістулькі – усе мае трагедыі пачаліся менавіта з яе, і цяпер другая мая сустрэча заканчваецца набыццём своеасаблівага “коніка”… Так, гэта страшна сентыментальна. Але, мабыць, самыя дзіўныя знакі – самыя лепшыя? Тым больш што мне дзяцінства вярнулі. Кола такім чынам замкнулася. Усё пачалося з вялікага зла, а скончылася вялікім дабром».

***

Сёння ён, самотнік па характары, па-ранейшаму жыве перакладніцкай працай, хоць мноства перакладаў – таксама як і ў 1960-я гг. – без руху ляжаць у шуфлядзе яго рабочага стала. “У мяне шмат нявыдадзеных кніг, якія беларускі чытач, мабыць, ніколі не ўбачыць, – Васіль Сяргеевіч гаворыць пра гэта, як падаецца, без ценю вялікага жалю. – Гэта, відаць, датычыцца ўсіх маіх кніг і перакладаў: кніга дарагая мне, калі яна знаходзіцца ў стане рукапісу, калі я гаспадар над ёй кожны дзень, кожную хвіліну і што хачу, тое і раблю. Аднак як толькі кніга падрыхтавана (і яшчэ нават не надрукавана), яна мяне больш ужо не цікавіць – не цікавіць менавіта як кніга. Яна цікавіць мяне толькі як чужы твор, які я магу, атрымліваючы сваю асалоду, чытаць і перачытваць”.

Тым не менш, нягледзячы на аб’ектыўныя і суб’ектыўныя складанасці жыцця, нашы мары і спадзяванні маюць уласцівасць зрэдку ажыццяўляцца. Так атрымалася апошнім часам і з Васілём Сёмухам: у 2007 г. у яго перакладзе выйшла “Кніга гадзін” Р. М. Рыльке, у 2009-м асобнымі выданнямі з’явіліся пераклады двух раманаў: “Юстыцыя” швейцарскага белетрыста Ф. Дзюрэнмата і “Ferdydurke” аднаго з найбуйнейшых польскіх аўтараў XX ст. В. Гамбровіча, а таксама пераклад славутай кнігі Э. Т. А. Гофмана “Курдупель Цахес… et cetera, et cetera, et cetera”; у 2010 г. – раман нямецкай пісьменніцы М. Марон “Вуліца Ціхая, шэсць”, а напрыканцы мінулага года дзякуючы намаганням паэта і журналіста Глеба Лабадзенкі з’явілася факсімільнае выданне “Ладдзі Роспачы” Уладзіміра Караткевіча, у якое ўключаны таксама і пераклад на рускую мову В. Сёмухі.

З тым ён і жыве, імкнучыся зразумець сваіх ворагаў і адначасова не толькі па-біблейску даруючы ім, але і ўсё жыццё памнажаючы славу іх вялікай літаратуры. З тым і працуе, не стамляючыся паўтараць, што галоўную асалоду атрымлівае менавіта падчас працы, таму не так ужо істотна, колькі чалавек прачытае яго – тры, пяць ці дзесяць. Донкіхоцкія перакананні непапраўнага шасцідзясятніка. І, безумоўна, бескарыслівае служэнне беларускаму слову, сусветнай і роднай літаратуры, што не мае аналагаў у яго Айчыне. На гэта здольны толькі сапраўдны Майстар. Майстар і, вядома, Паэт (бо ці мог не Паэт адважыцца на пераклад “Фаўста”?). У гэтым сэнсе незвычайны прыклад Васіля Сёмухі – выключны. І такім ён застаецца ўжо больш за паўстагоддзя.

*Віншуем юбіляра!*

# СВЯТЛО ДУШЫ

## ДА 80-ГОДДЗЯ МІХАСЯ МУШЫНСКАГА



Крытыка і літаратуразнаўства ўяўляюцца нам часам сумным адгалінаваннем ад мастацтва прыгожага слова. Але гэта не так. Асабліва калі там працуе адметная Асоба, як доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, галоўны гісторык нацыянальнай крытыкі і літаратуразнаўства, чуйны і дасканалы даследчык роднай культуры, патрабавальны рэцэнзент Міхась Іосіфавіч Мушынскі.

Міхась Іосіфавіч заўсёды навідавоку ў любой аўдыторыі: акадэмічная пастава, глыбокія прыгожыя вочы за рагавымі акулярамі, разумны, засяроджаны погляд, што раптам змяняецца шчырай, добразычлівай усмешкай, калі ён бачыць даўніх сяброў ці проста маладых аспірантаў, якія хочуць пазнаёміцца з масцітым вучоным. У адносінах з усімі ён роўны, з кожным пагаворыць, кожнага падтрымае. Адчуваецца вялікая ўнутраная работа, што няспынна дзеецца недзе ў глыбіні ягонага "я", ягонай душы. Як крынічка: бачыцца толькі маленькая частачка таго велізарнага багацця, што бруіцца недзе ў нетрах.

Міхась Мушынскі заўсёды шчодра дзеліцца ідэямі, планамі і падтрымлівае ўсіх. Але ж і сам зрабіў надзвычай многа ў галіне даследавання нацыянальнай крытыкі і літаратуразнаўства. Ён першым прыйшоў да высновы, што гэтыя навукі павінны мець уласную гісторыю, сапраўды акадэмічную, дзе аб'ектыўна прасочацца і прааналізуюцца ўсе адоленыя шляхі. І гэта паспрыяе не толькі станаўленню аўтарытэту літаратурнай навукі, але і паспяховаму развіццю нацыянальнай літаратуры ў цэлым. Зразумела, Міхась Іосіфавіч не мог абмінуць вопыт папярэднікаў. Аднак менавіта ён першым паказаў развіццё беларускай крытыкі і літаратуразнаўства як цэласнага працэсу, а не як сумы пэўных характарыстык, аб'яднаных па прынцыпе храналагічнай паслядоўнасці. З яго імем звязана перыядызацыя працэсу развіцця гэтай эстэтычнай з'явы, выяўлены ўнутраны змест кожнага з намечаных этапаў і вядучыя тэндэнцыі ў ім, яму ўдалося раскрыць складаную барацьбу розных метадалагічных канцэпцый, напрамкаў, школ. Даследуючы працэс станаўлення літаратуразнаўчай думкі, ён выявіў ягоную сацыяльную дэтэрмінаванасць і адначасова спецыфічныя заканамернасці, унутраную логіку развіцця і эвалюцыю ў іх цеснай і непарыўнай абумоўленасці адметнасцю літаратуры як формы спазнання і адлюстравання рэчаіснасці.

Падобныя погляды былі настолькі наватарскімі, што кніга "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (20 – 30-я гады)" у 1975 г. атрымала бронзавы медаль ВДНГ СССР. Не менш значнымі сталі манаграфіі "Беларускае савецкае літаратуразнаўства" (Мінск, 1979), "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства (40-я – першая палавіна 60-х гг.)" (Мінск, 1985).

У чым жа сакрэт падобнага поспеху выданняў выключна, на першы погляд, спецыфічных? Адказ у значнай ступені дае кніга, прысвечаная набыткам і перспектывам беларускай крытыкі "Каардынаты пошуку" (Мінск, 1988), якая, нягледзячы на тое, што ўбачыла свет дзесяцігоддзі таму, зусім не страціла актуальнасці.

Заўважце, як своечасова гучыць сказанае М. Мушынскім: *"Сёння ніхто не аспрэчвае ролі крытыкі ў літаратурным жыцці. Аднак адчуванне глыбокай незадаволенасці станам крытычнай думкі і станам рэцэнзавання не знікае. Справа не ў тым, многа ці мала ў нас рэцэнзій. Галоўнае, што крытыка спрашчае свае задачы, піша так, як шмат гадоў назад, яна не ўлічвае запатрабаванні часу"*. Яшчэ тады Міхась Іосіфавіч са скрухай заявіў, што ў нас багата рэцэнзій, але ўсе яны быццам напісаны адным аўтарам пад рознымі псеўданімамі.

Міхась Мушынскі казаў пра неабходнасць *крытыкі бягучай крытыкі*, абгрунтоўваў патрэбу крытычнага часопіса, палемічна выступаў супраць аднастайнасці формаў рэцэнзавання: *"…дзе жанр літаратурнага эсэ, дыялогу, перапіскі з чытачом,*

*жанр рэплікі, эпіграмы? Многім кароткім рэцэнзіям не хапае сапраўднага лаканізму, бляску, стылёвай, моўна-выяўленчай вынаходлівасці"*. Таму заканамерна, што член-карэспандэнт М. Мушынскі першым адгукнуўся на змены ў грамадстве і прапанаваў сваё разуменне будучыні ўлюбёнай галіны мастацкай творчасці ў кнізе «І нічога, акрамя праўды: Якой быць "Гісторыі беларускай літаратуры"» (Мінск, 1990), дзе адзначыў усе "цёмныя плямы", не асвоеныя да гэтага часу, і шляхі, якімі неабходна ісці айчыннаму літаратуразнаўству і крытыцы ў новае тысячагоддзе.

І ён мае на гэта права. Бо аўтарытэт Мушынскага-літаратуразнаўцы бясспрэчны і высокі. Менавіта ён паказаў, як неабходна перачытваць родную класіку, даў яскравыя ўзоры аналізу найбольш значных артэфактаў нацыянальнага прыгожага пісьменства. У гэтым плане неацэнны ўнёсак Міхася Іосіфавіча ў айчыннае коласазнаўства. Захапіўшыся з юнацтва веліччу коласаўскага эпасу, ён не страціў імпэту і маладога запалу ў даследаванні таямніц велічы спадчыны песняра. Здавалася б, усё ўжо сказана ў саліднай манаграфіі «Ад задумы да здзяйснення: Творчая гісторыя "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі"» (Мінск, 1965) ці доказнай і пераканальнай біяграфіі класіка "Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці" (Мінск, 1982), напісана велізарная колькасць артыкулаў па праблеме, але ён настойліва ўчытваецца ў несмяротныя радкі, яго да гэтага часу хвалюе доля таго праменьчыка, памятаеце, што згубіўся недзе ў космасе. І даследчыку верыш, бо адчуваеш ягоную шчырую ўсхваляванасць і занепакоенасць, і чакаеш новага арыгінальнага прачытання класікі.

Па-свойму Міхась Мушынскі прачытаў спадчыну Кузьмы Чорнага. Вялікая заслуга належыць крытыку ў вяртанні ў літаратурны працэс спадчыны Міхася Зарэцкага, пра якога ніхто так пякуча і пранікнёна не напісаў, як ён у кнізе "Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага" (Мінск, 1991). М. Мушынскі, аналізуючы творчасць канкрэтнага пісьменніка, адразу бачыць кантэкст, што дазваляе яму паказаць месца і ролю абранага літаратара ў гісторыі айчыннага прыгожага пісьменства. Гэтаму яшчэ трэба павучыцца нашым многім даследчыкам, і не толькі маладым.

Цяжка пераацаніць выключны ўклад Міхася Іосіфавіча ў правядзенне штогадовых "Каласавін". А колькі часу і энергіі пакладзена на арганізацыю Гарэцкіх чытанняў, дзе ён выступаў і як арганізатар, і як рэдактар выданняў, і як найаўтарытэтнейшы дакладчык.

Без Міхася Мушынскага нельга ўявіць і беларускай тэксталогіі. Працуючы амаль 55 гадоў (з іх большую палову загадчыкам) у сектары выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, ён узгадаваў плеяду кваліфікаваных спецыялістаў-тэкстолагаў. І вось гэты зладжаны калектыў апантаных і творчых людзей пад кіраўніцтвам мэтра ажыццявіў падрыхтоўку і выданне навукова каментаваных збораў класікаў роднай літаратуры (Я. Купалы, Я. Коласа, І. Мележа, М. Лынькова, М. Гарэцкага, П. Пестрака, З. Бядулі, П. Броўкі, М. Багдановіча).

Увогуле, з гісторыі вяртання ў літаратурны працэс сапраўднага – а не скрэмзанага цэнзурай – аўтарскага слова, што здзейсніў Міхась Мушынскі, можна стварыць дэтэктыў. Сведчанне таму – вяртанне радкоў Якуба Коласа ў іх першароднай чысціні і гучанні. Такая праца не вельмі кідкая, яна прыхаваная, значнасць яе могуць ацаніць толькі спецыялісты і ўдзячныя нашчадкі, але вартасць яе выключная, вынікі – анталагічныя для нацыянальнай культуры.

Больш за 20 гадоў працаваў ён вучоным сакратаром спецыялізаванага савета па абароне дысертацый пры Інстытуце літаратуры НАН, а потым старшынёй экспертнага савета ВАКа, членам розных вучоных саветаў. Праз ягоныя рукі прайшлі дзясяткі дысертацый самага рознага ўзроўню і тэматыкі даследчыкаў з усёй краіны, якім слынны вучоны і вопытны арганізатар паспрыяў у атрыманні адпаведных ступеней і званняў. Менавіта дзякуючы яго ідэі і настойлівасці існуе спецыяльнасць 10.01.08 – "Тэорыя літаратуры. Тэксталогія" – у вакаўскім пераліку.

Міхась Іосіфавіч з'яўляецца настаўнікам для студэнтаў і школьнікаў краіны. Ён каардынатар навуковых даследаванняў у галіне літаратуразнаўчай навукі, падтрымлівае цесныя сувязі з усімі ВНУ краіны. Да гэтага часу ў ГДУ імя Ф. Скарыны памятаюць славутыя лекцыі М. Мушынскага, пад ягоным мудрым кіраўніцтвам многія нашы выпускнікі пісалі дыпломныя і кандыдацкія даследаванні.

Заўсёды Міхась Іосіфавіч вылучаўся бадзёрасцю, няўрымслівасцю, юнацкім запалам, тонкім гумарам, філасофска-іранічным успрыманнем законаў быцця.

У высакароднай дзейнасці на ніве роднай культуры шляхетныя намаганні юбіляра падтрымліваюць жонка Тамара Фёдараўна, выдатны спецыяліст па методыцы выкладання літаратуры, аўтар шэрагу адметных кніг па гісторыі; дачка Таццяна Міхайлаўна, аўтар самых дасканалых даследаванняў пра беларускі балет, паэт, бард, аўтар шэрагу дыскаў арыгінальных песень, празаік; зяць – вядомы крытык Алесь Марціновіч.

Светла на душы і ўсцешна на сэрцы робіцца каля такіх людзей!

**Іван ШТЭЙНЕР,**
доктар філалагічных навук, прафесар.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Новае прачытанне*

Міхась МУШЫНСКІ

# ВАЙНА, ЖАНЧЫНА, КАХАННЕ Ў АПОВЕСЦІ "ГАНДЛЯРКА І ПАЭТ" ІВАНА ШАМЯКІНА



90

Аповесць "Гандлярка і паэт" – значная з'ява ў творчай біяграфіі Івана Шамякіна і ва ўсёй беларускай прозе 1970-х гг. Высокая ацэнка прагучала ў газетных і часопісных рэцэнзіях, а потым бяспрэчныя мастацкія вартасці твора адзначылі ў больш грунтоўных публікацыях літаратуразнаўцы. Праўда, у першапачатковых водгуках мелі месца і крытычныя выказванні. У іх ставілася пад сумненне праўдзівасць адлюстравання пісьменнікам першых дзён жыцця ў горадзе напярэдадні яго акупацыі. Не ўхвалялі нястомныя змагары за ідэйную чысціню савецкай літаратуры і тое, што ў якасці галоўнай гераіні аўтар абраў не прадстаўніка перадавой часткі грамадства, а палітычна неадукаваную гандлярку, носьбітку мяшчанскай, дробнабуржуазнай псіхалогіі. Пазней І. Шамякін з горыччу занатаваў у дзённіку: *«Хочацца мне нагадаць у наш час "мудрым крытыкам", як яны разносілі аповесць (у Маскве, на абмеркаванні прозы!) за тое, што ў яе цэнтры – камароўская гандлярка. Дагаварваліся "мудрацы", што не было такіх у Мінску (гандлярак не было!) і з адыходам нашых часцей ніхто не рабаваў магазіны і склады – такія свядомыя былі савецкія людзі. І так "зашораны" былі зусім не дурныя людзі, разумныя людзі, якіх я паважаў і паважаю, хоць да мяне адзін з іх адносіўся проста па-свінску. Дарую яму»* [1, с. 149].

Аўтары большасці водгукаў і даследчых прац вельмі прыхільна паставіліся да аповесці. Яны ўбачылі там і глыбокую змястоўнасць, і рысы наватарства, асабліва ў падыходзе да асвятлення ўзнятай тэмы, у выбары галоўных герояў. Падкрэслівалася выразнасць грамадскай пазіцыі пісьменніка, высокі ўзровень майстэрства, уменне будаваць драматычны сюжэт, знаходзіць цікавыя калізіі і сітуацыі. В. Каваленка так вызначаў ролю "Гандляркі і паэта" для далейшага развіцця нацыянальнай літаратуры: аповесць "значна пашырае ідэйна-мастацкія ўяўленні беларускай прозы пра Вялікую Айчынную вайну і накіравана супраць дагматычнага разумення патрыятычнага абавязку, супраць зніжаных гуманістычных паводзін чалавека на вайне" [2, с. 203]. Паводле слушных меркаванняў В. Локун, "асаблівы наватарскі змест" аповесці ў першую чаргу якраз і прадвызначаны выбарам гераіні, "зусім не тыповай для літаратуры таго часу" [3, с. 614].

Галоўная дзейная асоба, гандлярка Вольга, і выступае жывым увасабленнем рыс народнага характару, заўважае пісьменнік Ян Скрыган. Увогуле, ён ахарактарызаваў аповесць як "адну з лепшых", "можа самую лепшую" ў творчасці І. Шамякіна, самую яркую сярод літаратуры пра мінскае падполле. І яшчэ водгук: "А які тып камароўскай гандляркі – бальзакаўская магутнасць! На маю думку, дык гэта [аповесць] шэдэўр" [4, с. 333 – 334].

Аддаючы належнае крытыкам-прафесіяналам і літаратуразнаўцам, якія вывучаюць літаратурную спадчыну І. Шамякіна, мусім, разам з тым, прызнаць, што імі не ўсё яшчэ зроблена ў асэнсаванні аповесці. Яно і зразумела: пад уплывам змен у грамадскім жыцці ў свядомасці чытачоў выпрацоўваюцца новыя погляды на літаратурны працэс, на асобныя творы, новыя падыходы да іх вывучэння. Адсюль і неабходнасць у карэкціроўцы ранейшых ацэнак. Так, мы лічым, што даследчыкі неправамерна засяроджваюць увагу на разглядзе сюжэтнай лініі Вольга – Гапанюк, пакідаючы ўбаку вобразы іншых герояў, іншыя калізіі, звязаныя, напрыклад, з рознай тактыкай падпольнай барацьбы, якой прытрымліваліся розныя дзейныя асобы. У шэрагу прац на першы план беспадстаўна вылучаюцца празмерная адсталасць жанчыны, нібыта пазбаўленай здольнасці шырока глядзець на свет. Адпаведна

перабольшваецца і роля Гапанюка-педагога. Тое ж трэба сказаць і адносна членаў сям'і Бароўскіх, што інтэрпрэтуюцца даследчыкамі як узорнае ўвасабленне тыповых рыс савецкага патрыятызму. Але для паэтызацыі Бароўскіх, і перш за ўсё ідэальнай камсамолкі Лены, няма падстаў.

Ужо з першых старонак відаць, што аўтар паставіў перад сабой складаную задачу – праз лёс чалавека зусім не гераічнай прафесіі, праз лёс камароўскай гандляркі, раскрыць усенародны характар барацьбы з ворагам. Выбар у якасці галоўнай гераіні патомнага прадстаўніка гандлёвага саслоўя – а Вольга паспяхова працягвае справу маці – аказаўся вельмі ўдалым у плане мастацкага ажыццяўлення ідэйна-творчай задумы: калі на шлях усвядомленай барацьбы становяцца не толькі палітычна свядомыя грамадзяне, шчырыя патрыёты, але і далёкія ад грамадскіх клопатаў людзі, перамога над акупантамі будзе абавязкова. Абапіраючыся на ўласны мастацкі вопыт, пісьменнік абраў шлях даследавання ўнутранага свету галоўных дзейных асоб твора, аналіз зрухаў у іх свядомасці, у іх душах.

Пачынаецца аповесць з экскурсу ў мінулае гераіні, у яе даваеннае дзяцінства, юнацкія гады. Тут багата яркіх, запамінальных сцэн, штрыхоў, дэталей, якія ўзнаўляюць сацыяльна-побытавы ўклад, норавы, звычаі камароўскага асяроддзя. Гэта дало чытачу магчымасць глыбей успрыняць адметныя рысы характару дарослай Вольгі, разабрацца ва ўнутраных супярэчнасцях яе ўчынкаў, у непаслядоўных меркаваннях, нечаканых зменах настрою. Як мы далей убачым, цвярозасць поглядаў Вольгі на свет, практыцызм, дзелавая хватка, амбіцыйнасць, жаданне, як у маці, быць першай, сцвердзіць сваё "я" дзіўна спалучыліся з душэўнай шчодрасцю, уменнем тонка адчуваць прыгажосць.

Адпаведна ўяўленням, што склаліся ў яе сям'і, якраз і паводзіць сябе Вольга ў першыя дні вайны. Маральнымі крытэрыямі, выпрацаванымі камароўскім асяроддзем, вымярае яна ўласныя ўчынкі і ўчынкі іншых людзей. Але нечаканая, раптоўная змена грамадска-палітычных абставін паклала адбітак і на светаўспрыманне жанчыны. Працэс гэтых змен, працэс цяжкай, пакутлівай выпрацоўкі новай жыццёвай філасофіі і стаў галоўным аб'ектам мастацкага даследавання ў аповесці І. Шамякіна. За некалькі дзён, калі кінутыя на волю лёсу жыхары спрабавалі самастойна вырвацца з ахопленага пажарам горада, гераіня аповесці і прадэманстравала атрыманую ў спадчыну здольнасць арыентавацца ў складанай сітуацыі. Маладая жанчына не паддалася паніцы і, праігнараваўшы рэальную небяспеку, вырашыла паклапаціцца пра сябе і сваю малую дачушку: за некалькі вылазак у горад прынесла дахаты багата прадуктаў харчавання і тавараў з пакінутых без нагляду магазінаў. Такія паводзіны не толькі выклікалі звыклую зайздрасць суседзяў, знаёмых, але і прывялі да першага сур'ёзнага сутыкнення з Ленай Бароўскай, якая асудзіла школьную сяброўку як рабаўніцу. Аўтар падае цікавы, змястоўны дыялог, у ім выразна раскрываецца жыццёвая пазіцыя, светапоглядная арыентацыя Вольгі і Лены. *"– Волька! Што гэта ты робіш, дурная? Ды ты ведаеш, што па ваенных законах за гэта расстрэл? Ва ўсе часы за марадзёрства стралялі"*. Камсамолка Лена, вядома, гаворыць слушныя рэчы. І абурэнне яе зразумелае. Але гэта словы дзяўчыны, што жыве кніжнымі ідэаламі, адцягненымі ўяўленнямі. Ва ўмовах, калі пра арганізаваную эвакуацыю з Мінска і думаць не даводзілася, учынак Вольгі разумны, жыццёва абумоўлены. Вось чаму пераканальна прагучаў Вольчын адказ шчырай патрыётцы: «*– Хто гэта мяне расстраляе? Ты? – Не я. Улада Савецкая. Армія. – Дзе яна, твая ўлада? А армія… Ёй не да нас з табой! А як такія дуры, камсамолкі, як ты, "ура" крычалі! Ды спявалі, што разаб'ём ворага на яго зямлі! Разбілі? Армія мяне расстраляе? Няхай армія немца спыніць – тады я грабіць не буду! А так ідзі паслухай: людзі кажуць, немцы заўтра Мінск зоймуць… Для каго ж вы дабро пільнуеце?*»

Дыялог-спрэчка школьных сябровак – цэнтральны эпізод пачатковай часткі аповесці. Ён адыгрывае значную ролю ў раскрыцці ідэйна-мастацкай канцэпцыі пісьменніка. Гэта вынікае з працягу спрэчкі, бо Лена заставалася на ранейшай пазіцыі: аргументы сяброўкі не пераканалі, і яна працягвала сваю наіўна-бездапаможную агітацыю: *"Якія людзі? Шпіёны? Панікёры? Каго ты слухаеш, Волька?"* Такая логіка разважанняў дзяўчыны, якая пад уздзеяннем прапагандысцкіх лозунгаў 1930-х гг. страчвала здольнасць цвяроза ўспрымаць жыццё, арыентавацца ў нечаканых сітуацыях, прыўнесеных вайной. *"– Не захопяць немцы Мінск! Не дойдуць! – закрычала Лена з рашучай пераканальнасцю. – Рукі кароткія!"*

Тут аўтар аповесці сутыкнуў два супрацьлеглыя погляды на свет: народны, гуманістычны, скіраваны на абарону чалавека, і афіцыйны, а па сутнасці казённа-дагматычны, адарваны ад рэальнага жыцця, пазбаўлены пачуццяў міласэрнасці, спагады, клопату пра кожную асобу, тым больш – безабаронную, пакінутую сам-насам з ворагам, акупантам.

Падкрэсліваючы адрознасць поглядаў Ляновічыхі і Бароўскай на маральныя каштоўнасці, на паняцці доўгу, абавязку, аўтар імкнуўся ў першую чаргу да таго, каб пераканальна паказаць эвалюцыю духоўнага станаўлення гераіні. Таму і не праспешваў гэты складаны працэс.

Вядома, ацэньваць паводзіны жыхароў Мінска ў сітуацыі безуладдзя як супрацьзаконныя дзеянні, як праяву негатыўнага стаўлення да са-



**“Літаратурны дэсант” у ГДУ: М. Лужанін, А. Вярцінскі, І. Шамякін, Б. Бокуць, Т. Бондар, З. Рудакоўская, Т. Язэпава, Н. Гілевіч, М. Аўрамчык.**

вецкіх парадкаў няма падстаў. Такая несправядлівая ацэнка доўгі час падтрымлівалася ідэалагічнымі ўстаноўкамі афіцыёзу, насцярожаным стаўленнем да тых, хто аказаўся пад часовай нямецка-фашысцкай акупацыяй. Эпоха ўсеагульнага недаверу, татальнай падазронасці, пік якой прыпаў на 1930 – 1940-я гг., пусціла глыбокія карані ў свядомасці савецкіх людзей.

У цэнтры пісьменніцкай увагі – чалавеказнаўчы аспект, унутраны свет, псіхалогія гераіні, што і прадвызначыла высокі ідэйна-мастацкі ўзровень аповесці. У бязвыхадным становішчы жанчына аказалася не паводле ўласнага жадання. І пра яе малое дзіця ніхто не думаў клапаціцца. Дык чаму гэтыя “ніхто” раптам займелі права прад’яўляць ёй прэтэнзіі і накіроўваць на іншы жыццёвы шлях? Не, натура Вольгі складаная, багатая, толькі нельга прымушаць жанчыну рабіць учынкі, якія пярэчаць яе характару, жыццёвым перакананням. Цэласнасць натуры, духоўны патэнцыял якраз і прадэманстравала гераіня аповесці ў складаных умовах акупацыйнай рэчаіснасці.

Вось гэтая ўнутраная, да пары да часу прыхаваная глыбіня, складанасць характару Вольгі часта не ўлічваецца, як і не прымаецца пад увагу логіка паводзін яе апанентаў. Узнікае пытанне, чаму патрыётка Лена, якая любіць у прыватных размовах гучна выказваць нянавісць да ворага, абрала ідэйна нясталую гандлярку для выканання небяспечнага задання падпольшчыкаў – забраць з канцлагера палонных чырвонаармейцаў “аднаго чалавека”. Так сутыкнуліся розныя погляды на сутнасць *чалавека як найвялікшай каштоўнасці ў свеце*. Лену Бароўскую лёс Вольгі і яе дачкі ў дадзенай канкрэтнай сітуацыі фактычна не цікавіў, не турбаваў, бо для падполля важным было вызваліць “патрэбную” асобу. Паводле логікі разважанняў Лены-агітатара, гандлярка ў лік патрэбных, вядома ж, не ўваходзіла. І тады Вольга, абражаная пагардлівымі адносінамі да яе жыцця і жыцця яе малой дачкі, ставіць пытанне адкрыта: калі той палонны патрэбны падпольшчыкам, дык чаму ідэйна свядомая, рашуча-ваяўнічая Лена сама не забярэ яго з лагера? Чаму небяспечную справу ўпарта, настойліва перакладае на чужыя плечы? У адказ дзяўчына толькі і магла абаперціся на выпрабаванае ідэалагічнае клішэ: так *“патрэбна народу”*. Мастакоўская пазіцыя пісьменніка ўскосна выяўлена праз заключную частку дыялогу-спрэчкі апанентаў: *“– Народу… народу патрэбны, – дзіўна, як бы захлынаючыся, прашаптала Лена. – О, любая мая! – лёгка засмяялася Вольга. – Што мне думаць пра народ! Народ пра мяне не думае…”* Гандлярка знаходзіць яшчэ больш важкія доказы слушнасці ўласнай пазіцыі. *“– Калі я буду жывая, то вырасце і дачка мая. А калі мяне павесяць, як тых, у скверы, то пра дзіця маё ніхто не падумае. Ніхто!”*

Як відаць, у разважаннях гераіні няма ні гандлярскага эгаізму, ні абыякавасці да ўсяго, што яе не датычыць асабіста, а ёсць цвярозае ўспрыманне жыцця, натуральны клопат пра малое дзіця. Празмерна рэзкія выказванні Вольгі ў размове з ідэйнай апаненткай Ленай – яшчэ не вынік фарміравання яе жыццёвага крэда, а толькі этап развіцця, калі яна пакуль не гатовая звязаць лёс з падпольшчыкамі, стаць на шлях усвядомленай барацьбы. У жанчыны нават узнікалі думкі пра тое, што можна неяк прыстасавацца да новай улады, займець уласную краму.

Згода Вольгі і наведванне лагера сталі новым звяном у ланцугу падзей, якія паўплывалі на яе светаўспрыманне, карэнным чынам змянілі яе лёс. Расповед пра лагер палонных чырвонаармейцаў, пра іх пакуты, бесчалавечнае стаўленне з боку нямецкіх ахоўнікаў вытрыманы І. Шамякіным у традыцыях суровай рэалістычнай прозы. Лагерныя фрагменты ў стылёвым плане арганічна спалучаюцца з агульнай танальнасцю аповесці, узмацняюць яе змястоўна-мастацкую, пазнавальна-эстэтычную каштоўнасць. *“А на тым баку, за дротам, стаялі сотні дзве палонных, страшэнных зданяў,*

*загорнутых у шынялі, падраныя ватнікі, коўдры, мяшкі*". І сцэна "апазнання" Вольгай палоннага "мужа" выпісана аўтарам псіхалагічна дакладна і з выключнай эмацыйнай пранікнёнасцю. Аказалася, выхаваны суровым ладам жыцця прагматызм не вытруціў з душы жанчыны-гандляркі пачуцці дабрыні, міласэрнасці, вострага ўспрымання чужой бяды. Вось чаму яна выбрала не барадатага, што прасіў узяць яго, бо ён *"усё ўмее рабіць – сталяр, слесар, шавец"*, а *"схудалага, зусім маладога юнака"*, у якога *"дзіўна гарэлі вялікія вочы"*.

Трэба аддаць належнае Шамякіну-мастаку: чытач паверыў, што Вольга ці ўбачыла, ці душою, сэрцам адчула, здагадалася пра стан палоннага, якога яна магла ўратаваць ад немінучай смерці. Нябачная нябесная сіла як бы дабраславіла яе на такі ўчынак. І хоць Вольчын выбар паламаў, парушыў намечаны Ленай план вызвалення "патрэбнага чалавека", гэта не спыніла жанчыну. Наадварот, да Вольгі, як зазначыў пісьменнік, у міг вярнуліся яе звычайная энергічнасць, спрыт, смеласць – усё, чаму так зайздросцілі яе знаёмыя камароўскія гандляркі. Але менавіта "сквапная ўласніца", а не ідэйна свядомы ініцыятар вызвалення палоннага, мусіла несці ў лагер свае каштоўныя рэчы і прадукты: пляшку "маскоўскай", ручнік, сала, кілбасу, сыр, блінцы з пшанічнай мукі, два царскія залатыя чырвонцы і нават залатыя завушніцы давялося аддаць *"гэтым ненажэрным прыблудам, што зарабляюць на крыві і смерці"*. Выкуп палоннага (што пацвярджаецца і аўтарскай характарыстыкай) значна ўзвысіў Вольгу: *"...такая дабрата як бы ачысціла яе душу, узняла над тым брудам, у якім яна штодня корпалася, да якога прывыкла ў барацьбе за сытае жыццё"*. Працэс змен, як мы далей убачым, ішоў паволі, з цяжкасцямі, што, безумоўна, адпавядала праўдзе жыцця і праўдзе характару Вольгі.

Што ж датычыць вызваленага з лагера Гапанюка, дык у яго абмалёўцы многае засталося ад вядомага ўжо першапачатковага намеру І. Шамякіна зрабіць *"Паэта галоўнай фігурай твора"*. Нягледзячы на тое, што ў дзённікавых запісах "Дзе сцежкі тыя...", раскрываючы "тайны творчасці", аўтар стрымана паставіўся да вынікаў мастацкага ажыццяўлення ўласных намераў (*"выйшла: Вольга – жывая, рэальная, а Паэт – кніжны"*) [1, с. 149], і мужчынскі вобраз уяўляе значную цікавасць з пункту гледжання паўнаты адлюстравання вайны, падпольнай барацьбы супраць акупантаў. Сваёй наіўнасцю, рамантычна-ўзнёслым стаўленнем да жорсткай рэчаіснасці ваеннага часу Паэт дэманструе адарванасць ад жыцця значнай часткі моладзі. Яна брала на ўзбраенне гучныя патрыятычныя лозунгі, гатоўнасць да самаахвярных подзвігаў, але не суадносіла абстрактныя кніжныя ўяўленні з лёсам народа, на плечы якога лёг асноўны цяжар вайны. І лёс канкрэтнай асобы таксама часта выпадаў з іх каштоўнаснай сістэмы. Адсюль – непазбежныя сутыкненні, вострыя канфлікты з тымі, хто стаяў на іншых ідэйна-светапоглядных пазіцыях. Трапіўшы пасля лагера ў цёплую Вольчыну хату, герой пачаў гнеўна дакараць сябе, што ў акружэнні не адважыўся зрабіць так, як зрабіў рэдактар армейскай газеты, куды Гапанюк як малады паэт быў пераведзены на працу незадоўга да вайны. Рэдактар застрэліўся, каб пазбегнуць ганьбы фашысцкага палону, а ў паэта *"не хапіла духу"*, бо яму *"хацелася жыць"*. Ён адчуваў віну за тое, што трапіў у палон, і няспынна марыў нават падчас хваробы найхутчэй уключыцца ў рашучую барацьбу з ворагам.

Да раскрыцця тэмы кахання – вядучай тэмы – І. Шамякін падышоў па-мастацку абгрунтавана: у Вольгі пачуццё любові да Паэта ўзнікае спакваля, нараджаецца з натуральнага імкнення дапамагчы хвораму, бездапаможнаму. А вось яго рэакцыя на праяву душэўнага клопату Вольгі нечаканая, парадаксальная. Гапанюк шчыра абураны тым, што Вольга недаравальна забылася пра свята Кастрычніка, якое прыпала на той дзень. І ледзь стоячы на нагах, *"бледны, раптоўна знясілены"* юнак пачынае чытаць адзінай слухачцы штосьці падобнае да лекцыі на тэму савецкага патрыятызму. *«Хацелася сekануць: "Пайшоў ты, неданосак! Чаму ж цябе твае не ратавалі? Чаму яны драпанулі, народ у бядзе пакінулі?»* Але Вольга, шкадуючы нямоглага, аслабелага, стрымалася, праявіла непаказное чалавекалюбства, хрысціянскую міласэрнасць да чалавека, *"які ледзь выкараскаўся ад смерці"*.

Пафасныя, усхвалявана прамоўленыя словы падзейнічалі на Вольгу. Таму яна ахвотна адгукнулася на просьбу юнака прынесці яму кнігі. Дзіўныя, малазразумелыя вершы прымусілі Вольгу шырэй зірнуць на свет, на тое, што адбывалася навокал. І як ёй жыць далей? У што верыць? *"У Бога? У Сталіна?"* Вольга разумела, што ў чалавека як духоўнай істоты павінна быць вера, каб дапамагчы ў выбары жыццёвага шляху – менавіта такой думкай прасякнута сцэна, звязаная з чытаннем вершаў Блока. У гэтай сцэне, вузлавой, вызначальнай у сюжэце твора, характар галоўнай гераіні раскрываецца з новага боку. Відаць, што "гандлярка" – патэнцыйна багатая натура, здатная да глыбокіх перажыванняў! Але калі праз пэўны час *"незвычайнае ўздзеянне"* вершаў, што размякчылі душу, аслабла, яна зноў *"зрабілася ранейшай Ляновічыхай"*. Вось і з Ленай гаспадыня абышлася зусім не па-сяброўску. Не магла абыякава ўспрымаць Ляновічыха прэтэнзіі Лены на сяброўства з Гапанюком. Раздражняла і бесцырымоннасць яе візітаў. Але галоўнай была боязь за юнака, якога магла прывабіць да сябе прыхільніца рашучай барацьбы Бароўская.

Уведзены ў сюжэтную канву твора матыў рэўнасці, саперніцтва значна пашырыў сферу мастацкага адлюстравання жыцця ва ўмовах ваеннага часу, узбуйніў маштаб вымярэння герояў. Праз адносіны да кахання выразна раскрываўся характар дзейных асоб, іх погляды на свет і месца ў ім. Галоўныя героі аповесці дэманструюць шмат у чым розныя адносіны да гэтага высокага пачуцця. Пасля таго як Вольга шчыра пакахала Гапанюка, змянілася і яе жыццёвая пазіцыя. Але гатоўнасць жанчыны дапамагаць падпольшчыкам не выключала клопату пра лёс іншых людзей.

Сцэну сутыкнення "мяшчанкі" Вольгі і змагара-патрыёта Гапанюка трэба аднесці да найбольш змястоўнай часткі аповесці. Менавіта тут аўтарская ідэйна-мастацкая канцэпцыя, погляды Шамякіна-гуманіста выявіліся з асаблівай выразнасцю. Пісьменнікам узняты складаныя, балючыя пытанні. Іх і да сёння асэнсоўвае беларуская літаратура, даследчыкі Айчыннай вайны, гісторыкі, якія вывучаюць перыяд фашысцкай акупацыі.

Не толькі Вольга, але і *"малады паэт і воін"*, як атэстуе Алеся Гапанюка пісьменнік, таксама паступова ўздымаецца на больш высокі інтэлектуальна-светапоглядны ўзровень, пачынае інакш глядзець на тагачасную рэчаіснасць і на сваё месца ў свеце. Тое, што вобраз героя пададзены ў працэсе развіцця, – бясспрэчнае дасягненне аўтара аповесці. Гапанюк нядаўна дакараў сябе за ўнутраную слабасць, якая не дазволіла яму паўтарыць мужны ўчынак камісара Гаўрона (*"ён застрэліўся, каб не трапіць у палон"*). А цяпер герой думае інакш: *"…каму была б карысць, каб ён гніў у зямлі? Немцам. А так ён можа яшчэ паваяваць"*. А крыху пазней мары здзейсніць гераічны подзвіг Гапанюк нават высмейвае. На жаль, гэтае высмейванне зноў жа не прывяло да прынцыповага перагляду агульнай лініі паводзін. Яму патрэбны былі канкрэтныя дзеянні: як найхутчэй уласным стрэлам забіць фашыста, пераканацца, што *"менавіта твая куля скасіла хоць аднаго з іх"*. Ды толькі Гапанюк не мог не ведаць, што ў карнай акцыі, выкліканай нападам на нямецкага вайскоўца, абавязкова загінуць гараджане.

Паказальна, што рыхтуючыся знішчыць афіцэра, Алесь думаў і пра *"ўласнае выратаванне… бо цяпер, як, можа, ніколі раней, хацелася жыць"*. Натуральна, хацелі застацца ў жывых і гараджане, расстраляныя акупантамі ў адказ на забойства афіцэра. Ды толькі іх лёс, як вынікае са зместу твора, народнага мсціўца не турбаваў. І Вольга гэта зразумела. Пачутае яна ўспрыняла з жахам і адчаем. Але паступова на змену адчаю, страху і разгубленасці прыйшло здзіўленне і *"новае, незразумелае ёй самой пачуццё"*. Бадай ці не ўпершыню ў асобе Гапанюка Вольга ўбачыла *не слабага хлапчыну, а мужнага чалавека*, які забіў акупанта, але не панікуе і паводзіць сябе годна. Усё гэта ўмацавала рашучасць жанчыны, дапамагло перайсці нябачную мяжу, што дагэтуль аддзяляла яе ад Гапанюка.

Вось так і адбыўся ў свядомасці Вольгі-гандляркі *новы зрух*. Пасля моцнага псіхалагічнага ўзрушэння, выкліканага страхам за лёс каханага чалавека, за ўласны лёс, пачынаўся новы этап жыццёвай біяграфіі Вольгі, напоўнены моцнымі душэўнымі і фізічнымі выпрабаваннямі з трагічнай развязкай.

Увогуле, трэба сказаць, што І. Шамякін закрануў тут адно з балючых пытанняў, звязаных з асвятленнем у літаратуры – навукова-гістарычнай, мастацка-дакументальнай і іншай – тэмы падпольнай барацьбы. Звузіўшы размову да канкрэтнага выпадку, запытаем: якімі сіламі і якой зброяй героі твора планавалі здзейсніць авантурны план вызвалення Мінска? Яны ж мелі справу з рэгулярнай арміяй. А галоўнае, што будуць рабіць героі, калі на дварэ яшчэ толькі пачатак зімы 1941 г.? Няўжо дзеля прапагандысцкай акцыі трэба ахвяраваць сотнямі і тысячамі палонных і мірных жыхароў? Сімпатыі аўтара ў гэтай спрэчцы на баку старога камуніста Паўла Восіпавіча, чые разважанні крыху паўплывалі на Гапанюка. А пасля сыходу паэта з дому Вольгі тэма кахання, як і тэма разгортвання ў горадзе падпольнай дзейнасці, барацьбы з ворагам, набывае ўсё больш трагічнае гучанне. Адначасова яшчэ яскравей высвеціліся і адметнасць натуры Вольгі, якая ў сапраўды складаны час вайны, акупацыі спрабавала рэалізаваць сваё "я", багаты духоўны патэнцыял, здольнасць да канца аддацца высокаму пачуццю любові. Вобраз Вольгі служыць тым звяном, што злучае абедзве тэмы ў сюжэтна-мастацкую цэласнасць.

З аўтарскага аповеду відаць, як востра перажывае Вольга немагчымасць штодзень быць побач з каханым. У надзеі сцішыць боль яна звяртаецца да кніг, якія, не шкадуючы грошай, для яго набывала, згадвае змешчаныя там вершы. Жанчына ўжо не тая, што раней, паступова змянілася яе душа, яе ўспрыманне жыцця, а вобразнае слова ўмацоўвае духоўную сувязь з каханым.

Рэакцыя жанчыны на агітацыйныя заклікі камандзіра Андрэя заслугоўвае больш уважлівага разгляду, бо выяўляе пазіцыю Шамякіна-пісьменніка, які звярнуўся да пытання: ці сапраўды ўсе сродкі і формы барацьбы з ворагам дапушчальныя, маральна апраўданыя? *"Божа мой! Што вы са мной робіце? Спачатку ён, а потым вы… Куды вы мяне цягнеце? На шыбеніцу? У мяне дзіця… Дзіця ў мяне! З кім жа яно застанецца? Я сёння хадзіла туды… да сквера. Я іх* [павешаных] *бачыла… Схадзіце, паглядзіце… Можа, хоць гэта астудзіць вашы гарачыя галовы"*.

Гэтымі словамі Вольга дакладна акрэсліла ўласны трагічны лёс і сірочую долю дачушкі. Але да-

чакацца разумення ад падпольшчыка, які аддаваў перавагу дыверсійным формам барацьбы і збіраўся праз месяц вызваліць Мінск ад акупантаў, Вольга не магла і з гэтай прычыны фактычна была асуджана. Яна мела права на рэзкае слова і на ацэнку тых, каго справядліва называлі авантурыстамі, бо дасягненне мэты *любымі сродкамі* яны ўспрымалі як маральна апраўданае. Вось як выразна, дакладна фармулюе камандзір групы сваё маральна-філасофскае крэда: *"Нельга яму, кіраўніку, думаць пра* ***адно дзіця*** (вылучана намі. – ***М. М.***) *і забывацца хаця б на міг пра мэту страшнай, але свяшчэннай вайны"*.

Агульнавядома, што калі перад героямі твораў савецкай літаратуры паўставаў выбар паміж грамадскім абавязкам і асабістымі інтарэсамі, дык у адпаведнасці з ідэалагічнымі ўстаноўкамі, прынцыпамі партыйнасці пісьменнікі, як правіла, аддавалі перавагу інтарэсам грамадскім. Аўтар аповесці добра разумеў такія патрабаванні і многае зрабіў, каб абараніць гуманістычны прынцып, каштоўнасць жыцця чалавечай асобы. І яго ідэйна-мастацкая трактоўка праблемы выбару, яго пісьменніцкая маральна-этычная канцэпцыя раскрыта даволі тонка. Мы бачым, што Вольга ўрэшце згадзілася стаць сувязной, але гэтая добраахвотная згода была праявай яе шчырай, беззапаветнай любові да Алеся. Аднак *Вольчыны спадзяванні на магчымасць захаваць жаночае шчасце ў драматычных абставінах вайны, акупацыі не спраўдзіліся*. І далейшае развіццё падзей не зняло вастрыні супярэчнасцей паміж *гандляркай* і *Паэтам*. Вольга не раз дэманстравала маральную перавагу перад Алесем і яго аднадумцамі, якія ахвотна прамаўлялі гучныя лозунгі, запазычаныя з палітычных кніг, і дзейнічалі адпаведна ім, але ў іх закліках чамусьці не знайшлося месца агульначалавечым каштоўнасцям. А Вольга рабіла ўсё на загад сэрца, таму ў яе ўчынках заўсёды прысутнічаюць і дабрыня, і міласэрнасць, і спачуванне. Яна гатовая нават ахвяраваць жыццём дзеля каханага і ў імя кахання. Гатоўнасць Вольгі рызыкаваць і пайсці на гераічны ўчынак, аднак, – не стыхійны выбух пачуцця, што існуе аўтаномна, не падпарадкоўваецца розуму. Учынкі жанчына старанна абдумвала, прыглядаючыся да ўсяго, што адбывалася навокал. Вялікай школай гартавання характару сталі для яе візіты на явачныя кватэры і сустрэчы з людзьмі, якія крочылі на небяспечны шлях барацьбы. Апісаннем гэтых сустрэч І. Шамякін паглыбіў тэму падпольнай дзейнасці. Каштоўна тое, што ім зроблены акцэнт на праўдзівае адлюстраванне цяжкасцей, памылак, дапушчаных барацьбітамі-патрыётамі ў першыя месяцы акупацыі.

Не паслухаліся кіраўнікі ваеннага савета і першага гарадскога падполля мудрых папярэджванняў старога камуніста, праігнаравалі яго багаты канспіратыўны вопыт. І толькі асцярожнасць, абачлівасць Паўла Восіпавіча дапамаглі ўратаваць асабіста Андрэя і *"зберагчы ад правалу большасць членаў групы"*. Жанчына-маці па-новаму глянула на людзей, гатовых рызыкаваць уласным жыццём дзеля набліжэння перамогі, убачыла іх зблізку, душой адчула матывы іх дзейнасці. Гэта быў яшчэ адзін важкі крок на шляху грамадзянска-патрыятычнага росту гераіні, адначасова і яе рост як духоўна сталай асобы, яе індывідуальнасці. Грамадскае і асабістае як бы зліліся ў цэласнасць. Узбагаціўся яе ўнутраны свет.

Пры разглядзе апошняй часткі аповесці міжвольна звяртае на сябе ўвагу і наступны факт: літаральна ўсе ўдзельнікі падпольнай групы, якія прыкладвалі шмат намаганняў, каб уцягнуць Вольгу ў шэрагі актыўных змагароў, засталіся жывыя, загінула ж толькі Вольга Ляновіч. І Гапанюк, і камандзір, і Лена Бароўская, і Захар Пятровіч доўгі час выхоўвалі Вольгу, так бы мовіць, у духу савецкага патрыятызму, адданасці Радзіме, фарміравалі яе характар. Дык можа, у методыцы іхняга выхавання былі нейкія заганы? Ці вучаніца пераўзышла настаўнікаў? *Не змагла выканаць заданне падпольшчыкаў нават коштам уласнага жыцця?* Тым не менш пытанне мастацкай апраўданасці менавіта такога варыянта развязкі, такога завяршэння сюжэта застаецца, бо фінал любога твора – і аповесць І. Шамякіна не выключэнне – многае дае для больш глыбокага разумення аўтарскай ідэйна-мастацкай, маральна-філасофскай канцэпцыі.

А цяпер яшчэ раз вернемся да цытаванага ліста Яна Скрыгана: "…здзівіў трохі канец, як бы абарваны. Як бы заскораны". А далей Я. Скрыган тлумачыць прычыну менавіта такога пісьменніцкага завяршэння аповесці: "Але пасля і ў гэтым я з табою згодзен і па крайняй меры гэтым Вольчын вобраз пакрывае і апраўдвае ўсё: ён астаецца ў памяці вельмі выразна, яе ўчынак – высіцца як помнік".

Праведзены разгляд вобразнай сістэмы, некаторых аспектаў праблематыкі аповесці, на наш погляд, пацвердзіў і дапоўніў меркаванні і ацэнкі крытыкаў і літаратуразнаўцаў пра тое, што "Гандлярка і паэт" – сапраўды выдатны твор беларускай літаратуры, пазначаны выразным наватарствам, грамадзянскай смеласцю пісьменніка і высокім мастацкім узроўнем увасаблення творчай задумы. Талент празаіка Івана Шамякіна праявіўся тут вельмі поўна і выразна.

### Спіс літаратуры

1. **Шамякін, І.** Дзе сцежкі тыя… / І. Шамякін // Полымя. – 1993. – № 8.
2. **Каваленка, В.** Іван Шамякін : нарыс жыцця і творчасці / В. Каваленка. – Мінск, 1980.
3. **Локун, В.** Іван Шамякін / В. Локун // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. : у 4 т. – Мінск, 2001. – Т. 3.
4. **Шамякіна, А. І.** Гісторыя аповесці "Гандлярка і паэт" / А. І. Шамякіна // Выяўленча-мастацкія, арганізацыйныя і ідэалагічныя праблемы сучаснай беларускай літаратуры ў яе сувязях з грамадскімі практыкамі. – Мінск, 2009.

Іван ШТЭЙНЕР

# "ПАКЛОН ТАБЕ, СЛЫННАЯ КУЗНІЦА КАДРАЎ!"

## ІВАН ШАМЯКІН І ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

Кожнаму вядомае імя Івана Пятровіча Шамякіна. Таму мы не будзем падрабязна ўзнаўляць вехі жыццёвага і творчага шляху народнага пісьменніка, а засяродзім увагу на адным аспекце ягонай біяграфіі – Іван Шамякін і Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны.

Бадай ніводзін з беларускіх пісьменнікаў не зведаў такой вялікай папулярнасці і славы на радзіме, у яе блізкім і далёкім замежжы, як наш зямляк. Нядаўна раманы Івана Пятровіча друкаваліся мільённымі тыражамі (толькі пералічэнню ўсіх твораў пісьменніка, якія выйшлі да пачатку 1990-х гг., адведзена аж 17 старонак біябібліяграфічнага слоўніка), імі зачытваліся жыхары былога Саюза ад Калінінграда да Камчаткі, па іх запісваліся ў чаргу ў бібліятэках. Бестселерамі празаіка захапляліся, іх крытыкавалі, але ніхто не заставаўся абыякавым. Іван Шамякін заўсёды паўставаў майстрам сюжэта, займальнай інтрыгі, што трымае чытача ў палоне да канца, пакуль не завершыцца дзеянне. Ды і далейшае бытаванне герояў дапытлівы чытач часта дадумваў сам або завальваў пісьменніка лістамі з наіўнымі просьбамі сказаць, што будзе далей з улюбёнымі персанажамі. А калі дадаць, што аўтар заўсёды абіраў для даследавання надзвычай актуальныя тэмы, якія хвалявалі ўсё грамадства, то можна зразумець сакрэты ягонай вялікай папулярнасці.

Цяпер вакол імя слыннага празаіка разгортваюцца дыскусіі, многія не падзяляюць яго поглядаў на сацыяльнае развіццё грамадства, тым больш што аўтар заставаўся верным прынцыпам сацыялістычнага рэалізму; лічаць, што ягоная спадчына ўжо не вартая такой пашаны, якую мела ў застойныя часы. Можна па-рознаму адносіцца да светапогляду пісьменніка, бачыць у ім кансерватыўныя праявы, аспрэчваць некаторыя ідэалы, але нельга не паважаць Івана Пятровіча за яго шчырасць, адназначнасць жыццёвай і мастацкай пазіцыі, за глыбокую веру ў чалавека і ягонае прызначэнне на зямлі.

Можа, гэта звязана з тым, што Іван Шамякін нарадзіўся ў вёсцы Карма Добрушскага раёна (ён сам бачыў запіс аб нараджэнні ў метрычнай кнізе мясцовай царквы, славутай тым, што тут знаходзяцца нятленныя мошчы святога Іаана Кармянскага) і ўсё яго дзяцінства і юнацтва прайшлі на ўлонні роднай прыроды. Ці не таму назаўсёды засталіся з ім дарагія сэрцу краявіды – вялікія лугі з густой і высокай травой і дубы на беразе Сожа. Менавіта тут ён успрыняў запавет самых дарагіх людзей – бацькоў, – а гэта значыць, і запавет народа: жыць так, каб не было сорамна перад людзьмі. Ягоная маці, амаль непісьменная жанчына, мела вялікае шчырае сэрца і незвычайную дабрыню, якая ў пэўнай ступені і перадалася сыну. Ці не таму і жыў заўсёды яе Іванька па законах сумлення, спрабуючы зрабіць сусвет крыху дабрэйшым і цяплейшым. Іван Пятровіч заўсёды шчыра выконваў жыццёвы абавязак – быў добрым сынам, адданым і верным мужам, клапатлівым бацькам, адважным салдатам: прайшоў праз усю вайну ад Мурманска да Одэра.

Але заўсёды ў яго душы панавала адна страсць – пісаць. Ён пісаў у маленькіх прамежках паміж налётамі варожых "юнкерсаў", калі ўсе, стомленыя і змучаныя, кідаліся падрамаць; пісаў у цяжкія пасляваенныя гады. Дзень працаваў у школе, вечарамі праводзіў пасяджэнні агітатараў, а ноччу, пры газніцы, пісаў. Жыў у беднасці і нястачы (што за зарплата ў настаўні-




**Іван Шамякін і рэктар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта акадэмік Барыс Бокуць.**

ка і яго жонкі медсястры!), праз вокны, шыбы ў якіх замяняла гнілая фанера і кавалачкі шкла, за ноч намятала ў пакой снегу, і больш за ўсё – на стол… Пісаў апавяданні, нарысы, раманы. Ствараў, як дэміург, свой сусвет, дзе ўсё будавалася па законах праўды і справядлівасці, дзе жылі прыгожыя знешне і ўнутрана людзі. Ён быў настаўнікам не толькі па прафесіі, але і па прызванні, тым самым працягваючы нацыянальную традыцыю, пачатую Якубам Коласам. Не змяніўся пісьменнік і пасля таго, як да яго прыйшлі заслужаныя слава і прызнанне. Застаўся нястомным працаўніком, што не ўяўляе жыцця без пісьмовага стала, чорнарабочым яе вялікасці Літаратуры, якой ён працягваў верна служыць да апошняга дня. Праўда, познія творы пісьменніка прасякнуты смуткам, песімізмам (згадаем толькі загалоўкі: “Сатанінскі тур”, “Бумеранг”, “Падзенне”, “Без пакаяння”, “Злая зорка”). Нялёгка было Івану Пятровічу: памерла любая жонка, не цешыла сэрца сучасная доля нацыянальнай культуры. Як зазначаў народны пісьменнік, *“нестабільнасць, разлад жыцця ў краіне пазбаўляе людзей стымулаў да працы, нараджае дэпрэсію, абыякавасць – абы пражыць сёння. Гэта цяжкая хвароба, самая цяжкая з усіх”*. І далей: *“Цяпер я разумею старых акцёраў. Самае страшнае – сысці са сцэны і быць забытым пры жыцці”*.

Аднак песімістычныя ноткі гучалі ў Івана Пятровіча часова, бо ён па натуры быў аптымістам, а любоў да жыцця і працы – вызначальныя рысы яго характару. Незадоўга да смерці ён пісаў самому сабе: *“Вяртайся, Іван, да літаратуры! Пачаць бы раман! Пра наш дзень… Я ж светлы пісьменнік”*.

Бадай самая светлая старонка ў жыцці Івана Пятровіча – Гомель і Гомельскі ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. Будучы ўжо славутым пісьменнікам, ён пры любой нагодзе прыязджаў сюды. І вяла яго не толькі любоў да маленькай радзімы (*“Што зробіш, дарагі чытач, у кожнага з нас свая слабасць, а гэтая слабасць, відаць, ёсць ва ўсіх – пры выпадку і без выпадку сказаць хоць некалькі слоў аб родных мясцінах, аб тых лясах, дзе прайшло тваё маленства, аб тых лугах, дзе ўпершыню мянташыў касу і адчуў, што пот салёны”*), але і светлае, адзінае, велічнае каханне да сваёй незабыўнай Машы (Марыі Філатаўны): *“У Гомелі я неаднойчы адрываўся ад кампаніі сваіх калег, з якімі прыязджаў у родны горад на выступленні, і ішоў па вуліцы Астроўскага. Хадзіў там з дзіўным душэўным трапятаннем. Гэта была вуліца нашага з Машай кахання, на ёй Маша кватаравала, і я штовечар лётаў туды на спатканне”*.

Адразу пасля школы Іван Шамякін стаў студэнтам тэхнікума будаўнічых матэрыялаў, а не філфака Гомельскага пэдінстытута толькі таму, што не хапала гадоў. Але ўжо тады ён цесна сябраваў з паэтамі Леанідам Гаўрылавым і Кастусём Кірэенкам, студэнтамі гэтай навучальнай установы, з якімі разам уваходзіў у літаб’яднанне пры газеце “Гомельская праўда”. Памылка была выпраўлена пасля вайны, калі малады настаўнік і пісьменнік завочна вучыўся ў Гомельскім педінстытуце. Як успамінаў Іван Пятровіч, *«калі першы год – 1946 – здаваў усе прадметы акуратна, то, зрабіўшыся пісьменнікам, стаў хадзіць з “хвастамі”. Здаецца, уводзіны ў моваведства ці штосьці падобнае, але блізкае да літаратуры, мудрагелістае, я пераздаваў разы тры, уедлівы русак-выкладчык саромеў мяне: “Какой же вы писатель!” Увогуле з мовамі ў мяне былі нелады, у тым ліку і з беларускай»*. Але ж паміж нашай alma mater і пісьменнікам засталіся вельмі блізкія і сяброўскія ўзаемаадносіны да канца яго жыцця. У архіве кафедры беларускай літаратуры ёсць шматлікія фотаздымкі літаратурных дэсантаў на чале з І. Шамякіным, што кожны год прыязджалі ў ГДУ. Ганарыўся пісьменнік знаёмствам з першым рэктарам універсітэта вядомым фізікам Б. Бокуцем: *“Прыязджаючы на Гомельшчыну, я ніколі не мінаў універсітэт… Бокуць удзяляў асаблівую ўвагу філалагічнаму факультэту. Як ніхто з іншых рэктараў Ён рабіў Гомельскі ўніверсітэт беларускім”*. Да апошняга дня (памёр пісьменнік 14 кастрычніка 2004 г.) працаваў над успамінамі (у тым ліку і пра Гомельшчыну), збіраў матэрыял для будучага музея нашай ВНУ. Незадоўга да яго смерці дэлегацыя ўніверсітэта наведала славутага земляка на яго лецішчы, пабывала ў рабочым кабінеце на кватэры і ў Ждановічах. Іван Пятровіч быў надзвычай усцешаны візітам, згадваў вучобу, перадаваў прывітанне прафесуры, якую добра ведаў, выкладчыкам філфака, студэнтам і моладзі. Вось як ён пісаў у лісце да загадчыка кафедры беларускай літаратуры Івана Штэйнера (лічыў, што рана яму ставіць помнік на малой радзіме, а лепш увагу і сродкі аддаць на развіццё літаратуры).

*Прывітанне Вашым калегам! Кланяюся ўсім прапагандыстам маёй творчасці і ўсёй беларускай літаратуры, даволі багатай. Нам ёсць чым ганарыцца! Спадзяюся, чыноўнікі зразумеюць гэта, хочацца дажыць да гэтага шчаслівага часу.*

*Яшчэ раз усяго найлепшага*

*1 мая 2002 г. Іван Шамякін*

А вось згадкі пра горад і ўніверсітэт у споведзі "Паклон табе, Гомель!", якую Іван Шамякін прыслаў на кафедру незадоўга да смерці.

У адной з навел аўтабіяграфічнага цыкла "Начныя ўспаміны", над якім зараз працую, я расказаў, як мяне, малога, здаецца, яшчэ дашкольніка, бацька-ляснік павёз у Гомель. Уражанне не забылася і за сем дзесяткаў гадоў. Самае яскравае – наведанне музея "Палац князя Паскевіча". Гэта была галоўная славутасць горада. Думаю, яго наведваў кожны, хто прыязджаў у Гомель, бо добра памятаю размовы каля лесніčоўкі: "Быў у Гомелі? Бачыў Пашкевіча? (у народзе так называлі князя) Не бачыў? Эх ты, лапух! Нічога ты не бачыў, калі палаца не пабачыў!"

Думаю, што ў той час у сарака пакоях палаца ўсё захоўвалася, як і пры жыцці славутага генерала. Хіба што самыя каштоўныя карціны, скульптуры – нацыянальны скарб – былі вывезены ў Маскву.

Іншым выглядаў музей праз сем-восем гадоў; калі я наведаў яго, паступаючы ў тэхнікум будаўнічых матэрыялаў. Хацеў у чыгуначны – не дарос. Мусіў вывучаць хімію (іх было некалькі – арганічная, неарганічная…), матэматыку, супраціўленне матэрыялаў, тэхналогію вырабу цэглы, цэменту. Але не хімія вызначыла мой жыццёвы лёс. Вечары выходныя я праседжваў у гарадской бібліятэцы – літаральна глытаў мастацкую літаратуру, дабраўся да кніг пасля голаду па іх у Карме, Краўцоўцы.

Выраслі крылы, калі пачаў наведваць літаратурнае аб'яднанне пры "Гомельскай праўдзе". Арганізатарам яго быў намеснік рэдактара Яўменаў. Але на пасяджэннях вялі рэй студэнты падінстытута, паэты, якія ўжо друкаваліся ў мінскіх выданнях, – Кастусь Кірэенка, Леанід Гаўрылаў; лідэрам рускамоўных творцаў быў Дзмітрый Кавалёў.

Я пісаў вершы, многа вершаў. Як было не пісаць, калі закахаўся ў студэнтку медтэхнікума Машу Кротаву, якую ведаў з пятага класа – па вучобе ў Церусе (леснікоў кідалі з месца на месца, як таго Міхала з "Новай зямлі"). Адважыўся пачытаць вершы на пасяджэнні літаб'яднання. Добры Гаўрылаў крытыкаваў паблажліва, далікатна, але бескампрамісны Кірэенка разнёс іх, вершы мае, як кажуць, "у пух і прах", даказваючы, што ніякі я не паэт.

Але я не мог не пісаць пра сваё каханне! І напісаў апавяданне. І яго пахвалілі. Дык дзе яно, маё прызнанне ў прозе! А мой жыццёвы лёс – у той адзінай выбранніцы; у маі 1940, калі я канчаў тэхнікум, а Маша працавала фельчарам у Рэчыцкім раёне, мы ўзялі шлюб. І амаль не жылі разам, ва ўсялякім разе, мядовага месяца не мелі. Мяне заслалі на працу ў Беласток. А потым прызыў у армію.

Вайна. Пяць гадоў разлукі. З жонкай, з бацькамі, з роднай мовай, літаратурай. Але і там, на вайне, я пісаў. У Кандалакшы – "У снежнай пустыні", пад Берлінам, праўда, пасля Перамогі ўжо, – "Помсту"; называю тое, што надрукавана, што ўключана ў зборы твораў.

У кастрычніку 1945 г. зволіўся як спецыяліст: ідзі, хлопча, рабі цэглу, усё ж разбурана, зруйнавана вайной. Але не пра цэглу я думаў. Найперш – пра вучобу. І вядома ж, пра літаратуру. Разумеў: праца на заводзе не дасць вучыцца, на стацыянар жа не паступіць – жонка, дзіця. Трэба жыць! Школа! Толькі ў школе можна вучыцца завочна!

І я прыехаў у Пракопаўку, дзе мая Марыя Філатаўна рабіла фельчарам і мела пакойчык у дваровым доме былога маёнтка. Нехта (Сталін?) прыдумаў разумнае правіла: франтавікі ў любую пару года, як толькі зволіліся з арміі, маглі працягваць перапыненую вучобу і паступаць на завочнае аддзяленне. І ўжо ў лістападзе ці ў пачатку снежня (помню – зімой, у мароз) я здаваў экзамены ў Гомельскі педагагічны інстытут, на гісторыка-літаратурны факультэт. Якія экзамены! Дыктант па беларускай мове; жаданне пісаць па-беларуску здзівіла экзаменатараў; ці не адзін я быў такі "нацыяналіст"! Памылкі я, безумоўна, зрабіў, ды не яны вырашалі лёс. Тым больш, што па гісторыі я адказваў так, што здзівіў старога прафесара (не помню прозвішча).

Паступіў. А як вучыцца? Жылі галодна, халодна. У школе – гадзін 30 нагрузкі мовы беларускай, нямецкай (паступіў на маскоўскія завочныя курсы), грамадская нагрузка – сакратар аб'яднанай сельсавецкай партарганізацыі – на шэсць ушчэнт разбураных калгасаў, а райком патрабуе: пасей, здай, выканай план лесанарыхтоўкі… Але галоўнае – нястрымна хацелася пісаць. Апынуўся сярод партызан, загарэўся іх тэмай. Адразу замахнуўся на раман. Смеласць!

Сядзеў начамі. А ў адзінае вакно з шыбкамі з асколкаў шкла на рукапіс намятала гурбачкі снегу. Але ж трэба і інстытуцкія прадметы вучыць – набліжалася летняя сесія. А па чым вучыць? Дзе ўзяць падручнікі? Ды быў я не ў горшым стане, чым іншыя тагачасныя завочнікі з сельскіх школ. У мяне некаторыя патрэбныя кнігі меліся. Я іх прывёз з Германіі. Здзівіцца чытач? З'ява рэдкая – рускія кнігі з пераможанай Германіі. Але прыгода была такая. Стаялі ў Ландсбергу на Варце (здаецца, цяпер Гожуў Вялікапольскі). І ў адным багатым доме, яўна былога фашыста, бо жылі толькі дзве старыя,

мы з парторгам выявілі вялікую колькасць рускіх кніг са штампам Смаленскага педінстытута. Я настойваў забраць іх у бібліятэку дывізіёна, але зампаліт адмовіўся, паведаміў камендANTу: няхай вярнуць у Смаленск. Але я адабраў рускую класіку і тыя кнігі, якія, разумеў, спатрэбяцца для вучобы. І гэтыя кнігі я цягнуў дадому, калі зволіўся з арміі, – два мяшкі. Хто вёз шмаццё – я кнігі; з мяне смяяліся. Але помню выпадак у Брэсце: дэмабілізаваныя штурмам узялі вагон поезда на Гомель; з'явіўся камендацкі патруль і, баючыся чапаць франтавікоў, пачаў выкідваць праз акно іх скарб – чамаданы, клункі. Паднялі мой мяшок. "Во, гад, нарабаваў. Залатыя злíткі ці цэглу?" – "Кнігі, хлопцы! Кнігі вязу" – "Нямецкія?" – "Нашы! Немцы вывезлі. Як не забраць такое дабро!" Вельмі здзівіўся чырвонатвары старшына, памацаў кнігі і не выкінуў мяшок. А з ім і я застаўся ў вагоне. Была яшчэ адна праблема: з Церахоўкі да Пракопаўкі дабрацца з такім грузам. Але і тут пашанцавала.

У такіх умовах жыцця і працы я завочнічаў. Сам здзівіўся, калі ў самы галодны 1946 год вытрымаў экзамены па ўсіх прадметах першага курса. Не скажу, што выдатна, але прыстойна. У наступны год ухвалілі на друку першую частку "Глыбокай плыні", прынялі ў сябры Саюза пісьменнікаў. І я, мабыць, трохі зазнаўся: маўляў, умею пісаць і без тэорыі літаратуры, псіхалогіі. За другі курс засталіся "хвасты".

А яшчэ праз год Пятрусь Броўка парэкамендаваў мяне ў Рэспубліканскую партыйную школу. Хто адмовіўся б? Стыпендыя ў два разы большая, чым настаўніцкая зарплата. Ды і хто з нас, маладых, не імкнуўся ў Мінск, бліжэй да выдавецтва, часопісаў! І скончыў я сваю вучобу ў Гомельскім педінстытуце. Дарэмна. Але сувязі з ім не парываў. Узрадаваўся, калі ў 1969 годзе інстытут ператварылі ва Універсітэт. Ганарыўся. Сам напрасіўся ў міністра Мікалая Машкова паехаць з ім на ўрачыстае адкрыццё другога ў рэспубліцы універсітэта – у родным мне Гомелі, які любіў з маленства, недарэмна і аповед свой пачаў з Палаца. Між іншым, калі музей пазней расчараваў, то парк заўсёды здаваўся унікальным помнікам ландшафтнай архітэктуры: паездзіў па свеце, бачыў многія паркі і пераканаўся, што ў сваёй першароднасці Гомельскі не горшы за многія з іх. Горка толькі, што наш нацыянальны помнік не даглядаецца і не зберагаецца так, як гэта робіцца ў іншых краінах.

…Адкрыццё Універсітэта было ўрачыстае – свята ўсёй інтэлігенцыі, усіх, хто рабіў у педінстытуце і заставаўся ва Універсітэце, хто скончыў педінстытут імя Чкалава і працягваў вучобу на ВНУ вышэйшага рангу.

Там, на свяце, пазнаёміўся з першым рэктарам – Уладзімірам Аляксеевічам Белым, выдатным вучоным, дасціпным чалавекам. Але асабліва я зблізіўся з Барысам Васільевічам Бокуцем, у нас устанавілася добрае чалавечае сяброўства. Шчыры беларус, ён заваражыў мяне веданнем роднай літаратуры. Фізік і Паэт – сказаў бы я пра яго. У кожны прыезд у Гомель я заходзіў да Барыса Васільевіча, і мы гутарылі гадзінамі. А прыязджаў я часта, бо яшчэ ў 1951 годзе з дапамогай бацькі, цесця, швагра збудаваў у Церусе, адкуль мая жонка, хаціну, і ў ёй кожнае лета адпачывала мая сям'я, ды і мне там хораша працавалася, хораша адпачывалася ў акружэнні людзей, якіх я ведаў з маленства – маіх равеснікаў з Церухі, Краўцоўкі, Гуты, Грабаўкі…

Па ініцыятыве Бокуця мы заключылі няпісаную дамову: у пачатку кожнага навучальнага года ва Універсітэце – літаратурны вечар. Сакратар Саюза пісьменнікаў, я падбіраў брыгаду паэтаў, празаікаў, крытыкаў – чалавек 10 – 12. Праводзіўся агульнауніверсітэцкі вечар, надзвычайны па сваім змесце, форме, цеплыні, з якой сустракалі нас студэнты, выкладчыкі, кіраўніцтва горада. А паколькі зала ўсіх змясціць не магла, на другі дзень, разбіўшыся на групы, выступалі на факультэтах. Калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі, акадэмік Бокуць быў першым, хто пасвяціў мяне ў наступствы трагедыі, пра што ў той час прачытаць было немагчыма. Барыс Васільевіч па сутнасці мяне кансультаваў, калі я працаваў над раманам "Злая зорка". Па-мойму, яшчэ ў значнай меры не ацэнены ўклад гэтага вучонага-гуманіста ў арганізацыі многіх мерапрыемстваў, устаноў, якія памагалі народу і ўладам зменшыць наступствы вялікай бяды.

Думаю, кніга, якая рыхтуецца да выдання ва Універсітэце, раскажа аб укладзе кожнага вучонага і ў Чарнобыльскую праблему, і ва ўздым эканомікі, культуры. Радуюся, што са сцен універсітэта выйшла нямала вядомых беларускіх пісьменнікаў.

Універсітэт скончылі мой сын і зяць, геолагі; на гора нам сын наш рана пайшоў з жыцця – у 41 год. Добрыя спецыяльнасці даў Універсітэт некалькім маім пляменнікам і пляменніцам. Яны і сёння жывуць у Гомелі, мы часта сустракаемся. Для мяне быў і застаецца гэты горад родны.

Шлю ўсім выкладчыкам, усім, хто вучыўся і вучыцца ў сцянах Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны, усім гамяльчанам самыя шчырыя пажаданні – шчасця вам усім у XXI стагоддзі! Паклон табе, слынная кузніца кадраў! Паклон табе, родны Гомель!

12.01.2002.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Серафім АНДРАЮК

# ДРАМАТЫЗМ І ПРЫГАЖОСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ДУШЫ Ў ТВОРЧАСЦІ АНАТОЛЯ КУДРАЎЦА



«…Не прыблізная, не асцярожненькая, з аглядкай на моду, а шчырая, сыноўняя адданасць праўдзе жыцця, не прыблізнае, камандзіровачнае, а грунтоўнае, глыбока, кроўна зацікаўленае веданне яго – такое, перш за ўсё, ураджанне робіць на мяне, чытача, зборнік "На зялёнай дарозе".

Другое ўражанне – ціхая, мудрая і сардэчная чалавечнасць, якою зусім арганічна і вельмі па-нашаму, па-беларуску прасякнута кніга, усё, што аўтар бачыць і чуе, пра што ён мае патрэбу расказаць.

І трэцяе – А. Кудравец здаў, па-мойму, уступны экзамен майстэрства амаль на "выдатна"» [1].

Так пісаў пра першую кнігу пісьменніка выдатны майстар слова, глыбокі знаўца літаратуры Янка Брыль. Пісаў у 1968 г., пасля з'яўлення невялікага зборніка апавяданняў маладога аўтара. "Пра здзіўленне і зайздрасць" – даволі выразная і шматзначная назва рэцэнзіі. Ацэнка творчасці высокая, справядлівая. Прадыктаваная аналізам твораў і глыбокай верай у талент аўтара. І вера была недарэмнай, спадзяванні майстра спраўдзіліся.

У гэтыя зімовыя дні Анатоль Паўлавіч Кудравец адзначае прыгожую юбілейную дату – 1 студзеня яму споўнілася 75. Шлях пройдзены немалы. І вельмі ж нялёгкі. Асабліва яго пачатак. Гады даверліва-адкрытага дзяцінства апалены полымем найцяжэйшай і найстрашнейшай вайны, пранізаны скразнякамі пасляваеннай бясхлебіцы. Гэтыя гады ў памяці і сэрцы застаюцца назаўсёды. Намнога пазней на пытанне, "чым засталося ў памяці дзяцінства", А. Кудравец адкажа: *"Вайной, цікаўнасцю да зброі і смерці"* [2]. І гэта так. Тыя гады сталі самай суровай, самай высокай школай жыцця – школай праўды і чалавечнасці. Не для аднаго асобнага чалавека – для ўсяго пакалення. Што такое добра і што такое дрэнна, кожны засвойваў не праз школьныя ўрокі, не праз кнігі, а праз жыццё – часта галоднае, горкае, слёзнае, але зацята ўпартае, поўнае высокай значнасці. Той вопыт, тая жыццёвая школа прадвызначылі ў лёсе пакалення ўсё.

У рамане "Пасеяць жыта" Кудравец скажа:

*"…Ішла вайна…*

*І праз гады яна працягваецца.*

*Пра ўсё можна ўспамінаць, але не ўсё застаецца ў памяці. І добра, што не застаецца. Якая памяць можа ўмясціць **тыя** гады – дзень за днём, гадзіна за гадзінай?.. Тыя дарогі, і невядомасць, і адчай, і голад, і холад, што былі на гэтых дарогах, і самі дарогі, што пралягалі і па Беларусі, і далей, і назад…"* [3]

Так, памяць не ўсё захавала з той вайны, не ўсё ўтрымлівала праз гады і дзесяцігоддзі. Але ўся чалавечая існасць, чалавечае сэрца ўвабралі ў сябе тую вайну. У кожным асабістым лёсе быў трагічны і гераічны лёс краіны. У творчасці гэта выяўлялася і адчувалася адметным чынам.

Сама вайна (канкрэтныя факты, сітуацыі, падзеі) у творчасці А. Кудраўца займае быццам меншае месца, чым у іншых прадстаўнікоў яго пакалення. Але тое жыццё, якое пісьменнік узнаўляе, заўсёды нясе ў сабе водгулле ваенных гадоў; чалавечыя характары, якія ён паказвае, створаны, узгадаваны тым часам. І самае істотнае: высокая этычная, глыбокая духоўная атмасфера пераважнай большасці апавяданняў і аповесцей, рамана вынікае, выпраменьваецца адтуль, з тых нялёгкіх гадоў.

Жыццёвая ўстойлівасць, унутраная гатоўнасць да выпрабаванняў і непрыемнасцей герояў твораў пісьменніка выспелены і выхаваны папярэднім вопытам. Як і лад душы, светаўспрыманне.

Усім гэтым валодаў, нёс у сабе Анатоль Кудравец. І не толькі як веданне жыцця – рэальных калізій, фактаў, складанасцей, чалавечых паводзін і ўчынкаў, але і як адчуванне, разуменне духоўнага свету людзей, маральнай асновы ладу жыцця, узаемаадносін. Што выдатна ўвасобіў у мастацкіх творах.

Чытаеш ці перачытваеш творы пісьменніка, задумваешся над прачытаным-перачытаным і



*__Серафім Антонавіч Андраюк__ – крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1966). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Крываносаўскай сярэдняй школы Старадарожскага раёна (1957 – 1962), навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры АН Беларусі (1966 – 1981), галоўным рэдактарам (з 1981 г.) і дырэктарам выдавецтва "Мастацкая літаратура" (1993 – 1997). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі (1999 – 2008). Даследуе сучасную беларускую літаратуру. Аўтар манаграфій і зборнікаў артыкулаў "Жыццё. Літаратура. Героі" (1973), "Вывяраючы жыццём" (1976), "Традыцыі і сучаснасць" (1981), "Жыць чалавекам" (1983, Літаратурная прэмія імя Івана Мележа за 1984 г.), "Чалавек на зямлі: Нарыс творчасці Івана Пташнікава" (1988), "А жыццё – вышэй за ўсё" (1992), "Пісьменнікі. Кнігі" (1997). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994).*

бачыш, добра адчуваеш, што ўзноўленае жыццё ў яго ўвесь час неяк зусім незаўважна суадносіцца з духоўнасцю (найчасцей як душэўнасцю), ёю ацэньваецца, вывяраецца. Прычым духоўнасць – гэта не толькі пазіцыя герояў, характар іх адносін да свету і людзей. Гэта найперш тая эмацыянальна-этычная атмасфера, у якой яны дзейнічаюць і якую ў значнай ступені самі ствараюць. Атмасфера вельмі натуральная, і разам з тым яна вылучаецца моцнай духоўнай насычанасцю. Характары ў гэтай атмасферы існуюць выключна арганічна, падзеі нібы паглыбляюцца і ўзбуйняюцца. Чалавека бачыш не толькі непасрэдна ў яго ўчынках, паводзінах, думках. Сам эмацыянальна-інтанацыйны лад мовы, шчырасць, рухомасць, чуйнасць і голасу аўтара, і голасу персанажаў высвятляе, акрэслівае ў чалавеку нешта самае глыбокае, істотнае і вызначальнае. І толькі з улікам усёй складанасці пісьменнікавага мастацкага свету можна зразумець значнасць вобразаў-характараў, драматызм лёсу і вялікую жыццятворчую іх сілу. Свет вылучаецца моцным унутраным драматызмам чалавечых лёсаў, іх духоўна-эмацыянальных узаемаадносін з рэальным навакольным жыццём, іншымі людзьмі.

Анатоль Кудравец не робіць ніякіх намаганняў драматызаваць пэўныя падзеі, але гучаць яны драматычна. Лёсы герояў ніколькі быццам не вылучаюцца з рэальнай плыні. Само ж жыццё, а пісьменнік яго "вывучаў" у такі складаны і трагічны час, да краёў напоўнена трывогамі, турботамі, болем, расчараваннямі. Пісьменнік нібы імкнецца давесці: кожны чалавечы лёс драматычны, нават самы звычайны, бо звязаны з іншымі людзьмі, знаходзіцца ў жорсткай залежнасці ад абставін, заўсёды супярэчліва складаных.

У аповесці "Раданіца", рамане "Пасеяць жыта", многіх апавяданнях у цэнтры вобразнай сістэмы чалавек складанага жыццёвага лёсу і шырокага духоўнага размаху, моцнага грамадска-сацыяльнага зместу.

Вось Іваніха з аднайменнага ранняга апавядання, якая шмат на сваім вяку пабачыла, перажыла, выцерпела. У калектывізацыю ад варожай рукі загінуў муж. У час фашысцкай навалы "*зняла Іваніха з бярозы і сваю Клаву*": згвалчаная фашыстамі, тая не захацела жыць. Сын-гараджанін не прыслаў маці ніводнага пісьма.

Здаецца, жанчына страціла цікавасць да ўсяго на свеце. Не жыве, а дажывае апошнія дні. Але гэта знешняе ўражанне. Пад цяжкімі жыццязгубнымі напластаваннямі, якія лёс так неміласэрна абрынуў на чалавека, існуе неадольная цікавасць да навакольнага свету, да людзей, нейкая асабістая далучанасць да ўсяго, што чыніцца навокал. У Іваніхі ёсць клопат пра жыццё, боль за яго, вострае рэагаванне на яго праявы.

Складаны лёс у гераіні апавядання **"Сяструха"**. Яніна, адзіная дачка ў сям'і, асірацела ў пачатку вайны. Потым загінуў жаніх-партызан. Яніна выйшла замуж, нарадзіла пяцярых дзяцей. Муж піў, выпадкова загінуў. Меншая дзяўчынка нарадзілася калекай. Жыццё такое нялёгкае! Ды чалавек жыве. Пры такіх абставінах можна стаць злосным на ўсё і ўсіх, можна счарсцвець душою, стаць абыякавым. Усякае можа быць, усякае і бывае. У канчатковым выніку ўсё вырашае той зарад сардэчнасці, душэўнасці, які ёсць (павінен быць) у чалавеку. Асабліва калі чалавек гэты перажыў і жахі вайны, і страшэнныя выпрабаванні першых пасляваенных гадоў. Яніна добра разумее, што "*ў кожнага сваё жыццё*", што людзі "*навучыліся… гараваць, навучыліся шкадаваць, толькі не навучыліся радавацца*". Гераіня надзелена здольнасцю радавацца жыццю, адчуваць разнастайнасць яго праяў, яна жыве з верай у шчасце, з вялікім унутраным жаданнем яго. Вось гэтую патрэбу героі Кудраўца адчуваюць пастаянна, адчуваюць, па сутнасці, усе. Можа, асабліва глыбока і балюча жанчыны.

Такая ж і Лёкса, галоўная гераіня аповесці **"Раданіца"**. Раданіца, як паказвае пісьменнік, – "*такі дзень, калі ўсё разам – і слёзы, і радасць, і жывыя, і мёртвыя, калі да кожнага чалавека прыходзяць думкі пра тое, хто ён і што ён, куды ідзе і адкуль ідзе і ці ёсць у яго на гэтым свеце яшчэ што-небудзь, акрамя яго самога…*". Так думае, як бы падводзячы вынікі пражытага за

некалькі дзён, Іван Купцоў, адзін з вядучых персанажаў твора. На Раданіцу ўсе героі нібы яшчэ раз пражываюць сваё жыццё. Магчыма, як ніколі, у гэты дзень нагадвае пра сябе памяць, *"непадуладны і непадкупны суддзя"*. Памяць не проста вяртае чалавека ў мінулае – яна яго правярае і судзіць: чалавек сённяшні, добры ён ці дрэнны, створаны мінулым.

Лёкса ў найвышэйшай ступені ўвасабляе ідэю памяці. Вяртаючыся разам з іншымі з могілак, крыху адстае. Яна чуе, што гавораць астатнія, а сама жыве сваім. *"Цяжкім, страшным, але гэта было яе жыццё, хоць і далёкае, мінулае, і яна яго не баялася. Яна ведала, што без таго жыцця не было б і яе сённяшняга дня"*. І не толькі яе, але і многіх іншых, хто разам з ёю адзначаў Раданіцу. Гэтая ж жанчына ўвасабляе сапраўдны народны характар: працавітасць, душэўную шчодрасць, цярплівасць. А колькі жанчыне давялося перажыць, колькі выцерпець. Відаць, сапраўды моцны характар можа сфарміравацца толькі ў пераадоленні цяжкасцей, напружанні ўнутраных сіл, мабілізаванасці духоўных магчымасцей. З мінулага Лёкса ўспамінае падзеі асабліва складаныя і цяжкія, вырашальныя ў вызначэнні чалавечай сутнасці.

Калі ўсё добра, ідзе найлепшым чынам, тады чалавеку і не складана быць добрым, уважлівым да іншых: асаблівых унутраных выдаткаў гэта не патрабуе. А вось застацца добрым у жыцці нялітасцівым, быць душэўна шчодрым, калі лёс да цябе такі жорсткі, больш за тое, захаваць і памножыць гэтую дабрыню, здольнасць адчуць і зразумець чужыя гора і бяду, выявіць унутраную гатоўнасць да суперажывання (і ўсё натуральна, без прымусу) – такое ўласціва далёка не кожнаму. Такімі якасцямі надзелены натуры глыбокія, характары народныя. Звычайна ў іх найбольш сканцэнтравана, завершана і гарманічна ўвасоблены тыя якасці, з якімі ў народзе звязана разуменне сапраўднага чалавека. Характары "жывуць" у атмасферы высокай духоўнасці. На першы погляд разважанні пра гэта могуць здацца крыху нечаканымі: няма тут ніякіх інтэлектуальных размоў, спрэчак, агульназначных высноў. Ёсць проста самае звычайнае жыццё, у ім усё мае сэнс. Лёс герояў, уся падзейная аснова моцна падпарадкаваны асноватворным маральным крытэрыям, імі арганізаваны і сцэментаваны. Духоўнасць, маральнасць – эстэтычная пазіцыя Кудраўца, эмацыянальна-інтуітыўная і ўсвядомленая. Яе вытокі – у глыбінях чалавечага жыцця, у драматычных чалавечых лёсах.

Жыццё, поўнае пастаяннай барацьбы і высокага імкнення да чалавечага самасцвярджэння, – вось сутнасць і эстэтычная ўстойлівасць таго свету, які стварае Анатоль Кудравец.

Даволі часта, асабліва ў першых творах пісьменніка, цэнтральнае месца займае жанчына. Якраз яна паводзінамі, адносінамі да навакольнага свету, іншых людзей сцвярджае жыццё творчае, сапраўды чалавечае, хоць сама далёка не заўсёды шчаслівая. Здаецца нават, што яна ў большай ступені выконвае жаночае жыццятворнае прызначэнне, чым здабывае, будуе сваё шчасце. Імкненне да шчасця, жаданне яго – хутчэй інстынкт, натуральнае існаванне, чым усвядомленая мэта.

Кудравец-пісьменнік добра адчувае і разумее гэтую ўнутраную заканамернасць нармальнага чалавечага жыцця. Бо пры ўсёй яго натуральнасці, мастацкай незавершанасці і ідэйнай нібыта неакцэнтаванасці ёсць у ім глыбокае пачуццё дабрыні і прыгажосці, што надае яму і мастацкую завершанасць, і маральна-этычную пэўнасць. Пачуццё гэтае з'яўляецца пафасам, эмацыянальнай атмасферай твораў, належыць якраз той рэчаіснасці, якую ўзнаўляе пісьменнік, тым людзям, якіх ён паказвае. Створаны свет нічым быццам не вылучаецца, нібы тоесны свету рэальнаму, але ён жывы, устойлівы і надзейны.

Вера ў жыццё, у яго стваральны сэнс, вера ў чалавека дазваляе пісьменніку "даць" героям усе правы для самавыяўлення і самасцвярджэння. Сам ён нібы знікае. Чуецца голас жыцця, голас шчыры, праўдзівы, стрыманы. У творах празаіка мы бачым, адчуваем першаснасць жыццёвага матэрыялу, характараў, жанравай формы, эмацыянальна-інтанацыйнага ладу. Існуе арганічная адпаведнасць паміж тым, пра што гаворыцца, і тым, як гаворыцца. У аснове ўсяго – вернасць мастака жыццю і самому сабе, свайму таленту.

Цікавы ў гэтым сэнсе раман **"Пасеяць жыта"** А. Кудраўца. Нямала нягод і выпрабаванняў напаткала галоўнага героя твора сельскага працаўніка Ігната Сцяпанавіча Вапшчэтку. Але не пахіснуўся чалавек, не страціў веры ў людзей, у высокае сваё жыццядзейнае прызначэнне. Усяго нагледзеўся Іван Сцяпанавіч у вайну, зразумеў, што для салдата галоўнае перахітрыць ворага, самому застацца жыць, *"рабіць работу далей і радавацца ўсяму, што ёсць на свеце жывое"*.

Здольнасць, унутраная патрэба *"рабіць работу далей"*, радавацца засталася ў Ігната Сцяпанавіча назаўсёды. Менавіта духоўна актыўныя адносіны да жыцця вызначаюць змест і сутнасць яго паводзін, яго светаўспрыманне. Мінулае не прайшло, не знікла назаўсёды. Ён жыве тым мінулым, яно жыве ў ім. *"Ігнат Сцяпанавіч пераскокваў цераз дзесяцігоддзі, не заўважаючы гэтага, але ўсё, пра што ён гаварыў, няхай і было гэта даўно, жыло ў яго ўяўленні так непасрэдна, быццам адбывалася не далей як учора. Здавала-*

*ся, для Ігната Сцяпанавіча час сам па сабе, як нейкая канкрэтная мерка ўсяго жывога, як быццам не існаваў, а жыў, як адзнака, пэўны прызнак прадмета гаворкі”.*

Манера апавядання Кудраўца, спосаб узнаўлення рэчаіснасці якраз вось такія: далёкае мінулае, учарашні дзень, сучаснасць – усё існуе сёння, тут. Па сутнасці, ва ўсіх творах так. Асабліва шырока, арганічна-свабодна ў рамане. Яго герой увасабляе драматызм гісторыі, яе вялікі жыццядзейны сэнс. У творы заўважана: *“У гісторыю ўсе ідуць пешша, і яна сама выбірае палюбоўнікаў”.* Ігнат Сцяпанавіч, як і іншыя героі пісьменніка, безумоўна, не трапілі ў “палюбоўнікі” гісторыі. Але для Кудраўца і яго герояў гэта не мае абсалютна ніякага значэння, гэта не іх клопат. Яны творцы гісторыі, яны самі гісторыя – краю, народа, зямлі.

Адтуль, з вёскі, ад зямлі, вырастае А. Кудравец як мастак, там выток яго этычных і эстэтычных поглядаў. Напэўна, з гэтай прычыны і тыя этычныя нормы, па якіх жывуць героі, нарэшце, тыя этычныя і эстэтычныя прынцыпы, па якіх будуюцца і “жывуць” яго творы, маюць такую глыбіню, такую простую прыгажосць і ўстойлівасць. Але арыентаванасць пісьменніка на народныя этычныя і эстэтычныя вытокі ні ў якой ступені не вядзе яго да ідэалізацыі жыцця вёскі, захаплення патрыярхальнасцю. Ён бачыць супярэчнасці сучаснай вёскі, выяўляе іх у працы, сацыяльных узаемаадносінах, побыце. Далучанасць да народных вытокаў дазваляе пісьменніку заставацца ідэйна пэўным і ўстойлівым, эстэтычна цэласным, непадуладным у сваёй аснове ніякім знешнім зменам, ніякім грамадскім зрухам. Яго творчасць калі ўбірае змены часу, дык хавае іх недзе ў глыбінях творчай лабараторыі. Там пераплаўляе жывы матэрыял, робіць эстэтычны і маральны адбор і падае чытачу ў завершана зладжаным мастацкім выглядзе. Характэрна гэта і для творчасці гадоў пераломных: канец XX – пачатак XXI ст. Для пісьменніка і ў гэтыя гады, як і раней, самае важнае – выявіць, паказаць, сцвердзіць у самым звычайным праявы высокіх духоўных якасцей, таго, што робіць любога чалавека прыгожым, выпраменьвае цяпло дабрыні (“Двое за нізкім столікам”), а таксама ўбачыць, выкрыць і асудзіць праявы чэрствасці, жорсткасці, якія ў наш час становяцца звычайнай штодзённай з’явай (“Пахахуцікі”, “Летні сон па дарозе дамоў”).

Зразумела, час не мог не паўплываць і на такога пісьменніка, як А. Кудравец, пісьменніка з выверанымі шматвекавой народнай практыкай маральнымі і эстэтычнымі крытэрыямі. Адчуваецца гэта ў апавяданнях “Познія яблыкі”, “Бацька”, “Зязюля пракукуе заўтра…”, дзе ў аснову пакладзены факты і сітуацыі з жыцця ваеннага, а таксама пасляваеннага, неадназначныя, супярэчлівыя, а то і заблытаныя наўмысна. Тут уся ўвага сканцэнтравана на выяўленні таго, што робіць жыццё з чалавекам. Пісьменніка менш цікавіць даследаванне прычын, чаму так здарылася, пошук вінаватых, а больш сцвярджэнне: як гэта балюча для чалавека, для блізкіх яго, ды і для нас. Вынік тут трагічны. Кудравец у гэтых творах бескампраміснa асуджае ігнараванне адвечных маральных нормаў, сцвярджае самакаштоўнасць чалавека, яго ўнікальнасць.

З гэтых пазіцый пісьменнік ацэньвае і літаратуру, і творчасць калег і сяброў у эсэ, сабраных у кнізе **“За дальнім прычалам”**. Асаблівым драматызмам вылучаюцца літаратурныя партрэты, прысвечаныя В. Быкаву, А. Адамовічу, М. Стральцову, В. Бечыку, У. Верамейчыку і інш. Гаворачы пра творчы і чалавечы лёс сяброў і паплечнікаў па жыцці і літаратуры, А. Кудравец робіць заўвагі і больш агульнага зместу: *“А сёння… Сумна глядзець, як радзее жывы лес нашай літаратуры. Як усё меней і меней у ім магутных, памечаных сілай і прыгажосцю дрэў. Усё болей лысіны і прагалы. І падлесак кволіцца. Быццам чакае лепшай пагоды, цяплейшага сонца, цішэйшага ветру…”*[4].

Асобна ў кнізе літаратурных партрэтаў стаіць твор-дакумент “Справа № 33556”. Гэта судовая справа аднаго са сваякоў пісьменніка, *“загубленага сталінскімі парадкамі”*. Справа-сведчанне беззаконня, гвалту, цынізму. Сваім зместам, жыццёвай асновай, творчымі вытокамі твор гэты блізкі да аповесцей “Муштук і папка” Янкі Брыля і “Тры пуды жыта” Івана Пташнікава.

Адзін з галоўных герояў апавядання “Холад на пачатку вясны” думае пра мінулае і канстатуе для сябе, што толькі *“балючая душа можа даць жыццё памяці, уваскрасіць мёртвае”*. Гэта так – і ў адносінах да чалавека, і ў адносінах да народа, да яго гісторыі. Так гэта і ў адносінах да літаратуры. “Балючая душа” мастака, узнаўляючы мінулае, дае жыццё і эстэтычнай нацыянальнай памяці, развівае, узбагачае і памнажае сапраўды чалавечую мастацкую традыцыю. Знешне не кідкая, але поўная шчырага даверу да жыцця і “балючай душы” творчасць Анатоля Кудраўца плённа развівае ў нашай літаратуры глыбокую традыцыю праўдзівасці і чалавечнасці. Той чалавечнасці, сэнс і змест якой афарыстычна проста і дакладна выказаны ў аповесці “Раданіца”: *“Жыць чалавекам сярод людзей”.*

---

[1] **Брыль, Я.** Збор твораў : у 5 т. / Я. Брыль. – Мінск : Маст. літ., 1981. – Т. 4. – С. 361.

[2] **Шчыра, як на духу…** : споведзі вядомых людзей Беларусі. – Мінск : ГАБТ “Кніга”, 2002. – Вып. 1. – С. 242.

[3] **Кудравец, А.** Выбраныя творы : у 2 т. / А. Кудравец. – Мінск : Маст. літ., 1987. – Т. 2. – С. 63.

[4] **Кудравец, А.** За дальнім прычалам. Літ. партрэты / А. Кудравец. – Мінск : Медисонт, 2007. – С. 122.

*З юбілеем!*

# РОДНЫЯ КРЫНІЦЫ МІХАСЯ ПАЗНЯКОВА

60



Міхась Пазнякоў – паэт, празаік, перакладчык, мовазнаўца, крытык, публіцыст. Піша на беларускай і рускай мовах. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі, Літаратурнай прэміі імя Я. Маўра, прэміі міністра абароны Рэспублікі Беларусь, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў, трох Рэспубліканскіх прэмій "Лепшая кніга года".

Нарадзіўся 24 студзеня 1951 г. у вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна.

Бацька паэта Павел Кузьміч Пазнякоў (1905 – 1989) – служачы, ведаў шмат вершаў, казак, заахвочваў да кнігі, да вучобы. Маці Марыя Еўдакімаўна (1913 – 2006) – сялянка, ведала многа цікавых гісторый і паданняў, часта расказвала іх, абуджаючы фантазію.

Міхась Пазнякоў скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1977). Працаваў настаўнікам у школах Бярэзінскага раёна і Мінска, навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, першым дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва "Юнацтва", часопісаў "Вожык", "Нёман", намеснікам дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва". Цяпер – старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першы верш надрукаваў у 1968 г. Аўтар кніг вершаў, апавяданняў і казак для дзяцей «Дзіўныя "блізняты"» (1987), "Тры чарадзеі" (1991), "Ехаў поўны воз дзівос" (1994), "Шые вожык кажушок" (1996), "Вавёрчына хатка" (2006), "Падарожжа ў краіну загадак" (2007), "У родным краі" (2009) і інш.

Выдаў паэтычныя зборнікі "Час надзеі" (1991), "Крутит время свои жернова" (2004), "Любі і помні" (2006), "Святое правіла" (2008), кнігу гумару "Усім па сакрэту" (2005).

Аўтар кнігі прозы "Паміж радасцю і болем" (2010), "Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" (1988), кнігі літаратуразнаўчых артыкулаў і рэцэнзій "Залаты ключык духоўнасці" (2010).

Пераклаў на беларускую мову раманы "Дон Кіхот" М. Сервантэса, "Квенцін Дорвард" В. Скота, "Пярсцёнак Лёвеншольдаў" С. Лагерлёф, паасобныя творы С. Маршака, Я. Пермяка, В. Біянкі, Х. К. Андэрсена, афганскія і кітайскія народныя казкі і інш. Пераклаў на рускую мову раманы, аповесці і апавяданні У. Гніламёдава, В. Ткачова, Я. Сіпакова, І. Пташнікава, І. Стадольніка, А. Масарэнкі, К. Камейшы і інш.

У роднай вёсцы, дзе цяпер засталіся тры жылыя хаты, стаіць і бацькоўскі дом, які даглядае старэйшая сястра. У сваёй Глухскай сярэдняй школе кожны год пісьменнік наладжвае літаратурнае свята з удзелам вядомых творцаў. Уручае дзесяці найлепшым вучням пяць іменных грашовых прэмій і пяць каштоўных падарункаў. Дорыць сотні кніг школьнай бібліятэцы, многія з аўтографамі аўтараў.

Міхась ПАЗНЯКОЎ

# ПАМІЖ РАДАСЦЮ І БОЛЕМ

**УРЫЎКІ З КНІГІ**

### І РОДНАЙ ВЁСЦЫ ПАКЛАНЮСЯ

Родны, незабыўны кут! Мая ціхая, маляўнічая радзіма! Тут я зрабіў свае першыя крокі – у жыццё, у літаратуру, да людзей. Тут я адкрыў першыя таямніцы, спазнаў першы гарачы боль, першыя радасці і захапленні. Пра яе – мае самыя зіхоткія і чуллівыя ўспаміны. Сюды, дзе б я ні знаходзіўся, цягне мяне дарога. Тут і сягоння чэрпаю сілы, натхненне, святло, дабрыню, прыгажосць, без якіх немагчыма жыць па-сапраўднаму.

Напэўна, адна з самых балючых страт для чалавека – страта малой радзімы, кроўнай сувязі з ёю, страта сваіх каранёў, той жывільнай энергіі і чысціні, якімі поўняць нас родная зямля і самыя блізкія людзі. Таму хочацца яшчэ і яшчэ раз азорыцца святлом маленства, пакланіцца чароўнай вёсачцы, мілым, дзівосным краявідам і наталіць душу іх хараством. <…>

Змалку мяне цягнула да ведаў, да кніг, у нязведаны магутны, шырокі свет культуры, гісторыі… Чытаць і пісаць навучыўся ў школе. Пачатковая знаходзілася ў самім Заброддзі. Настаўнік трапіўся цікавы, талковы, строгі: Мікалай Апанасавіч Кандраценка. Яго ўрокі давалі шмат. Першыя кнігі браў у невялічкай школьнай бібліятэцы: творы Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Прышві-

на, Віталія Біянкі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Янкі Маўра, рускія і беларускія народныя казкі, творы замежных пісьменнікаў. Памятаю, якое глыбокае ўзрушэнне перажыў, чытаючы незвычайна важную кнігу “Ніколі не забудзем”. Здавалася, гэта я сам выкрадаў у фашыстаў зброю, дапамагаў старэйшым у барацьбе з ворагам… Пазней, у чацвёрты клас, пайшоў у Глухскую сярэднюю школу. З удзячнасцю ўспамінаю сваіх настаўнікаў, выдатных педагогаў. У школе адчуў, якая багатая і складаная гісторыя нашай краіны, роднай Беларусі, Быхаўшчыны, дзе ў свой час працавалі славутыя асветнікі Лаўрэнцій Зізаній і Мялецій Сматрыцкі. Вабілі быхаўскі старажытны замак, Баркалабава, дзе быў створаны цудоўны помнік беларускай культуры – Баркалабаўскі летапіс. Зацікавілі, захапілі родныя карані: хто ж мы такія – беларусы, адкуль род наш? Пачаў чытаць творы сучасных беларускіх пісьменнікаў: Івана Шамякіна, Івана Навуменкі, Максіма Танка, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава, Ніла Гілевіча, Васіля Быкава, Івана Пташнікава і многіх іншых паэтаў і празаікаў, якія паўставалі ў маім уяўленні казачнымі волатамі духу. Не мог я тады і падумаць, што пройдзе час, і я буду добра знаёмы з імі, часта сустракацца, разам працаваць, што народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва, акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі дасць мне ў працэсе сумеснай працы так шмат у адчуванні роднага слова, натхніць на стварэнне “Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы”…

У школьныя гады я быў глыбока ўзрушаны творчасцю і лёсам класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча – жамчужыны ў нашай творчай спадчыне. Відаць, невыпадкова таму пашчасціла мне ў 1981 – 1983 гг. працаваць першым дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску.

Першыя вершы пачаў складаць у шостым класе. Падштурхнула да творчасці настаўніца рускай мовы і літаратуры Роза Сямёнаўна Нікіфарава, якая на адным з урокаў дала заданне напісаць верш. З таго часу і пачалася мая літаратурная сцяжынка… У Мінску мяне падтрымалі Анатоль Вялюгін і Юрась Свірка, Яўгенія Янішчыц і Анатоль Грачанікаў, Валянцін Лукша і Леанід Дайнека, Хведар Жычка і Уладзімір Карызна… <…>

Некалі паехаўшы з роднай вёскі на вучобу, душой я назаўсёды застаўся ў ёй. У апошнія гады гэтая сувязь пашыраецца, мацнее. Нярэдка выступаю перад землякамі ў Глухах, Быхаве. Падтрымліваю сувязь з кіраўнікамі раённых структур, краязнаўчым музеем, бібліятэкай, роднай школай… І ўсё часцей адчуваю ў сталіцы, як не хапае мне тут да болю роднага, невымоўна-светлага, шчымліва-крынічнага, таго, што ёсць толькі на радзіме. Ніколі так не імкнуся ў экзатычныя мясціны далёкага замежжа, як у сваё чароўнае Заброддзе, дзе, сустракаючыся з людзьмі, зліваючыся з прыродай, адчуваю сябе ўзнёслым і шчаслівым. Дзе тысячамі нябачных нітачак маё сэрца звязана з усім наваколлем, з зямлёй і небам. Тут лёгка дыхаецца, прыгожа марыцца, вольна крочыцца. Тут адчуваю, як пульсуе мая першая і галоўная крыніца хараства і любові. А на любові і хараcтве трымаецца свет, а ў гэтым – наша чалавечае прызначэнне і сэнс жыцця…

Жыві, маё Заброддзе!

### РОЗА СЯМЁНАЎНА

У школьныя гады я пісаў вершы на рускай мове. Пэўна, калі б не настаўніца рускай мовы і літаратуры Роза Сямёнаўна Нікіфарава, то і не займацца б мне літаратурнай справай. На ўроку ў шостым класе аднаго разу аб’явіла, што заданне на ўвесь урок – напісаць верш. Нагадала аб рыфме, рытме і вершаваных памерах, супакоіла, што двоек і нават троек нікому не паставіць.

Верш дык верш. Падахвочаныя, мы ўсім класам пайшлі на штурм славы Пушкіна і Купалы. Памятаю, крэмзаў я шмат, але здаў усяго чатыры радкі:

Весна пришла,
Ручейки потекли,
Скворцы прилетели,
Грачи гнезда свили.

Ды гэтага хапіла, каб надалей я заўсёды імкнуўся выказацца вершамі. Сачыненні штораз пісаў на вольныя тэмы і, безумоўна, вершаванай мовай. Роза Сямёнаўна сачыла за маім “творчым ростам”, падтрымлівала.

А як яна ўмела захапіць сваімі ўрокамі! Як цікава выкладала рускую літаратуру! Якія часам арыгінальныя і змястоўныя былі яе тлумачэнні! Яна выдатна дэкламавала вершы вядомых рускіх паэтаў, хораша спявала цыганскія песні, рамансы. Калі мы стамляліся, аналізуючы складаны твор, або ўнураліся па нейкай прычыне ў парты, Роза Сямёнаўна зграбным рухам накідвала на плечы доўгі квяцісты шалік і пачынала спяваць. Мы ўсе ажывалі, расквечваліся ўсмешкай, вочы загараліся захапленнем і ўдзячнасцю. А любімая настаўніца, падтрыманая нашымі позіркамі і цёплымі ўсмешкамі, здавалася плыла па класе, голас набываў новае непаўторнае гучанне, песня адкрывала перад намі чароўны, мілы свет…

Бывала Роза Сямёнаўна і сумнай, і стомленай, і строгай… Але запомнілася ўсё ж усмешлівай, узнёслай, жыццярадаснай, з чароўнай песняй на вуснах. Такой і бачыцца мне, калі надараецца выпадак пастаяць у паклоне каля яе магілкі, дзе ніколі не вянуць кветкі ўдзячнасці.

*Пачынальнікі*

Уладзімір МАРХЕЛЬ

# АТРЫБУЦЫЯ ПЕРАКЛАДНЫХ ВЕРШАЎ У "ХРЭСТАМАТЫІ" БРАНІСЛАВА ЭПІМАХА-ШЫПІЛЫ

"Беларуская хрэстаматыя" Браніслава Эпімаха-Шыпілы – гэта з'ява заканамерная і ўнікальная. Заканамерная таму, што нельга было абысціся без агляду напрацаванага з перспектывай на гісторыю. Унікальная, бо да гэтага з'яўляліся асобныя выпісы ці складаліся альбомы (як, напрыклад, у А. Вярыгі-Дарэўскага), а мэтанакіраванай арыентацыі на збор матэрыялаў па беларускай літаратуры XIX ст., па сутнасці, да таго не было, акрамя асобных спроб. Дастаткова прыгадаць "Раптуляр" Я. Чачота, багатыя зборы А. Ельскага, асобныя запісы з рукапісаў ці вуснай перадачы ананімных твораў А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Мігановіча, рукапісны зборнік сярод матэрыялаў Я. Карловіча, саматужны сшытак з часу паўстання 1863 г. пераплётчыка П. Матусевіча, зборнік гоманаўца С. Няцюшкі-Буйніцкага, распачаты ў 1980-я гг. у Пецярбургу і інш.

Пераважную частку "Хрэстаматыі" Б. Эпімах-Шыпіла склаў у 1889 і 1890 гг., хоць задуме папярэднічалі ранейшыя фальклорныя запісы і ананімныя творы. Яшчэ ў 1877 г. пад Ушачамі зроблены запіс песні, да якой Эпімах-Шыпіла дадаў прыпеўку, складзеную, верагодна, ім самім. Праз дзесяць гадоў ад Гелены Мярэцкай (яна нарадзілася на Віцебшчыне, але жыла ў Пецярбургу) спісаны верш "Вісна". Гэта, як аказалася, быў даволі распаўсюджаны ў свой час верш "Вясна, голад, перапала". Не пазней за 1855 г. ён трапіў пад назваю "Вот свабоду дадуць скора" ў рукапісы В. Дуніна-Марцінкевіча, а ў 1858 г. яго ўвёў у драматургічны вершаваны абразок "Адвячорак" Г. Марцінкевіч. Твор таксама залучаны невядомым складальнікам у зборнік, што знаходзіўся ў паперах Я. Карловіча, – пад лацінскім загалоўкам "Хлюба Мужыка". Пасля вершаваная гутарка "Вясна, голад, перапала" ў 1896 г. была надрукавана ў "Витебских губернских ведомостях", а да гэтага, у 1889 г., у "Минском листке" выйшла ў свет паэма "Тарас на Парнасе и другие белорусские стихотворения", на шостым месцы знаходзіўся ўжо вядомы нам верш-гутарка, праўда, пад назваю "Весна гола перепала" (напэўна, перайначана па гукавых супадзеннях). Перапісваліся, вядома, і іншыя вершы, але, паводле разнастайных спісаў, найбольш папулярнымі творамі былі "Тарас на Парнасе" і "Вясна, голад, перапала". Папулярнасць гэтая не арганізоўвалася, яна ўтваралася пад непасрэдным уздзеяннем сітуацыі *чытач – слухач* дзякуючы галоўным чынам таленту невядомага аўтара і актуальнасці тэмы, блізкай для ўспрымання як напярэдадні рэалізацыі царскага маніфеста ад 6 лютага 1861 г., так і пасля скасавання прыгону.

"Хрэстаматыя" Б. Эпімаха-Шыпілы ўзнікла на ўзмежжы рэдкіх запісаў фальклорных і пераважна ананімных твораў, на ўзроўні выхаду мясцовай літаратуры на нацыянальна-беларускае асэнсаванне рэчаіснасці ў непадзельнасці асабістага і агульнакраёвага, узаемазалежнасці лёсу Радзімы і чалавека. Так ці інакш сабраныя ў "Хрэстаматыі" творы сведчылі пра глыбокую сувязь з беларускімі народна-песеннымі традыцыямі і выяўлялі, па сутнасці, пачатковы этап выхаду літаратурнага твора з фальклорнага ўлоння, пацвярджаючы аўтарскую нацэленасць на чытача, а, можа, болей на слухача, выхаванага на вуснай паэзіі беларусаў ці, ва ўсякім разе, знаёмага з беларускім меласам.

Браніслаў Эпімах-Шыпіла звяртаўся не толькі да арыгінальных беларускіх тэкстаў, але і да вершаў беларускага складу, пераствораных на нашу мову. Сярод іх і перакладны верш "Вечаровая песня" У. Сыракомлі, упісаны ўжо пасля кастрычніцкіх падзей. Дарэчы, ён меў яшчэ і іншую назву – "Песня Ганны" – і ўваходзіў у цыкл твораў, якія мусілі стаць кантатаю "Год у песні", але па нейкіх прычынах задума Сыракомлі і Манюшкі не здзейснілася. Засталіся толькі пяць песень: "Ранішняя песня", "Каласок", "Песня войта", "Вечаровая песня" і "Перапёлка" (яе паралельна называлі "Жніўная песня"). Яны прымеркаваны да надзвычай адказнага часу – жніва, дзе незалежна ад напружанай працы ўсе дзействы суправаджаюцца песнямі, так ці інакш звязанымі з філасофіяй прыроды. Цыкл гэты меў даволі вялікую папулярнасць, але найбольш вядомай стала "Вечаровая песня", яна выконвалася ажно да 60-х гг. XX ст.: памятаю "Вечаровую песню", ці "Песню Ганны", спявала (па-польску) цётка Жэня, сястра майго бацькі. Менавіта шырокая папулярнасць "Вечаровай песні" паўплывала на яе беларускі пераклад. Як зазначыў адзін з першых даследчыкаў "Хрэстаматыі", гэты пераклад "мілагучны і па-народнаму прыгожы" [1, с. 57].

Сапраўды, беларускае ўзнаўленне верша адпавядае рытмічнай і страфічнай арганізацыі



***Уладзімір Іосіфавіч Мархель** – даследчык літаратуры XIX ст., перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1982). Аўтар больш як 400 навуковых прац, кніг "Лірнік вясковы" (1983), "Вяшчун славы і волі" (1989), "Крыніцы памяці" (1990), "Прадвесце. Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX стагоддзя" (1991), "Прысутнасць былога" (1997), «"Ты як здароўе…": Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры» (1998), а таксама зборніка выбраных перакладаў з польскай мовы "Водгулле" (2000). Укладальнік шэрагу выданняў па літаратуразнаўстве і гісторыі беларускай літаратуры.*

арыгінала. Пераклад эквірытмічны: у шасціpадковай страфе пяціскладовы дактыль перамяжоўваецца праз два радкі васьміскладовым радком, інтанацыйна прыўзнятым. Праўда, з чатырох строф другая не перакладзеная, хутчэй за ўсё таму, што песня была больш на слыху і перакладчык арыентаваўся на пачутае. Аднак узнаўленне папулярнай песні здзейснена даволі вопытным творцам, які арыентаваўся на ўзоры беларускага меласу.

У арыгінале:

*Po nocnej rosie*
*Płyń dźwięczny głosie!*
*Niech się twe echo rozszerzy,*
*Gdzie nasza chatka,*
*Gdzie stara matka*
*Krząta się koło wieczerzy* [2, с. 224].

У перакладзе:

*З ночнай расіцай,*
*Звонка пясніца,*
*Лейся, хай рэха іграе.*
*Гдзе наша хатка,*
*Старая матка*
*Недзе з вячэрай чакае* [1, с. 57].

Дакладна перадаючы ўступную частку песні, перакладчык ідзе, аднак, на дзеяслоўную замену разнасклонавай рыфмы арыгінала, а самы пачатак лічыць патрэбным зарыфмаваць праз памяншальна-ласкальны суфікс. Да дзеяслоўнай рыфмы звярнуўся перакладчык і ў заключнай страфе, дзе таксама фальклярызаваў першыя два радкі.

У арыгінале:

"Matko, jam młoda,
Rąk moich szkoda,
Szkoda na skwarze oblicza!
Źle szła robota,
Przezkada słota,
I moja dumka dziewicza" [2, с. 224].

У перакладзе:

"*Родная маці,*
*Цяжка мне жаці,*
*Твар я ад спёкі хавала.*
*Не йдзе работа,*
*Жаць не ахвота,*
*Дый песня жаць не давала*" [1, с. 57].

Увесь песенны цыкл раскрываў жніво як свята працы і філасофію жыцця праз мастацкае асэнсаванне вясковых рэалій і іх вусна-паэтычнае пераўвасабленне ў традыцыйных спевах. Змест "Песні Ганны" тычыцца, галоўным чынам, цяжкай працы жней, але ён цалкам падначалены радкам, прысвечаным дзявочым марам, якіх не могуць заглушыць ні спёка, ні стома: далёкая невядомая прыгажосць уздымаецца над паўсядзённасцю. Сцвярджэнне прыгожага ў жыцці вывела перакладчыка менавіта на гэты Сыракомлеў верш.

Тое, што беларускае ўзнаўленне "Вечаровай песні" лічыцца ананімным і, тым болей, што ў астатніх выпадках і запісы, і перапісы твораў былі ўсё-такі зафіксаваны, дазваляе меркаваць з вялікай доляю верагоднасці: верш перакладзены самім Браніславам Эпімахам-Шыпілам, хоць у выданнях ставіць прозвішча перастваральніка (праз недастатковасць доказаў) яшчэ рана.

**Спіс літаратуры**

1. **Семашкевіч, Р. М.** Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – пачатак XX ст.) / Р. М. Семашкевіч. – Мінск : Выд-ва БДУ, 1971.
2. **Kondratowicz, L.** Poezye : wydanie zupełne / L. Kondratowicz. – Warszawa : Skład Główny u Gebethnera i Wolffa, 1872. – T. IV.

## ДА ЎВАГІ АСПІРАНТАЎ!

Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй Рэспублікі Беларусь у Плане мерапрыемстваў па павышэнні эфектыўнасці дзейнасці аспірантуры і дактарантуры было прынята рашэнне (ад 29.12.2007 №29/13/15) **рэкамендаваць рэдакцыям навуковых выданняў, уключаных у Пералік навуковых выданняў Рэспублікі Беларусь для апублікавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў, публікаваць без чаргі навуковыя артыкулы аспірантаў апошняга года навучання (уключаючы артыкулы, падрыхтаваныя імі ў суаўтарстве) пры ўмове іх поўнай адпаведнасці патрабаванням, якія прад'яўляюцца да навуковых публікацый гэтымі выданнямі.**

Звяртаем увагу на тое, што правядзенне незалежнай экспертызы рукапісаў артыкулаў ажыццяўляецца рэдакцыйнай калегіяй выдання. Рэдакцыя пакідае за сабой права пры адсутнасці рашэння незалежнай экспертызы адмовіць аўтару ў публікацыі артыкула.

*Крытыка і бібліяграфія*

# АРХІВЫ СВЕДЧАЦЬ

**Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы** : у 2 кн. 1909 – 1939 / уклад. : В. Д. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэдкал. : М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – Кн. 1. – 320 с. – Тыраж 1000 экз.




Па ступені распрацаванасці ў беларускай гуманітарнай навуцы купалазнаўства і коласазнаўства з поўным правам могуць разглядацца як асобныя галіны айчыннага літаратуразнаўства. Калі інтэрпрэтацыя мастацкіх твораў – працэс, не абмежаваны ў часе, не вычарпальны ў спектры падыходаў да аналізу, то на ўзроўні фактаграфіі з кожным годам выявіць нешта новае з жыццяпісу класікаў літаратуры становіцца ўсё цяжэй. Тым большае значэнне мае зборнік дакументаў і матэрыялаў “Купала і Колас, вы нас гадавалі”, падрыхтоўка якога ішла яшчэ да юбілею класікаў беларускай літаратуры ў 2007 г., але па розных прычынах праца расцягнулася на некалькі гадоў. У гэтым выпадку можна пераканацца, што ў спрэчках, дыскусіях, якія вяліся ці будуць весціся літаратуразнаўцамі, гісторыкамі адносна літаратурнага, грамадска-палітычнага працэсу ў Беларусі за тры напружаныя дзесяцігоддзі першай паловы XX ст., на судзе гісторыі “арбітрам” закліканы выступіць Яго Вялікасць Дакумент з неад’емным правам вяршэнства законнасці і аб’ектыўнасці.

Назву зборніку даў зачынны радок верша П. Броўкі, які ў поўным варыянце стаў эпіграфам да ўсяго выдання. Паэтычная добраславёнасць кнігі падкрэсліла нацыятворчую дзейнасць Янкі Купалы і Якуба Коласа.

На старонках выдання дакументальна пацверджаны пакручастыя шляхі беларускай рэчаіснасці акрэсленага перыяду, усе нюансы жыццёвай і творчай дзейнасці песняроў. Даволі шырока прадстаўлена “геаграфія” падзей: Беларусь, Масква, Парыж, Чэхаславакія.

У кнігу ўвайшлі не друкаваныя раней дакументы і матэрыялы або тыя, публікацыя якіх была няпоўнай, з купюрамі. Варта пералічыць усе ўстановы, чые фондасховішчы сталі асновай дакументальнага збору, паколькі гэта можа падказаць каардынаты архіўных пошукаў для сучасных даследчыкаў: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, Цэнтральны архіў КДБ Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Навукова-даследчы аддзел кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі, Санкт-Пецярбургскі філіял Архіва Расійскай акадэміі навук.

Зборнік стаў адмысловым працягам прац Генадзя Кісялёва “Пуцявінамі Янкі Купалы” (1981), “З жыццяпісу Якуба Коласа” (1982), а таксама дапаўненнем да Поўнага збору твораў Янкі Купалы ў 8 тамах (1995 – 2003), Збору твораў Якуба Коласа ў 14 тамах (1972 – 1978).

Часопіс “Роднае слова” таксама меў непасрэднае дачыненне да папаўнення выдання новымі матэрыяламі. На яго старонках упершыню апублікаваны невядомыя аўтографы Янкі Купалы, а таксама ўсіх прадстаўнікоў дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, пакінутыя імі падчас паездкі па Чэхаславакіі ў 1935 г. (2008 г., №№ 1, 4; публікацыя М. Труса).

Няма сумнення, што важкая праца архівістаў, музейшчыкаў будзе высока ацэнена літаратуразнаўцамі, гісторыкамі, стане настольнай кнігай для даследчыкаў жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**Мікалай ТРУС,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Пачынальнікі*

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ШЛЯХІ АКАДЭМІКА ЯЎХІМА КАРСКАГА



Яўхім Фёдаравіч Карскі нарадзіўся 20 снежня 1860 г. (1 студзеня 1861 г. па новым стылі) у вёсцы Лаша тагачаснага Гродзенскага павета Гродзенскай губерні ў сям'і псаломшчыка Фёдара Навіцкага і дачкі дзяка Марыі Карскай. Менавіта пад прозвішчам маці і быў запісаны нованароджаны ў метрычнай кнізе Лашанскай царквы, паколькі бацька будучага лінгвіста на той час яшчэ не дасягнуў 18-гадовага ўзросту і не мог афіцыйна заключыць шлюб [14, с. 155]. У прашэнні, пададзеным будучым акадэмікам на імя дырэктара гісторыка-філалагічнага інстытута ў Нежыне 22 жніўня 1881 г., адзначаецца: «*При сем осмелюсь заявить, что в метрическом, а равно и призывном свидетельстве я записан под фамилией "Карский" – фамилией моей матери, так как я родился до брака моего отца с моей матерью. А что действительно моя мать вышла замуж за моего отца Федора Новицкого, в уверение сего прилагаю брачное свидетельство*» [21, с. 4 – 5].

У 1862 г. Фёдар Карскі быў прызначаны псаломшчыкам у Бытчанскую царкву, што ў Барысаўскім павеце, дзе і праслужыў да 1866 г., калі атрымаў перавод у вёску Ятра Навагрудскага павета.

Ніякіх дакладных звестак пра жыццё сям'і Навіцкіх у Ятры няма. Як адзначае праўнук Яўхіма Фёдаравіча, даследчык яго жыцця і дзейнасці Аляксандр Карскі, "вёска была зусім непрыкметная, знаходзілася яна за 18 – 20 вёрстаў на поўдзень ад павятовага Навагрудка, у якім тады налічвалася ўсяго каля 8 тысяч жыхароў" [11, с. 116].

Пачатковую адукацыю Яўхім Карскі атрымаў у Ятранскім прыходскім вучылішчы пры царкве Раства Багародзіцы. Святаром у гэтай царкве ў канцы 1860 – пачатку 1870-х гг. быў Васіль Янушэўскі. Чалавек неабыякавы і дастаткова адукаваны, ён доўгі час выкладаў у прыходскім вучылішчы, дзе вучыўся будучы акадэмік, і стаў яго самым першым настаўнікам [11, с. 116 – 117].

У Ятры Яўхім Карскі жыў да паступлення ў Мінскае павятовае духоўнае вучылішча ў 1871 г., куды ён патрапіў па ініцыятыве бацькі. Зяць акадэміка Віктар Баркоўскі ў сваім даследаванні адзначае, што жыццё будучага вучонага ў мінскай бурсе было дастаткова складаным, паўгалодным і праходзіла ў асяроддзі малазнаёмых людзей, аднак "нягледзячы на цяжкія ўмовы, Яўхім Фёдаравіч старанна займаецца і ў чацвёрты клас пераходзіць першым вучнем" [5, с. 4].

Пасля заканчэння вучылішча Я. Карскі ў 1881 г. паступіў у духоўную семінарыю, але пазней вырашыў не працягваць духоўнай кар'еры і падаў дакументы ў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут, куды быў залічаны 5 верасня 1881 г. Магчыма, на такі выбар паўплываў яго дзядзька па маці Іван Карскі, які займаўся збіраннем беларускага фальклору і ў якасці карэспандэнта вядомага даследчыка Паўла Шэйна публікаваў свае этнаграфічныя працы.

Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут шмат даў для фарміравання навуковага светапогляду маладога даследчыка і ўзнікнення ў яго цікавасці да славістыкі. Вызначальнай у гэтым плане была сустрэча Яўхіма Карскага з маладымі экстраардынарнымі прафесарамі Раманам Брантам і Мацвеем Сакаловым. Ужо праз паўгода з пачатку навучання Карскі прапанаваў Р. Бранту сваю першую навуковую працу – курсавое даследаванне "Объяснение 3-ей главы Евангелия от Иоанна по Остромировскому списку" [13, с. 5].

Пазней былі і іншыя пробныя даследаванні – "Особенности правописания и языка Супрасльской рукописи" (1883), «Слово *человек* в

производствах – Н. Н. Бодров» (1883), "Белорусские песни с. Берёзовца, Новогрудского уезда, Минской губернии" (1883 – 1884), "Особенности белорусского наречия" (1885). А ў 1886 г. у "Известиях Историко-Филологического Института Князя Безбородко в Нежине" (т. 10) убачыла свет вялікая (на 170 старонак) праца Яўхіма Карскага "Обзор звуков и форм белорусской речи". Неўзабаве яна была надрукавана асобным выданнем. Публікацыі даследавання ў значнай ступені садзейнічаў станоўчы водгук на яго прафесара Р. Бранта. Ён адзначаў, што "это обстоятельная и серьёзная работа, основанная автором на собственном знании языка своей ближайшей родины и на тщательном изучении источников и пособий, которыми он пользуется разумно и с осторожностью" [22].

Пасля бліскучага заканчэння пяцігадовага курса навучання на пасяджэнні Канферэнцыі інстытута 16 жніўня 1885 г. Яўхім Карскі быў зацверджаны выкладчыкам 2-й віленскай гімназіі, дзе выкладаў рускую і стараславянскую мовы, а таксама рускую літаратуру. У гэты час ён пачаў актыўна збіраць этнаграфічны матэрыял, у чым яму нямала дапамагалі бацькі, і друкавацца ў навуковых зборніках. Акрамя таго, шмат працаваў у рукапісным аддзяленні Віленскай публічнай бібліятэкі над вывучэннем старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў.

На аснове ўніверсітэцкага даследавання Яўхім Карскі 23 кастрычніка 1893 г. у Кіеўскім універсітэце абараніў першую ў гісторыі мовазнаўства дысертацыю па беларускай мове на атрыманне ступені магістра рускай мовы і славеснасці. Паміж заканчэннем універсітэта і абаронай дысертацыі, такім чынам, прайшло 8 гадоў. Прычына часовага адыходу ад інтэнсіўнай навуковай дзейнасці заключалася ў тым, што Яўхім Карскі, ажаніўшыся ў 1887 г. з Соф'яй Сцепужынскай, быў вымушаны амаль увесь час аддаваць на выкладанне ў гімназіі і прыватныя ўрокі, каб матэрыяльна забяспечваць маладую сям'ю. Ужо ў 1888 г. будучы акадэмік стаў бацькам. Паводле сведчання А. Карскага, прафесар Брант, занепакоены лёсам здольнага вучня, даслаў апошняму ліст з правакацыйным вердыктам: "Вучоным Вы ўжо не станеце". Прачытаўшы гэты ліст, жонка Яўхіма Карскага паабяцала сабе ва ўсім спрыяць навуковым заняткам мужа [25, с. 43].

У лютым 1893 г. Яўхім Карскі з дапамогай прафесара В. Смірнова перайшоў працаваць у Варшаўскі ўніверсітэт: спачатку лектарам рускай мовы, з 1894 г. – экстраардынарным, а з 1897 г. – ардынарным прафесарам па кафедры царкоўнаславянскай і рускай моў.

Як сведчыць асабістая перапіска Я. Карскага, адразу пасля атрымання магістарскай ступені задумаўся аб напісанні доктарскага даследавання і ў самым пачатку 1894 г. ён звярнуўся да прафесара Маскоўскага ўніверсітэта А. Сабалеўскага, які высока ацаніў працы Карскага ў галіне беларусістыкі, з просьбай падказаць тэму. Сабалеўскі параіў засяродзіцца на даследаванні гісторыі і мовы заходнерускіх перакладаў псалтыра [10, с. 111]. У выніку 9 лістапада 1896 г. (праз два з паловай гады!) прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Яўхім Карскі на пасяджэнні савета Маскоўскага ўніверсітэта паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю "Западнорусские переводы псалтири в XV – XVII веках". Афіцыйнымі апанентамі на абароне выступілі ўніверсітэцкія настаўнікі Карскага, якія 11 гадоў таму прымалі ў яго выпускныя экзамены, – Р. Брант і М. Сакалоў [13, с. 9].

Яўхім Карскі выдатна ведаў Беларусь. Ён шмат падарожнічаў, праводзіў палявыя даследаванні, у некаторых мясцінах спыняўся на доўгі час. Так, у 1879 – 1887 гг. ён праводзіў летнія адпачынкі, а таксама калядныя і велікодныя канікулы ў в. Бярозавец Навагрудскага павета Мінскай губерні, неаднаразова гасціў у брата І. Навіцкага (у 1900, 1915, 1920 гг.) у мястэчку Блячын Слуцкага павета. У 1886 г. разам з будучай жонкай наведаў мястэчка Мірацічы Навагрудскага павета. Некалькі летніх адпачынкаў правёў на Гродзеншчыне – у маёнтках Мігава (1901, 1905, 1909 гг.) і Панямунь (1907, 1911 гг.). Дачка Яўхіма Карскага Наталля Баркоўская пісала ва ўспамінах: "Лета мы звычайна праводзілі на дачы пад Гродна. Калі бацька не выпраўляўся ў чарговую, іншы раз вельмі цяжкую і далёкую экспедыцыю па вывучэнню беларускіх гаворак, то і на дачы пісаў свае працы" [2, с. 156].

Рэгулярна наведваў Яўхім Фёдаравіч бацькоў, якія часта мянялі месца жыхарства, а заадно знаёміўся з побытам жыхароў, вывучаў мясцовыя гаворкі, запісваў фальклор. Так, у 1891 г. (або 1892 г.) ён наведваў сям'ю пасля пераводу бацькі на новае месца служэння ў вёсцы Гарадная Пінскага павета, даволі працяглы час у 1895 г. жыў у бацькоў у мястэчку Волма Мінскага павета, прыязджаў да іх летам 1903 г. у вёску Дунайчыцы Слуцкага павета.

Восем гадоў (1885 – 1893) Яўхім Карскі пражыў у Вільні, там спыняўся падчас удзелу ў IX Археалагічным з'ездзе (1893), для некаторых важных асабістых сустрэч, а таксама ў сувязі з перамовамі па выданні III тома "Беларусаў" у віленскай друкарні "Грамадзянін" (1919).

Значную частку Беларусі і памежных тэрыторый Я. Карскі аб'ехаў з экспедыцыямі па збіранні фальклорнага і лінгвістычнага матэрыялу: Навагрудскі, Барысаўскі, Мінскі паветы Мінскай губерні (1880-я гг., 1895 г.), Сакольскі павет Гродзенскай губерні (1896), Слуцкі, Навагруд-

скі паветы Мінскай губерні (1898), Беластоцкі і Гродзенскі паветы Гродзенскай губерні (1899), а таксама розныя вёскі, мястэчкі і гарады ў іншых паветах Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў (1903) [12].

Нямала часу правёў Я. Карскі ў экспедыцыях па тэрыторыях губерняў, сумежных з беларускімі землямі, – вывучыў Аўгустоўскі павет Сувалкскай губерні (1901), шэраг паветаў Курляндскай, Пскоўскай, Смаленскай, Цвярской, Калужскай, Арлоўскай, Чарнігаўскай губерняў (1903).

Шматлікія экспедыцыі дапамаглі Карскаму акрэсліць межы пашырэння беларускага этнасу, даследаваць сукупнасць моўных рыс, што адрозніваюць беларускую мову ад рускай, польскай і ўкраінскай, вызначыць арэал пашырэння беларускіх гаворак, а таксама сабраць цэлы шэраг важных матэрыялаў этнаграфічнага характару [16, с. 705].

Вынікам навуковых экспедыцый і падарожжаў Яўхіма Фёдаравіча па вывучэнні Беларусі з'явілася выданне ім фундаментальнай трохтомнай працы "Беларусы", якая стала самым буйным і грунтоўным творам у галіне беларусістыкі і не мела аналагаў у іншых славянскіх краінах. Першы том "Беларусаў" пад назвай "Введение в изучение языка и народной словесности. С приложением двух карт" быў надрукаваны ў Варшаве ў 1903 г. Там жа ў 1908 – 1912 гг. убачыў свет другі том "Язык белорусского племени". Трэці том "Очерки словесности белорусского племени" выходзіў у 1916 – 1922 гг. у Петраградзе і Маскве.

Як вынікае з ліста Карскага да П. Сімоні ад 2 студзеня 1902 г., ідэя напісання такога даследавання аформілася ў самым пачатку стагоддзя і, магчыма, у многім дзякуючы экспедыцыям: *"Затеваю одну работу относительно белорусов: думаю прежде всего коснуться современной белорусской территории и населения (этнографическая карта Белоруссии); далее древнейшего населения Белоруссии и древнейших влияний на язык; затем будет вся библиография по изучению белорусского наречия современного и старого; наконец, перечисление всех произведений на западнорусском наречии с древнейших времен до наших дней. Статья о белорусских говорах. Все это послужит лишь введением к истории белорусского наречия"* [10, с. 112].

Фактычна ўсе першапачатковыя задумы Карскаму ўдалося ажыццявіць. Ва ўнікальным выданні ён падрабязна асвятляе праблемы этнагенезу і геаграфічнага пашырэння беларусаў, характарызуе мову плямён і народнасцей, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, параўноўвае беларускія моўныя асаблівасці з рысамі рускай і ўкраінскай моў, апісвае гукавы і граматычны лад, а таксама лексічны склад беларускай мовы ў яе развіцці, адзначае фактары ўзаемадзеяння беларускай мовы з літоўскай, латышскай, польскай, рускай, фінскай і іншымі мовамі, акрэслівае склад сучасных беларускіх гаворак [6, с. 277 – 278].

"Беларусы" атрымалі выключна высокую ацэнку Расійскай акадэміі навук. У запісцы ад 24 красавіка 1916 г., падпісанай акадэмікамі А. Шахматавым, У. Ператцам, А. Сабалеўскім, Н. Катлярэўскім, адзначаецца, што "замечательный труд Е. Ф. Карского подвел итог не только многолетним трудам самого автора, но вообще всему научному исследованию белорусской речи. Е. Ф. Карского можно по справедливости назвать основателем белорусского языкознания и белорусской филологии" [5, с. 27].

Вялікую пашану вучоны займеў сярод заснавальнікаў беларускай газеты "Наша Ніва", яго працы выкарыстоўваліся, рэцэнзаваліся (Гоман. 1918. 30 ліп.), па іх звярталіся і да самога аўтара (гл. ліст Я. Карскага ў рэдакцыю "Нашай Нівы" ад 21.06.1909 г.: *«Ваше письмо я получил на даче (возле Гродно, им. Мигово) и поэтому сейчас не мог выслать моих работ по изучению белорусов и их языка. Когда буду в Варшаве постараюсь исполнить Ваше желание. 1 т. "Белорусов" у меня уже нет, его можно получить в канцелярии Вилен. Генерал-Губернатора ("Виленский Временник", I)»* [9, с. 9 – 10]).

Па словах акадэміка В. Баркоўскага, «ні пры жыцці Яфімія Фёдаравіча, ні пасля яго смерці не выйшла працы, прысвечанай іншым славянскім народам, якую можна было б параўнаць з "Белорусами"» [5, с. 25].

У 1905 г. дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта прафесар Яўхім Карскі стаў першым абраным рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта. Прычым гэтую пасаду ён займаў двойчы – у 1905 і 1908 – 1910 гг.

Перыяд пасля 1905 г. быў дастаткова складаным для Варшаўскага ўніверсітэта ў сувязі з грамадскімі хваляваннямі ў Польшчы. Як адзначае польскі даследчык Міраслаў Янковяк, "студэнцкія пратэсты пачаліся 15 (28) студзеня 1905 г. і сталіся прычынай таго, што каля 600 студэнтаў (чвэртка ад тагачаснай колькасці) адмовіліся працягваць заняткі і распачалі бунт… Яны жадалі аднаўлення аўтаноміі і польскага характару ВНУ, увядзення ў выкладанне польскай мовы, прызнання права на ўтварэнне студэнцкіх аб'яднанняў, а таксама вяртання аўтаноміі Царства Польскага" [24, с. 304]. Карскі, які, несумненна, быў праваднікам царскай палітыкі, у гэтай сітуацыі заняў дастаткова ліберальную пазіцыю. Так, ён не пажадаў увайсці ў склад камісіі для падрыхтоўкі суда над студэнтамі, якія ўдзельнічалі ў пратэстах, выступаў супраць адкрыцця зачыненага пасля студэнцкіх выступленняў універсітэта, паколькі гэта патрабавала б рэпрэ-

сіўных дзеянняў у дачыненні да ўсіх незадаволеных прарасійскім характарам ВНУ, выказваўся за ўвядзенне ў навучальны працэс польскай мовы як адной з моў выкладання, а ў 1910 г. адмовіўся ад пасады рэктара ў знак пратэсту супраць самавольства тагачаснага міністра адукацыі Касо. Нельга не адзначыць, што зацікаўленасць рэктара беларусазнаўствам магла паўплываць на пазнейшае рашэнне аб пераездзе ў Мінск такіх былых "варшаўцаў", як І. Замоцін, А. Яўлахаў, А. Вазнясенскі, А. Багдановіч, М. Вейнгер, якія, па сутнасці, заклалі ў 1920-я гг. падмурак філалагічнай навукі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Падчас Першай сусветнай вайны, у 1915 г., у сувязі з эвакуацыяй універсітэта Я. Карскі выехаў у Петраград, пазней у Маскву, а праз некалькі месяцаў пераехаў у Растоў-на-Доне, куды быў пераведзены ўніверсітэт. Тут Яўхім Фёдаравіч чытаў лекцыі на працягу 1915 – 1916 гг., а ў канцы 1916 г. пераехаў у Петраград у сувязі з абраннем яго акадэмікам.

У снежні 1917 г. Карскі прымаў удзел у І Усебеларускім з'ездзе, які адбываўся ў будынку гарадскога тэатра, і быў абраны яго ганаровым старшынёй. Пасля разгону з'езда Карскаму ўдалося пазбегнуць арышту і ў хуткім часе з'ехаць у Петраград, аднак там пачаўся голад і акадэмік вярнуўся ў Беларусь.

Складаныя часы давялося перажыць Яўхіму Фёдаравічу ў Мінску: *"...разумовы застой, маральная прыніжанасць і поўная матэрыяльная разруха – вось пакуль тыя вынікі, якія паспелі праявіцца пасля 11-месячнай польскай акупацыі"* [15, с. 647]. Яўхім Карскі адмовіўся ад пенсіі, якую яму прызначылі акупацыйныя ўлады, жыў на ганарары за артыкулы, прысвечаныя гісторыі літаратуры і культуры, апублікаваныя ў газетах "Беларусь", "Звон" і іншых выданнях.

Пасля вызвалення Мінска Яўхім Карскі выкладаў у педагагічным інстытуце, у які былі рэарганізаваны настаўніцкія курсы Мінскага раёна, узначальваў камісію па стварэнні Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аднак у часы, калі "марксысцкія іскрачкі разгараліся на сьцежках маладое беларускае працоўнае навукі" [4, с. 127], акадэмічныя погляды Карскага аказаліся нязручнымі для новай улады. У хуткім часе пасля ўтварэння БССР калегія Камісарыята адукацыі сваім рашэннем зняла Я. Карскага з пасады прафесара Мінскага педагагічнага інстытута як чалавека нядобранадзейнага, а неўзабаве (не пазней за 5 мая 1919 г.) вучоны быў арыштаваны.

Па дадзеных В. Скалабана і Л. Рублеўскай, па хадайніцтве У. Ігнатоўскага савет інстытута пастанавіў выказаць сваё глыбокае спачуванне акадэміку і "абраць камісію з трох асоб У. М. Ігнатоўскага, В. Л. Іваноўскага і У. К. Дыдыркі для выражэння спачування акадэміку Я. Ф. Карскаму і для хадайніцтва перад Народным Камісарыятам Адукацыі аб адмене вышэйназванай пастановы калегіі ў сувязі з тымі цяжкасцямі, якія ствараюцца для Інстытута ў сувязі з нечаканым сыходам акадэміка Я. Ф. Карскага" [23, с. 45]. У выніку Камісарыят адукацыі дазволіў Карскаму закончыць навучальны год, дачытаць пачатыя курсы і прыняць па іх экзамены. Пасля гэтага інцыдэнту акадэмік Карскі ў ліпені 1920 г. назаўсёды пакінуў Беларусь і пераехаў у Петраград на пастаянную працу ў Акадэмію навук СССР.

Той факт, што Яўхім Карскі як сапраўдны інтэлігент быў вышэй за асабістыя крыўды, пацвярджаецца яго лістамі (напрыклад, акадэміку А. Сабалеўскаму), дзе ён звяртаўся да калег з просьбай укамплектаваць бібліятэку БДУ кнігамі з яго збораў [10, с. 115]. Сваю ўнікальную бібліятэку (больш за 4 тыс. тамоў), якая перажыла грамадзянскую вайну і якую Карскі часткова вывез з Варшавы, ён у кастрычніку 1921 г. таксама добраахвотна перадаў толькі што адкрытаму Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту [17, с. 7]. Пра лёс астатніх кніг акадэміку паведаміў М. Гарэцкі ў лісце ад 18.08.1923 г.: "Ад грамадзяніна Зямкевіча (ён меўся Вам пісаць) чуў я, што многа кніжак з Вашай асабістай бібліятэкі трапіла ўжо ў рукі варшаўскіх букіністаў; некаторыя выкупіў ён… Нямала чаго, пэўна ж, згінула навекі. Усё гэта нарабіла вайна, з усім тым, што з яе выцекла" [7, с. 402]. Але перадача мінскай бібліятэкі магла быць абумоўлена і побытавымі прычынамі. Так, у кастрычніку 1921 г. Акадэмічны цэнтр Наркамасветы па просьбе Карскага звярнуўся ў сталічны жыладдзел: "Акад.[емический] Центр, препровождая при сем заявление Академика и профессора Карского, убедительно просит Жилотдел забронировать его квартиру в доме Павлова, по Веселой ул. № 27, кв. 4, так как проф. Карский периодически наезжает в г. Минск для чтения лекций и в этой квартире находится его библиотека и личное имущество" [18, арк. 80].

Не забываўся акадэмік і на сваіх калег-беларусазнаўцаў. Менавіта ён хадайнічаў аб пераводзе ў Мінск хворага і старога Еўдакіма Раманава, які дажываў свае дні ў галечы ў далёкім Стаўрапалі, у выніку чаго Акадэмічны цэнтр зрабіў адпаведныя пастановы і захады аб пераездзе Раманава і пераводзе яго архіва ў Беларусь. Аднак пазней справа замарудзілася. Карскі даслаў у Наркамасветы яшчэ адзін ліст: «*21/XI-1921 г. В Упр.*[авление] *Акад.*[емического] *Центра. Сейчас получил из Ставрополя на Кавказе (Невмысск.*[ая] *49) письмо от Е. Р. Романова. Оказывается, он еще не переехал в Минск и все ждет от Вас вести. "Это (молчание) приводит меня в отчаяние, т. к.*

*жизнь здесь совершенно невыносима", – пишет он. "Если можно, поторопите их, иначе мне придется скоро уйти..." Сжальтесь над ним. С почтением Е. Карский»* [19, арк. 99-адв.]. Праз месяц, 20 студзеня 1922 г., Е. Раманаў памёр у Стаўрапалі – так і не дачакаўшыся пераезду...

Яўхіму Карскаму неаднаразова прапаноўвалі вярнуцца ў Беларусь, прычым, відаць, многія верылі, што акадэмік сапраўды вернецца. Так, у справаздачы за 1921 – 1922 гг. тагачаснага намесніка рэктара БДУ прафесара С. Каценбогіна адзначаецца: "У гэтым годзе лінгвістычная частка забяспечана выкладчыцкімі сіламі, у асобе запрошаных праф. Панасюка і праф. Сакалова. Для выкладання спецыяльных прадметаў на секцыях запрошаны прафесары: на кафедру рускай літаратуры – Замоцін, беларускай літаратуры і фальклору – акадэмік Карскі..." [3, с. 29].

Матывы адмовы Я. Карскага ад выкладчыцкай работы ў Мінску вычарпальна былі выкладзены ім самім у лісце да народнага камісара асветы БССР ад 25.08.24 г.:

*«От заместителя Главпрофобра из Минска я получил письмо от 18/VIII 24, в котором он приглашает меня перейти в Минск для чтения истории белорусского языка. Я вполне сочувствую желанию Наркомпроса наилучше поставить научное изучение родного языка. Но я лично в настоящее время не могу взяться за это дело. 1) Намеченную мною программу я уже выполнил в 7 книгах "Белорусов". Далее следуют словари, что одному лицу научным образом выполнить нельзя (кстати, я слыхал, что у Вас по этому предмету что-то делается) и история Белоруссии, но это не по моей специальности. Кроме того, этим научно занимается И. И. Лаппо, который в текущем году уже выпустил в Ч*[е]*ш.*[ской] *Праге прекрасный приступ к этому труду: "Западная Россия и ее соединение с Польшею в их историческом прошлом" (230 стр.). 2) В настоящее время я занят подведением итогов по русскому языку вообще, для чего нужные материалы имеются только в Ленинграде. Результатом моих занятий уже явилась "Русская диалектология" (Ленгр. 1924), куда вошел и белорусский язык. 3) И по своей восточной ориентации в белорусском вопросе я менее всего подхожу к большинству минских ученых белорусов, слишком решительно высказавшихся по поводу III т. 3 вып. моих "Белорусов" (ср. Полымя, 1923 г., № 2 и др. книги). Переменить свои взгляды, побывав текущим летом в восточной Польше и проверив те данные, которые сообщаются в книге: "K. Srokowski. Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich (Kraków, 1924)", я не могу. 4) Состоя действительным членом Российской Академии Наук и Ленинградского университета, а также директором академического Музея Антропологии и Этнографии, я не имею возможности в настоящее время и частично наезжать в Минск для чтения лекций. 5) Я бы предложил такой выход: более способных лиц, хорошо знающих практически белорусский язык, получивших высшее филологическое образование, прикомандировать к исследовательскому институту Ленингр. у*[ниверсите]*та, где руководителем по русск.*[ому] *яз.*[ыку] *состою я. Здесь, а также на дому я бы охотно взялся руководить ими, а если бы они были хорошо обеспечены, то в течение года, наибольше двух они были бы приготовлены к профессорскому званию по истории белорусского языка в обширном смысле этого слова. С совершенным почтением, готовый к услугам акад. Е. Карский.*

*P. S. Прошу познакомить с содержанием этого письма С. Некрашевича»* [20, арк. 1 – 2].

У гэты час у Беларусі сапраўды разгарнулася масіраваная кампанія супраць Карскага, інспіраваная прадстаўнікамі "новай беларускай інтэлігенцыі" відавочна са згоды рэспубліканскіх улад. Так, у 1923 г. у часопісе "Полымя" (№ 2) надрукавана аб'ёмная вострая рэцэнзія У. Дзяржынскага (Чаржынскага) з нагоды апошняга выпуску 3-га тома "Беларусаў". Аўтар крытыкуе метадалагічныя асновы даследавання Карскага, абвінавачвае яго ў "абсолютнай неасьведамленасьці... у пытаньнях літаратурнага мастацтва наогул і беларускага найноўшага пісьменства паасобку", а ў канцы прыходзіць да радыкальнай высновы: "Што-ж сказаць аб 3-ім выпуску III-га тому наогул? Мы ўжо вышэй мелі магчымасьць адзначыць і дадатнія, і адмоўныя якасьці гэтай працы. Тут толькі дадамо, што яна, дзякуючы сваёй павярхоўнасьці, вельмі мала дасьць новага для тых, хто больш-менш знаёмы з гісторыяй беларускае літаратуры і з гісторыяй беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Для тых-жа, хто мала або зусім незнаёмы з імі гэтая праца акад. Е. Ф. Карскага прынясе яўную шкоду: паасобныя моманты ў гісторыі беларускай літаратуры і ў гісторыі беларускага руху найчасцей атрымалі ў ёй асьвятленьне тэндэнцыйнае, цалкам адваротнае й супярэчнае рэчавіснасьці, а ў найлепшым выпадку – атрымалі асьвятленьне ненавуковае і не паакадэміцку дылетанцкае" [8, с. 132].

Аналагічныя погляды (прычым далёка не заўсёды ў навукова карэктнай форме) выказваліся і некаторымі іншымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі 1920-х гг. – А. Бабарэкам, Я. Дылам, З. Жылуновічам [4]. Так, падчас выступлення на вечарыне "Полымя" ў Доме работнікаў асветы З. Жылуновіч у красавіку 1923 г. адзначаў: "За гэтую працу, як апошнюю, лепш-бы ён [Карскі] і зусім ня браўся: яна ня ўзложыць яму вянка, вянка беларусазнаўцы. Гэта цэбар гразі, які ён вылівае сам на сябе" [4, с. 125].

Адным з нешматлікіх прыхільнікаў поглядаў Я. Карскага ў гэты час заставаўся ягоны вучань Восіп Воўк-Левановіч, што неаднаразова падкрэслівалася апанентамі. Напрыклад, так ён

адлюстраваны А. Александровічам у правакатарскай паэме “Цені на сонцы”: «Было ён першы рынуўся на фронт, / на абарону – / “Единой неделимой”. / І незадоўга Карскага портфэль / і рэчы іншыя за Карскім насіць. / …Зайшлася-закруціла карусель – / здаць пазыцыі бяз бою давялося! / Зьмяніўся час… О, доля перамен! / Дый што зрабіць, прышлося пагадзіцца. / Сёньня ўжо – дзівіцца – ён доцэнт! / Сваяцтву гімн! / Няма чаму дзівіцца!» [1, с. 18].

У адрозненне ад А. Александровіча цёплыя адносіны і ліставанне з Я. Карскім падтрымлівалі Янка Купала (кансультаваўся з вучоным па пытанні перакладу “Слова пра паход Ігараў” на беларускую мову), Якуб Колас (які пісаў у лісце да вучонага ад 24.11.1921 г.: “Белорусская культура так тесно связана с Вашим именем, что одно без другого нельзя представить” [10, с. 116]), Максім Гарэцкі. Апошні пісаў Я. Карскаму 30.04.1927 г. з Горак: «Надоечы перaслалі мне Вашу поўную цёплай ласкі адкрытачку з Менска, з Інбелкульта. Быў я дужа рад, што піша мне ўсесаюзны акадэмік Карскі… Шчыра дзякую за дасланыя папраўкі [да новага выдання “Гісторыі беларускае літаратуры” (Мінск, 1926)]. Ды скарыстаць іх – мне ўжо, мусіць, не прыйдзецца. Мінаецца час, калі мусілі мы, няўчоныя беларускія працаўнікі, “перерабатывать, – праўду кажаце, – старую российскую науку на белорусской почве”… Я ўжо не хацеў, каб і гэтае выданне ішло ў друк, але прымусілі, а потым не па-людску аблаялі» [7, с. 401 – 402]. Тут жа М. Гарэцкі просіць прабачэння, што не мог аддаць належнае майстрам, вышэйшым за яго (маецца на ўвазе і сам Я. Карскі) па прычынах, незалежных ад аўтара.

Якраз перад тым, 13 красавіка 1927 г., на закрытым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б) было заслухана пытанне “Аб акадэміку Карскім” (зразумела, без прысутнасці самога Карскага). У пастанове, прынятай па выніках слуханняў, прапаноўвалася “даручыць тав. Ігнатоўскаму, Адамовічу і Крыніцкаму паставіць пытанне па савецкай і партыйнай лініях аб выключэнні Карскага са складу членаў Акадэміі Навук”, а таксама прасіць ЦК ВКП(б) “даручыць адпаведным органам арганізаваць крытыку па справаздачы акадэміка Карскага аб паездцы за мяжу” [23, с. 45].

Відавочна, што плённа займацца навуковай дзейнасцю ў такіх умовах акадэмік не мог. У Петраградзе ж ён узначаліў Музей антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра Вялікага Акадэміі навук і на пасадзе дырэктара прабыў амаль 10 гадоў – з 2 лістапада 1921 г. да 2 кастрычніка 1930 г.

Праўда, і ў Расіі працаваць акадэміку, які, відавочна, не прымаў новай улады, было няпроста. Паказальны такі факт. У снежні 1925 г. Акадэмія навук СССР паставіла перад Кіраўніцтвам справамі Саўнаркама СССР пытанне аб камандзіраванні акадэміка Я. Ф. Карскага “ў славянскія землі” з 15 мая да 1 верасня 1926 г. у сувязі з неабходнасцю пазнаёміцца са славянскімі этнаграфічнымі музеямі і ўстанавіць з імі супрацоўніцтва. З вялікімі намаганнямі гэты выезд атрымалася арганізаваць. Даследчык пабываў у Чэхіі, Югаславіі, Польшчы. Пасля вяртання з камандзіроўкі Я. Карскі падрыхтаваў глыбокую і дэталёвую “Справаздачу аб навуковай камандзіроўцы ў славянскія землі ў 1926 годзе”, якая была надрукавана агульнай колькасцю 50 асобнікаў.

Аднак партыйна-наменклатурная рэакцыя на гэтую навуковую паездку была рэзка адмоўнай, пра што падрабязна расказваецца ў артыкуле В. Скалабана і Л. Рублеўскай [23, с. 42 – 47]. У выніку былі арганізаваны крытычна-здзеклівыя публікацыі І. Асьмова ў мінскай газеце “Звязда”, М. Кальцова ў маскоўскай “Праўдзе” і адэскіх “Известиях”: “…прысутнічаць у Бялградзе на ўрачыстасцях чарнасоценцаў; называць Львоў рускім горадам; ухваляць рэжым Пілсудскага за прыцясненне беларусаў і крытыкаваць савецкі ўрад за нацыянальную палітыку – усё гэта зусім пасля-доўна калі не для савецкага навуковага работніка, то для былога вернападданага рэктара імператарскага варшаўскага ўніверсітэта” [23, с. 47].

Але нават у такіх умовах Карскі працягваў актыўна займацца навуковай дзейнасцю. Прычым інтарэсы Я. Карскага выходзілі далёка за межы пытанняў беларускай філалогіі. Акадэмік шмат часу і намаганняў аддаваў распрацоўцы актуальных праблем рускай і агульнаславянскай філалогіі. Так, напрыклад, у 1924 г. Яўхім Карскі ў Ленінградзе выдаў кнігу “Русская диалектология”, а ў 1928 г. там жа быў надрукаваны яго фундаментальны твор “Славянская кирилловская палеография”, які, па меркаванні М. Булахава, “да гэтага часу застаецца найбольш сістэматызаваным выкладам пытанняў, якія адносяцца да гісторыі ўзнікнення і далейшага развіцця славянскай пісьменнасці” [6, с. 264], убачылі свет і многія іншыя глыбокія даследаванні.

Важна адзначыць тую вялікую ролю, якую адыграў акадэмік Карскі ў арганізацыі філалагічнай навукі. Так, на працягу 12 гадоў (1905 – 1917) ён быў рэдактарам аднаго з вядучых расійскіх навуковых часопісаў – “Русского филологического вестника”, значна разнастаіў яго тэматыку і пашырыў памер (у асобных выпусках – амаль удвая). Акрамя таго, Яўхім Карскі з поспехам рэдагаваў “Известия Отделения русского языка и словесности Академии наук СССР” (1920 – 1927), “Известия по русскому языку и словесности” (1928 – 1930). Пад рэдакцыяй Карскага ўжо пасля смерці акадэміка выйшаў І том “Известий Комиссии по русскому языку”.

Увогуле, за гады навуковай дзейнасці Яўхім Карскі надрукаваў 1052 публікацыі. Яшчэ 18 даследаванняў былі напісаны ім у суаўтарстве (з В. Істрыным, У. Пэратцам, М. Спяранскім, Б. Ляпуновым, П. Лаўровым і інш.). Апошнім з апублікаваных акадэмікам прыжыццёвых даследаванняў стаў артыкул "Сатырыко-камічныя творы беларускай літаратуры" (Vseslavenski zbornik, Заграб, 1930). Памёр акадэмік 29 красавіка 1931 г. і быў пахаваны на Смаленскіх праваслаўных могілках Ленінграда.

Дасягненні Яўхіма Карскага ў галіне славістыкі і палеаграфіі высока ацэньваліся навуковай грамадскасцю: у 1898 г. Карскі быў абраны членам Археалагічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства, членам-карэспандэнтам Таварыства аматараў старажытнага пісьменства, у 1901 г. – экстраардынарным акадэмікам, а ў 1916 г. – ардынарным акадэмікам Расійскай акадэміі навук па Аддзяленні рускай мовы і славеснасці. Акрамя таго, Яўхім Фёдаравіч быў дэлегатам 1-га Міжнароднага з'езда славянскіх географаў і этнографаў у Празе (1924), выбіраўся ганаровым членам Таварыства аматараў расійскай славеснасці (1925) і Таварыства пісьменства і мастацтва ў Ленінградзе (1927). У 1929 г. ён стаў членам Чэшскай акадэміі навук. Нямногія нашы суайчыннікі дасягалі такіх вяршынь.

За сваё жыццё акадэмік Я. Карскі атрымаў нямала ўзнагарод. Сярод іх ордэны Св. Станіслава III ступені (1889) і II ступені (1899), Св. Анны III ступені (1895) і II ступені (1903), Св. роўнаапостальнага князя Уладзіміра IV ступені (1911), а таксама медалі "В память царствования императора Александра III" (1896), "300-летия царствования Дома Романовых", быў узнагароджаны вялікім залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства (1894), залатымі медалямі імя Бацюшкава (1898, 1902), меў тытул правадзейнага стацкага саветніка.

Але найлепшым помнікам Яўхіму Фёдаравічу Карскаму, даследчыку, які заклаў асновы айчыннай гуманітарыстыкі, мог бы стаць поўны акадэмічны збор яго навуковых прац, выдадзены ўдзячнымі нашчадкамі.

### Спіс літаратуры


1. **Александровіч, А.** Цені на сонцы / А. Александровіч. – 2-е выд. – Мінск : БДВ, 1931. – 79 с.
2. **Баркоўская, Н. Я.** Мой бацька / Н. Я. Баркоўская // Полымя. – 1961. – № 1. – С. 156 – 157.
3. **Белорусский Государственный Университет за 1921 – 22 акад. год** / сост. С. З. Каценбогин. – Минск : Гос. изд-во Белоруссии, 1922. – 40 с.
4. **Б-ка, А.** 3-ці вечар "Полымя" / А. Бабарэка // Полымя. – 1923. – № 3-4. – С. 125 – 127.
5. **Борковский, В. И.** Академик Е. Ф. Карский (1861 – 1931) / В. И. Борковский // Ученые записки Ярославского пединститута. Вып. 5. Педагогика. – 1945. – С. 1 – 44.
6. **Булахов, М. Г.** Восточнославянские языковеды : биобиблиографический словарь : в 3 т. / М. Г. Булахов. – Минск : Изд-во БГУ, 1976 – 1978. – Т. 2. – 1977. – 352 с.
7. **Гарэцкі, М. І.** Творы / М. І. Гарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1990. – 629 с.
8. **Дзяржынскі, Ул.** "Белорусы" Е. Ф. Карскага / Ул. Дзяржынскі // Полымя. – 1923. – № 2. – С. 112 – 132.
9. **З архіва "Нашай Нівы"** / уст. слова і публ. Ганны Сурмач і В. Скалабана // Шляхам гадоў : гісторыка-літаратурны зборнік / уклад. У. Мархель. – Мінск : Маст. літ., 1990. – С. 6 – 53.
10. **Карская, Т. С.** Эпистолярное наследие академика Е. Ф. Карского / Т. С. Карская // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. – 1982. – № 1. – С. 109 – 116.
11. **Карский, А.** Академик Карский / А. Карский // Неман. – 2010. – № 9. – С. 116 – 129.
12. **Карский, А. А.** Населенные пункты, имеющие отношение к биографии академика Е. Ф. Карского / А. А. Карский // Карский Евфимий Федорович (к 150-летию со дня рождения) : библиографический обзор / авт.-сост. А. А. Карский. – Гродно : Изд-во ГрГУ, 2010. – 122 с.
13. **Карский, А.** Нежинская школа славистов : Р. Ф. Брандт, М. И. Соколов, Е. Ф. Карский / А. Карский // Ю. Ф. Карськiй і сучасне мовознавство : матеріали XI Міжнародних Карських читань (18 – 19 вересня 2007 р.). – Ніжин – Гродно, 2008. – 178 с.
14. **Карский, А.** Отец академика / А. Карский // Неман. – 2009. – № 9. – С. 154 – 168.
15. **Карский, Е. Ф.** Белорусы : в 3 т. / Е. Ф. Карский. – Минск : БелЭн, 2006. – Т. 3, кн. 2 : Очерки словесности белорусского племени. – 456 с.
16. **Карскій, Е. Ф.** Отчѣтъ о поездкѣ въ Бѣлоруссію въ 1903 г. / Е. Ф. Карскій. – СПб. : Тип. М. Стасюлевича, 1905. – 32 с.
17. **Кондратовская, М. Е.** Личная библиотека Е. Ф. Карского в фондах государственной библиотеки БССР имени В. И. Ленина / М. Е. Кондратовская, Н. Б. Ватаци // Из истории белорусской библиографии и книжных фондов : сб. статей / ред. А. П. Демченкова. – Минск : Гос. библиотека БССР, 1979. – С. 5 – 14.
18. **Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.** – Ф. 42. – Воп. 1. – Спр. 514.
19. **Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.** – Ф. 42. – Воп. 1. – Спр. 526.
20. **Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.** – Ф. 42. – Воп. 1. – Спр. 1201.
21. **Нежинский государственный архив.** – Ф. 1105. – Воп. 1. – Адз. зах. 186 (цыт. па : Белая, А. С. Евфимий Федорович Карский : архивные материалы г. Нежин / А. С. Белая. – Нежин : Нежинский гос. пед. ун-т им. Н. Гоголя, 2000. – 23 с.).
22. **Нежинский государственный архив.** – Ф. 1105. – Воп. 1. – Адз. зах. 311 (цыт. па : Белая, А. С. Евфимий Федорович Карский : архивные материалы г. Нежин / А. С. Белая. – Нежин : Нежинский гос. пед. ун-т им. Н. Гоголя, 2000. – 23 с.).
23. **Рублевская, Л. И.** Время и бремя архивов и времен : очерки, эссе, пьеса / Л. И. Рублевская, В. В. Скалабан. – Минск : Літаратура і мастацтва, 2009. – 192 с.
24. **Янковяк, М.** Прафесар Яўхім Карскі – рэктар Імператарскага Варшаўскага ўніверсітэта / М. Янковяк // ARCHE. – 2010. – № 4. – С. 298 – 307.
25. **On pierwszy wytyczył granice języka białoruskiego** : rozmowa z Aleksandrem Karskim, wnukiem Jauchima Karskiego, pioniera białoruskiego językoznawstwa // Czasopis. – 2010. – № 5. – S. 41 – 44.



**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
кандыдат філалагічных навук,
**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ,**
аспірант кафедры беларускай літаратуры БДПУ.

Алесь КАЎРУС

# "САБРАЛІ́СЯ", "САБРАЛО́СЯ"...

## КРЫХУ ПРА НАЦІСК

Заўважыўшы вельмі прыкрую з'яву ў мове радыё і тэлебачання – раптоўны адыход у апошнія гады два-тры ад, здавалася б, цвёрдай нормы націску ў групе роднасных дзеясловаў з коранем *бр-* – і каб неяк супрацьстаяць гэтаму, я напісаў пра сваёназіранне-клопат у газету, якую чытаюць галоўным чынам тыя, хто працуе з беларускім словам (прыклады акцэнталагічных хібаў узятыя ў двукоссе).

Скуль жа гэта узялося?
"Сабралі́ся", "сабрало́ся"...
"Дабралі́ся" так да слова,
Што яно крычаць гатова.
Мо "адбы́лася" дамова
Весці націску абнову?

(Наша Ніва. 2.12.2009).

Пытанне, на жаль, застаецца без адказу. А падобных адхіленняў з кожным днём усё большае. Расце небяспека, што, пашыраючыся, яны могуць замацавацца як норма. Значыць, эмацыянальна закранутая намі тэма патрабуе больш дэталёвага разгляду. Хоць бы дзеля таго, каб папярэдзіць настаўнікаў і навучэнцаў ад пераймання такіх літаратурных "узораў".

Можна сказаць, ідзе татальны наступ на адметны, самабытны беларускі націск. Адхіленні ад нормаў націску сустракаюцца ў перадачах дзяржаўных і недзяржаўных станцый: Беларускае радыё, першы нацыянальны канал; радыё "Сталіца"; радыёканал "Культура"; радыё "Свабода"; тэлеканал "Белсат". Далей гэтыя назвы падаюцца скарочана.

У мове дыктараў, журналістаў, выступоўцаў на радыё і тэлебачанні можна пачуць: *сабралі́ся, сабрало́ся, сабрала́ся*.

*Сабралі́ся госці* (Н. Буландо); *сабралі́ся прадстаўнікі розных прафесій* (С. Палюшкевіч); *дыпламаты сабралі́ся ў Мінску* (І. Тур); *сабралі́ся абітурыенты* (І. Амельяновіч); *у Кіеве сабралі́ся прыхільнікі і праціўнікі рэформаў* (С. Івашкевіч); *сабралі́ся прадстаўнікі сельгасслужбаў* (М. Андронава); *больш за сто чалавек сабралі́ся на экалагічны форум* (У. Глод); *упершыню сабралі́ся разам* (Т. Песнякевіч); *сабралі́ся ля хаты паэта* (С. Навумчык).

*Сабрало́ся дзвесце чалавек* (В. Жыбуль); *сабрало́ся даволі шмат народу* (С. Ягораў); *сабрало́ся некалькі дзясяткаў чалавек* (С. Навумчык).

*Кампанія яшчэ не сабрала́ся* (І канал. 29.05.2009); *у Віцебску сабрала́ся моладзь* (А. Вахрамеева); *у Маскве сабрала́ся мытная камісія* (Свабода. 21.09.2010).

Аналагічныя памылкі трапляюцца і пры ўжыванні дзеясловаў *разабрацца, дабрацца* ды іншых: *Мы з гэтым з вамі разабралі́ся* (У. Трапянок); *улады ўжо з ім разабралі́ся* (Б. Станкевіч); *хутка мы раскажам, як вы разабралі́ся* (І канал. 15.06.2009); *нарэшце мы дабралі́ся да правільнага адказу* (Сталіца. 28.09.2009); *яны дабралі́ся і да камп'ютарных тэхналогій* (І канал. 06.09.2010); *імператрыца ў мантыю ўбрала́ся* (М. Захарыя).

Незваротныя дзеясловы *браць, набраць, сабраць, абраць* у форме жаночага роду адзіночнага ліку часам вымаўляюцца (няправільна) з націскным канчаткам, як у рускай мове: *На апошнія грошы брала́ ўрокі музыкі* (В. Гальпяровіч. Культура. 12.06.2009); *матэрыял яна сабрала́* (Ф. Ваданосава. Тамсама. 26.09.2010); *"Дынама" набрала́ 26 ачкоў* (А. Тэра. Сталіца. 27.10.2009); *экспазіцыя сабрала́ экспанаты з краін СНД* (У. Сычэвіч. І канал. 8.09.2010); *вожыка абрала́ Жанна* (Сталіца. 28.09.2010).

Адзначым такі момант. Запачаткаваўшыся, напэўна, пад уплывам рускай мовы, адхіленні ад нормаў беларускага націску ўжо самі сталі ўздзейнічаць і на формы, якія ў рускай і беларускай мовах аднолькава нарматыўныя – маюць націск на першым складзе кораня: *бра́ли – бра́лі, бра́ло – бра́ла, набра́ли – набра́лі, собра́ли – сабра́лі.*

*Яны бралі ўдзел у гэтых спектаклях* (Культура. 10.07.2010); *шмат якія выканаўцы бралі́ песню ў свой рэпертуар* (Я. Блізнюк. І канал. 22.07.2010); *кожны дзень беларускае радыё брало́ інтэрв'ю* (Свабода. 2.10.2010); *абітурыенты, якія не набралі́ патрэбнай колькасці балаў* (Т. Цітавіцкая. І канал. 2.08.2010); *спаборніцтвы сабралі́ шмат удзельнікаў* (С. Стралкоўскі. Тамсама. 11.09.2010).

Інерцыя змены месца націску ў формах дзеясловаў з коранем *бр-* выяўляецца і на іншых дзеясловах: *Суддзя назвала́ гэты ўчынак амаральным* (П. Варахобін); *яна назвала́ сваю праграму так* (С. Шупа. Свабода. 24.10.2010); *іх жыццё абарвало́ся рана* (Сталіца. 31.08.2009); *планы*



***Алесь Аляксандравіч Каўрус*** *– мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1965). Закончыў Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага (1959). Працаваў настаўнікам на Мядзельшчыне (1959 – 1962), старшым выкладчыкам Мазырскага педінстытута (1965 – 1968), старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (1968 – 1974), рэдактарам выдавецтва "Народная асвета" (1974 – 1981), дацэнтам кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (1982 – 2006). Даследуе мову мастацкай літаратуры і сродкаў масавай інфармацыі, беларускую тэрміналогію, культуру мовы, стылістыку і інш. Аўтар больш як 250 навуковых публікацый, у тым ліку кніг "З крыніц народнай мовы" (1968), "Стылістыка беларускай мовы" (1980, 2-е выд. 1987, 3-е выд. 1992), "Культура слова" (1983), "Слова наша роднае" (1986), "Мова народа, мова пісьменніка" (1989), "Дакумент па-беларуску" (1994), суаўтар (з М. Круталевічам) навучальнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ "Стараславянская мова" (2005).*

*сарвалі́ся* (Свабода. 25.03.2009); *стральцы за яе каханкам пагналі́ся* (М. Захарыя. Культура. 7.10.2010). *Адбы́лася трохдзённая гонка* (І канал. 18.07.2009). *Ажыццявіць гэтую ідэю ўда́лася ў канцы XVIII стагоддзя* (Свабода. 29.10.2010).

Надарылася заўважыць спробу "хіліць" націск. Дыктар чытаў сказ: *Адкрылася выстава ў Віцебску* (І канал. 15.07.2010). Але спярша быў праказаў *адкрыла́ся* і зараз жа паправіўся: *адкры́лася.*

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, сярод "адхіленцаў" не толькі маладыя журналісты, дыктары (некаторыя з іх адарваныя ад беларускага моўнага асяродку), але і вопытныя, дасведчаныя працаўнікі радыё і тэлебачання, якія, хочацца думаць, не ідуць на свядомае парушэнне акцэнталагічных нормаў беларускай мовы, а проста не жадаюць адставаць ад маладзейшых калег у пагоні за "модай", "ноўшасцю" ў маўленні.

Аднойчы, калі я ўжо да гаркаты наслухаўся праз радыё і тэлебачанне, як нашы айчынныя і замежныя журналісты дратуюць важную дзялянку добрай літаратурнай мовы – яе акцэнтныя нормы, пашчасціла перажыць сапраўды дзівосныя, гаючыя для душы імгненні.

Ехаў аўтобусам № 123 ад плошчы Незалежнасці ў Лошыцу. І міжволі чуў, як маладзіца, гаворачы па-руску (праз мабільнік), не раз казала: *бра́ла, забра́ла* (дзіця). Для беларускага вуха чуць такое звыкла і прыемна. Можа, гэта прыкра "ревнителям чистоты русского языка", а мне ўсцешліва: беларуская мова не знікае бясследна.

Тады падумалася: якімі "звышрускімі" трэба быць нашым інтэлігентным беларускамоўцам, каб казаць *собрало́сь, собрали́сь.* Звышрускімі таму, што нават у рускай мове акцэнталагічныя варыянты *собра́лось, собра́лись* кваліфікуюцца як **асноўныя**, а *собрало́сь, собрали́сь* – як дапушчальныя ["Большой грамматический словарь" (М., 2006) пад рэдакцыяй прафесара А. Ціханава].

Як хуткую, неадкладную дапамогу карыстальнікам беларускай мовы можна прапанаваць "Граматычны слоўнік дзеяслова" (Мінск, 2007), дзе падаюцца з пазначэннем націску спрагальныя формы дзеясловаў, у тым ліку і *браць, сабрацца, сабраць* і інш. Усе спрагальныя формы прошлага часу з коранем *бр* захоўваюць націск на першым паслякаранёвым галосным *а.* Напрыклад: ***браць*** – *браў* (м. р.), *бра́ла* (ж. р.), *бра́ла* (н. р.), *бра́лі* (мн. л.); ***сабра́цца*** – *сабра́ўся, сабра́лася, сабра́лася, сабра́ліся*; ***сабра́ць*** – *сабра́ў, сабра́ла, сабра́ла, сабра́лі.*

Думаецца, чытачам "Роднага слова" важна не толькі атрымаць адназначны адказ-даведку наконт той або іншай формы: "так" ці "не так". Не менш важна і карысна з аўтарам публікацыі паназіраць і паразважаць над тым, як узнікаюць варыянты, якія крытэрыі трэба ўлічваць пры іх ацэнцы і ўжыванні. Разгледзім прыклад.

У канцы 1960-х, працуючы ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі над тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, я выступіў у друку з паведамленнем пра падрыхтоўку ТСБМ, выказаў заўвагі і пажаданні. У прыватнасці, было адзначана.

"Лексікографам наогул нельга абмінуць такога пытання, як форма слова, націск у слове і яго формах. <…>

…Узяць слова *дзеяч.* Яно ляжыць у радзе слоў, утвораных ад асноў назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў з дапамогай суфікса *-ач*, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *скрыпач, барадач, сілач, уцякач.* Асаблівасць гэтых назоўнікаў тая, што націск у іх на суфіксе: *глядáч, папіхáч, слухáч.* Бясспрэчна, слова *дзеяч* непрадумана пазбаўлена натуральнай яго формы *дзяяч.* На карысць гэтай думкі гаворыць і назоўнік жаночага роду *дзяячка*, у якім таксама націск стаіць на галосным суфікса" (Полымя. 1969. № 8).

Так, з пляча замахнуцца на літаратурнае слова падштурхнула мяне хваля інтэнсіўнага пошуку патрэбных тэрмінаў, удасканалення іх формы ў сувязі з выданнем БелСЭ.

Мінулі чатыры дзесяцігоддзі. Слова *дзяяч* не надта пашырылася ў мове. Але не знікла і падае прыкметы жыцця праз увесь гэты час. Хіба ж не нагода зрабіць адносна яго некаторыя карэктывы, удакладненні, так бы мовіць, з пазіцый сённяшняга дня?

Спачатку падамо некаторыя ўжыванні гэтага слова.

*Першы вядомы буйны* ***дзяяч*** *гуманізму ў Беларусі Ф. Скарына ў сваіх каментарах да Бібліі шмат увагі аддаў праблемам шлюбу, сям'і і выхавання дзяцей* (Г. Дзербіна). *Першым рэктарам* [Полацкага езуіцкага калегіума] *стаў славуты царкоўны і палітычны* ***дзяяч*** *Рэчы Паспалітай Пётра Скарга* (У. Арлоў). *Г. быў нейкі камсамольскі* ***дзяяч*** (З вуснай мовы філолага і паэта А. Майсеенкі). *Мы тады ўжо ўведалі, што ён вялікі беларускі* ***дзяяч*** (Б. Кіт, В. Быкаў). *Як творца і грамадскі* ***дзяяч****, які закладаў грунт кадыфікаванай мовы, ён* [Якуб Колас] *усяляк ахоўваў і падтрымліваў літаратурныя нормы* (А. Каўрус. Мова народа, мова пісьменніка. Мінск, 1989). *375 гадоў таму (1633) памёр Мялеці Сматрыцкі, царкоўны, грамадска-палітычны* ***дзяяч****, пісьменнік-палеміст* (Наша Ніва. 27.11.2008).

Аналізаваць слова *дзяяч* мэтазгодна і зручна ў супастаўленні і параўнанні з яго варыянтам *дзеяч.*

Першыя ўжыванні слова *дзеяч* адносяцца да 10-х гадоў мінулага стагоддзя, а ўжо голасна яно заявіла пра сябе ў друку 1920-х гг.

*25 сакавіка адбыўся ў Мінску з'езд беларускіх* ***дзеячоў****, тых людзей, што здаўна працуюць на карысць роднага краю* (Вольная Беларусь. 1917. № 1). *Вядомы* ***дзеяч*** *міжнароднага сацыялізму, нямецкі сацыял-дэмакрат Аўгуст Бебель… не толькі з тэорыі, але нават з практыкі разумеў сэнс сацыялістычнага руху* (Вольная Беларусь. 23.06.1918). *Дзе прычына таго, што беларускі паэт і пісьменнік, беларускі вучоны, беларускі грамадскі* ***дзеяч****, беларускі рэвалюцыянер умірае ад сухот* (Савецкая Беларусь. 24.03.1922). *29 красавіка* [шануецца 15-х-гадовая праца Ўл. Галубка] – *гэта сьветлая старонка з гісторыі разьвіцьця беларускага тэатру й яго* ***дзеячоў*** (Полымя. 1923. № 5-6). *Вядомы бэльгійскі грамадзянскі* ***дзеяч*** *д-р Шамельгут рыхтуе да друку другую кніжку сваёй працы* (Узвышша. 1928. № 1). *Актыўным грамадскім* ***дзеячом*** *і рэвалюцыйным пісьменнікам пеpажыў ён* [Горкі] *гады вайны* (І. Замоцін. Узвышша. 1928. № 2). *Аўтар часта інфармуе і аб такіх тэарэтычных працах* ***дзеячоў****, якія знаходзяцца ў рукапісах; …аб некаторых* ***дзеячох*** *аўтар часта піша, што гэта "выдатны гісторык, публіцысты…"* (Маладняк. 1927. № 9).

Заўважым, што ў формах ускосных склонаў назоўніка *дзеяч* націск на канчатку. З націсковым канчаткам роднага склону множнага ліку гэтае слова ўжываецца і ў 1930-я гг.

Газета "Звязда" (1935, нумары за 26 – 29 студзеня) шмат матэрыялу прысвяціла памяці В. Куйбышава – *"аднаго з буйнейшых* ***дзеячоў*** *і кіраўнікоў партыі і савецкай дзяржавы"*, які *"з'яўляўся ўзорам выдатнага…* ***дзеяча****"*. Формы роднага склону *дзеяча, дзеячоў* паўтарыліся па некалькі разоў (паслядоўна).

Якая пачатковая форма (назоўнага склону адзіночнага ліку) вылучанага назоўніка, упэўнена вызначыць на падставе гэтых прыкладаў нельга. Мажлівыя варыянты вымаўлення: *дзе́яч, дзяя́ч.*

Пытанне націску ў разгляданым слове паўстае пры чытанні ўголас безназоўнага верша Максіма Танка, датаванага 1938 годам (на жаль, аўтограф не выяўлены). Прачытайма пачатковую страфу.

Прыйшоў **дзеяч** вядомы,
Прынёс паперы ліст,
І дамачка з альбомам,
І нейкі арганіст.

Як вы, шаноўны чытач, прамовілі першы радок? Філалагічны досвед прымушае ставіць націск у слове *дзеяч* на галосным *е.* Але ў такім разе два націсковыя склады апынаюцца побач (*прыйшо́ў дзе́яч*), парушаецца рытміка верша.

Наважымся меркаваць, што, запісваючы слова ў форме *дзеяч*, паэт пры складанні верша вымаўляў *дзяя́ч.* Гэта пацвярджаецца, хоць і ўскосна, "Руска-беларускім слоўнікам" (1937) пад рэдакцыяй А. Александровіча. У ім рускія *деятель, деятельница* перакладаюцца: *дзе́яч, дзея́чка.*

У слове *дзея́чка* галосны *е* займае пазіцыю якання – стаіць у першым складзе перад націскам. Але пераход *е* ў *я* на пісьме не паказаны. Можа, тут "віна" тагачаснага правапісу. У наступных слоўніках паслядоўна пішацца *дзяя́чка* з пазнакай націску на суфіксе. А гэта сведчанне таго, што каранёвае *е* (*дзеяць, дзеіць*) можа чаргавацца з *я* (*дзяяч*).

Слова *дзеяч*, уваходзячы ў беларускую літаратурную мову, не было безварыянтным. "Беларуска-расійскі слоўнік" (1926) М. Байкова і С. Некрашэвіча перакладае рускае *деятель* беларускімі *дзе́йнік* і *дзе́яч*. А "Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік" доктара Я. Станкевіча прапануе ў якасці адпаведніка рускага *деятель* слова *дзе́яннік* (назоўнік жаночага роду *дзе́янніца*). У даўняй беларускай мове ўжываліся словы *действеникъ* 'той, хто выконвае тое ці іншае дзеянне' і *дейца* 'выканаўца, вы-

творца дзеяння' (гл.: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т. 8).

У 1930-я гг. у заходнебеларускім друку сустракаецца паралельнае ўжыванне варыянтаў *дзеяч* і *дзейнік*: *У далёкай чужыне, у дымнай Празе… памёр беларускі заслужаны грамадзкі і культурны* ***дзеяч****, др. Тамаш Грыб* (Калосьсе. 1938. № 1). *Заціраньне праяў беларускага жыцьця і ўсіх сьлядоў наяўнасьці беларусаў, якое праводзіцца нікаторымі* ***дзейнікамі****, у нашым краі… узбагацілася новай пазыцыяй у галіне кінэматографіі* (Тамсама). *Вялікая грамада людзей праводзіла яе да магілы, сярод іх цэлы рад старых беларускіх* ***дзеячоў*** (Тамсама. 1939. № 3).

Трымайма ў полі зроку форму роднага склону множнага ліку *дзеячоў.*

Пасляваенны "Руска-беларускі слоўнік" (М., 1953) пацвярджае і замацоўвае слова *дзеяч* у якасці адзінага адпаведніка рускага *деятель.*

У нашы дні форма назоўнага склону *дзеяч* абсалютна пераважае ў пісьмовай мове. Што да ўскосных склонаў, дык тут аднастайнасці няма. Паводле ТСБМ, слова *дзеяч* мае нерухомы націск на першым складзе асновы (ці, прынамсі, так рэкамендуецца яго ўжываць). Ілюстрацыя ж гэтага не пацвярджае. Назоўнік *дзеячы* ў сказе Кузьмы Чорнага можна прачытаць і з наканчаткавым націскам – *дзеячы́*: *Гэта* ***дзеячы*** *народнай гаспадаркі,* ***дзеячы*** *пертварэння і ўдасканалення краю,* ***дзеячы*** *навукі і культуры.*

І ва ўсіх ускосных склонах, апрача творнага адзіночнага ліку і роднага множнага ліку, акцэнтныя варыянты словаформаў назоўніка *дзеяч* (*дзяяч*) на пісьме ў празаічнай мове не адрозніваюцца.

Акадэмік М. Бірыла ў "Слоўніку націску ў беларускай мове" (Мінск, 1992) прызнае наяўнасць варыянтаў: **дзе́яч** *м.*, -ча, *мн.* дзе́ячы, -чаў *і* дзеячы́, -чо́ў.

У "Беларускай граматыцы. Ч. 1" (Мінск, 1985) канстатуецца, што для двухскладовых назоўнікаў *бондар, гутнік, дзеяч, кветнік, конюх* і іншых (акцэнтны тып А, група а – націск прыпадае на першы склад асновы) "сустракаюцца варыянты з націскам на другім складзе ў формах адзіночнага ліку (*банда́р, гутні́к,* ***дзея́ч****, квятні́к, канюх…*)".

Такі запіс вылучанага слова (*дзеяч*) можа сведчыць пра тое, што беларускія граматысты не прадугледжваюць пераходу каранёвага *е* ў *я* (а гэта супярэчыць рэальнасці: згадаем прыведзеныя вышэй ужыванні назоўніка *дзяяч* і нарматыўны назоўнік *дзяячка*). З іншага боку, гэта дазваляе чытаць слова *дзеяч* як *дзяя́ч*.

Зноў звернемся да моўнай практыкі.

*Імя Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, пісьменніка, заслужанага* ***дзеяча́*** *навукі БССР… добра вядомае нашай грамадскасці* (Дыктар В. Анісенка. Беларускае радыё. 17.08.1991). *Без ведання беларускай мовы няма добрага* ***дзеяча́*** *культуры* (З выступу рэктара БДПУ імя Максіма Танка А. Караткевіча. 27.11.1991). ***Пантэон*** -а, *м. … 2. Спецыяльнае архітэктурнае збудаванне для пахавання выдатных* ***дзеячоў*** (ТСБМ, т. 3). *Не буду пакуль называць канкрэтных закулісных* ***дзеячоў*** *і груповак* (Звязда. 2.07.1993). *Бязмерная веліч… высокага адкрывалася яму ў кожным з вялікіх* ***дзеячоў*** *мінулага* (В. Быкаў).

Такім чынам, назоўнік *дзеяч* (*дзяяч*) у адзіночным і множным ліку мае варыянты націску: на першым складзе асновы і на канчатку.

Звернем увагу на заканамернасць. Назоўнікі мужчынскага роду з націскам на суфіксе *-ач*, якія абазначаюць асоб, у родным склоне множнага ліку паслядоўна ўжываюцца з канчаткам *-оў*: *глядач – гледачоў, чытач – чытачоў, слухач – слухачоў, назірач – назірачоў, спагадач – спагадачоў.*

Прасочваецца адпаведнасць і ў адваротным кірунку: форма роднага склону *чытачоў* можа ўтварацца толькі ад пачатковай *чытач*, словаформа *слухачоў* – ад *слухач* і г. д. Не выключэнне і форма *дзеячоў*: пры словазмяненні яна таксама вынікае з формы назоўнага склону *дзяяч* (націск на суфіксе).

Канчаткам *-аў* у родным склоне множнага ліку характарызуюцца назоўнікі з націскам на корані: *светач – светачаў, наведвач – наведвачаў.* Аналагічна і *дзеяч – дзеячаў.*

Захаванне націску на першым складзе назоўніка *дзеяч* абумоўлена яго словаўтваральнай базай (*дзеяць, дзеіць*), падтрымліваецца аднакаранёвікамі *дзейнасць, дзейнічаць* і інш. Адыгрывае тут ролю і актыўнае рускае слова *деятель.*

У чытача і моўцы выпрацаваўся трывалы навык успрымаць зрокава і вымаўляць *е* ў корані *дзе-*. Назоўнікі *дзяяч, дзяячка* з каранёвым *я* – бадай адзіныя, не падмацаваныя іншымі роднаснымі словамі. Таму нават вымаўляючы суфікс *-яч* пад націскам, часам выраўноўваюць каранёвую частку паводле слова *дзеяч*: *Хачу, каб ён выступіў як паэт, а не палітычны дзея́ч* (А. Паплаўская. Свабода. 13.09.2010).

Пры вымаўленні, арыентаваным на арфаграфію [дзе-я́ч], слова нібы раскладаецца на дзве часткі: корань *дзе(j)* і суфікс *-ач-*. Таму *е* менш падлеглае яканню.

У акцэнтным афармленні слоў істотную ролю адыгрывае семантычны фактар. Возьмем назоўнік *светач.* У ім націск на першым складзе

асновы (у адрозненне ад пададзеных вышэй назоўнікаў з суфіксам *-ач*). Калі б націск перамясціўся на суфікс, слова загучала б двухсэнсава: [сьвята́ч] (‘святар’?). Яшчэ прыклад. Вось рад сінонімаў: *сейбіт, сявец, сеяльшчык*, (патэнцыйныя) *сеяльнік, сеяч*. Гэтыя словы збольшага зразумелыя без кантэксту. Давайце зменім месца націску ў апошнім: *сяя́ч*. Паслабілася акрэсленасць, выяўнасць лексічнага значэння.

Падобнае назіраецца і ў форме назоўнага склону *дзяяч*. Аднак пры актывізацыі яе ўжывання семантычная недавыражанасць кораня *дзя-* будзе кампенсавацца акцэнтаваннем суфікса *-ач* (з яго дапамогай утвараюцца назоўнікі, што абазначаюць асоб).

Зробім падагульненне. У беларускай літаратурнай мове існуюць акцэнтныя варыянты назоўніка *дзеяч*: 1) словаформы з нерухомым націскам на першым складзе асновы (акцэнтны тып А); 2) словаформы з націскам на канчатку (акцэнтны тып В). Што да першай групы словаформаў, то яны кадыфікуюцца граматыкамі, слоўнікамі. Словаформы другой групы сцвярджаюць свой літаратурны статус шматлікімі рэальнымі ўжываннямі.

Правамернасць формы *дзяяч* абгрунтоўваецца як суадноснасцю склонавых формаў аналагічных назоўнікаў (*слухачоў – слухач, гледачоў – глядач, дзеячоў – дзяяч*), так і практыкай вымаўляць назоўнік *дзеяч* з націскам на суфіксе, што зрэдку перадаецца на пісьме (*дзяяч*).

Калі форма назоўнага склону *дзяяч* успрымаецца ці не большасцю беларускамоўцаў як адхіленне ад звыклага, засвоенага, дык формы ўскосных склонаў *дзеяча́, дзеячу́, дзеячо́ў* і іншыя з націскам на канчатку, якія ўжываюцца ў беларускай літаратурнай мове цягам дзесяцігоддзяў, зусім прымальныя. У сваю чаргу іх актывізацыя можа паслужыць “узнаўленню” і ўсталяванню формы назоўніка *дзяяч*. За такое слова “выказваецца” і яго ўкраінскі адпаведнік: *дія́ч, діяча́, м.*

Варыянтнасць у адрозненне ад разавых парушэнняў літаратурнай нормы (накшталт *сабрало́ся*) – гэта сталая ўласцівасць мовы, якая ў значнай меры адлюстравана ў слоўніках і граматыках. Напрыклад, у ТСБМ бачым акцэнтныя варыянты: *велізáрны* і *вялізарны, лáскавы* і *ласкáвы, неапрáўданы* і *неапраўдáны, непадперазáны* і *непадпярáзаны, непадкавáны* і *непадкóваны* ды шмат іншых.

Асноўны варыянт ставіцца першым. Але бывае, што ён недакладна вызначаны адразу, пры ўкладанні слоўніка, ці па часе змяняецца яго акцэнталагічная характарыстыка. Так, у пары *лáскавы – ласкáвы* літаратурнай норме больш адпавядае другое слова, з націскам на суфіксе, у пары *неапрáўданы* і *неапраўдáны* – таксама (параўнаем *апраўдáны*, паводле ТСБМ, т. 1).

Шэраг дзееприметнікаў адрозніваецца не толькі месцам націску, але і галосным суфікса. Такія варыянты пераважна ўжываліся ў беларускай літаратурнай мове да сярэдзіны XX ст. Яны шырока пададзены ў руска-беларускім (М., 1953) і беларуска-рускім (М., 1962) слоўніках, напрыклад: *абшаляваны* і *абшалёваны, абсмакаваны* і *абсмакованы, аўтарызаваны* і *аўтарызованы, афарбаваны* і *афарбованы, закітаваны* і *закітованы, запрацаваны* і *запрацованы, намаляваны* і *намалёваны, пабудаваны* і *пабудованы, спілаваны* і *спілованы.*

Моўная практыка аддала перавагу формам з націскам на суфіксальным складзе *-ва-*: *збудавáны, намалявáны* (*збудóваны, намалёваны* ў новастваранымых тэкстах сустракаюцца рэдка).

Цікава, што гэтая група акцэнтных варыянтаў “самаўсталявалася”, замацавалася ў літаратурным ужытку, здаецца, без публічных выступаў у друку на іх падтрымку, не было крытыкі, ганьбавання формаў тыпу *згуртóваны.* Да такога выніку прывяло натуральнае функцыянаванне і развіццё мовы. Напэўна, адыграла ролю тэндэнцыя да адштурхоўвання (ад рускай мовы).

У сувязі з разгляданай з’явай варта згадаць некалькі дзеепрыметнікаў з няўстойлівым націскам. Гэта, у прыватнасці, частотныя словы з каранямі *піс-, чыт-*: *запісаны, перапісаны, спісаны, прачытаны, счытаны* і пад.

Што да слоў з коранем *піс-*, то граматыкі, слоўнікі падаюць іх з націскам на корані: *напíсаны, спíсаны*. У беларускай мове, літаратурнай і жывой народнай, гэтыя словы ўжываюцца і з націскам на суфіксе.

Пачнем ілюстраванне адным з самых аўтарытэтных прыкладаў: *Ніхто з граніц сваіх не выйдзе, / З законаў, жыццем* ***напісáных*** (Я. Колас). *І быў ён, мой продак, вядомы і знаны – / Вятрамі у кнізе палёў* ***прапісáны*** (П. Броўка). *Хоць да канца і было / Ім пісьмо* ***дапісáна****, / Толькі яно на сяло / Да дзяцей не паслана* (А. Куляшоў). *Ужо вырак на нас* ***падпісáны****!* (Д. Бічэль). *У якім раёне вы* ***прапісáны****?* (Мінск, выбарчая кампанія. 16.10.2010). *Во на карце* ***запісáна*** (в. Брусы Мядзельскага р-на).

Прыклады бяруцца найболей з вершаў невыпадкова: у празаічнай мове месца націску вылучаных дзеепрыметнікаў практычна нельга вызначыць. А між тым у граматыках і слоўніках акцэнтныя нормы звычайна “пацвярджаюцца” такімі ілюстрацыямі.

Вымаўленне паданалізных дзеепрыметнікаў з націскам на суфіксе прыкметна пашыраецца ў мове працаўнікоў СМІ і навукоўцаў: *Працоўнае пагадненне* ***падпісáна*** *на тры гады* (А. Тэра. Сталіца. 2.09.2010). *Усе кампазіцыі былі* ***напісáны*** *для гэтага зборніка* (Ю. Баранава. Тамсама. 5.10.2010). *Так было* ***напісáна*** *ў V стагоддзі да н. э.* (А. Ражкова. Тамсама. 20.10.2010). ***Запісáны*** *чатыры лазерныя дыскі* (Н. Мазурына. Культура. 8.09.2010). *Была* ***падпісáна*** *дамова з Літвою* (Свабода. 24.10.2010). *У артыкуле было* ***напісáна****, што шапік перайменавалі…* (І. Запрудскі. Тамсама).

Словы тыпу *запісаны, прачытаны* маюць аналагічную марфемную структуру, у кантэксце часта стаяць у блізкім суседстве. І акцэнтная характарыстыка іх падобная: ужываюцца з націскам на суфіксе і (не без уплыву рускай мовы) на корані. Нарматыўнасць пераважнай большасці дзеепрыметнікаў з коранем *чыт-*, у якіх націск прыпадае на суфікс, прызнаецца лексікаграфічнымі працамі. У ТСБМ падаюцца як адзіныя формы *зачытáны, перачытáны, расчытáны, счытáны.* Але: *прачы́таны, чы́таны*. М. Бірыла ў “Слоўніку націску” так акрэслівае акцэнтную норму: *дачытáны і дачы́таны, зачытáны, прачытáны, перачытáны, расчытáны.*

Пэўная непаслядоўнасць пры паказе націску ў дзеепрыметніках з коранем *чыт-* (магчыма, гэта і вынік няўзгодненасці ацэнкі пры падрыхтоўцы розных тамоў ТСБМ і “Слоўніка націску”) не касуе важкасці прыведзеных звестак для пацверджання літаратурнага статусу акцэнталагічных варыянтаў *чытáны, прачытáны, пісáны, апісáны* і падобных, усталяванне якіх адлюстроўвае згаданую тэндэнцыю да размяшчэння націску ў вялікай групе дзеепрыметнікаў на першым складзе перад суфіксам *-н-* (*збудавáны, замацавáны*).

Нельга прайсці міма такой з’явы. З націскам на першым складзе перад суфіксам *-н-* пачалі вымаўляцца дзеепрыметнікі *звязаны, заказаны, паказаны, сказаны, даказаны* і пад. Скажам адкрыта: гэтыя акцэнтныя адхіленні, у адрозненне ад *напісáны, падпісáны*, сёння яшчэ рэжуць вуха (прынамсі, мне) – успрымаюцца як штучныя ці перанятыя, на першы почут і погляд, з польскай мовы. Уласна, бяды тут няма: у гэтых адносінах беларуская і польская мовы надта блізкія, у іх непараўнана шырэй, чым у рускай, ужываюцца дзеепрыметнікі, у якіх націск падае на першы склад ад канца асновы.

Не менш верагодна, што гэтыя акцэнтныя варыянты-пачаткоўцы (у польскай мове асобныя з іх адрозніваюцца значэннем, напрыклад *skazany*) узніклі ў беларускай мове ў працэсе ўзаемадзеяння дзеепрыметнікаў, утвораных, паводле класіфікацыі “Граматыкі беларускай мовы” (Мінск, 1962), ад дзеясловаў I і III прадуктыўных і I непрадуктыўных класаў (да апошняга належаць дзеясловы *звязаць, напісаць, сказаць*).

Коп’і навукоўцаў і аматараў роднага слова, бывае, скрыжоўваюцца вакол бяскрыўдных акцэнтных варыянтаў, у тым ліку дапушчальных, нарматыўных. Так, журналістка, якая рыхтуе (а раней і чытала) тэксты для радыёперадач “Моўныя парады”, рашуча выступіла супраць вымаўлення *выпáдак, цяжкí.* Як вядома, гэтыя варыянты даўно замацаваліся ў мове (слоўнікі іх беспадстаўна ігнаруюць). Ад школьных гадоў памятаецца: *Цяжкáя, суровая доля нам выпала, / Мы грозна сустрэлі каварны удар.*

Штодня ў перадачах радыё чуем: *выпáдак.* Кажу і я так, бадай, усё сваё свядомае навукоўскае жыццё. Часам студэнты і аспіранты пыталіся, як правільна (мо нехта з іх іранічна: слоўнікі ж даюць толькі *вы́падак*). Коратка (каб не адхіляцца ад тэмы заняткаў) і не крыўдуючы адказваў. Гэтае слова мае два акцэнтныя дублеты. Я звыкся ставіць націск на другім складзе: *выпáдак.* А вы сабе карыстайцеся рэкамендацыямі слоўніка.

Фактычна журналістка, хоць, можа, і незнарок, адмаўляе варыянтнасць як арганічны складовік літаратурнай мовы, яе нормаў. А тым часам у сваім вусным маўленні дапускае бясспрэчныя акцэнталагічныя памылкі: *Словы абазначаюць прасторавыя і часóвыя паняцці* (замест: *чáсавыя*) (Культура. 12.05.2009); *зроблены на адным капы́ле* (замест: *капылé*) (Тамсама. 22.05.2009); *сківíцы, генерал Франкá.*

Асноўная прычына адхіленняў ад нарматыўнага націску – няведанне слова, яго значэння. Сярод такіх слоў ці не найболей запазычаных у мінулыя стагоддзі і цяпер пацесненых ва ўжытку.

У вышэйцытаваным вершатэксце ёсць радкі, дзе звяртаецца ўвага на няправільную пастаноўку націску ў некаторых з такіх слоў.

А заслужаны [надрукавана: *засмучаны*]
чытальнік…
Той з гурбы́ ступіў на цáлік,
Зняў дзягу, сеў на крушню́
І, здарожаны, прыснуў.

І праўда, так вымаўляў словы *гурба, цалік, крушня* (*на дзязé* казаў хтось іншы) заслужаны артыст Беларусі. Яшчэ давялося пачуць у 2007 – 2009 гг. скажэнні націску гэтым артыстам: *Бульбу выкапалі завіднá* (замест: *зáвідна*); *сляды злі-*

*ваюцца ў адзін паса́к* (замест: *па́сак*); *ішоў па пры́ступках* (замест: *прысту́пках*); *паруплюся зрабіць* (замест: *пару́плюся*); *гэта ты такі шмале́ц знайшла* (замест: *шма́лец*).

Няёмка называць майстра чытання. Але нельга замоўчваць, што ён нярэдка парушае акцэнталагічныя нормы беларускай мовы. Пазнавальны, як цяпер кажуць, гэты артыст і з таго, што вымаўляе галосную *-е* (канчатак назоўніка) набліжана да *і*: *у хаце*[і]*, на свеце*[і] (замест *у хаце*[я]*, на свеце*[я]).

Другі папулярны чытальнік (пакуль што не ўганараваны) у тэкстах беларускіх пісьменнікаў прамаўляе: *і́грышча, жупа́ны, се́ннікі* (замест: *ігры́шча, жупаны́, сеннікі́*). Яго "апазнавальны знак" – цвёрдае вымаўленне свісцячага ў слове *шча*[с]*лівы.*

Як бачым, разавыя індывідуальныя ваганні націску найчасцей назіраюцца ў словах рэдкага ўжывання, не актуалізаваных патрэбамі сучаснай дзейнасці і побыту беларускага грамадства.

Вернемся да слова *шмалец*. Прадукт (гусіны тлушч) пад такою назваю не вырабляецца на прадпрыемствах харчавання, не рэкламуецца і не паступае ў гандаль. І ў прыватных гаспадарках (сялянскіх ці фермерскіх) у вёсках, мястэчках, калі гадуецца жывёла на мяса, дык вырабы з яго атрымліваюць назвы галоўным чынам праз рускую мову (*бекон, шпік*). Пры наяўнасці ў беларускай мове сінонімаў перавага аддаецца таму, які супадае з рускім словам ці блізкі да яго: *халадзец, зельц* (не *квашаніна*, не *сальцісон*, не *вантрабянка*).

Увогуле з прычыны абмежаванага функцыянавання беларускай мовы мы нярэдка нібы прымяраем беларускае слова да адпаведнага рускага і часта бяром тое, якое бліжэй да апошняга; напрыклад, з сінонімаў *прагулка, прагулянка, праходка, шпацыр* (іх змяшчае ТСБМ) возьмем першы, бо так і ў рускай мове (*прогулка*). Слова *шпацыр* (у аповесці К. Чорнага "Насцечка" – *спацыр*) адыходзіць на задні план, робіцца малазразумелым новаму пакаленню беларусаў. Расхістваецца і яго ўнармаваная акцэнтная характарыстыка (націск на першым складзе): *Выправімся ў падарожжа… Можа, і не ў падарожжа, а на невялічкі* ***шпацы́р*** (Н. Буландо. Культура. 26.03.2009).

Журналісткай адхіленне магло быць зроблена ці непасрэдна пад уплывам мясцовай гаворкі, ці перанята як дыялектызм. Параўнаем: *Праз усю пору… не спускаў ён* [хлопец] *вачэй з Ганны, пакуль не дагледзеўся да таго, што ўзняў з ёй гутарку, а потым асмеліўся пазваць і на* ***спацэр*** (Ц. Гартны. Я бачыў).

У варунках, калі з розных прычын, у тым ліку праз натуральную змену пакаленняў носьбітаў беларускай мовы, адыходзіць у пасіўны запас, забываецца частка калісьці актыўных лексічных і фразеалагічных адзінак, граматычных сродкаў, павялічваецца небяспека памылкі пры ўжыванні слова. Што да націску, дык яго парушэнне можа зведаць усякае неаднаскладовае слова, словаформа.

*Прагучыць рэпартаж пра выпускныя балі́* (замест: *ба́лі*) (Свабода. 12.06.2009). *Тут жа, на гра́дзе, быў выкананы абрад вяселля* (замест: *на градзэ́*) (Тамсама. 8.10.2010). *Тэмпература не будзе ва́гацца* (замест: *вага́цца*) (Белсат. 8.10.2010). *Трэба зразумець, што ён выбіраецца ў нікуды́* (замест *у ніку́ды*) (Свабода. 4.10.2010).

Асобна зазначым. Журналісты, дыктары, асабліва маладыя, робяць памылкі націску ў назвах населеных пунктаў Беларусі: *у пасёлку Лынтупы́* (замест: *Лы́нтупы*) *Віцебскай вобласці* (П. Варахобін. Сталіца. 4.10.2010). Журналіст А. Залеўскі прачытаў скажона назву раённага цэнтра: *Чаву́сы.*

"Шанцы" на такія памылкі ўзрастаюць ад таго, што на радыё і тэлебачанні тэмай масавых, пераважна забаўляльных праграм звычайна бяруцца не мясцовыя беларускія рэаліі (у тым ліку гарады, мястэчкі, вёскі), а далёкія, чужыя тэрыторыі і падзеі. У выніку – дзеці, моладзь не паглыбляюць ведання роднай зямлі, яе геаграфіі, гісторыі, а значыць і тапаніміі.

Адхіленні ад літаратурных нормаў не толькі зніжаюць інфармацыйнасць перадачы, але і вядуць да эстэтычных стратаў, бо ўспрымаюцца як парушэнне ўстаялага, абавязковага і, напэўна, узорнага.

Зразумела, механічная, неабгрунтаваная змена месца націску ў слове не ёсць нейкая новая негатыўная з'ява ў сучасным маўленні. Акцэнтныя памылкі ў тэкстах перадач беларускага радыё і тэлебачання траплялiся і ў мінулыя дзесяцігоддзі, толькі, можа, у меншай колькасці, як цяпер. Напрыклад: *Дзеці паласу́юцца суніцамі*; *Хлопчык уздыхнуў як сталы́* (Беларускае радыё. 30.08.1989).

Памылкі, як гэтага не хацелася б прызнаваць, заўсёдныя… Заўсёднай, няспыннай мусіць быць і праца над іх выпраўленнем, а лепш – папярэджаннем.

Як вучань і настаўнік рыхтуюцца да ўрокаў, так і журналіст, артыст-чытальнік павінны знаёміцца з тэкстам, які будуць агучваць перад тысячамі слухачоў. І, напаткаўшы няяснае слова (значэнне, націск), паглядзець даведнікі. Сёння іх, здаецца, дастаткова. Было б жаданне і пачуццё адказнасці.

Ірына САВІЦКАЯ

# ПАРЦЭЛЯВАНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ ЯК АДЗІНКІ ЭКСПРЭСІЎНАГА СІНТАКСІСУ

Вывучэнне сінтаксісу ў школьным курсе беларускай мовы заснавана на адзіным працэсе навучання, які патрабуе выяўлення структурных, семантычных і функцыянальных асаблівасцей розных сінтаксічных канструкцый. Перавага аддаецца будове сінтаксічных адзінак, структурныя паказчыкі разглядаюцца як сродкі выражэння семантычных і функцыянальных уласцівасцей. Такі разгляд сінтаксічных адзінак дазваляе адлюстраваць асаблівасці структуры пэўных відаў канструкцый, у той час як застаюцца неразгледжанымі іх выразныя магчымасці. Сёння сродкі экспрэсіўнага сінтаксісу ў школьным курсе беларускай мовы застаюцца наогул па-за ўвагай настаўніка.

Канструкцыі экспрэсіўнага сінтаксісу, акрамя перадачы пэўнай інфармацыі, маюць дадатковае эмацыянальна-экспрэсіўнае значэнне. Яны садзейнічаюць вобразнасці, своеасаблівай выразнасці мастацкага тэксту. Іх выкарыстанне – прыкмета індывідуальна-аўтарскага стылю пісьменніка, якая адлюстроўвае суб’ектыўны падыход да рэчаіснасці.

Адзін з прыёмаў экспрэсіўнага сінтаксісу – парцэляцыя, якая даволі пашырана ў сучаснай беларускай мове. Тэрмін паходзіць з французскага слова *parceller* (дзяліць на дробныя часткі) і абазначае наўмыснае расчляненне сказа (простага ці складанага) на інтанацыйна адасобленыя адрэзкі з мэтай актуалізацыі, вылучэння найбольш важнай часткі выказвання. Напрыклад: *На балоце паабапал сенажаці – бярэзнік.* ***Белы, як аблеплены снегам*** (І. Пташнікаў); *У Мінску было многа спраў.* ***Як заўсёды*** (І. Шамякін); *Сосны гамоняць.* ***Нібы расказваюць чароўныя казкі маленства – адну за адной, нястомна і радасна, ціха і мудра, як гэта можа добрая, пагодлівая старасць*** (Я. Брыль); *Падкурчыўшы пад сябе пасінелыя ногі і выцягнуўшы доўгую дзюбу, ён шырока распластаў свае крылы, быццам намагаўся яшчэ падняцца.* ***Але падняцца не мог*** (В. Вітка); *Гэта месца кожны знае, / Абмінае, аб’язджае. //* ***Бо ляжыць тут злыдзень люты, / Што шмат гора прынёс люду*** (М. Танк).

Характэрная рыса парцэляваных канструкцый – іх здольнасць да трансфармацыі, дэпарцэляцыі. Пры трансфармацыі аддзеленую канструкцыю свабодна можна ўключыць у склад асноўнай часткі, пры гэтым сэнс выказвання амаль не парушыцца. Адрозненне назіраецца на камунікатыўным узроўні; парцэляцыйны разрыў прыводзіць да інтанацыйнага адасаблення частак выказвання і вылучэння новай актуальнай інфармацыі. Параўнайце парцэляваныя і непарцэляваныя канструкцыі:

1-а. *Раптам бачу: паволі падае на зямлю адзінокі жоўты лісток.* ***Бярозавы*** (Р. Ігнаценка).

1-б. *Раптам бачу: паволі падае на зямлю адзінокі жоўты бярозавы лісток.*

2-а. *Жывеш ты ў сонцы, на прагалку,*
*І стаў прасторным курны дом,*
*А сню такой, як ведаў змалку,*
*На жытняй постаці.*
***З сярпом*** (М. Лужанін).

2-б. *Жывеш ты ў сонцы, на прагалку,*
*І стаў прасторным курны дом,*
*А сню такой, як ведаў змалку,*
*На жытняй постаці з сярпом.*

3-а. *На круглым, да чарнаты загарэлым Максімавым твары пабліскваюць неспакойныя шэрыя вочы.* ***Быццам ён ужо адчувае сябе механікам*** (Я. Каршукоў).

3-б. *На круглым, да чарнаты загарэлым Максімавым твары пабліскваюць неспакойныя шэрыя вочы, быццам ён ужо адчувае сябе механікам.*

4-а. *Спачатку Вера забягала ў краму кожны дзень, сумна пазірала на гэты шкляны цуд, потым супакоілася.* ***Але ж ненадоўга*** (В. Коўтун).

4-б. *Спачатку Вера забягала ў краму кожны дзень, сумна пазірала на гэты шкляны цуд, потым супакоілася, але ж ненадоўга.*

Як бачым, парцэляваная канструкцыя (ПК) і суадносны з ёю непарцэляваны сказ з’яўляюцца варыянтамі. Ж. Петрашэўская адзначае, што гэта “магчыма на аснове існавання шэрагу агульных прыкмет, такіх, як ідэнтычнасць зыходнай структурнай мадэлі, ідэнтычнасць структурных сувязей, абазначэнне адной сітуацыі” [5, с. 4]. Аднак трансфармаваныя канструкцыі страцілі экспрэсіўны эфект і перайшлі ў разрад стылістычна нейтральных сінтаксічных адзінак. Такім чынам, ПК з’яўляюцца экспрэсіўным варыянтам непарцэляваных структур дзякуючы вылучэнню ў самастойную фразу камунікатыўна значных адрэзкаў выказвання. Адсюль асноўная функцыя парцэляцыі – экспрэсіўная.



***Ірына Уладзіміраўна Савіцкая** – мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Закончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (1998) і аспірантуру пры ім (2002). Дацэнт кафедры беларускай і рускай моў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.*

Нягледзячы на даволі значную колькасць работ, прысвечаных гэтаму прыёму, у лінгвістычнай літаратуры няма адзінай думкі адносна статусу парцэляцыі. Так, некаторыя вучоныя атаясамліваюць парцэляцыю з далучэннем, лічаць гэтыя з'явы сінанімічнымі (Н. Валгіна, А. Швец, Г. Шалімава, М. Карпенка). Сапраўды, і першая, і другая з'явы маюць агульную функцыянальную накіраванасць, якая заключаецца ў імкненні вылучыць пэўную частку выказвання, тым самым павысіць экспрэсіўнасць усяго выказвання. Аднак парцэляваныя і далучальныя канструкцыі "адрозніваюцца механізмам спалучэння частак унутры цэлага: калі парцэляваныя канструкцыі ўтвараюцца ў выніку расчлянення адзінай сінтаксічнай структуры на два і больш інтанацыйна адасобленыя адрэзкі, то арганізацыю далучальнай канструкцыі характарызуе далучэнне, дадаванне кампанента да асноўнай, ужо вядомай часткі" [7, с. 6]. Параўнайце:

1-а. *У пракурора расла незадаволенасць сабой, але разам з тым з'явілася і раздражнёнасць ад таго, як ён гаварыў.* ***Быццам усё ведае, усё чуў і цяпер робіць аналіз, тыцкае ў яго памылку, павучае, як студэнта*** (І. Шамякін).

1-б. *Наждак – прыстасаванне хвацкае і ў слясарнай справе неабходнае.* ***Ды і не толькі ў слясарнай, на ўсе сто яно*** (В. Казько).

2-а. *Здаецца, што пяюць над табой срэбныя жаўранкі, заліваюцца таемныя бомы цудоўнымі танюсенькімі пералівамі, якія акунаюць цябе ў небыццё.* ***Нібы вясна абдымае цябе пахучымі кветкамі*** (М. Лынькоў).

2-б. *Увесь ён быў акуратны і начышчаны.* ***Нават гладка прычэсаныя валасы былі начышчаны нейкім пахучым, недасяжным бляскам*** (Я. Скрыган).

Далучальныя канструкцыі (сказы 1-б, 2-б) не звязаны з зыходным камунікатыўным заданнем аўтара, а з'яўляюцца ў працэсе думкі, маўлення і звязаны з імкненнем дапоўніць ужо зробленае паведамленне. Парцэляцыя ж (сказы 1-а, 2-а) абумоўлена зыходным камунікатыўным заданнем аўтара, яна з'яўляецца вынікам асэнсаванага члянення адзінай у структурным і сэнсавым аспектах адзінкі на графічна і інтанацыйна адасобленыя адрэзкі-фразы.

Такім чынам, парцэляцыя – з'ява камунікатыўна-функцыянальнага плана сказа, а далучэнне – разнавіднасць логіка-граматычных адносін, якая стаіць у адным радзе з іншымі тыпамі адносін (супастаўляльных, прычынна-выніковых, часавых і г. д.).

Паводле будовы ПК заўсёды двухкампанентныя; яны складаюцца з базавай часткі і парцэлята (парцэлятаў): *Расхвалявалася яна вельмі.* ***Як дзяўчынка*** (І. Шамякін); *Я спавіў паляны дзеразою, / Падпаліў чабор і верасы, / Кожную травінку ўмыў расою, / Даў пявучым птушкам адрасы. //* ***Каб да гэтых сцежак прыляталі, / Гнёзды цёплыя вілі / Ў галлі, / З ранку да змяркання шчабяталі, / Што жывеш, / Што ёсць ты на зямлі*** (А. Пысін). Базавая частка (БЧ) – самастойны і паводле будовы, і паводле семантыкі сказ; яна ўяўляе сабой закрытую структуру. Парцэлят – сінтаксічна і семантычна залежны ад БЧ кампанент; ён з'яўляецца адкрытай структурай, бо адчляняцца могуць некалькі структурных адзінак. Напрыклад, канструкцыі *Гэта, здаецца, важней за ўсё.* ***Для мяне. Для маёй прыгоднасці да жыцця*** (Я. Брыль); *Шчасця ўсім, хто рупны, / З зары да зары / Не марнуе часу / Залатой пары. //* ***Хто не засмучае / Закаханых воч, / Што гараць і сонцам / Азараюць ноч*** (1). ***// Хто ў лясы, дубровы / Ці на сенажаць / Ходзіць з любай кветку / Папараць шукаць*** (2) (М. Танк) складаюцца з дзвюх частак: БЧ і двух парцэлятаў, якія поўнасцю залежаць ад БЧ і без яе незразумелыя. Пры трансфармацыі атрымліваем просты сказ (першая канструкцыя) і складаназалежны сказ з некалькімі даданымі (другая канструкцыя), але ў такім выпадку губляецца асноўны аўтарскі акцэнт, які і забяспечваюць вылучаныя парцэляты.

Парцэляцыйнае чляненне магчыма як у простым, так і ў складаным сказе, аднак нельга гаварыць пра магчымасць прымянення гэтага прыёму ў любым месцы тэксту. Найбольш спрыяльныя ўмовы для падзелу выказвання там, "дзе мае месца злучальная сувязь; пры падпарадкавальнай жа сувязі – там, дзе сувязь членаў сінтаксічнага рада з'яўляецца факультатыўнай" [3, с. 282]. Аднак калі дадаеная частка не факультатыўная, а абавязковая, то такі разрыў на месцы падпарадкавальнай сувязі становіцца немагчымым. Напрыклад, немагчыма парцэляванне даданай часткі ў наступнай канструкцыі: *Тым часам наўкола віднела, угары праступіла хмарнае сцюдзёнае неба,* ***у якім раздумна гайдаліся***

***хваёвыя верхавіны, голае бярозавае вяршалле*** (В. Быкаў).

У ПК ёсць спецыфічная інтанацыя, якая адрозніваецца ад інтанацыі непарцэляваных канструкцый; яна характарызуецца асаблівай экспрэсіўнасцю. Пры парцэляцыі адбываецца паніжэнне тону ў абедзвюх частках, а паміж імі – працяглая паўза, што вядзе да поўнай адасобленасці парцэлята. У якасці пунктуацыйнага знака, які адлюстроўвае працяглую паўзу паміж часткамі ПК, выкарыстоўваецца кропка (клічнік або пытальнік). Але, абазначаючы мяжу расчлянення, знак прыпынку фактычна не абазначае канца камунікатыўнай адзінкі, бо парцэлят з'яўляецца структурна і семантычна залежным кампанентам папярэдняга выказвання і здольны функцыянаваць у маўленні толькі ў спалучэнні з БЧ, утвараючы адзінае сінтаксічнае цэлае.

Падзяляюцца канструкцыі фактычна любой граматычнай структуры (простыя, двухкампанентныя і шматкампанентныя складаныя сказы). Парцэлявацца ў іх могуць:

1. Галоўныя ці даданыя члены сказа, якія выконваюць пэўную граматычную функцыю: *Заходзіла сонца.* ***Вялікае, барвовае, спакойнае*** (Я. Брыль); *Так усё жыццё – ніякай шчырасці, адна хітрасць і падман.* ***Ва ўсім*** (І. Шамякін); *Ты ведаеш… мне захацелася праверыць свой характар.* ***І загартаваць*** (І. Шамякін). У прыведзеных прыкладах парцэляты структурна працягваюць базавую частку (першы і другі сказы) або з'яўляюцца аднароднымі да аднаго з яе членаў (трэці сказ).

2. Спалучэнне членаў сказа: *Як яно* [зерне], *сёлетняе, пахне!* ***Па-свойму адметна, нова і свежа, як і першая скібка хлеба, спечанага з новага ўраджаю*** (Я. Сіпакоў); *Дзеда, трэба сказаць, паважала ўся вёска.* ***Хто за гады, хто за былую спраўнасць у гаспадарцы, а хто па-сваяцку*** (Я. Брыль).

3. Прэдыкатыўныя адзінкі:

– частка складаназлучанага сказа: *Не ведаю, як у мяне хапіла сілы спакойна павярнуцца і пайсці.* ***Але я павярнуўся і пайшоў*** (І. Навуменка); *Святлее неба, і ўсё навокал святлее.* ***І ў Чэсіка на душы робіцца святлей*** (А. Васілевіч);

– даданая частка складаназалежнага сказа: *Асалода серадзіборскіх ранкаў прыйшла да людзей, як даўняя знаёмая ўсцешніца, якой не ўбачыш і не зловіш, а толькі адчуеш і пра якую зайздросна нікому не скажаш.* ***Бо, здаецца, нідзе няма такога чыстага неба ў пагодлівыя вясновыя і летнія ранкі, як у Серадзіборы*** (П. Пестрак); *Асыпалася завязь, якая цвіла кветкамі; дзень ада дня ўсё больш і больш усцілала зямлю пад дрэвамі.* ***Нібы ігліца пад хвояй*** (І. Мележ);

– спалучэнне прэдыкатыўных адзінак: *На смерць ішлі / За гэтую зямлю, / За гэтую красу, / За сцяг світання / Сыны зямлі. //* ***Каб засланіць раллю, / З якой нязломнасць / Збажынаю ўстане*** (Р. Барадулін); *Празрыстыя, быццам марлевыя, воблакі распаўзліся па ўсім небе, і яно нагадвала зямлю, такую ж белую ад туману.* ***Нібыта і тут, вакол капы, і там, вакол месяца, слалася адна і тая ж стыхія, а берагі ў іх былі таксама адны: круг лесу*** (В. Карамазаў).

4. Спалучэнне членаў сказа і прэдыкатыўных адзінак: *Хутарцы ўздыхнулі вальней.* ***І думалі, што навальніца мінула*** (М. Гарэцкі); *Ён яшчэ варочаўся, махаў перад сабою рукамі, як бы нешта адганяў ад сябе, нешта мармытаў бязгучна аднымі толькі губамі сабе пад нос, мяняючы твар – ад сярдзітага, злога да добрага, лагоднага, – потым патроху сцішыўся, супакоіўся і заснуў.* ***Заснуў, каб болей ніколі ўжо не прачнуцца*** (Б. Сачанка).

Як відаць з прыкладаў, канструктыўна-сінтаксічная функцыя парцэляцыі (структурнае чляненне сказа) заўсёды зліваецца з экспрэсіўнастылістычнай (экспрэсіўнае вылучэнне найбольш значнай інфармацыі з пазіцыі аўтарскага бачання і ўспрымання). Адсюль інфармацыйная насычанасць парцэляваных сказаў вышэйшая, бо да інфармацыі, якая заключаецца ў сінтаксічнай мадэлі канструкцыі і ў яе лексічным напаўненні, дадаецца інфармацыя пра адносіны аўтара да сказанага. Таму парцэляцыя – элемент суб'ектыўнай сегментацыі тэксту.

**Спіс літаратуры**

1. **Авласевич, М. А.** О парцелляции в современном русском литературном языке (на материале публицистики и художественных текстов) / М. А. Авласевич // Вестн. Белорус. гос. ун-та. Сер. 4. – 1973. – № 1.

2. **Ванников, Ю. В.** Синтаксические особенности русской речи (явление парцелляции) / Ю. В. Ванников. – М. : Русский язык, 1979.

3. **Иванчикова, Е. А.** Парцелляция, ее коммуникативно-экспрессивные и синтаксические функции / Е. А. Иванчикова // Морфология и синтаксис современного русского литературного языка.– М. : Изд-во "Наука", 1968.

4. **Петрашевская, Ж. Е.** К вопросу о парцелляции как приёме экспрессивного синтаксиса / Ж. Е. Петрашевская // Проблемы грамматики и стилистики английского языка : сб. статей. – М. : МГПИ, 1973.

5. **Петрашевская, Ж. Е.** Парцелляция простого предложения : автореф. дис. … канд. филол. наук / Ж. Е. Петрашевская. – М., 1974.

6. **Рогова, К. А.** Синтаксические особенности публицистической речи / К. А. Рогова. – Л. : Изд-во Ленингр. ун-та, 1975.

7. **Сербина, Т. Г.** Парцелляция как особое синтаксическое явление в языке современных газет : автореф. дис. … канд. филол. наук / Т. Г. Сербина. – Воронеж, 1988.

8. **Сквородников, А. П.** О функциях парцелляции в современном русском литературном языке / А. П. Скворecho родников // Русский язык в школе. – 1980. – № 5.

*Малады даследчык прапануе*

# РЭПРЭЗЕНТАЦЫЯ КАТЭГОРЫІ ПРАСТОРЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ФРАЗЕАЛОГІІ

Прастора – адна з універсальных катэгорый рэчаіснасці, свядомасці чалавека і культуры. У мове існуе шмат спосабаў і сродкаў, якія адлюстроўваюць прасторавыя ўяўленні і складаюць прасторавую карціну свету (ПКС). Можна вылучыць і даследаваць фрагменты ПКС, што задаюцца пэўнымі моўнымі адзінкамі і структурамі. На вырашэнне гэтай задачы накіраваны намаганні многіх навукоўцаў [5; 14].

У беларускай мове эксплікатары катэгорыі прасторы аналізаваліся ў працах І. Жылінскай (прасторава-часавая мадэль свету ўсходніх славян на матэрыяле рускіх і беларускіх замоў), Л. Мазур (найменні месца), М. Яўневіча (канкрэтызацыя акалічнасных адносін), І. Роўды (фрагменты дэрывацыйнага поля лакатываў у сувязі з праблемай лексічных лакун), Я. Крука (сімволіка прасторы ў беларускай нацыянальнай культуры). Але фразеалагічныя адзінкі (ФА) з прасторавай семантыкай не разглядаліся. Трэба адзначыць, што фразеалагічны фонд нацыянальнай мовы вельмі прадуктыўны для вывучэння "наіўнай" карціны свету: у вобразнай аснове ФА адлюстроўваюцца характэрныя рысы светабачання пэўнага этнасу, эвалюцыя мовы, тыповыя рысы лексіка-граматычнага ладу. Такім чынам, вывучэнне фразеасемантычнага поля прасторы ў беларускай мове ва ўсім яго аб'ёме з выяўленнем структурных, семантычных і функцыянальных асаблівасцей з'яўляецца актуальным.

Згодна з апошнімі даследаваннямі, ФА з прасторавай семантыкай знаходзяцца на перыферыі функцыянальна-семантычнага поля (ФСП) лакатыўнасці. У рускай мове ФСП лакатыўнасці – монацэнтрычная структура, якая мае гетэрагеннае ядро, што складаецца з двух семантычных цэнтраў: цэнтра перамяшчэння (руху) і цэнтра знаходжання [5, с. 8]. Можна меркаваць, што ў беларускай мове ФА з прасторавай семантыкай таксама ўтвараюць сваё поле – фразеалагічнае.

Фразеалагічныя палі ў параўнанні з лексічнымі маюць пэўныя асаблівасці. Калі лексічныя палі ў сукупнасці адлюстроўваюць усе з'явы, факты, працэсы рэчаіснасці, то фразеалагічныя палі "моцна лімітуюць гэты аб'ектыўны матэрыял, ствараюць значную яго выбарачнасць" [11, с. 75].

Структурна вылучаецца некалькі падвідаў фразеалагічнага поля:

1) лексіка-фразеалагічнае – "сукупнасць лексічных і фразеалагічных адзінак, аб'яднаных адным паняццем" [7, с. 64];

2) фразеалексічнае – "сукупнасць фразеалагічных парадыгм слоў, якія належаць да аднаго і таго ж лексічнага поля" [7, с. 66];

3) фразеасемантычнае – "сукупнасць ФА, якія адносяцца да адной паняццевай сферы і характарызуюцца пэўнымі сістэмнымі адносінамі паміж сабой" [7, с. 54]. На наш погляд, вывучэнне менавіта фразеасемантычных палёў дазваляе высветліць семантыку фразеалагізмаў і даследаваць нацыянальна-моўную карціну свету пэўнага этнасу.

У сучаснай тэорыі фразеалогіі існуе дзве найбольш распаўсюджаныя канцэпцыі фразеалагізма – шырокая (канцэпцыя рэпрадукавальнасці) і вузкая (семантычная канцэпцыя). У шырокай канцэпцыі асноўная прыкмета ФА – яе ўзнаўляльнасць (рэпрадукавальнасць). Пры такім падыходзе ў арбіту даследавання ўключаюцца прыказкі, крылатыя выразы, перыфразы і іншыя словазлучэнні, што, на думку некаторых мовазнаўцаў, вядзе да амаль бязмежнасці фразеалогіі. Прыхільнікі вузкай канцэпцыі катэгарыяльнай прыкметай ФА лічаць яе семантычную цэласнасць: аб'ём фразеалогіі абмяжоўваецца толькі матываванымі і нематываванымі сэнсава непадзельнымі выразамі, што, у сваю чаргу, робіць фразеалагічны фонд мовы аднародным [9, с. 10].

Трактоўка ФА з пункту гледжання семантычнай непадзельнасці абгрунтоўвае мэтазгоднасць прымянення метаду кампанентнага аналізу: цэльнае тлумачэнне фразеалагізма, прапанаванае слоўнікам, дзеліцца на шэраг дробных семантычных кампанентаў – сем. Матэрыялам для даследавання паслужылі слоўнікі фразеалагізмаў сучаснай беларускай мовы [1; 10; 13]. Было вылучана 1070 беларускіх ФА з прасторавай семантыкай. Матэрыял у залежнасці ад наяўнасці ў дэфініцыі ФА дынамічных ці статычных прасторавых маркёраў раскласіфікаваны на дзве часткі: мікраполе дынамікі і мікраполе статыкі. На падставе семантычнай класіфікацыі ФА [3] і ідэаграфічнай сістэматызацыі лексічных адзінак і фразеалагізмаў [4] намі была распрацавана таксанамія катэгорыі прасторы ў фразеалагічным фондзе беларускай мовы, заснаваная на семантычных і анамасіялагічных прынцыпах, якія "поўнас-

цю здымаюць структурна-граматычны фон і даюць магчымасць згрупаваць фразеалагічныя адзінкі па пэўных семантычных варыянтах" [2, с. 271]. Аб'яднаныя варыянтнай семай у адзінае цэлае, фразеалагізмы супрацьпастаўляюцца па дыферэнцыяльных прыкметах і складаюць аснову арганізацыі семантычнага поля, у якім вылучаюцца макра- і мікрасістэмы [2, с. 271]. Такім чынам, у кожным мікраполі вылучана некалькі фразеасемантычных аднаядзерных ці двух'ядзерных (бінарных) груповак, падлічана колькасць і працэнт ФА ад агульнай колькасці ФА з прасторавай семантыкай у кожнай групоўцы (гл. табліцу).

Аналіз фразеасемантычнага поля прасторы ў беларускай мове выявіў яго асаблівасці. Агульная колькасць ФА з прасторавай семантыкай (1070 ФА) складае значную частку фразеалагічнага фонду беларускай літаратурнай мовы, што сведчыць пра значнасць дадзенай катэгорыі ў жыцці чалавека.

Прасторавыя вымярэнні, адлюстраваныя ў ФА, – антрапацэнтрычныя: аб'ект атаясамліваецца паводле яго становішча па аналогіі з адпаведнымі часткамі чалавечага цела: *рука (блізка як рукой дастаць), вока (вока на вока), галава (галава ў галаву), вуха (з вуха на вуха), нос (каля носа), бок (каля бока)* і інш. Антрапацэнтрычнасць праяўляецца і ў тым, што галоўны арыенцір размяшчэння аб'ектаў у прасторы, адносна якога вядзецца адлік, – гэта фігура моўцы.

У беларускай мове шмат ФА са словамі з прасторавай семантыкай, але іх значэнне не звязана з агульнымі прасторавымі ўяўленнямі: гэтыя ФА абазначаюць эмоцыі, смерць і знаходзяцца на перыферыі фразеасемантычнага поля лакатыўнасці. Так, *лунаць у надхмар'і* мае прасторавую лексему *надхмар'е*, але абазначае 'марыць'; *паехаць у Магілёўскую губернію* ўтрымлівае дзеяслоў перамяшчэння ў прасторы *паехаць*, але абазначае 'памерці'. Па меркаванні Д. Лакафа, гэта звязана з назіраннем чалавека за рухомымі аб'ектамі і вылучэннем пэўных заканамернасцей, што кладуцца ў аснову так званай арыентацыйнай метафары, якая дазваляе перайсці ад апісання канкрэтных перамяшчэнняў да абстрактных паняццяў [8, с. 35].

ФА маюць канататыўны (ацэначны) кампанент у структуры значэння: у семантыцы адлюстроўваюцца не толькі прасторавыя характарыстыкі (адлегласць, памер, характар перамяшчэння, спосаб), але і іх ацэнка моўцам. Так, ідыёма *ў чорта ў зубах* не толькі абазначае 'вельмі далёка', але і нясе ў пэўных кантэкстах пеяратыўную афарбоўку, якая ўвасабляецца ў

**Табліца.** Структура фразеасемантычнага поля прасторы ў беларускай мове.

| Фразеасемантычныя групоўкі | Прыклады ФА | Колькасць ФА (%) |
|---|---|---|
| **1. Мікраполе дынамікі** | | |
| спосаб, характар перамяшчэння | *ісці на вушах, паўзці на карачках, на сваіх дваіх, плавае як сякера* | 61 (5,7%) |
| хуткі рух – павольны рух | *аж пыл курыць, ва ўвесь дух, на зламанне карку – маслёнку везці, з нагі на нагу, сваімі нагамі ісці* | 136 (12,7%) |
| напрамак руху | *з канца ў канец, з краю ў край, у вырай, з кута ў кут, узад і ўперад* | 93 (8,7%) |
| прыход, прыезд, узнікненне – адыход, ад'езд, знікненне | *як Пілip з канапель, нялёгкая гоніць, лёгкі на памін, ліха прыгнала, чорт нагнаў – даваць драла, змотваць вудачкі, аддаваць канцы* | 164 (15,3%) |
| спыненне руху | *з капытоў далоў, кідаць якар, на прыколе, стоп машына* | 47 (4,4%) |
| агульная колькасць ФА мікраполя дынамікі | | 501 (46,8%) |
| **2. Мікраполе статыкі** | | |
| месца | *за бугром, за мяжой, за кратамі, за вуглом, за кулісамі, на дварэ* | 51 (4,8%) |
| добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое | *зямля абяцаная, дзе бог начуе, дзе бог жыве, у бога (Хрыста) за плячыма – богам пракляты, немач яго ведае дзе, кудук яго ведае дзе* | 75 (7%) |
| прыродныя аб'екты – аб'екты, створаныя чалавекам | *Млечны Шлях, Вялікая Мядзведзіца, дзявяты вал, нябесная канцылярыя, чортава акно* (балота) *– альма матэр* (навучальная ўстанова), *казённы дом, каменны мяшок* (турма), *сталыпінскі гальштук* (шыбеніца) | 71 (6,6%) |
| абмежаваная прастора – бязмежная прастора | *свет цесны, зямлі старой бабе сесці – канца-берагу не відаць, не змерыць крокам* | 21 (2%) |
| цесна, шмат – рэдка, мала | *без ліку, вуж галавы не ўткне, да адказу – адзін як вока ў ілбе, кропля ў моры, кот наплакаў* | 134 (12,5%) |
| нічога | *дзірка ад абаранка, ні грана, ні сінь-пораху, ні чорта, хоць шаром пакаці* | 9 (0,8%) |
| скрозь, усюды | *на кожным кроку, куды ні кінеш вокам, што ні крок, куды ні кінься* | 15 (1,4%) |
| далёка – блізка | *у чорта ў зубах, дзе макар козы пасе, за дзясятай гарой, у віру на калу – за два крокі, адзін крок, носам к носу, пад носам* | 90 (8,4%) |
| рост: высокі – нізкі | *гаманіць з небам, вярста каломенская, хоць ты сабак вешай – ад гаршка паўвяршка, з вузел ростам, кату па пяту* | 33 (3,1%) |
| памер: вялікі – малы | *як мяхі, як плаха, у калене – варона ў дзюбе панесці можа, у мініяцюры* | 24 (2,2%) |
| форма | *круглы як бервяно, круглы як качан, круглы як калода, як струнка, пад гаршок* | 6 (0,6%) |
| якасць паверхні | *востры як брытва* (кінжал), *раўніна хоць пакаціся, роўны як пасля касы, як шоўк, як шкло* | 5 (0,5%) |
| становішча ў прасторы | *дагары нагамі, стаяць на чацвярэньках, стаяць ва ўвесь рост, сядзець на кукішках* | 35 (3,3%) |
| агульная колькасць ФА мікраполя статыкі | | 569 (53,2%) |
| агульная колькасць ФА з прасторавай семантыкай | | 1070 (100%) |

нежаданні моўцы пераадольваць сябе і рабіць фізічныя намаганні для дасягнення аб'екта, што знаходзіцца на вялікай адлегласці. У той жа час ідыёма *рукой падаць* 'блізка' характарызуецца станоўчай ацэнкай моўцы: фізічныя нагрузкі мінімальныя, што сведчыць пра прынцып эканоміі энергіі.

Характэрная рыса беларускіх ФА фразеасемантычнага поля прасторы – рэпрэзентацыя прасторавых характарыстык у бінарных апазіцыях (гл. табліцу).

На думку В. Іванава, катэгарызацыя свету ў бінарных апазіцыях характэрна не толькі для славянскага светаўспрымання, але і для псіхалогіі чалавека ўвогуле: свет апісваўся "сістэмай асноўных змястоўных парных супрацьпастаўленняў (бінарных апазіцый), якія вызначалі прасторавыя, часавыя, сацыяльныя і да т. п. характарыстыкі" [6]. Такім чынам, дуалістычны прынцып супрацьпастаўлення дазваляе больш упарадкаваць ФА з прасторавай семантыкай і сведчыць пра глыбокую сувязь беларускай фразеалогіі з агульнаславянскай і індаеўрапейскай.

Найбольшая колькасць ФА складае фразеасемантычныя групоўкі "хуткі – павольны рух" (136 ФА – 12,7%), "прыход, прыезд, узнікненне – адыход, ад'езд, знікненне" (164 ФА – 15,3%), што сцвярджае погляд на рух нароўні з прасторай і часам як на адну з найважнейшых формаў існавання матэрыі.

Найменш ФА формы і якасці паверхні – 11 ФА (1%). Гэта даказвае гіпотэзу Л. Талмі пра неўжыванне класічных правіл геаметрыі Эўкліда, дзе патрабуецца веданне дакладных памераў, даўжыні і вуглоў [14]. Такім чынам, у наіўнай карціне свету, якая ўвасабляецца ў ідыёмах, знаходзяць адлюстраванне толькі карысныя і жыццёва неабходныя для паспяховага існавання чалавека прасторавыя характарыстыкі.

У некаторых выпадках не выяўляецца дакладных межаў паміж фразеасемантычнымі палямі часу і прасторы. Сінкрэтычнасць часу і прасторы назіраецца ў семантыцы ідыём, што абазначаюць блізка размешчаныя да моўцы прасторавыя і часавыя каардынаты: ідыёма *не за гарамі* ўваходзіць як у поле прасторы ў значэнні 'блізка', так і ў поле часу ў значэнні 'хутка'. На думку некаторых навукоўцаў (У. Гак, В. Гласэр, А. Кубракова), цесная сувязь тэмпаральнага і лакатыўнага грунтуецца на запазычанні пераважнай большасці часавых паняццяў з прасторавай сферы.

Адсутнасць дакладных межаў паміж рознымі семантычнымі катэгорыямі, якія знаходзяць адлюстраванне ў фразеалогіі, В. Тэлія называе біфуркацыяй: кожная ідыёма фарміравалася як знак не для абазначэння, а для кваліфікацыі азначанага за кошт метафарычнага фрэйма [12, с. 174]. Відавочна, што дыфузнасць мяжы паміж фразеасемантычнымі палямі часу і прасторы падкрэслівае іх непарыўную сувязь паміж сабой і дазваляе зрабіць выснову пра фразеалагічную сістэму мовы як асаблівы фразеалагічны кантынуум.

Такім чынам, пабудова фразеасемантычнага поля ФА з прасторавай семантыкай у беларускай мове дазваляе ўдакладніць месца кожнай ФА ў сістэме моўных эксплікатараў гэтай катэгорыі, паказаць, якія прасторавыя характарыстыкі знаходзяць адлюстраванне ў беларускім фразеалагічным фондзе, а таксама высветліць наіўнае ўспрыманне прасторы беларусамі.

### Спіс літаратуры

1. **Аксамітаў, А. А.** Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа / А. А. Аксамітаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993.

2. **Аксамітаў, А. А.** Беларуска-славянскія і беларуска-неславянскія ізафраземы – падабенства і адрозненне / А. А. Аксамітаў // Slavia Orientalis. – 1999. – T. XLVIII, № 2. – С. 269 – 279.

3. **Баранов, А. Н.** Словарь – тезаурус современной русской идиоматики / А. Н. Баранов, Д. О. Добровольский. – М. : Мир энциклопедий Аванта+, 2007. – С. 28 – 32.

4. **Баранов, О. С.** Идеографический словарь русского языка / О. С. Баранов. – М., 1995. – С. 87 – 113.

5. **Бондарко, А. В.** Теория функциональной грамматики. Локативность. Бытийность. Посессивность. Обусловленность / А. В. Бондарко, М. Д. Войекова, В. Г. Гак. – М. : Наука, 1996.

6. **Иванов, В. В.** Славянская мифология / В. В. Иванов // Мифы народов мира : энцикл. – М., 1980. – Т. 2. – С. 450 – 456.

7. **Кириллова, Н. Н.** Сопоставительная фразеология романских языков / Н. Н. Кириллова. – Л. : ЛГПИ, 1986.

8. **Лакофф, Дж.** Метафоры, которыми мы живем / Дж. Лакофф, М. Джонсон. – М. : УРСС, 2004.

9. **Лепешаў, І. Я.** Фразеалогія сучаснай беларускай мовы / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 1998.

10. **Лепешаў, І. Я.** Слоўнік фразеалагізмаў : у 2 т. / І. Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2008.

11. **Ройзензон, Л. И.** Современные аспекты изучения фразеологии / Л. И. Ройзензон, Ю. Ю. Авалиани // Проблемы фразеологии и задачи ее изучения в высшей и средней школе. – Вологда, 1967. – С. 68 – 81.

12. **Телия, В. Н.** Русская фразеология. Семантический, прагматический и лингвокультурологический аспекты / В. Н. Телия. – М., 1996.

13. **Янкоўскі, Ф.** Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Ф. Янкоўскі. – Мінск : Беларус. навука, 2004.

14. **Talmy, L.** The Relation of Grammar to Cognition / L. Talmy // Topics in Cognitive Linguistics / Ed. Rudzka-Ostin B. – Amsterdam : John Benjamins Publishing Company, 1988. – P. 165 – 205.

**Вольга АРЦЁМАВА,**
аспірант кафедры беларускай мовы і літаратуры
Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай беларускай мовы і літаратуры МДЛУ.*

Аляксандр РОГАЛЕЎ

# НАЗВЫ РОДНАГА КРАЮ

Памятаю, як у дзяцінстве я гадзінамі разглядаў геаграфічныя карты. На іх мяне цікавілі перш за ўсё назвы краін, гарадоў, азёраў і рэк. Гэтыя напісаныя на картах словы ўваходзілі ў маю свядомасць з усімі ўласцівымі ім фарбамі розных культур і моў. Яны ўжо тады літаральна гучалі для мяне той непаўторнай музыкай, у якой потым я пачаў чуць "ноты", пазначаныя часам.

Геаграфічныя назвы (тапонімы) агучваюць мясцовую гісторыю. Яна не можа быць беднай ці багатай, цікавай або нецікавай. Трэба толькі прыгледзецца, пашукаць, знайсці і абавязкова захаваць.

Тапонімы часам гавораць там, дзе маўчаць усе іншыя крыніцы. Інфармацыя, здабытая з геаграфічных назваў, у некаторых выпадках можа быць нават лепшай і больш каштоўнай за гістарычную ці археалагічную інфармацыю.

Уласныя распрацоўкі ў галіне этналінгвістыкі, антрапанімікі, тапанімікі і тапаграфіі далі мне магчымасць упэўніцца ў тым, што ўвогуле ў сістэме ўласных імёнаў і, у прыватнасці, геаграфічных назваў, якія сканцэнтраваны ў той ці іншай мясцовасці, звычайна зашыфраваны тэкст – займальны расповед, які мае своеасаблівы і часам вельмі нечаканы сюжэт. У любым выпадку гэты сюжэт абавязкова ўражвае. Гэта мы і пакажам на прыкладзе тапанімічных нарысаў, якія, як мы мяркуем, будуць цікавымі і карыснымі перш за ўсё для настаўнікаў роднай мовы і гісторыі.

## *ЛІЦВІНАВІЧЫ*

Гэтая вёска Кармянскага раёна Гомельскай вобласці, як і іншыя пасяленні з назвамі на *-ічы*, узнікла шмат стагоддзяў таму. Яе заснавалі людзі, якіх ведалі як *ліцвінавічаў*. Так маглі называцца падданыя або нашчадкі нейкага Ліцвіна. У вёсцы якраз і бытуе паданне пра "памешчыка Ліцвіна", якога лічаць заснавальнікам населенага пункта. Быццам бы валодаў ён вялікімі сенажацямі, меў сеназавод, прадукцыю якога адпраўляў на баржах па рэках Сож і Дняпро аж да Украіны.

У паданні магла "змяшацца" калектыўная памяць пра найбольш раннія часы, пра вытокі вёскі (чалавек па мянушцы *Ліцвін*) і пра новыя перыяды гісторыі (памешчык, сеназавод, баржы на Украіну).

*Ліцвінам*, хутчэй за ўсё, быў у свой час выхадзец з заходніх раёнаў сучаснай Беларусі. Перасяленцаў з тэрыторый, якія размяшчаліся на захад ад Бярэзіны Дняпроўскай і Мінскага ўзвышша, у больш усходніх раёнах (у тым жа Пасожжы, у прыватнасці, ці ў Прыдзвінні) успрымалі як чужынцаў. Адсюль і ўтвораная ад этноніма мянушка *ліцвін*, якую мясцовыя русіны давалі прышэльцам.

На аснове індывідуальных і калектыўных мянушак з'явіліся геаграфічныя назвы *Ліцвінавічы* (акрамя вёскі Кармянскага раёна, яе носяць населеныя пункты ў Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці і Калінкавіцкім раёне Гомельскай вобласці), *Ліцвінаўка* (Жлобінскі раён Гомельскай вобласці), *Ліцвінка* (Крупскі раён Мінскай вобласці), *Ліцвінава* (Гарадоцкі, Дубровенскі, Полацкі раёны Віцебскай вобласці, Асіповіцкі і Крычаўскі раёны Магілёўскай вобласці). Многія з гэтых назваў маглі ўзнікнуць ужо ў XIV ст.

Справа ў тым, што пашырэнне межаў Вялікага Княства Літоўскага на ўсход інтэнсіўна адбывалася якраз на працягу гэтага стагоддзя і суправаджалася перасяленнем асобных груп ліцвінаў, якія займалі неабжытыя месцы ў паўночна-ўсходніх, паўднёва-ўсходніх і ўсходніх ад першапачатковай тэрыторыі дзяржавы раёнах (Вялікае Княства Літоўскае ўзнікла і спачатку лакалізавалася ў Верхнім Панямонні). *Ліцвінамі* называлі прадстаўнікоў новага ўсходнеславянскага этнасу – беларусаў (у адпаведнасці з тэрміналогіяй новага часу).

Амаль бясконцыя войны з канца XV да другой паловы XVII ст. абумовілі тое, што ў нашых Ліцвінавічах у 1704 г., згодна з інвентаром Чачэрскага староства, было ўсяго восем "дымоў" (гаспадарак). У 1726 г. іх колькасць павялічылася да шаснаццаці.

Вёска расла хуткімі тэмпамі, і ў 1886 г. у Ліцвінавічах налічвалася 93 двары, насельніцтва складалася з 462 чалавек, былі праваслаўная царква і вадзяны млын, а саму вёску ў тым годзе ўключылі ў даведнік "Волости и важнейшие селения Европейской России".

Пэўную цікавасць з мінулага Ліцвінавічаў уяўляе наступны факт. У 1918 – 1919 гг. тут існавала працоўная школа-камуна, якой кіраваў П. М. Лепяшынскі. Навучанне і выхаванне ў ёй спалучаліся з працай. Дзеці вучыліся і самі сабе шылі вопратку. Асаблівая ўвага ў школе аддава-

лася выхаванню якасцей, як тады казалі, новага грамадзяніна – калектывізму, узаемадапамогі, таварыскасці. Выхаванцы камуны займаліся асветніцкай работай сярод насельніцтва.

У канцы 1919 г. школа была пераведзена ў Маскву і ператворана ў маскоўскую доследнапаказальную школу Наркамата асветы. Цяпер у Ліцвінавічах перад будынкам агульнаадукацыйнай школы стаіць помнік славутаму чалавеку, педагогу і вучонаму Панцеляймону Лепяшынскаму. Трэба сказаць, што ён добра ведаў Ліцвінавічы, бо тут з 1874 г. жыла сям'я Лепяшынскіх. Бацька Панцеляймона Мікалаевіча быў святаром у мясцовай царкве. Вось чаму гэтая вёска была выбрана для заснавання працоўнай школы.

Недалёка ад Ліцвінавічаў, за лесам, знаходзіцца вёска Рудня (Ліцвінавіцкі сельсавет). Старажылы расказваюць, што ў мінулым тут выплаўлялі ў самаробных печах балотную руду, адсюль і назва – *Рудня*, гэта значыць 'месца выплаўкі руды'.

Цікава, што жыхароў Рудні завуць *лесавікамі*, а жыхароў Ліцвінавічаў – *палевікамі*. Як нам здаецца, гэтыя абазначэнні дастаткова старадаўнія. Яны ўзніклі ў пачатковы перыяд гісторыі абодвух пасяленняў і ўскосна пацвярджаюць той факт, што Рудня фарміравалася на месцы лясной плавільні, а Ліцвінавічы будаваліся побач з палямі і сенажацямі, якія ў другой палове XIV ст. сталі належаць нейкаму перасяленцу Ліцвіну ці групе перасяленцаў-ліцвінаў.

У любым выпадку навакольнае мясцовае насельніцтва (русіны) у той час адрознівала сябе ад прышэльцаў – заснавальнікаў пасялення, таму апошняе і атрымала такое мянушкава-этнанімічнае найменне.

На паўднёвы ж усход ад вёскі Рудня, на правым беразе рэчкі Касалянкі, на вышыні шэсцьсем метраў над поймай ракі, стаіць старажытнае гарадзішча. Раскопкі тут не праводзіліся. Можа быць, у даўнія часы жылі на ім першыя здабытчыкі балотнай руды, справу якіх працягвалі ў новы час жыхары Рудні.

### БРАСЛАЎСКІЯ АЗЁРЫ

Іх называюць вобразна "блакітнымі азёрамі". Амаль усе яны злучаны пратокамі і пралівамі ў адну азёрную сістэму, якая праз імклівую рэчку Друйку мае сувязь з Заходняй Дзвіной.

З высокай Замкавай гары ў горадзе Браславе (раённы цэнтр Віцебскай вобласці) відаць многія з браслаўскіх азёраў. На поўдні – гладзь вялікага возера Дрывяты; на поўначы, зусім блізка, пад гарой, – невялікае забалочанае азярцо Навята; на захадзе – возера Бярэжа ў лясістых берагах, а яшчэ возера Свеца.

На поўнач ад Навяты амаль зліваецца з сінню неба велізарны азёрны масіў Струста, які з усходу звязаны праз выцягнутае возера Неспіш з далёкім возерам Недрава.

Браслаўскіх азёраў многа. Ёсць яшчэ Снуды, Набіста, Укля, Аболе, Дрысвяты, Богінскае… Кожнае з іх прыгожае па-свойму. Браслаўскія азёры апісваюць географы, батанікі, гідролагі. Азёрныя берагі і бліжэйшыя да іх наваколлі даследуюць археолагі. Тапаніміста, зразумела, цікавяць назвы азёраў.

У большасці сваёй гідронімы маюць выразнае балцкае моўнае афармленне (*Дрывяты*, *Дрысвяты*, *Снуды*, *Аболе*, *Укля*, *Бярэжа*, *Навята*, *Набіста*). У некаторых гідронімах відавочныя элементы славянскай структуры (*Неспіш*, *Богінскае*, *Недрава*). Аднак паходжанне назваў браслаўскіх азёраў нельга фармальна вызначаць як пераважна балцкае ці ў асобных выпадках славянскае.

Славяне ў гэтай мясцовасці змянілі балтаў. Але ж старажытныя балты выкарыстоўвалі для абазначэння водных аб'ектаў даўнія індаеўрапейскія асновы. Некаторыя назвы ўзніклі яшчэ да балтаў. Апошнія толькі прыстасавалі іх да сваёй мовы.

Многія назвы браслаўскіх азёраў – двухасноўныя, гэта значыць складаюцца з дзвюх каранёвых асноў, прычым адна з асноў нярэдка схавана ў так званай фармальнай частцы назвы (фарманце). Спосаб асноваскладання ў гідраніміі быў характэрны для моў найбольш старажытных плямёнаў на тэрыторыі Усходняй Еўропы, у тым ліку і для фіна-ўгорскіх моў.

Далей мы прапануем уласнае тлумачэнне браслаўскіх гідронімаў. Заўважым, што назвы азёраў маюць у сваім складзе многія з тых гідранімічных каранёў, з дапамогай якіх утвораны і шматлікія іншыя найменні водных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі.

***Дрывяты***: *Дры-* + *-вят*(*ы*). Другая частка назвы ўяўляе сабой мадыфікацыю старажытнай інтэрнацыянальнай каранёвай асновы ў значэнні 'вада'. Першая частка аналагічная гідроніму *Друя* (у наш час – *Друйка*; левы прыток Заходняй Дзвіны). Корань *др-* у гідроніме *Друя* (*Друйка*) звязаны з семантыкай прабівання, прадзірання. Адпаведна гэтаму гідронім *Друя* (*Дру-* + *-я*, дзе *я* – фіна-ўгорскі геаграфічны тэрмін у значэнні 'рака'; параўнайце сучаснае мансійскае слова *я* 'рака') трэба разумець як 'рака, што прабівае (прадзірае) сабе шлях сваім хуткім, імклівым цячэннем'. Наяўнасць каранёвай асновы *Дры-* ў



***Аляксандр Фёдаравіч Рогалеў*** *– прафесар (2004), доктар філалагічных навук (1997), прафесар кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Аўтар больш як 1200 артыкулаў па пытаннях анамастыкі, гісторыі Беларусі, лінгвістычнага краязнаўства і 15 кніг, у тым ліку наступных: "Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся" (Мінск, 1992), "Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории)" (Гомель, 1993), "Белая Русь и белорусы: в поисках истоков" (Гомель, 1994), "Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области" (Гомель, 2004), "От Гомиюка до Гомеля: Городская старина в фактах, именах, лицах" (Гомель, 2006), "Назвы Бацькаўшчыны (тапанімія Беларусі)" (Гомель, 2008).*

назве возера Дрывяты звязана, магчыма, з тым, што возера мела цячэнне.

***Дрысвяты***: *Дры-* + *-свят*(*ы*). Гэты гідронім тлумачыцца так, як і папярэдні. Варыянтнасць асновы *вят-* / *свят-* (у другім варыянце – з так званым "рухомым" фарматывам *с*) добра відаць і ў наступных прыкладах: *Вець*, *Вецьма*, *Ветча*, *Віць*, *Віцьба*, *Вяча* і *Сведзь*, *Свяда*, *Света*, *Світка*, *Светка*, *Свеціца* (назвы рэк у басейнах Дняпра, Прыпяці, Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Дзясны), *Свіцязь* (возера ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці).

***Свеца***. Назва гэтага браслаўскага возера роднасная тым гідронімам, якія згадваліся пры разглядзе наймення возера Дрысвяты, і мае этымалагічнае значэнне 'вада'.

***Недрава***: *Не-* + *-др-* + *-ава*. У складзе назвы ёсць адмоўная прыстаўка *не-*, якая адпавядае славянскаму афармленню гідронімаў, корань *-др-*, аналагічны кораню гідроніма *Друя* (гл. *Дрывяты*), і фармальная частка (былы корань, "сцёртая" каранёвая аснова) *-*(*а*)*ва* са значэннем 'вада' (параўнайце геаграфічны тэрмін *ва* са значэннямі 'вада', 'сыры', 'мокры', які вядомы ў мове комі; гэты тэрмін лічыцца адным з найбольш устойлівых у арэалах, дзе распаўсюджана фінамоўная гідранімія).

Такім чынам, гідронім *Недрава* – гібрыдны. Гэта азначае, што назва возера ў яе сённяшнім выглядзе фарміравалася на працягу доўгага часу пры ўжыванні яе рознымі народамі, якія змянялі адзін аднаго ў ланцужку стагоддзяў.

***Неспіш***: *Не-* + *-сп-* + *-іш*. Структура гэтай назвы аналагічная структуры назвы *Недрава*. У фармальнай частцы *-іш* мы бачым зноў-такі сцёрты геаграфічны тэрмін са старажытных гаворак фіна-ўгорскіх плямёнаў, якіх на тэрыторыі сучаснай Віцебшчыны асімілявалі балты і славяне. Гэты тэрмін меў форму, падобную да слова *ега* 'вада', 'рака', якое ёсць у сучаснай хантыйскай мове. Каранёвая частка назвы возера Неспіш (*-сп-*), як і прыстаўка *не-*, можа быць славянскай па паходжанні: параўнайце геаграфічны тэрмін *сопат* 'крыніца', 'выток ракі', які вядомы ў паўднёваславянскіх мовах. Гідронім *Неспіш* у цэлым можа разумецца як 'возера, на якім няма заўважальных крыніц'.

***Бярэжа***. Назву гэтага возера, якая афармлена пабалцку, можна супастаўляць з наступнымі назвамі рэк: *Бярэзіна* (правы прыток Дняпра), *Бярэжаўка* (басейн Сожа), *Бержыца* (басейн Прыпяці). Індаеўрапейская аснова **berz-* фармальна звязана з бярозай. Аднак у гідронімах тыпу *Бярэжа*, *Бержыца* магчымая кантамінацыя (аб'яднанне, зліццё) асноў *berz-* і *verg-*, *verz-* (гідронімы *Вержа*, *Вяржэйка*, правы прыток Дняпра ў яго верхнім цячэнні і рэчка ў басейне Дзясны). Старажытнаславянская каранёвая аснова *verg-*, *verz-* азначае 'вярцець, круціць, варочаць, паварочваць'.

***Струста***: *Стр*(*у*)- + *-ст*(*а*). Першая частка гідроніма становіцца зразумелай, калі параўнаць яе з назвамі рэк *Стрэна*, або *Страна* (басейн Дзясны), *Істра* (Маскоўская вобласць) і з беларускім народным геаграфічным тэрмінам *струга* – 'фарватар ракі'; 'ручай, рачулка, зарослая травой'; 'затока, рукаў ракі'.

Другая каранёвая аснова гідроніма *Струста* (*-ст-*) адпавядае рачным найменням *Сатунь* (басейн Сожа), *Сетунь* (басейн Масквы-ракі) і падобным да іх, а таксама слову *сетка*.

Успрыманне вады як сеткі было характэрнае для вельмі старажытных часоў. Міфалагічны вобраз "пляцення" вады (галоўнай крыніцы жыцця) быў раўназначны нараджэнню, узнікненню, з'яўленню, узнаўленню ў бясспынным часе.

***Навята***: *Нав-* + *-вят*(*а*). Балцкае афармленне дабалцкай (фіна-ўгорскай) назвы возера, у якой аснова *нав-* можа супастаўляцца з фіна-ўгорскім словам *нева* 'балота' (параўнайце гідронім *Нява* – найменне ракі, на берагах якой стаіць Санкт-Пецярбург), а другая аснова (*вят-*) азначае 'вада' (параўнайце *Дрывяты*, *Дрысвяты*). Такім чынам, гідронім *Навята* азначаў 'балоцістая вада', 'балоцістае возера', што, дарэчы, адпавядае рэчаіснасці.

***Снуды***: *Сн-* + *-уд*(*ы*). Другая частка назвы азначае 'вада'. У першай частцы трэба бачыць індаеўрапейскі гідранімічны тэрмін са значэннем 'цячы'. Ён відавочны таксама ў гідронімах *Сана* (басейн Бярэзіны), *Сенеж* (Маскоўская вобласць), *Сенжа* (басейн Сожа) і інш.

***Аболе***: *Аб*(*о*)- + *-ле*. Гідронім уяўляе сабой складанне каранёвых асноў з адным і тым жа верагодным значэннем 'вада, рака' + 'вада, рака'. Частка *Аб*(*о*)- адпавядае іранскаму геаграфіч-

наму тэрміну *аб*, *об* ‘вада’, ‘рака’ і балцкаму *упэ* ‘рака’, ‘ручай’. У частцы *-ле* мэтазгодна бачыць трансфармацыю фіна-ўгорскага геаграфічнага тэрміна, які адлюстраваўся, напрыклад, у мардоўскім слове *лей*, *ляй* ‘рака’, ‘яр’. Цікава заўважыць, што гэтаму слову, магчыма, адпавядае балцкі геаграфічны тэрмін *лея* ‘рачная даліна’. У басейне Заходняй Дзвіны ёсць рэчка *Обаль*, у Верхнім Падняпроўі – *Абольна*.

***Укля***: *Ук-* + *-л*(*я*). Другая частка гідроніма аналагічная кампаненту *-ле* ў складзе назвы *Аболе*. Першая ж каранёвая аснова (*Ук-*) можа супастаўляцца з найменнем ракі Акі (правы прыток Волгі).

Гідронім *Ака* выводзілі ад фінскага слова *joki* ‘рака’, літоўскага *aka* ‘крыніца’, славянскага *око* ‘вока’ (у пераносным значэнні ‘адкрытая водная прастора’). Хутчэй за ўсё, дадзенае найменне ўяўляе сабой факт нейкай зніклай мовы, паколькі адна з рэк, што ўпадаюць у Белае мора, таксама мае назву *Ака*. Гэтаксама называюцца прытокі рэк Ловаці і Ангары. Яшчэ адна Ака ёсць у басейне ракі Уфы. Выказвалася думка, што гідронім *Ака* ўзнік у гаворках неалітычных плямён у VI – III тысячагоддзях да н. э. Параўнайце сучасны селькупскі геаграфічны тэрмін *ак* ‘вусце ракі’ (селькупская мова – адна з моў уральскай моўнай макрасям’і, роднасная фіна-ўгорскім мовам; распаўсюджана на паўночным усходзе і ўсходзе Заходняй Сібіры).

***Богінскае***. З назвай гэтага возера звязана і найменне вёскі Богіна Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Дарэчы, айконім *Богіна* дазваляе лічыць першапачатковай назвай возера форму *Бог*, ці *Богіна*.

Гідронім *Бог* (*Богіна*) роднасны назве ракі Буг (Заходні і Паўднёвы). Значэнне гідроніма становіцца зразумелым, калі ўлічыць рускае дыялектнае (архангельскае) слова *буга* ‘нізінны рачны бераг’ і адпаведныя літоўскія словы ў значэнні ‘граскае балота’.

***Набіста***: *Наб*(*і*)- + *-ст*(*а*). Другая частка гідроніма ідэнтычная другому кампаненту назвы *Струста*. У першай частцы можна бачыць вынік фанетычнай трансфармацыі першапачатковай формы *Навіста* (гл. гідронім *Навята*).

Параўнайце змену гукаў [б] // [в] у наступным прыкладзе: назва *Невель* (вёска Пінскага раёна Брэсцкай вобласці) у XII – XIII стст. мела форму *Небль*, што засведчана летапісамі*. Айконім *Невель* з’яўляецца таксама назвай горада ў Пскоўскай вобласці Расіі.

Горад атрымаў назву ад наймення возера Невель. Адгідранімічнае паходжанне мае і назва вёскі Невель Пінскага раёна: *Нев-* + *-ель*, дзе *Нев-* азначае ‘балота’, ‘балоцісты’ (забалочаныя берагі возера?), а *-ель* – геаграфічны тэрмін, які можа матывавацца, напрыклад, пры супастаўленні з комі словам *ел* ‘крыніца’. Такім чынам, гідронім *Невель* мае фіна-ўгорскае паходжанне, і яго можна разумець у наступным значэнні: ‘возера з балоцістымі берагамі, у якім б’юць крыніцы’.

---

* **Нерознак, В. П.** Названия древнерусских городов / В. П. Нерознак. – М. : Наука, 1983. – С. 118.

*Працяг будзе.*

*Гістарычны слоўнік распавядае*

# *КНІГА, МЕТРЫКА, СУДЗЕБНІК*

## **З ГІСТОРЫІ СЛОЎ**

Книга е*с* мати всехъ добрыхъ речей,
И ȣчитель всѧкому доброму ȣмению.

Паводле “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы”, у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове слова *книга* мела 5 значэнняў: 1) ‘кніга, літаратурны твор’: ѡ*т*крыи ми што есть писано оу книгах си*х* (Чэцця, 372б); лихо ес*т*… и в новыи порты ѡблачитисѧ, и книги починати писати (Неба, 65); 2) ‘частка якога-небудзь літаратурнага твора’: Доконаны суть пѧтые книги Моисеовы… повѣлениемъ и пильностию ȣченого мȣжа (Скар. ДЗ, 66); ѡ чо*м* и геродоту*с* пише в книгах пꙗты*х*, *иж* грекове наȣки вси и литери ѡ*т* феникое*в* взꙗли (Стрыйк., 414); 3) ‘сшытак для дзелавых запісаў’: Для памети и достатечнейшое ведомости у книги то е*ст* записано (КЗ, 1522 – 1552, 95); тые привилꙗ мають на врꙗде*х* показываны и до книгъ записованы быти (Ст. 1566, 38); 4) ‘кнігасховішча’ (пры ўжыванні ў множным ліку): Квитацыю одобрали оддали до скарбцу шляхетному пану Денису, райцы, который книгами заведуетъ (ИЮМ, 2, 100, 1684); 5) ‘стандартная колькасць лісткоў сусальнага (якое служыць для дэкаратыўнага аздаблення

якіх-небудзь вырабаў) золата, змацаваных у выглядзе кніжкі’: золота малярского чверть книги (ИЮМ, 1, 170, 1681).

Слова *книга* стала асновай для ўтварэння лексем *книгарнье* ‘кнігарня, бібліятэка’, *книголюбецъ* ‘кнігалюб’, *книгочий* ‘вучоны чалавек, які тлумачыў Святое Пісанне’; ‘сакратар, пісар’, *книжникъ* ‘знаўца Святога Пісання, законаў і правіл рэлігійнай маралі’; ‘мудрэц, вучоны чалавек’, *книжница* ‘кнігасховішча, бібліятэка’, *книжечка* ‘памяншальнае ад *книга* ў 1-м знач.’, *книжица* ‘памяншальнае ад *книга* ў 1-м знач.’, *книжка* ‘памяншальнае ад *книга* ў 1, 3, 5-м знач.’, *книжный* ‘звязаны з пісьменнасцю’; ‘які мае адносіны да кнігі’.

У старабеларускай дзелавой пісьменнасці адзначаны такія назвы кніг, як, напрыклад, *метрика* (*мэтрика*) ‘дзяржаўная кніга рэгістрацыі дакументаў’, *метричка* ‘памяншальнае ад *метрика*’, *ободница* ‘межавая абводная кніга’, *судебникъ* ‘судзебнік’ (Судзебнік караля Казіміра, 1468), *статутъ* ‘кодэкс законаў’ (Вісліцкі статут, 1423 – 1438, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588). Ужываючыся ў значэнні ‘сшытак для дзелавых запісаў’, лексема *книга* мела пры сабе канкрэтызатары – прыметнікі і дзеепрыметнікі, якія паказвалі на тып дзелавых папер, што змяшчаліся ў ёй: *книги земские* ‘зборнік актаў земскіх судоў’, *книги каптуровые* ‘зборнік актаў каптуровых* судоў’, *книги ратушные* ‘кнігі запісаў, звязаных з гарадскім самакіраваннем’, *книги скарбные* ‘зборнік дакументаў аб уладанні маёмасцю’, *книги трибунальские* ‘зборнік юрыдычных дакументаў трыбунала – вышэйшай апеляцыйнай інстанцыі’, *книги чорные* ‘судовыя кнігі, у якія ўносіліся звесткі пра крадзяжы’. Напрыклад, у Вісліцкім статуце – старабеларускім перакладзе лацінамоўнага кодэкса, які ўтрымліваў 138 артыкулаў, прадмову з абгрунтаваннем з’яўлення збору законаў, – адзначаюцца двухслоўныя намінацыі *книги земьские, книги записные* ‘зборнік дакументаў аб перадачы маёмасці, завяшчаннях’, *книги праведные, книги правые* ‘заканадаўчыя зборнікі’. У “Трыбунале” (1586) – першым друкаваным творы дзелавога зместу на старабеларускай мове – зафіксаваны намінацыі *книги земские, книги кгродские* ‘зборнік актаў гродскіх** судоў’.

Спалучэнне *книги Литовские* вядома як адна з ранніх назваў Метрыкі ВКЛ – збору копій і арыгіналаў разнастайных па змесце дакументаў, што выйшлі галоўным чынам з вялікакняжацкай канцылярыі (баніцыі, выракі, прывілеі, пацвярджэнні і інш.). Важную практычную вартасць такія дакументы мелі да сярэдзіны XIX ст. (выкарыстоўваліся ў вырашэнні розных пытанняў юрыдычнага, грамадска-палітычнага, сацыяльнага, эканамічнага характару). З другой паловы XIX ст. узрастае і ўмацоўваецца іх навуковае значэнне (яны разглядаюцца як базавая крыніца даследавання гісторыі, права, дыпламатыі, побыту і культуры народаў Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы). Вядома, што першыя кнігі вяліся з сярэдзіны XIV ст. У 1594 – 1607 гг. канцлерам Львом Сапегам было арганізавана перапісванне дакументаў (20 пісараў за падрыхтоўку копій атрымлівалі адзенне і грошы) з мэтай выкарыстання іх у дзейнасці канцылярыі, а таксама для захоўвання звестак на больш працяглы час. Якраз перапісаныя кнігі і пазнейшыя арыгінальныя матэрыялы склалі аснову сучасных архіўных фондаў Метрыкі (усіх тамоў Метрыкі налічваецца больш за 500). Кнігі, якія ўваходзілі ў склад дзяржаўнага архіва, называліся, напрыклад, *Книга короля его м(и)л(о)сти Жикгимонта Августа данинъ потверженей и справъ судовых отправованых в року 1546…*; *Мэтрыка короля его м(и)л(о)сти Жикгимонта Августа привилеевъ, данинъ и оповеданей…*; *Метрика данин и справ розных поточных короля его м(и)л(о)сти Жикгимонта Августа…*; *Метрычка справ розных судовыхъ сознанья и привилеев за короля его милости Жикгимонта Августа* і інш. Дададзім, што сёння агульнапрынятым лічыцца падзел усіх матэрыялаў Метрыкі на 12 груп: Кнігі судовых спраў, Кнігі запісаў, Кнігі публічных спраў, Кнігі перапісаў, Кнігі выпісаў і інш.

У “Гістарычным слоўніку беларускай мовы” шырока пададзены назвы кніг рэлігійнага зместу. Так, Святое Пісанне называлася *библия* (*бивлия*, *блиблия*, *быблея*, *вивлиа*), *вулгата*, *письмо*, *писание*, *святое писание*, *божественное писание*, *книга святого письма*, *старый* (*ветхий*) *заветъ*, *новый заветъ*, *старый тестаментъ*, *новый тестаментъ*. У склад Старога Запавету ўваходзілі *еклезиястъ* (*екклесиастъ*, *екклизиастъ*, *еклезиастъ*, *еклесиястъ*) ‘кніга Старога Запавету, аўтарства якой прыпісваецца цару Саламону’, *левитъ*, *левитикъ* ‘назва трэцяй кнігі Пяцікніжжа’, *псалтырь* ‘кніга Старога Запавету, аўтарства якой прыпісваецца святому цару і прароку Давіду’ і інш. Назвы кніг Старога Запавету мы сустракаем у перакладах Францыска Скарыны, “избранного мужа в лекарскых науках”: *Книги Иȣдифъ*; *Книги Исуса, сына Навина*; *Книги Даниила Пророка*, *Книга Исȣса Сирахова*;

* **Каптуровы суд** – часовы надзвычайны суд у Рэчы Паспалітай для разгляду тэрміновых спраў у часы бескаралеўя. Назва, відавочна, паходзіць ад слова *каптур* ‘галаўны ўбор, капюшон’. Такія галаўныя ўборы насілі ў час жалобы па манарху. – *Заўвага рэд.*

** **Гродскі суд** – павятовы суд для шляхты ВКЛ, тое, што і *замкавы суд*. Назва паходзіць ад слова *грод* ‘умацаванае месца, замак’. – *Заўвага рэд.*

*Книги сѹдей* і інш. Скарына ў “Предсловии въ притчи Премѹдраго Саломона, Царꙗ Израилева” напісаў: “Пожиточьны же сѹть сие книги чести всѧкому человекѹ, мѹдрому и безумному, богатомѹ и вбогому, младомѹ и старому. Наболеи тымъ, они же хотѧтˢ имети добрые обычае, и позˢнати мѹдрость и наѹку”. Гэтыя словы і сапраўды можна аднесці да кніг не толькі рэлігійнага зместу.

Кнігі Новага Запавету – *евангелие* (*еванелие, еванкгелие, еваньгелие, еваньгелие, еувангелие, еуангелье, эвангелея*) ‘кніга Новага Запавету, у якой апісваецца зямное жыццё Ісуса Хрыста’, *откровенье* (*откровение*) *святого Иоанна* ‘апакаліпсіс (кніга Новага Запавету, аўтарам якой, згодна з царкоўнай традыцыяй, лічыцца апостал Іаан Багаслоў)’, *тетраевангелие* ‘чацвераевангелле, у якім змяшчаюцца Евангеллі ад Марка, Іаана, Мацвея, Лукі’. Урачыста аздобленая кніга, што знаходзілася на царкоўным прастоле, называлася *евангелие напрестольное*. Кнігі, якія выкарыстоўваліся ў набажэнстве, называліся *апракосъ* ‘царкоўная кніга, у якой чытанні размяшчаюцца па парадку святочных дзён’, *житие, житье, жывотъ, животъ, книги животныя* ‘назвы кніг, у якіх апісана жыццё і дзейнасць святых айцоў’, *минея* ‘кніга, у якой змяшчаюцца тэксты царкоўных службаў у адпаведнасці з праваслаўным царкоўным календаром’, *охтаикъ, охтаихъ* ‘царкоўная кніга песнапенняў, пакладзеных на 8 галасоў’, *правила великие* (*Григорьевские*) ‘назвы кананічных кніг, якія служаць вернікам нязменным правілам іх веры’, *потребникъ, требникъ* ‘кніга, дзе сабраны малітвы для адпраўлення трэб – рэлігійных абрадаў, якія свяшчэннік выконвае па просьбах вернікаў’, *часословецъ* ‘часаслоў’ і інш.

У старабеларускай свецка-мастацкай пісьменнасці выкарыстоўваліся такія назвы кніг (літаратурных твораў): *гисторыя, гистория, исторыя* ‘кніга, у якой апісваюцца падзеі мінулага’, ‘апавяданне’ (*Гисторіа ѡ ивони влоском гсдри; Историѧ ѡ кнѧжати Кгвидоне; Историѧ о Атыли, короли Угоръском*); *диариушъ* ‘дзённік’ (*Діаріѹшъ албо список дѣевъ правдивых*); *летописецъ* ‘летапіс, хроніка’ (*Летописец великих князей литовских*); *кройника* (*кроника*) ‘хроніка’ (*Кроˢника о великих кнзех литовских*), повесть ‘апавяданне’ [*Починаетьсѧ повесть ѡ витезѧх с книг сэрбъских, а звлаща ѡ славном рыцэры Трысчан(е), ѡ Анцалоте и ѡ Бове и о иншых многих витезех…*]; *приповесть* ‘павучальнае апавяданне іншасказальнага характару’; *сказание* ‘паданне’ (*Сказание о войне Троянской*); *трактатъ* (*трактакъ*) ‘трактат’; *хронографъ* ‘летапісец’ і інш. Змястоўныя і карысныя звесткі пра тэксты, назвы якіх прыведзены, можна знайсці ў энцыклапедыі “Беларуская мова”, у “Гісторыі беларускай літаратуры XI – XIX стст.”, а з самімі тэкстамі, цікавымі і пазнавальнымі, можна пазнаёміцца ў хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы, хрэстаматыі па даўняй беларускай літаратуры.

Лёс разгледжаных лексічных адзінак у гісторыі беларускай літаратурнай мовы склаўся па-рознаму. Так, адны з іх выйшлі з ужытку (напрыклад, *книголюбецъ*, *книгочий*, *ободница*), другія змянілі свой семантычны аб’ём [напрыклад, *кніжнік* 1) ‘знавец і аматар кніг’, *‘іран.* пра адарванага ад жыцця чалавека, які кіруецца ў сваёй дзейнасці ведамі, набытымі з кніг’, 2) *‘устар.* перапісчык або друкар; выдавец кніг’; *кніжны* 1) ‘які мае адносіны да кнігі (у 1-м знач.), звязаны з кнігай’, ‘прызначаны для кніг’, ‘які гандлюе кнігамі’, 2) ‘узяты з кніг, не падмацаваны жыццёвым вопытам’, 3) ‘характэрны для пісьмовага літаратурнага тэксту’]. Само ж слова *кніга* ў сучаснай беларускай мове абазначае: 1) ‘друкаванае выданне (даўней – рукапіснае) у форме зброшураваных і пераплеценых разам аркушаў з тэкстам і ілюстрацыямі’, ‘твор больш-менш значнага памеру, надрукаваны або падрыхтаваны да друку асобным выданнем’, 2) ‘сшытыя, пераплеценыя аркушы паперы для якіх-небудзь запісаў’, 3) ‘адна з некалькіх вялікіх частак навуковага ці літаратурнага твора’, 4) *‘перан.* пра тое, з чаго можна атрымаць якія-небудзь звесткі, у чым знайшло адбітак, адлюстраванне што-н.’, 5) ‘адзін з чатырох аддзелаў страўніка жвачных жывёл, слізістая абалонка якога ўтварае складкі, падобныя на лісты паўразгорнутай кнігі’. Як бачым, у семантыцы гэтай лексемы таксама адбыліся змены.

**Скарачэнні**

**АВК** – Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов. Т. I – XXXIX. – Вильна, 1865 – 1915; **ИЮМ** – Историко-юридические материалы, извлеченные из архивных книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. I – XXXII. – Витебск, 1871 – 1906; **КЗ** – Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. 28 (1522 – 1552). Кніга запісаў 28 / падрыхт. тэкстаў да друку і навук. апарат: В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. – Мінск, 2000. – 312 с.; **Неба** – Аб паясах нябесных: рукапіс канца XVI ст. Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна. 09/276 К. Л. 60б – 80б; **Скар.** – Бивлия руска выдання Ф. Скарыны 1517 – 1519 гг.; **ДЗ** – Другазаконне; **Ст. 1566** – Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г.: рукапіс. Дзярж. публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. F. II. 34; **Стрыйк.** – Кроника словяновъ руская о панствах рускіх, полских и литовских (Хроніка М. Стрыйкоўскага): рукапіс пачатку XVII ст. Дзярж. публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. F. IV. 688; **Чэцця** – Чэцця 1489 г.: рукапіс. Б-ка АН УССР. ДА/415 л.

**Наталля ПАЛЯШЧУК,**
кандыдат філалагічных навук.





*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

# ПАКАЦІГАРОШАК І ЯГО КАМПАНІЯ, ці ПРАВАПІС СКЛАДАНЫХ НАЗОЎНІКАЎ

Ці можна палічыць словы? На першы погляд, зрабіць гэта даволі проста: дастаткова зірнуць у тлумачальны слоўнік, дзе ўказана колькасць пададзеных слоў. Аднак у яго, як правіла, трапляе не ўся лексіка, а толькі тая, якая належыць да літаратурнай. Сюды не ўключаюцца ўсе дыялектызмы, аказіяналізмы, неалагізмы і іншыя словы, што адносяцца да сферы пасіўнага ўжытку.

Ёсць меркаванні, што ў германскіх мовах, такіх, як нямецкая або шведская, агульная колькасць слоў большая, чым у раманскіх, – перш за ўсё за кошт словаскладання. Натуральна, у такі слоўнік трапляе шмат складаных слоў.

І ўсё ж словы ў мове нельга палічыць, бо адны з іх знікаюць, другія нараджаюцца. Незлічоная колькасць слоў пацвярджае ісціну: мова любога народа бязмежная. Што рабіць чалавеку ў гэтым моўным акіяне? Ці павінен ён ведаць сотні тысяч слоў або можа абысціся ўсяго некалькімі тысячамі?

Для адукаванага чалавека лексічны запас ацэньваецца ў сярэднім у 5 – 10 тысяч слоў. Але і тут ёсць свае вяршыні. Таленавіты пісьменнік можа выкарыстаць значна больш слоў, чым звычайны чалавек. Так, у “Слоўніку мовы Пушкіна” ў 4 т. (М., 1956 – 1961) зафіксаваны непераўзыдзены паказчык – прыблізна 24 тысячы. Гэты рубеж мог перасягнуць “Слоўнік мовы У. І. Леніна”, які доўга рыхтаваўся, але так і не быў выдадзены. Паводле некаторых звестак, у ім павінна было змяшчацца каля 30 тысяч слоў. Сёння, пры адсутнасці абяцанага слоўніка, цяжка меркаваць, чаго ў чаканых рэкордах было больш – “лексічнай” геніяльнасці ці ідэалогіі.

Як бачым, колькасць наяўных слоў і слоў, якімі карыстаецца чалавек, вельмі розная. Таму, адказваючы на пастаўленае пытанне, заўважым: чалавеку не абавязкова ведаць усе словы, але ўмець правільна запісаць любое пачутае слова ён павінен, бо гэта – справа гонару. Для чаго і існуе арфаграфія, якая ахоплівае максімальную колькасць правіл напісання. У ёй асабліва месца займаюць складаныя назоўнікі, якія могуць пісацца разам ці праз злучок.

Увогуле дэфісныя напісанні з’явіліся толькі ў XVIII ст. у выпадках, калі цяжка было ўстанавіць мяжу слова і адназначна прыняць адзін з двух спосабаў напісання: асобна ці разам. Вядома, што ўвядзенне злучка мела шмат апанентаў. Напрыклад, А. Сумарокаў катэгарычна пратэставаў: “*Выдумали ставити новомодные или паче новоскаредные палочки, например, о-рть, наводу и проч.*”. Аднак паступова нялітарны знак увайшоў у сістэму кірыліцы, які спачатку называлі проста *рысачкай*, а запазычанае *дэфіс* выкарыстоўвалі толькі як друкарскі тэрмін.

Напісанні праз злучок невыпадкова называюць паўзлучнымі. Менавіта гэтым падкрэсліваецца здольнасць дэфіса выконваць адначасова і злучальную, і раздзяляльную функцыі. Так, у словах *па-беларуску*, *па-за*, *светла-зялёны* злучок перш за ўсё раздзяляе часткі аднаго слова, а ў спалучэннях *гора-пісьменнік*, *сіні-сіні*, *ледзь-ледзь*, *горача-горача*, *хто-хто*, *ён-ён*, *хадзілі-хадзілі* выконвае функцыю злучэння двух слоў у складзе адной намінацыі “ўзмоцненага” значэння. Спаянасць значэння дэманструецца ў спецыяльна ўтвораных у фальклоры характарыстыках тыпу *ўзвейвецер*, *жар-птушка*, прыдуманых мянушках герояў мастацкіх твораў: *Алік-у-Акулярах* (А. Куваеў), *Апошні-Хто-Яшчэ-Памятае* (А. Крон), дзе складнікі мянушак дэманструюць семантычную спаянасць і сэнсавую непадзельнасць. Іншыя словы пішуцца разам. Напрыклад, *Пакацігарошак* і яго кампанія – *Крушыгоры* і *Вырвідуб*.

Як бачым, утвараць складаныя назоўнікі проста, таму што славянскія мовы маюць здольнасць спалучаць два, тры кампаненты ў адно слова. Дапамагаюць гэта рабіць ці злучальныя галосныя (*чалавекалюбства*), ці злучок (*папараць-кветка*).

У новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” пададзены нормы, якія ахопліваюць усе формы складаных назоўнікаў, г. зн. акрэсліваецца правапіс наяўных і магчы-

***Віктар Іванавіч Іўчанкаў*** *– доктар філалагічных навук, прафесар. Мовазнаўца і журналіст. З 1989 г. працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (спачатку на пасадзе дацэнта, з 1996 г. – загадчыка кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта). Аўтар больш як 250 навуковых і метадычных прац, у тым ліку сямі манаграфій. Змясціў на старонках друку больш за 200 публіцыстычных матэрыялаў па праблемах адукацыі, навукі і выхавання. З 1990 г. актыўна друкуецца ў прэсе па праблемах правапісу ("Чырвоная змена", "Звязда", "Народная газета", "Настаўніцкая газета", "СБ. Беларусь сегодня", "Літаратура і мастацтва", "Крыніца", "Роднае слова", "Беларуская мова і літаратура", "Пачатковая школа", "Пралеска" і інш.). Займаецца даследаваннем стылістыкі беларускай і рускай моў, прысвяціў манаграфіі вывучэнню стыляў Уладзіміра Караткевіча і рускага пісьменніка Юрыя Казакова. Фундаментальная праца "Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту" паклала пачатак фарміраванню ў галінах журналістыкі і лінгвістыкі самастойнага навуковага адгалінавання – лінгвістыкі публіцыстычнага тэксту. Заснавальнік на Беларусі навуковай школы дыскурснага аналізу СМІ. Член Беларускага саюза журналістаў. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, выдатнік друку Рэспублікі Беларусь.*



мых формаў слова. Пра некаторыя нормы напісання складаных назоўнікаў і пагаворым.

Такім чынам, пішуцца разам:

складаныя назоўнікі з дзвюх і больш асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальных галосных *о* (*а*), *е* (*я*): *конезавод*, *льнозавод*, *далягляд*, *землетрасенне*, *птушкагадоўля*, *бульбакапалка*, *хлебапякарня*, *свінагадоўля*, *старадрук*, *чарназём*, *гарналыжнік*, *самалёт*, *паталагаанатам*, *медыкапсіхолаг*;

складаныя назоўнікі, у якіх першай часткай з'яўляецца дзеяслоўная форма загаднага ладу на *-і* (*-ы*): *вярцішыйка*, *сарвігалава*, *вярнідуб*, *прайдзісвет*, *пакацігарошак*; але: *перакаці-поле*;

складаныя назоўнікі ад'ектыўнага тыпу скланення, калі яны з'яўляюцца навуковымі тэрмінамі: *галаваногія*, *бруханогія*;

складаныя ўласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай *нова-* (*нава-*), *стара-*, *верхне-* (*верхня-*), *ніжне-* (*ніжня-*), *сярэдне-* (*сярэдня-*) і інш.: *Новалукомль*, *Наваполацк*, *Навасады*, *Навагрудак*, *Старакожаўка*, *Верхнядзвінск*, *Ніжнявартаўск*, *Сярэдняборск*, *Краснаполле*, *Крутагор'е*, *Светлагорск*.

Пішуцца праз злучок складаныя назоўнікі:

у якіх скланяюцца ўсе словы: *папараць-кветка*, *вагон-рэстаран*, *лётчык-касманаўт*, *член-карэспандэнт*;

у якіх скланяецца толькі апошняе слова: *жар-птушка*, *сон-трава*, *стоп-сігнал*, *вакуум-насос*, *дызель-матор*, *генерал-маёр*, *прэм'ер-міністр*, *норд-ост*;

з аднаслоўным прыдаткам: *лён-даўгунец*, *заяц-русак*, *нявеста-красуня*, *дзед-мароз*, *горад-герой*. Пры адваротным парадку назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца: *красуня дзяўчына*;

са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна*, *тона-кіламетр-гадзіна*, *самалёта-вылет*, *чалавека-дзень*; але: *працадзень*;

якія называюць прадстаўнікоў палітычных і іншых грамадскіх рухаў: *ліберал-дэмакрат*, *нацыянал-патрыёт*, *сацыял-дэмакрат*;

з пачатковымі часткамі *арт-*, *віцэ-*, *вэб-*, *лейб-*, *максі-*, *міні-*, *обер-*, *унтэр-*, *штаб-* (*штабс-*), *экс-*, *прэс-*, *блок-*: *арт-галерэя*, *віцэ-прэм'ер*, *вэб-старонка*, *лейб-гвардыя*, *максі-прэс*, *міні-матч*, *обер-майстар*, *унтэр-афіцэр*, *штаб-ротмістр*, *штабс-капітан*, *экс-чэмпіён*, *экс-прэм'ер*, *прэс-сакратар*, *блок-сігнал*; але: *блокпост*.

*Працяг будзе.*

## ДА ЎВАГІ АЎТАРАЎ!
## Патрабаванні да афармлення матэрыялаў

Рэдакцыя прымае на разгляд матэрыялы на беларускай мове аб'ёмам да 15 старонак у электронным выглядзе. Тэкставая інфармацыя мусіць быць запісаная ў фармаце doc або rtf, дапускаецца мінімальнае фарматаванне (шрыфт Times New Roman, вылучэнні або курсівам, або паўтлустым прамым, або паўтлустым курсівам). Калі матэрыял дасылаецца па электроннай пошце, пажадана, каб і тэма ліста, і імя далучанага файла ўтрымлівалі поўную назву артыкула.

Уся нятэкставая інфармацыя на электронных носьбітах (фота, графікі і да т. п.) можа быць запісана ў любым графічным фармаце (jpg, tiff; ≥ 300 ppi), але не павінна знаходзіцца ў тэксце ў фармаце Word. Ілюстрацыі, знойдзеныя ў інтэрнэце, да публікацыі не прымаюцца. Фотаздымкі аўтараў павінны быць партрэтнага фармату, добрай якасці (ні ў якім выпадку не ксеракопіі!).

Неабходна ўказваць прозвішча, імя і імя па бацьку аўтара, месца яго працы, пасаду, вучоную ступень, званне, хатні адрас, тэлефоны, пашпартныя звесткі (серыя, нумар, калі і кім выдадзены, асабісты нумар, адрас рэгістрацыі). Без гэтых звестак матэрыялы прымацца не будуць.

На распрацоўках урокаў і сцэнарыях трэба пазначаць клас, чвэрць і месяц, калі тэма вывучаецца ў школе.

*Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: ДЫДАКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

*Працяг. Пачатак у №№ 6, 9 – 12 за 2010 год.*

### ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

**Заданне 1.** Запішыце ў два слупкі словы, у якіх у форме творнага склону а) пішуцца падоўжаныя зычныя; б) не пішуцца падоўжаныя зычныя.

**Варыянт 1.** Аброць, адлегласць, адсталасць, адэкватнасць, асецць, бандэроль, бяздараж, беззаконнасць, боль, боязь, быль, вадкасць, веліч, вернасць, вертыкаль, водпаведзь, восень, вядомасць, гавань, газель, гаспадарчасць, гаючасць, герань, гібельнасць, глуш, горыч, гразь, грамадскасць, доблесць, дробязь, дужасць, едкасць, ерась, жорсткасць, завязь, задаволенасць, занятасць, запаведзь, каніцель, косць, кішэнь, колькасць, косць, лесастэп, лотаць, любасць, магістраль, мараль, медзь, наіўнасць, палымянасць, паўсядзённасць, педаль, печань, празмернасць, просінь, пяць, радасць, рань, рукапіс, рунь, смерць, сувязь, упартасць, хуткасць, шэсць, шчолач, яснасць.

**Варыянт 2.** Аднастайнасць, адсутнасць, акварэль, акругласць, бездань, бель, беражлівасць, большасць, борць, ваніль, вермішэль, верф, вільгаць, віяланчэль, вобласць, галантнасць, ганарыстасць, гантэль, гартань, гарызанталь, гарыстасць, гібель, гладзь, граматнасць, гуаш, даверанасць, далеч, даўнасць, дваццаць, дуэль, дыяганаль, дэталь, ёмістасць, жудасць, загарадзь, задушэўнасць, залеж, замецць, здольнасць, інертнасць, карамель, карысць, квецень, летапіс, мадэль, масць, медаль, моль, нагляднасць, паралель, печ, плённасць, плынь, поўнач, поўсць, роспач, ртуць, рухомасць, рэч, смеласць, соль, сем, тыповасць, хцівасць, цемень, цемрадзь, цюль, часць.

**Заданне 2.** Раскрыйце дужкі, выбіраючы патрэбны варыянт напісання.

А(д, дд)ача, а(дз, ддз)ел, а(дз, ддз)якаваць, а(к, кк)орд, А(л, лл)ах, а(п, пп)арат, а(п, пп)етыт, а(с, сс)амблея, агрэ(с, сс)ія, адкры(ц, цц)ё, адушаўле(н, нн)е, ады(с, сс)ея, антэ(н, нн)а, аўтатра(с, сс)а, ба(с, сс)ейн, багамо(л, лл)е, баране(с, сс)а, безгало(с, сс)е, бу(д, дд)ызм, бязбо(ж, жж)а, бязво(дз, ддз)е, глыта(н, нн)е, гра(м, мм)атыка, дзека(н, нн)е, ды(ф, фф)узія, дыягра(м, мм)а, іды(л, лл)ія, і(л, лл)юзія, і(м, мм)унітэт, інка(с, сс)атар, інтэ(л, лл)ект, ка(л, лл)егія, ка(л, лл)едж, кало(с, сс)е, камі(с, сс)арыят, камі(с, сс)ія, ка(р, рр)эктны, ма(с, сс)авы, мета(л, лл)ічны, ме(ц, цц)а-сапрана, па(с, сс)ажыр, пі(ц, цц)эрыя, прынцэ(с, сс)а, раё(н, нн)ы, разво(дз, ддз)е, ра(с, сс)ада, ра(с, сс)ольнік, се(с, сс)ія, сме(ц, цц)е, спецгру(п, пп)а, стэ(л, лл)а, су(дз, ддз)я, сю(р, рр)эалізм, тэ(н, нн)існы, тэ(р, рр)арызм, цэ(н, нн)ік, э(с, сс)енцыя, э(с, сс)э, ю(н, нн)ы.

**Заданне 3.** Перакладзіце словы на беларускую мову*.

Аббат, автоaралли, аккуратный, безволие, бессмертие, ванна, депрессия, дискуссия, иллюминатор, комиссия, комментарий, компрессия, Купалье, либретто, массаж, массив, металлопрокат, миссис, нарцисс, некорректный, офис, параллелизм, песчаник, пицца, пограничье, поддёвка, пресс-атташе, приволье, пропеллер, профессура, прошение, радиоаппарат, развитие, рассол, субботник, тарантелла, третий, туннель, хоккей, эффектный.

**Заданне 4.** Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары.

**Варыянт 1.** Аб'ект – аб'ек…ны, абанент – абанен…кі, аванпост – аванпос…ны, агароднік – агародні…кі, адвакат – адвака…кі, адрас – адрас…ны, адэкватнасць – адэква…ны, асістэнт – асістэн…кі, беларус – белару…кі, Бог – бо…тва – бо…скі, бульбавод – бульбаво…ства, вадкасць – вадкас…ны, ведамасць – ведамас…ны, вобласць – аблас…ны, Волга – вол…скі, гнілаcць – гнілас…ны, грамада – грама…скасць, дробязь – дробяз…ны, езуіт – езуі…кі, жабрак – жабра…тва, зайздрасць – зайздрос…ны – зайздрос…лівы, землякі – зямля…тва, індус – інду…скі, кадэт – кадэ…кі, казак – каза…кі, кампост – кампос…ны, кандыдат – кандыда…кі, кантракт – кантрак…ны, культ – акуль…ны, ласка – абла…чаны, ляснік – лясні…тва, маёмасць – маламаёмас…ны, месца – аднамес…ны, Мінск – Мін…чына, нявестка – нявес…чын, парламент – парламен…кі, Польшча – поль…скі, помста – помс…лівы, радасць – бязрадас…ны, сардэчны – міласэр…насць, свет – велікасве…кі, смерць – бяссмер…це – бяссмер…нік, стандарт – нестандар…ны, такт – бястак…ны, хістацца – непахіс…ны, хуткасць – хуткас…ны, чэсць – чэс…ны, Чэхія – чэ…скі, шчасце – шчас…лівы, якасць – нізкаякас…ны.

**Варыянт 2.** Абат – аба…кі, абстракцыя – абстрак…ны, абсурд – абсур…ны, агент – аген…кі – аген…тва, азарт – азар…насць, Ака – о…скі, ба́лты – бал…кі, боязь – богабаяз…ны – бязбояз…на, Буг – бу…скі, вартасць – вартас…ны, віск – ві…чаць, выезд – бязвыез…на, гратэск – гратэс…ны, густы –

*"Роднае слова" працягвае друкаваць дыдактычныя матэрыялы **Ірыны Савіцкай**, распрацаваныя з улікам новай рэдакцыі правіл беларускага правапісу. У 2010 г. змешчаны матэрыялы "Правапіс галосных о, э, а", "Правапіс е, ё, я" (№ 6), "Правапіс галосных у складаных словах", "Правапіс спалучэнняў галосных у іншамоўных словах" (№ 9), "Правапіс прыстаўных і ўставных гукаў", "Правапіс і, ы, й пасля прыставак" (№ 10), "Правапіс д і дз, т і ц" (№ 11), "Правапіс у і ў" (№ 12).*

* Заданне павышанай цяжкасці.

загус…нуць, дэфект – дэфек…ны, жаласць – жалас…ліва – жалас…на, журналіст – журналіс…кі, засцілаць – зас…лаць, захопнік – захопні…кі, індуізм – індуіс…кі, какетка – каке…тва, калеж – кале…скі, Канада – кана…скі, кантэкст – кантэкс…ны, карэктура – карэк…ны, князь – кня…тва, крыўда – бяскрыў…ны, купец – купе…тва, Ладага – лада…скі, лётчык – лётчы…кі, літасць – бязлітас…ны, малалетні – малале…тва, манах – мана…кі, мёртвы – абмяр…велы, мысліць – зламыс…ны, паўстанец – паўстан…кі, Полацк – Пола…ына, праезд – праяз…ны, прасці – пра́с…ніца, салдат – па-салда…ку, сапернік – саперні…тва, скарга – абскар…анне, Славакія – слава…кі, сорт – высакасор…ны, ткач – тка…тва, фармат – буйнафарма…ны, хрысціць – хрос…ны – хрэс…нік, Чыкага – чыка…скі, чэрствы – зачарс…велы, шэрсць – гладкашэрс…ны, язычнік – язычні…тва.

**АДКАЗЫ**

**Заданне 1. Варыянт 1.**

| А | Б |
|---|---|
| Аброццю, асеццю, бандэроллю, бездаражжу, бояззю, быллю, велiччу, вертыкаллю, водпаведдзю, восенню, гаванню, газеллю, геранню, глушшу, горыччу, граззю, дробяззю, ерассю, завяззю, запаведдзю, каніцеллю, кішэнню, лотаццю, магістраллю, мараллю, меддзю, педаллю, печанню, просінню, пяццю, ранню, рунню, сувяззю, шчолаччу | Адлегласцю, адсталасцю, адэкватнасцю, беззаконнасцю, болем, вадкасцю, вернасцю, вядомасцю, гаспадарчасцю, гаючасцю, гібельнасцю, грамадскасцю, доблесцю, дужасцю, едкасцю, жорсткасцю, заданасцю, занятасцю, кісцю, колькасцю, косцю, лесастэпам, любасцю, наіўнасцю, палымянасцю, паўсядзённасцю, празмернасцю, радасцю, рукапісам, смерцю, упартасцю, хуткасцю, шасцю, яснасцю |

**Варыянт 2.**

| А | Б |
|---|---|
| Акварэллю, безданню, беллю, ваніллю, вермішэллю, вільгаццю, віяланчэллю, гантэллю, гартанню, гарызанталлю, гібеллю, гладдзю, гуашшу, далеччу, дваццаццю, дуэллю, дыяганаллю, дэталлю, загараддзю, замецццю, карамеллю, квеценню, мадэллю, моллю, паралеллю, печчу, плынню, поўначчу, роспачу, ртуццю, рэччу, соллю, цеменню, цемраддзю | Аднастайнасцю, адсутнасцю, акругласцю, беражлівасцю, большасцю, борцю, верф'ю, вобласцю, галантнасцю, ганарыстасцю, гарыстасцю, граматнасцю, даверанасцю, даўнасцю, ёмістасцю, жудасцю, задушэўнасцю, залежам, здольнасцю, інертнасцю, карысцю, летапісам, масцю, медалём, наглряднасцю, плённасцю, поўсцю, рухомасцю, смеласцю, сямю, тыповасцю, хцівасцю, цюлем, часцю |

**Заданне 2.** Аддача, аддзел, аддзякаваць, акорд, Алах, апарат, апетыт, асамблея, агрэсія, адкрыццё, адушаўленне, адысея, антэна, аўтатраса, басейн, багамолле, баранеса, безгалоссе, будызм, бязбожжа, бязводдзе, глытанне, граматыка, дзеканне, дыфузія, дыяграма, ідылія, ілюзія, імунітэт, інкасатар, інтэлект, калегія, каледж, калоссе, камісарыят, камісія, карэктны, масавы, металічны, мецца-сапрана, пасажыр, піцэрыя, прынцэса, раённы, разводдзе, расада, расольнік, сесія, смецце, спецгрупа, стэла, суддзя, сюррэалізм, тэнісны, тэрарызм, цэннік, эсенцыя, эсэ, юны.

**Заданне 3.** Абат, аўтаралі, акуратны, бязволле, бяссмерце, ванна, дэпрэсія, дыскусія, ілюмінатар, камісія, каментарый (каментар), кампрэсія, Купалле, лібрэта, масаж, масіў, металапракат, місіс, нарцыс, некарэктны, офіс, паралелізм, пясчанік, піца, пагранічча (памежжа), паддзёўка, прэс-аташэ, прыволле, прапелер, прафесура, прашэнне, радыёапарат, развіццё, расол, суботнік, тарантэла, трэці, тунэль, хакей, эфектны.

**Заданне 4. Варыянт 1.** Аб'ект – аб'ектны, абанент – абаненцкі, аванпост – аванпосны, агароднік – агародніцкі, адвакат – адвакацкі, адрас – адрасны, адэкватнасць – адэкватны, асістэнт – асістэнцкі, беларус – беларускі, Бог – боства – боскі, бульбавод – бульбаводства, вадкасць – вадкасны, ведамасць – ведамасны, вобласць – абласны, Волга – волжскі, гніласць – гніласны, грамада – грамадскасць, дробязь – дробязны, езуіт – езуіцкі, жабрак – жабрацтва, зайздрасць – зайздросны – зайздрослівы, землякі – зямляцтва, індус – індускі, кадэт – кадэцкі, казак – казацкі, кампост – кампосны, кандыдат – кандыдацкі, кантракт – кантрактны, культ – акультны, ласка – аблашчаны, ляснік – ляснiцтва, маёмасць – маламаёмасны, месца – аднамесны, Мінск – Міншчына, нявестка – нявестчын, парламент – парламенцкі, Польшча – польскі, помста – помслівы, радасць – бязрадасны, сардэчны – міласэрнасць, свет – велікасвецкі, смерць – бяссмерце – бяссмертнік, стандарт – нестандартны, такт – бястактны, хістацца – непахісны, хуткасць – хуткасны, чэсць – чэсны, Чэхія – чэшскі, шчасце – шчаслівы, якасць – нізкаякасны.

**Варыянт 2.** Абат – абацкі, абстракцыя – абстрактны, абсурд – абсурдны, агент – агенцкі – агенцтва, азарт – азартнасць, Ака – окскі, ба́лты – балцкі, боязь – богабаязны – бязбоязна, Буг – бугскі, вартасць – вартасны, віск – вішчаць, выезд – бязвыезна, гратэск – гратэскны, густы – загуснуць, дэфект – дэфектны, жаласць – жаслаліва – жаласна, журналіст – журналісцкі, засцілаць – заслаць, захопнік – захопніцкі, індуізм – індуісцкі, какетка – какецтва, калеж – калежскі, Канада – канадскі, кантэкст – кантэкстны, карэктура – карэктны, князь – княства, крыўда – бяскрыўдны, купец – купецтва, Ладага – ладажскі, лётчык – лётчыцкі, літасць – бязлітасны, малалетні – малалецтва, манах – манаскі, мёртвы – абмярцвелы, мысліць – зламысны, паўстанец – паўстанцкі, Полацк – Полаччына, праезд – праязны, прасці – пра́сніца, салдат – па-салдацку, сапернік – саперніцтва, скарга – абскарджанне, Славакія – славацкі, сорт – высакасортны, ткач – ткацтва, фармат – буйнафарматны, хрысціць – хросны – хрэснік, Чыкага – чыкагскі, чэрствы – зачарцвелы, шэрсць – гладкашэрсны, язычнік – язычніцтва.

**Ірына САВІЦКАЯ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС І ГРАМАТЫКА: ТЭОРЫЯ І ЗАДАННІ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 7 – 12 за 2010 год.*

### СКЛАНЕННЕ І ПРАВАПІС КОЛЬКАСНЫХ І ПАРАДКАВЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон | Колькасныя прыметнікі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | **1** | **2, 3, 4** | **5 – 10, 11 – 20, 30** | **40, 90, 100** | **1000** |
| Н. | адзін<br>адн-*о*<br>адн-*а*<br>адн-*ы* | дв-*а*<br>дзв-*е*<br>тр-*ы*<br>чатыр-*ы* | пяць<br>дзесяць<br>адзінаццаць<br>дваццаць<br>трыццаць | сорак<br>дзевя-<br>ност-*а*<br>ст-*о* | тысяч-*а*<br>тысяч-*ы* |
| Р. | адн-*аго*<br>адн-*ой* (-*ае*)<br>адн-*ых* | дв-*ух*<br>дзв-*юх*<br>тр-*ох*<br>чатыр-*ох* | пяц-*і*<br>дзесяц-*і*<br>адзінаццац-*і*<br>дваццац-*і*<br>трыццац-*і* | сарак-*а*<br>дзевя-<br>ност-*а*<br>ст-*а* | тысяч-*ы*<br>тысяч |
| Д. | адн-*аму*<br>адн-*ой*<br>адн-*ым* | дв-*ум*<br>дзв-*юм*<br>тр-*ом*<br>чатыр-*ом* | пяц-*і*<br>дзесяц-*і*<br>адзінаццац-*і*<br>дваццац-*і*<br>трыццац-*і* | сарак-*а*<br>дзевя-<br>ност-*а*<br>ст-*а* | тысяч-*ы*<br>тысяч-*ам* |
| В. | як у Н. ці Р. | як у Н. ці Р. | пяць<br>дзесяць<br>адзінаццаць<br>дваццаць<br>трыццаць | сорак<br>дзевя-<br>ност-*а*<br>ст-*о* | тысяч-*у*<br>тысяч-*ы* |
| Т. | адн-*ым*<br>адн-*ой* (-*ою*)<br>адн-*ымі* | дв-*ума*<br>дзв-*юма*<br>тр-*ыма*<br>чатыр-*ма* | пяцц-*ю*<br>дзесяцц-*ю*<br>адзінаццацц-*ю*<br>дваццацц-*ю*<br>трыццацц-*ю* | сарак-*а*<br>дзевя-<br>ност-*а*<br>ст-*а* | тысяч-*ай*<br>(-*аю*)<br>тысяч-*амі* |
| М. | (у) адн-*ым*<br>(у) адн-*ой*<br>(у) адн-*ых* | (у) дв-*ух*<br>(у) дзв-*юх*<br>(у) тр-*ох*<br>(у) чатыр-*ох* | (у) пяц-*і*<br>(у) дзесяц-*і*<br>(у) адзінаццац-*і*<br>(у) дваццац-*і*<br>(у) трыццац-*і* | (у) сарак-*а*<br>(у) дзевя-<br>ност-*а*<br>(у) ст-*а* | (у) тысяч-*ы*<br>(у) тысяч-<br>*ах* |

| Склон | Колькасныя лічэбнікі | Парадкавыя лічэбнікі |
|---|---|---|
| Н. | тысяч-*а* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восем | тысяч-*а* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восьм-*ы* |
| Р. | тысяч-*ы* дзевяцісот дзе-вяност-*а* васьм-*і* | тысяч-*а* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восьм-*ага* |
| Д. | тысяч-*ы* дзевяціст-*ам* дзевяност-*а* васьм-*і* | тысяч-*а* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восьм-*аму* |
| В. | тысяч-*у* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восем | як у Н. ці Р. |
| Т. | тысяч-*ай* дзевяцюст-*амі* дзевяност-*а* васьм-*ю* | тысяч-*а* дзевяцьсот дзе-вяност-*а* восьм-*ым* |
| М. | аб тысяч-*ы* дзевяціст-*ах* дзевяност-*а* васьм-*і* | аб тысяч-*а* дзевяцьсот дзевяност-*а* восьм-*ым* |

### СКЛАНЕННЕ І ПРАВАПІС ЗБОРНЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон | Зборныя лічэбнікі | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | дв-*ое* | пяцёр-*а* | абодв-*а* | абедзв-*е* |
| Р. | два-*іх* | пяцяр-*ых* | абодв-*ух* | абедзв-*юх* |
| Д. | два-*ім* | пяцяр-*ым* | абодв-*ум* | абедзв-*юм* |
| В. | як у Н. ці Р. | як у Н. ці Р. | як у Н. ці Р. | як у Н. ці Р. |
| Т. | два-*імі* | пяцяр-*ымі* | абодв-*ума* | абедзв-*юма* |
| М. | (у) два-*іх* | (у) пяцяр-*ых* | (у) абодв-*ух* | (у) абедзв-*юх* |

### СКЛАНЕННЕ І ПРАВАПІС ДРОБАВЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

| Склон | Дробавыя лічэбнікі | | |
|---|---|---|---|
| Н. | дзв-*е*<br>сём-*ыя* | дваццаць шэсць<br>цэлых пяць<br>дзясят-*ых* | паўтар-*а* (*кіламетра*)<br>паўтар-*ы* (*вёскі*)<br>паўтар-*а*-ст-*а* (*мужчын*) |
| Р. | дзв-*юх*<br>сём-*ых* | дваццац-*і*<br>шасц-*і* цэлых<br>пяц-*і* дзясят-*ых* | паўтар-*а* (*кіламетра*)<br>паўтар-*ы* (*вёскі*)<br>паўтар-*а*-ст-*а* (*мужчын*) |
| Д. | дзв-*юм*<br>сём-*ым* | дваццац-*і*<br>шасц-*і* цэлым<br>пяц-*і* дзясят-*ым* | паўтар-*а* (*кіламетрам*)<br>паўтар-*ы* (*вёскам*)<br>паўтар-*а*-ст-*а* (*мужчынам*) |
| В. | дзв-*е*<br>сём-*ыя* | дваццаць<br>шэсць цэлых<br>пяць дзясят-*ых* | паўтар-*а* (*кіламетра*)<br>паўтар-*ы* (*вёскі*)<br>паўтар-*а*-ст-*а* (*мужчын*) |
| Т. | дзв-*юма*<br>сём-*ымі* | дваццацц-*ю*<br>шасц-*ю* цэлымі<br>пяцц-*ю*<br>дзясят-*ымі* | паўтар-*а* (*кіламетрамі*)<br>паўтар-*ы* (*вёскамі*)<br>паўтар-*а*-ст-*а* (*мужчынамі*) |
| М. | (у) дзв-*юх*<br>сём-*ых* | (у) дваццац-*і*<br>шасц-*і* цэлых<br>пяц-*і* дзясят-*ых* | (у) паўтар-*а* (*кіламетрах*)<br>(у) паўтар-*ы* (*вёсках*)<br>(у) паўтар-*а*-ст-*а* (*муж-чынах*) |

### ПРАВАПІС ЛІЧЭБНІКАЎ

| Разам | Асобна | Праз дэфіс |
|---|---|---|
| складаныя колькасныя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляюцца *-дзясят (-дзесят), -сце, -ста, -сот*: *пяцьдзясят, семдзесят, дзвесце, трыста, семсот* | састаўныя колькасныя, парадкавыя і дробавыя лічэбнікі: *дзвесце трыццаць тры, шэсцьдзясят адзін, восемдзесят першы, дзве трэцця, тры сёмыя* | парадкавыя лічэбнікі, напісаныя лічбамі, пры спалучэнні іх з канчаткамі, часткамі канчаткаў, састаўнымі часткамі ў выглядзе слоў: *43-і, на 1-м км, 23-му, 10-мільённы* |
| складаныя парадкавыя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляюцца *-дзясяты, -соты, -тысячны, -мільённы* і інш.: *пяцідзясяты, двухсоты, трохтысячны, двухмільённы, дзесяцімільярдны* і інш. | | лічэбнікі, напісаныя словамі або лічбамі, якія абазначаюць прыблізны лік: *два-тры кілаграмы, тры-чатыры гадзіны, чатырнаццатае-пятнаццатае стагоддзе, 1-2 гады* (але: працяжнік ставіцца ў складаных і састаўных лічэбніках прыблізнага ліку: *праз сорак – пяцьдзясят хвілін, 20 – 30-я гады*, а таксама пры ўмоўным пералічэнні: *пункты 2 – 6, 5 – 6-я групы*) |

**Заданне 1.** Спішыце, замяніце лічбы словамі. Растлумачце правапіс лічэбнікаў.

**Варыянт 1.** 1. Зрабіўшы двухдзённы разгон у падраздзяленнях, зняўшы з пасад 2 камандзіраў і 3 іх намеснікаў, генерал выправіўся на не дужа

далёкі (за 250 кіламетраў) аэрадром стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў. 2. Дзяжурны перадае загад камандзіра паехаць на 27-ы кіламетр, дзе ў камандуючага сапсаваўся "ЗІМ". 3. Малаковіч загарнуў у тарбіну дзве вінтоўкі – нашу, мадэлі 1891 – 1830 года, і новенькую нямецкую з абшкрэбанай ложай. 4. Следам за Марыяй ён таксама пачаў перабіраць у куфры бязладна наваленыя туды тамы старых выданняў і сярод іх цяжкі камплект "Нивы" за 1916 год. 5. Увогуле някепскі сярэдні танк Т-34, манеўровы, з добрым рухавіком, меў слабую браню і пры кепскай 76-міліметровай гармаце рабіўся лёгкай здабычай супрацьтанкавай зброі. 6. Папера была так сабе, сшытак у клетачку, чарніла даволі вадзяністае, але ручку ён меў сваю, вучнёўскую, з выдатна распісаным пяром нумар 86 (паводле В. Быкава).

**Варыянт 2.** 1. Нарэшце глыбокай восенню 1602 года па навакольных цэрквах сяляне ўзялі прысягу каралю Стаху. 2. Ніжэй 19-га калена радаводу быў надпіс, зроблены дробным почыркам: "26 кастрычніка 1870 года нарадзілася дачка мая, Надзея". 3. Яна не танцавала, яна лётала ў паветры, і я амаль нёс яе над падлогай, і лёгка было, бо ў ёй не было больш за 125 фунтаў. 4. Кошт жыта – 50 капеек пуд, значыцца – дзесяціна дае даход у 10 рублёў на год, і, значыцца, з усёй зямлі 500 рублёў у год. 5. Я тут жа змераў пергамент. Даўжынёю ён быў, як разгорнеш, у 63 сантыметры, шырынёю – у 49 міліметраў. 6. А ў нас у Беларусі ўвогуле дзве вярсты: малая – 789 сажняў і вялікая – 1000 сажняў (паводле У. Караткевіча).

**Заданне 2.** Запішыце лікі і лічбавыя абазначэнні словамі.

**Варыянт 1.** 60, 200, 2007, 856 мільярдаў, 70-му, 55-га, 38-тысячны, 345-мільённы, 500-ы, 364-м, 102017-га, 52 – 54 кілаграмы, 2/5, 6/7, 4 2/3, 208,6 тысячы квадратных метраў.

**Варыянт 2.** 70, 300, 2008, 768 мільёнаў, 80-му, 66-га, 26-тысячны, 478-мільярдны, 600-ы, 634-м, 1030016-га, 56 – 58 кілаграмаў, 2/4, 7/8, 3 3/3, 904,8 тысячы кубічных метраў.

**Заданне 3.** Утварыце ад колькасных лічэбнікаў парадкавыя.

**Варыянт 1.** 3, 4, 6, 8, 12, 99, 200, 300, 800, 2003, 10 000, 26 000.

**Варыянт 2.** 2, 5, 7, 14, 86, 400, 600, 900, 2004, 11 000, 28 000.

**Заданне 4.** Праскланяйце лічэбнікі.

**Варыянт 1.** 466, 834, 912, 2/3, паўтара (дзясятка), абодва, чацвёра.

**Варыянт 2.** 478, 648, 835, 3/4, паўтары (адзінкі), абедзве, абое.

**ПРАВАПІС ДЗЕЯСЛОВАЎ**

| Суфікс *-ава-* (*-ява-*) | Суфікс *-ірава-* (*-ырава-*) |
|---|---|
| у пераважнай большасці запазычаных дзеясловаў і аддзеяслоўных назоўнікаў: *абсалютызаваць, абстрагавацца, байкатаваць балансаванне, групаванне, кантраляваць, рэкламаваць, тыражаваць, экспартаванне* | у некаторых словах для недапушчэння аманіміі з адпаведнымі дзеясловамі з суфіксам *-ава-* (*-ява-*): *парадзіраваць – парадаваць, газіраваць – газаваць, камандзіраваць – камандаваць, планіраваць* (на самалёце) *– планаваць, фарміраваць – фармаваць* |
| | у дзеясловах, якія без *-ір-* (*-ыр-*) губляюць сваю фармальную і семантычную акрэсленасць: *бравіраваць, гарманіраваць, лабіраваць, кампасціраваць, курыраваць, манціраваць, сервіраваць, трасіраваць* |

| У формах інфінітыва і прошлага часу дзеясловаў незакончанага трывання | | |
|---|---|---|
| *-ава-* (*-ява-*) | *-ыва-* (*-іва-*) | *-ва-* |
| калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеяслоў заканчваецца на *-ую* (*-юю*): *даследую – даследаваць, аналізую – аналізаваць, пакутую – пакутаваць* | калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу перад суфіксам утвараецца збег зычных, апошнімі з якіх бываюць *л, н, р*: *адыгрываю – адыгрываць, запэўніваю – запэўніваць, падкрэсліваю – падкрэсліваць* | калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеяслоў заканчваецца на *-ваю*, перад якім няма збегу зычных на *л, н, р*: *выпраменьваю – выпраменьваць, прыклейваю – прыклейваць, заваёўваю – заваёўваць* |
| У дзеясловах *выйграваць* і *прайграваць* пішацца суфікс *-ава-*. Калі неазначальная форма дзеяслова закончанага трывання заканчваецца на *-іць* або *-яць* з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам *-ва-* пішацца *й*: *супакоіць – супакойваць, настроіць – настройваць, засеяць – засейваць.* | | |

**Заданне 1.** Прачытайце ўрывак з кнігі прафесара П. Сцяцко "Культура мовы" (Мінск, 2002). Выкажыце свае думкі адносна меркавання аўтара.

"Суфікс *-ірава-* чужы беларускай мове, яго функцыю спраўна выконвае суфікс *-ава-*. Элемент *-ір-* нічога не дадае да семантыкі дзеяслоўнае асновы, пра што сведчаць паралельныя формы – з *-ір-* (суфікс *-ірава-*) і без яго (суфікс *-ава-*): *апламбіраваць* і *апламбаваць*, *гастраліраваць* і *гастраляваць*, *завізіраваць* і *завізаваць* і пад. Да таго ж гэтага элемента *-ір-* не маюць суфіксы *-ізава-* і *-фікава-*, якія таксама выкарыстоўваюцца ў беларускай мове пры ўтварэнні дзеясловаў ад іншамоўных асноваў: *вітамінізаваць*, *дэталізаваць*, *ідэалізаваць*, *нармалізаваць*; *газіфікаваць*, *кінафікаваць*, *тарыфікаваць*".

**Заданне 2.** Запішыце пары слоў. Падкрэсліце дзеясловы, якія маюць аднолькавае значэнне.

**Варыянт 1.** Акупіраваць – акупаваць, апаніраваць – апанаваць, базіраваць – базаваць, буксіраваць – буксаваць, візіраваць – візаваць, будзіраваць (праяўляць незадавальненне) – будаваць, галапіраваць – галапаваць, дэмаскіраваць – дэмаскаваць, калькіраваць – калькаваць, кампасціраваць – кампаставаць.

**Варыянт 2.** Зандзіраваць – зандаваць, курсіраваць – курсаваць, пазіраваць – пазаваць, пасіраваць – пасаваць, субстантывіраваць – субстантаваць, тушыраваць – тушаваць, парыраваць – параваць, паніраваць – панаваць, прэміраваць – прэміяваць, фарміраваць – фармаваць.

**Заданне 3.** Размяркуйце словы ў адпаведны слупок табліцы.

| Дзеясловы, у якіх у форме інфінітыва пішацца | | |
|---|---|---|
| *-ава-* (*-ява-*) | *-ыва-* (*-іва-*) | *-ва-* |
| … | … | … |

**Варыянт 1.** Адказваю, адмерваю, адорваю, адрозніваю, адыгрываю, будую, выветрываю, выконваю, вымешваю, галасую, дагульваю, даследую, забінтоўваю, заваёўваю, загадваю, заканчваю.

**Варыянт 2.** Запэўніваю, зацярушваю, камандую, малюю, начую, падкрэсліваю, падстрэльваю, падтрымліваю, пакутую, разбэшчваю, раздумваю, размяркоўваю, распілоўваю, рэкамендую, характарызую, чаргую.

**Заданне 4.** Перакладзіце на беларускую мову з дапамогай слоўніка.

**Варыянт 1.** Компенсировать убытки, этапировать в Сибирь, активизировать деятельность, абсолютизировать власть, купировать симптомы, дискутировать по проблеме, зонировать помещение, дисциплинировать коллектив, гипнотизировать жертву, перефразировать высказывание.

**Варыянт 2.** Минировать поле, витаминизировать продукты, асфальтировать поверхность, анонсировать фильм, латинизировать народ, лидировать в соревновании, пародировать героя, парафировать соглашение, переориентировать политику, зондировать почву.

Падрыхтавалі
**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
**Наталля РАДЗІВАНОЎСКАЯ,**
**Вольга УРБАН.**

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

### САКАВІК

**1 сакавіка –** 85 гадоў з дня нараджэння Барыса Стральцова (1926 – 2009), публіцыста, празаіка

80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Пасюкевіча (1931 – 2009), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Савік, літаратуразнаўцы і крытыка

**4 сакавіка –** 90 гадоў з дня нараджэння Эдуарда Куфко (1921 – 1998), жывапісца

80 гадоў з дня нараджэння Валянціны Рахленкі, піяністкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Вольгі Нячай (1936 – 2010), кіназнаўцы, педагога

70 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Чудзіна, мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

55 гадоў з часу выхаду газеты “Ніва”, тыднёвіка беларусаў у Польшчы

**5 сакавіка –** 115 гадоў з дня нараджэння Кандрата Крапівы (сапр. Атраховіч; 1896 – 1991), драматурга, паэта, празаіка, мовазнаўцы, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Бярозкі (сапр. Фрайман; 1921 – 1992), сцэнарыста, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**7 сакавіка –** 125 гадоў з дня нараджэння Усевалада Фальскага (1886 – ?), акцёра, грамадска-палітычнага, дзяржаўнага і культурнага дзеяча, аднаго са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра

**8 сакавіка –** 80 гадоў з дня нараджэння Сямёна Падокшына (1931 – 2004), філосафа і гісторыка-медыявіста

**9 сакавіка –** 195 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Пагоскага (1816 – 1874), педагога, пісьменніка, выдаўца

**10 сакавіка –** 85 гадоў з дня нараджэння Васіля Супруна (1926 – 2007), краязнаўцы, археолага, паэта

**13 сакавіка –** 75 гадоў з дня нараджэння Леаніда Каленіка (1936 – 1997), жывапісца

75 гадоў з дня нараджэння Расціслава Раманкі, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца

**14 сакавіка –** 115 гадоў з дня нараджэння Барыса Звінагродскага (1896 – 1982), мастака тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Паўла Дубашынскага (1931 – 2000), акцёра, народнага артыста Беларусі

80 гадоў з дня нараджэння Паўла Місько, празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Барыса Кузьмічова (1936 – 2000), графіка, плакатыста, мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва

**16 сакавіка –** 70 гадоў з дня нараджэння Любові Гарэлік, літаратуразнаўцы, крытыка

**17 сакавіка –** 265 гадоў з дня нараджэння Яна Давіда Голанда (1746 – 1827), кампазітара, прыдворнага капельмайстра ў Радзівілаўскім тэатры ў Нясвіжы, аўтара беларускай аперэты “Агатка”

115 гадоў з дня нараджэння Ізі Харыка (1896, паводле іншых звестак, 1898 – 1937), яўрэйска-беларускага паэта. Пісаў на ідыш, беларускай і рускай мовах

80 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Лісоўскага (1931 – 1970), жывапісца і графіка

75 гадоў з дня нараджэння Леаніда Лапчынскага (1936 – 1994), жывапісца, педагога

**19 сакавіка –** 80 гадоў з дня нараджэння Генадзя Кісялёва (1931 – 2008), гісторыка, літаратуразнаўцы, пісьменніка, археографа

**20 сакавіка –** 115 гадоў з дня нараджэння Майсея Кульбака (1896 – 1937), яўрэйска-беларускага паэта, празаіка, драматурга. Пісаў на ідыш

90 гадоў з дня нараджэння Басі Карпілавай (Разенблат), артысткі балета, заслужанай артысткі Беларусі

*Працяг на с. 74, 100.*

*Дыдактычны матэрыял*

Святлана ЦЫБУЛЬСКАЯ

# КАМПЛЕКТ ЗАДАННЯЎ ДЛЯ АСЭНСАВАННЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ Ў НОВАЙ РЭДАКЦЫІ

Прапануем комплекс заданняў, які дапаможа вучням скарэкціраваць раней атрыманыя веды па арфаграфіі з іх выкладаннем у новай рэдакцыі. Аўтар прытрымліваецца шырока распаўсюджанай сярод настаўнікаў і метадыстаў думкі, што няма патрэбы вывучаць новую рэдакцыю правіл у фармаце "было – стала". Практыка сведчыць, што такі падыход толькі абцяжарвае працэс засваення інфармацыі, асабліва ў вучняў сярэдняга школьнага ўзросту. Мэтазгодна вучыць таму, як ц я п е р  т р э б а  п і с а ц ь. І толькі ў тым выпадку, калі ў вучняў з'яўляюцца пытанні, варта спыніцца і даць неабходныя тлумачэнні, паказаць розніцу і тады ўжо абавязкова растлумачыць, чаму з'явілася неабходнасць пераасэнсаваць варыянт напісання "па-старому".

Кожнае з прапанаваных заданняў можа быць выкарыстана на любым уроку беларускай мовы, калі адбываецца паўтарэнне вывучанага раней. Матэрыял любога з іх можна выкарыстаць для правядзення слоўнікавага дыктанта, у тым ліку выбарачнага.

### ТЭМА 1. ПЕРАДАЧА ЯКАННЯ НА ПІСЬМЕ. ПРАВАПІС ЛІТАР *Е, Ё, Я*

**Заданне 1.** Прачытайце словы, запісаныя групамі. Устаўце прапушчаныя літары.

Зелень – з_лёны, з_л_наваты, з_л_ніна; веліч – в_лікі, в_лізны, в_лічыня; вёслы – в_сло, в_сляр, в_славаць; сем – с_мёрка, с_мнаццаць, с_мёра; вецер – в_ц_рок, абв_траны, в_тразь; дзесяць – дз_сятка, дз_сяты, шэсцьдз_сят; восем – вас_мнаццаць, вос_мдзесят, вос_мсот; у календары – кал_ндар, кал_ндарны; дзевяць – дз_вятка, дз_в_цера, дз_вяты; прыезд – пры_зджаць, бязвы_зны, ад'_зджаць.

***Заўвага.*** У параўнанні з папярэдняй рэдакцыяй словы *дзявяты, дзясяты, сямнаццаць, васямнаццаць* і вытворныя ад іх не з'яўляюцца выключэннямі з правіла перадачы якання на пісьме (гл. § 6 Правіл).

**Заданне 2.** Устаўце на месцы пропускаў літары. У дужках пазначце, да якой групы належыць кожнае слова: 1) словы, у якіх адбываецца яканне; 2) запазычаныя словы, у якіх якання не бывае; 3) словы, у якіх нязменна пішацца каранёвая (гістарычная, спрадвечная) літара *я*.

Кл_новы ( ), к_раміка ( ), _фрэйтар ( ), за_ц ( ), дз_журны ( ), _равыя ( ), г_рой ( ), с_мнаццаць ( ), сув_зь ( ), марм_лад ( ), Г_рманія ( ), Прып_ць ( ), с_ржант ( ), б_сконцы ( ), тыс_ча ( ), бал_рына ( ), С_ргей ( ), аб_ліск ( ), дз_сятка ( ), св_ткаваць ( ), ал_горыя ( ), н_моглы ( ), м_даль ( ), мес_ц ( ), по_с ( ), вас_мнаццаць ( ), кал_ктыў ( ), па́м_ць ( ), с_зон ( ), _длаўцовы ( ).

**Заданне 3.** Прачытайце словы. Напішыце, якую літару трэба ўставіць на месцы пропуску.

| І варыянт | ***е*** або ***я*** | ІІ варыянт | ***е*** або ***я*** |
|---|---|---|---|
| с_накос | *е* | зерн_ўборачны | *е* |
| с_нанарыхтоўка | *е* | зерн_сховішча | *я* |
| в_лікагрузны | *е* | кон_гадоўля | *е* |
| в_лікарослы | *е* | кан_водства | *я* |
| в_лікаакіянскі | *я* | вільгац_ўстойлівы | *е* |
| В_лікабрытанія | *я* | вільгац_ізаляцыя | *е* |
| в_лікадушны | *е* | вільгац_мер | *я* |
| св_тапогляд | *е* | агн_стрэльны | *я* |
| л_дарэз | *е* | вогн_трывалы | *е* |
| в_лікадзяржаўны | *я* | вогн_ўстойлівы | *е* |
| в_лікодны | *е* | заходн_еўрапейскі | *е* |
| В_лікдзень | *я* | заходн_ўкраінскі | *е* |
| н_баскроб | *е* | заходн_рускі | *я* |

***Заўвага.*** У новай рэдакцыі няма адрозненняў, правілы § 7 звяртаюць увагу на напісанне складаных слоў з першай часткай *велік- / вялік-*, а таксама правапіс літар *е, ё* ў першай частцы складанага слова.

### ТЭМА 2. ПЕРАДАЧА АКАННЯ НА ПІСЬМЕ. ПРАВАПІС ЛІТАР *О, Э, А*

**Заданне 4.** Да прапанаваных слоў падбярыце аднакаранёвыя, каб адбылося чаргаванне галосных (можна карыстацца даведкай). Аднакаранёвыя словы запішыце парамі, растлумачце напісанне літар *о, э, а*.

Шэпт, стрэхі, кроў, жэмчуг, цэгла, рэчка, шэсць, ноч, грошы, бровы, чэрап, крошка, каноплі, чэрствы, жэрдка, вока, дрогкі, рэбры, шэры, гром, зачэрпнуты, шчэбет, скрогат, фронт, кватэра, мост, сустрэча, дровы, дрэва.

ДАВЕДКА. Брыво, вычарпаць, глытаць, грашовы, грымець, драўляны, дрывотня, дрыжаць, жамчужына, жардзіна, Замасточча, канапляны, кватарант, крывавы, крышыць, начны, пашарэць, прыфрантавы, рабро, рачулка, скрыгатаць, страха, сустракацца, счарсцвелы, уваччу, цагляны, чарапны, шаптаць, шасцярня, шчабятаць.

**Заданне 5.** Разгледзьце схему. Растлумачце значэнні слоў-прыкладаў (гл. правы слупок). Растлумачце, чаму іх правапіс варта правяраць па слоўніку. З кожным словам складзіце і запішыце словазлучэнне (гл. § 3 Правіл).

| | |
|---|---|
| У пачатку запазычаных слоў літары *э*, *е* як пад націскам, так і не пад націскам пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем → | ***э**валюцыя, **э**канrealміка, **э**кватар, **э**кіпаж, **э**кскурсія, **э**кспанат, **э**кспарт, **э**ксплуатацыя, **э**кспрэс, **э**ластычны, **э**літны, **э**малевы, **э**мблема, **э**мігранцкі, **э**пас, **э**підэмія, **э**ра, **э**рудыт, **э**тымалогія, **э**тычна, **э**фект, **э**цюд; **е**гер, **е**піскап, **Е**гіпет, **Е**ўропа, **е**ўрапейскі, **Е**рэван* |
| На канцы запазычаных нязменных слоў пасля зычных, акрамя *л*, *к*, пішацца э → | *ataш**э**, галіф**э**, дэкальт**э**, куп**э**, каф**э**, кашн**э**, карат**э**, кава лат**э**, рэзюм**э**, азбука Морз**э**, Душанб**э*** |
| → | *дась**е**, дэфіл**е**, жэл**е**, камюнік**е**, пік**е**, сальта-мартал**е**, філ**е*** |
| Пасля губных зычных, а таксама пасля *з*, *с*, *н* літары *э*, *е* пішуцца згодна з літаратурным вымаўленнем → | *б**э**з, б**э**жавы, інт**э**рн**э**т, кап**э**ла, маян**э**з, м**э**бля, пан**э**ль, сурв**э**тка, с**э**рвіс, тун**э**ль, экз**э**мпляр, эс**э*** |
| → | *акс**е**суар, газ**е**та, м**е**даль, м**е**н**е**джм**е**нт, нав**е**ла, н**е**рвы, парлам**е**нт, persп**е**ктыва, пра**е**кт, рэз**е**рвуар, с**е**нсацыя, с**е**рвіз, шын**е**ль, эл**е**гія, эл**е**гантны, эф**е**кт* |

***Заўвага.*** Напісанне многіх слоў (напрыклад, *экзэмпляр, маянэз, тунэль*) адрозніваецца ад таго, як падавалася ў слоўніках папярэдніх гадоў.

**Заданне 6.** Устаўце патрэбную літару. У адпаведнай графе табліцы пастаўце знак + (плюс).

| Слова | *а* | *э* | *ы* |
|---|---|---|---|
| р_спубліка | | + | |
| р_жым | | + | |
| камп'ют_р | + | | |
| правайд_р | + | | |
| хар_ограф | | + | |
| пра_кзаменаваць | | + | |
| рэпетыт_р | + | | |
| вуліца Ланд_ра | | + | |
| не_каномны | | + | |
| інж_нер | | | + |
| адр_с | + | | |
| рака Од_р | | + | |
| менедж_р | + | | |
| планета Юпіт_р | | + | |
| бухгалт_р | + | | |
| бр_зент | | | + |
| літ_ратура | + | | |
| поч_рк | | | + |
| ар_ндатар | + | | |
| фламаст_р | + | | |
| інт_лігент | | + | |
| ц_рымонія | | | + |

***Заўвага***. Параўноўваючы дзве рэдакцыі правіл, звяртаем увагу на п. 6 § 4 апошняй рэдакцыі, у адпаведнасці з якім “ненацiскныя фіналі *-эль, -эр* у запазычаных словах перадаюцца як *-аль, -ар*: *шніцаль, шпаталь, міталь, камп'ютар, рэйсфедар, эспандар*… Аднак ненацiскныя фіналі *-эль, -эр* ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання перадаюцца нязменна: *Ландэр, Одэр, Пітэр, Юпітэр*”.

**Заданне 7.** Размяркуйце складаныя словы ў дзве групы: 1 – словы, у першай частцы якіх трэба ўставіць літару *а*; 2 – словы, у першай частцы якіх пішацца літара *о*. Растлумачце правапіс *о, а* ў першай частцы складаных слоў. Падкрэсліце часткі, якія пішуцца нязменна.

В_даправодны, в_дасховішча; р_знкаляровы, р_знабаковы, с_лездабыча, с_лякоп; з_латаверхі, з_латашукальнік; шт_дзень, шт_тыднёва; кін_аматар, кін_стужка; м_тагонка, м_тацыкл, м_табудаўніцтва; сл_ваўжыванне, сл_ваформа; сл_валюб, сл_валюбівы; выс_каякасны, выс_каадукаваны; к_негадоўля, к_нявод; в_семсот, в_сьмідзясяты; ст_гадовы, ст_годдзе; мн_газначны, мн_гагалосы; п_лівітаміны, п_ліклініка; чырв_наносы, чырв_нагаловік; к_нтрігра, к_нтрмеры; кар_ткатэрміновы, кар_ткашэрсны.

## ТЭМА 3.
## ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ СПАЛУЧЭННЯЎ ЗЫЧНЫХ

**Заданне 8.** Запішыце словы па-беларуску. Правапіс зычных растлумачце.

Областной (город), капустный (лист), поздно, ненавистный, проездной, контрастный, десантный, миллиардный, компостный, счастливый, милосердный, радостный, крещеный, Рембрандт, постный, лестница, форпостный, жалостливый, Шмидт, сверкнуть, мстительный, опоздать, скоростной, Кронштадт, контекстный.

***Заўвага.*** У адрозненне ад папярэдняй рэдакцыі напісанне слоў *кантрасны, фарпосны, баласны, аванпосны* падпарадкоўваецца агульнаму правілу (раней гэтыя словы з'яўляліся выключэннямі).

## ТЭМА 4. ПРАВАПІС ЛІТАР *У – Ў*

**Заданне 9.** Размяркуйце словы ў дзве групы: 1 – словы, у якіх на месцы пропуску трэба ўставіць літару *ў* (нескладовае); 2 – словы, у якіх пішацца літара *у* (складовае).

Наста_нік, а_дыторыя, э_каліпт, мастакі-_краінцы, *шлагба_м*, кло_н, высакагорны *а_л*, а_сяны, *рады_с*, са_на, нака_т, радаснае “_ра”, *стра_с*, а_тсайдар, *ваку_м*, па_за, *фра_* Марта, іна_гурацыя, ва _ніформе, *со_с*, *кансілі_м*, рака *_са*, эстраднае *шо_*, *натары_с*, ра_нд, *аквары_м*, *ба_л*, фізік *Ланда_*, *но_-ха_*, ла_ры, *опі_м*, па-_чарашняму, ха_туры, ка_нер, э_рыка, фа_на і флора, па-_сходняму, *тры_мф*, трэніро_ка, ледзь не _двая, музыка-*_нікум*, *шлагба_м*.



***Святлана Іванаўна Цыбульская** – метадыст вучэбнага аддзела ДУА "Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы". Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1992), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь (1997). Настаўнічала ў г. Мінску. Аўтар вучэбных і метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў і вучняў: "Беларуская мова: інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену" (2004), "Даведнік па беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (2005), "Вопыт выкарыстання сучасных адукацыйных тэхналогій на ўроках беларускай мовы і літаратуры" (2005), "Факультатывы і курсы на выбар па беларускай мове. Патрабаванні да складання аўтарскіх праграм" (2006), "Настольная кніга настаўніка беларускай мовы і літаратуры" (2007), "Школьны курс беларускай мовы ў табліцах і тэстах" у 2 ч. (2008) і інш.*

***Заўвага.*** Паводле новай рэдакцыі (§ 15), пасля галосных літара *у* захоўваецца толькі ў трох выпадках: 1) у пачатку ўласных імён і назваў; 2) на канцы слова; 3) у канцоўках *-ум, -ус*.

Словы, у якіх трэба пісаць *у* (складовае), выдзелены, у іншых трэба ўставіць літару *ў*.

**Заданне 10.** Складзіце і запішыце словазлучэнні, у якіх прапанаваныя словы стаяць пасля слоў, што заканчваюцца на галосную.

Украіна – ________________________________,
украінец – _______________________________,
урна – __________________________________,
універсітэт – _____________________________,
Урал – __________________________________,
уральскі – _______________________________,
усход – _________________________________,
Усход – _________________________________,
ультрагук – ______________________________,
удосталь – _______________________________,
уніяцкі – ________________________________,
унія – __________________________________,
упрысядкі – ______________________________,
Узбекістан – ______________________________,
узбек – _________________________________,
універсам – _______________________________,
уханне – ________________________________,
ускочыць – _______________________________,
улетку – ________________________________,
унты – __________________________________,
Уладзімір – _______________________________.

**ТЭМА 5. ПРАВАПІС ЛІТАР *І, Ы, Й***

**Заданне 11.** Выканайце тэставыя заданні. Абмяняйцеся сшыткамі з суседам па парце і праверце адзін аднаго.

**1.** Адзначце правільныя сцверджанні:

1) гук [і] пасля прыставак, якія заканчваюцца на галосны, чаргуецца з [й] і на пісьме заўсёды перадаецца літарай *й*;

2) гук [і] пасля прыставак, якія заканчваюцца на галосны, чаргуецца з [й] і на пісьме перадаецца літарай *й* толькі ў словах з коранем *іс-ці, ігр-аць, ім-я, інач-ай*, а таксама ў словах *займаць, наймаць, пераймаць, пераймание, праймаць*; у астатніх выпадках літара *і* захоўваецца;

3) у словах, утвораных ад дзеясловаў *ісці, іграць* пры дапамозе прыставак на зычны, [і] чаргуецца з [ы];

4) пры спалучэнні прыставак *аб-, ад-, над-, пад-, раз-, з-, уз-, спад-, перад-, дэз-, суб-* са словамі, што пачынаюцца з літары *і*, у адпаведнасці з вымаўленнем замест *і* пішацца літара *ы*;

5) пасля прыставак *звыш-, між-, пан-, супер-, транс-, контр-, дэз-, суб-* літара *і* захоўваецца;

6) пасля прыставак *звыш-, між-, пан-, супер-, транс-, контр-* літара *і* захоўваецца;

7) літара *і* пішацца нязменна ў складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны;

8) у складанаскарочаных словах напісанне літар *і, ы, й* падпарадкоўваецца агульнаму правілу.

**2.** Адзначце словы, у якіх трэба ўставіць літару *й*:
1) ува_сці;
2) за_граць;
3) разы_сціся;
4) пера_маць;
5) за_нелы.

**3.** Адзначце словы, у якіх трэба ўставіць літару *ы*:
1) аб_шоў;
2) дэз_нфармацыя;
3) звыш_нфляцыя;
4) контр_гра;
5) спад_лба.

**4.** Адзначце словы, у якіх трэба ўставіць літару *і*:
1) пера_менаваць;
2) пра_люстраваны;
3) звыш_мклівы;
4) не_стотны;
5) перад_нфарктны.

**5.** Адзначце правільна напісаныя словы:
1) вышаў;
2) субынспектар;
3) пераіграў;
4) трансіндыйскі;

5) постындустрыяльны.

Адказы павінны быць такія:

| № задання | № правільных адказаў | № задання | № правільных адказаў |
|---|---|---|---|
| **1** | 2, 3, 4, 6, 7 | **4** | 2, 3, 4 |
| **2** | 1, 2, 4 | **5** | 2, 4 |
| **3** | 1, 2, 5 | | |

**Заданне 12.** Ад прапанаваных слоў пры дапамозе прыставак утварыце новыя словы і запішыце іх (пры неабходнасці выкарыстоўвайце словаўтваральныя суфіксы). Пракаменціруйце напісанне літар *і, ы, й*.

| | |
|---|---|
| ***за-, пры-, вы-, па-,*** | ісці |
| ***пера-, на-, аб-, уз-,*** | іменаваць, імя, іменны |
| ***над-, з-, ад-*** | іграць |

**ТЭМА 6. ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА**

**Заданне 13.** Ад прапанаваных назоўнікаў з дапамогай суфікса *-ск-* утварыце прыметнікі. Запішыце іх і падкрэсліце тыя прыметнікі, у якіх перад суфіксам *-ск-* пішацца мяккі знак.

Восень, Хатынь, снежань, Цянь-Шань, студзень, Казань, Астрахань, Тайвань, Смаргонь, Чэрвень, чэрвень, Цзяньцзінь, жнівень, конь, ліпень.

**ТЭМА 7. ПРАВАПІС ВЯЛІКАЙ І МАЛОЙ ЛІТАР**

***Заўвага.*** Акцэнт робіцца на напісанні назваў: *Першая сусветная вайна, Другая сусветная вайна, лютаўская рэвалюцыя, Вялікае Княства Літоўскае, Вечны Агонь*, а таксама назваў свят тыпу *Тройца, Радаўніца, Купалле.*

**Заданне 14.** З дапамогай лічбы ўкажыце, як пішуцца словы і складаныя назвы: 1 – усе словы з вялікай літары; 2 – толькі першае слова з вялікай літары, усе астатнія – з малой; 3 – усе словы з малой літары.

| | |
|---|---|
| *1* | (Р, р)эспубліка (Б, б)еларусь |
| *3* | (Б, б)еларуская (Н, н)ацыянальная (К, к)ухня |
| *1* | (С, с)адружнасць (Н, н)езалежных (Д, д)зяржаў |
| *3* | (Д, д)зень (Н, н)араджэння |
| *1* | (В, в)ялікае (К, к)нягства (Л, л)ітоўскае |
| *1* | (С, с)авет (М, м)іністраў (Р, р)эспублікі (Б, б)еларусь |
| *1* | (В, в)ечны (А, а)гонь |
| *2* | (Н, н)обелеўская (П, п)рэмія |
| *1* | (Д, д)зень (Н, н)езалежнасці |
| *3* | (С, с)тыль (Б, б)арока |
| *1* | (Д, д)зень (П, п)ерамогі |
| *2* | (Н, н)овы (Г, г)од |
| *2* | (Д, д)зень (Н, н)астаўніка |
| *2* | (П, п)ершая (С, с)усветная (В, в)айна |
| *2* | (Н, н)ацыянальная (А, а)кадэмія (Н, н)авук Беларусі |
| *2* | (Д, д)ом (А, а)фіцэраў |
| *2* | (Л, л)ядовае (П, п)абоішча |
| *3* | (Д, д)зень (А, а)дчыненых (Д, д)зверэй |
| *1* | (У, у)зброеныя (С, с)ілы |
| *3* | (Д, д)ом (А, а)дпачынку |
| *2* | (П, п)алац (М, м)астацтваў |
| *2* | (Л, л)ядовы (П, п)алац (С, с)порту |
| *2* | (М, м)іжнародны (А, а)лімпійскі (К, к)амітэт |
| *3* | (І, і)мперыялістычная (В, в)айна |
| *3* | (М, м)есячнік (Д, д)арожнай (Б, б)яспекі |
| *3* | (М, м)агдэбургскае (П, п)рава |
| *2* | (Д, д)зяржаўная (П, п)рэмія Рэспублікі Беларусь |
| *2* | (С, с)усветны (Д, д)зень (М, м)оладзі |
| *3* | (К, к)андыдат (Ф, ф)іласофскіх (Н, н)авук |
| *2* | (Н, н)ацыянальны (С, с)ход Рэспублікі Беларусь |

**Заданне 15.** Запішыце па пяць назваў дзяржаўных і рэлігійных свят. Растлумачце напісанне слоў з вялікай або малой літары.

***Заўвага.*** Калі вучням цяжка справіцца з гэтым заданнем, яго можна змяніць: прапанаваць матэрыял для слоўнікавага дыктанта (выбарачнага, тлумачальнага, каментаванага і г. д.).

Даведка. Дзень Канстытуцыі, Дзень жанчын, Новы год, Свята працы, Дзень Перамогі, Дзень будаўніка, Дзень артылерыстаў, Дзень ведаў, Дзень памяці, Дзень беларускай навукі, Дзень Незалежнасці;

Нараджэнне Хрыстова, Уваскрэсенне Хрыстова, Ушэсце Гасподняе, Вялікая субота, Радаўніца, Вялікдзень, Каляды, Тройца (Сёмуха), Купалле, Дабравешчанне, Пакровы.

**ТЭМА 8. ПРАВАПІС НАЗОЎНІКАЎ З АДНАСЛОЎНЫМ ПРЫДАТКАМ**

***Заўвага.*** У напісанні назоўнікаў з аднаслоўным прыдаткам (тыпу *дзяўчына-прыгажуня* і *прыгажуня дзяўчына*) змен не адбылося. Аднак у падручніку для VIII класа (аўтары З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя) упершыню ўведзена адпаведнае правіла: *“Калі адзіночны прыдатак стаіць перад паяснёным словам і сваім значэннем адпавядае азначэнню-прыметніку, то дэфіс не пішацца”* (гл. § 23 названага падручніка). Па гэтай прычыне варта звярнуць увагу старшакласнікаў на адметнасць напісання такіх слоў. Прычым неабходна правесці паралель з урокамі рускай мовы, дзе гэтае правіла традыцыйна вывучаецца ў поўным аб’ёме.

**Заданне 16.** Запішыце словы (словазлучэнні) пад дыктоўку.

Хлопец-асілак, красуня дзяўчына, вясна-прыгажуня, дуб-велікан, зух певень, возера Нарач, Свіцязь-возера, гарэза вецер, дзіця-гарэза, Васька-пастух, сусед Васька, неслух сын, дачка-разумніца, Фёдар-шафёр, доктар Радзевіч, нявеста-прыгажуня, чараўніца ночка, Нёман-бацька, рака Нёман, восень-мастачка, Колас-празаік, паэт Куляшоў, планета Марс, дзед-паляшук, весялун хлопец, кветка васілёк.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Рыхтуемся да сачынення*

Святлана МАРОЗ
Марына РЖАВУЦКАЯ

# ВОДГУК НА ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР

На ўроках беларускай мовы практыкуецца навучанне сачыненням розных відаў. У залежнасці ад тыпу тэксту яны класіфікуюцца як сачыненні-апавяданні, сачыненні-апісанні, сачыненні-разважанні і іншыя, у залежнасці ад жанру адрозніваюць: сачыненні-водгукі, сачыненні-нататкі, сачыненні-нарысы і інш.

Водгук – гэта выказанае разгорнутае меркаванне з уласнай ацэнкай прачытанага, праслуханага, убачанага. Такі жанр сачынення развівае ў школьнікаў уменні назіраць, асэнсоўваць, разважаць, даказваць, супастаўляць, ацэньваць факты і з'явы. У водгук на літаратурны твор уключаюцца асабістыя ўражанні, суб'ектыўная ацэнка ўчынкаў розных герояў, адлюстраваных падзей, а таксама элементы лінгвістычнага, літаратуразнаўчага, культуралагічнага аналізу мастацкага твора, дэталі абгрунтаванага пераказу найбольш напружанай часткі і інш.

Важна ведаць не толькі тое, якім павінен быць водгук на літаратурны твор, з якіх частак ён складаецца, але і чым адрозніваецца ад рэцэнзіі. Рэцэнзія, на думку даследчыкаў-метадыстаў, пішацца на новую кнігу, а чытацкі водгук – на любую. Мэта рэцэнзіі – даць аб'ектыўную і кваліфікаваную ацэнку новага твора. Водгук жа павінен перадаць выключна асабістыя ўражанні ад кнігі (гл.: Саўко У. П. Водгук і рэцэнзія як жанры школьнага сачынення // Актуальныя пытанні беларускай лінгвістыкі: зб. навук. арт. Мінск, 2002, с. 154 – 156).

Як падкрэсліваюць метадысты, водгук на літаратурны твор – гэта тыповае сачыненне-разважанне, кампазіцыйная схема якога ўключае: 1) тэзіс – агульная ацэнка твора; 2) доказы (або аргументы) – меркаванні пра літаратурныя і лінгвістычныя вартасці твора; 3) вывад – думкі пра тое, чым узбагаціў твор аўтара водгуку, чаму яго варта прачытаць іншым (гл.: Лаўрэль Я. Водгук на апавяданне як жанр // Роднае слова, 1992, № 10, с. 12).

У тэорыі методыкі і школьнай практыцы вядомы розныя спосабы падрыхтоўкі да сачынення: збор і сістэматызацыя матэрыялу, складанне плана, разгрупаваная па часе лексіка-стылістычная падрыхтоўка, аналіз тэксту-ўзору і інш.

*Цыкл матэрыялаў па падрыхтоўцы і правядзенні сачыненняў розных тыпаў друкуецца з 2005 г. Пра падрыхтоўку і напісанне сачынення-апавядання з апісаннем памяшкання* ***Святлана Мароз*** *і* ***Марына Ржавуцкая*** *распавялі ў №№ 6, 7 за 2010 г.*

Артыкул змяшчае заданні для папярэдняй (разгрупаванай) лексіка-стылістычнай падрыхтоўкі, а таксама тэксты-ўзоры, якія можна выкарыстаць пры навучанні водгуку як жанру сачынення.

Адпаведна школьнай праграме водгук плануецца праводзіць пасля вывучэння тэмы "Сказы з аднароднымі членамі", таму ўсе прапанаваныя заданні суадносяцца з вывучэннем гэтай тэмы.

**1.** Выпішыце з тэксту сказы з аднароднымі членамі. Падкрэсліце іх у адпаведнасці з сінтаксічнай роляй у сказе.

1. Кніга звычайна становіцца цудам і святыняй для чытача ўжо ў маленстве (Н. Гілевіч). 2. Кожны пісьменнік у большай ці меншай ступені звязаны са сваім часам. Ён нясе гэты час у думках, пачуццях, выяўляе ў дзеяннях, учынках, справах (В. Жураўлёў). 3. Багушэвіч здолеў прымусіць па-новаму загучаць беларускую мову – натуральна, гнутка, афарыстычна і прыгожа (М. Стральцоў). 4. Наш Багдановіч быў разлічаны на вялікае. Усё, што зроблена ім у паэзіі, прозе, крытыцы, у перакладах з розных моў, дае падставы меркаваць, прадбачыць, быць упэўненым, як многа мог бы ён зрабіць, каб пажыў трохі больш (Я. Брыль). 5. У Якуба Коласа – паэта, празаіка, драматурга, вучонага і грамадскага дзеяча – можна было вучыцца ў першую чаргу працы, павазе да яе і яе плёну, любові да чалавека-творцы (М. Лужанін). 6. Ён [К. Чорны] ведаў, што ў літаратуры перамагае толькі чалавечае і чалавечнае, а фальш, пустазвонства, бяздумная даніна чарговай модзе ўрэшце будуць названыя сваімі імёнамі (М. Стральцоў).

Якія з падкрэсленых аднародных членаў сказа з'яўляюцца сінонімамі, а якія – не? Абгрунтуйце сваю думку.

Растлумачце значэнні слоў *чалавечае* і *чалавечнае*.

Падказка. *Чалавечае* – такое, якое належыць чалавеку.

*Чалавечнае* – уважлівае, чулае, душэўнае, гуманнае.

Якія творы названых аўтараў вам найбольш запомніліся?

У першым сказе Ніл Гілевіч называе кнігу "цудам і святыняй", а якімі словамі яшчэ можна назваць кнігу?

Падказка. "Сябра мой" (А. Русак); "спакой, утульнасць, неадзінота" (А. Федарэнка); "самая



*Святлана Сяргееўна **Мароз** – мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2001). Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1984). Працавала настаўнікам у СШ № 123 г. Мінска, асістэнтам кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. З 2002 г. – дацэнт гэтай кафедры. Даследуе пытанні функцыянальнай граматыкі.*

галоўная крыніца, адкуль чалавек чэрпае веды" (В. Вітка); "кніга ж – мудрасці глыток" (К. Жук); "кніга – гэта першы надзейны настаўнік і друг" (А. Якімовіч).

Узгадайце выказванні беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя кнізе, слову, мове.

**2.** Прачытайце тэкст. Назавіце аднародныя члены, укажыце, якой часцінай мовы яны выражаны, растлумачце пастаноўку ці адсутнасць знакаў прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі.

Імя і асоба таго, хто напісаў "Люблю наш край – старонку гэту", з маленства былі для мяне легендарнымі, а песня раз і назаўсёды перавярнула душу і засталася любімай да скону.

На пачатку дваццатых гадоў у першых чытанках побач з вершамі Купалы і Коласа, Багдановіча і Чарота натхнёна і пяшчотна слова Канстанцыі Буйло далучала нас да чароўнага хараства роднай мовы і роднай зямлі. З гэтых часоў водгуллем жыве ў душы:

Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы
І несціханы шум лясоў.

Прачыталі людзі гэтыя простыя і маляўнічыя словы, пераказалі адзін аднаму, і трапяткая споведзь юнай паэтэсы выпырхнула ў свет чароўнай песняй.

Прайшло больш за паўстагоддзя, а песня не старэе, яна хвалюе і цешыць мільёны сэрцаў, яна будзе жыць, пакуль на свеце будзе жыць хоць адзін беларус.

С. Грахоўскі. Гэта ўсё адна паэтычная песня.

Назавіце словы і выразы, ужытыя ў пераносным значэнні.

Падказка. *Перавярнула душу, маляўнічыя словы, трапяткая споведзь, споведзь выпырхнула* і інш.

Знайдзіце параўнанні ў форме творнага склону.

Падказка. *Жыве водгуллем, выпырхнула песняй.*

Вызначце кампазіцыйныя часткі тэксту (зачын, асноўная частка, канцоўка), падбярыце да іх загалоўкі.

Назавіце імёны беларускіх аўтараў і пералічыце іх творы, пакладзеныя на музыку.

Падказка. Я. Купала "Спадчына", "Явар і каліна"; У. Карызна "Беларусь мая сінявокая"; М. Багдановіч "Па-над белым пухам вішняў"; Я. Колас "Мой родны кут!" (урывак з паэмы "Новая зямля") і інш.

**3.** Спішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

Кожны пісьменнік, апрача таленту, павінен яшчэ мець права пісаць, права, якое набываецца асабістым жыццёвым вопытам(,) асабістым удзелам у тым, пра што хочаш расказаць іншым. Твой асабісты вопыт павінен быць цікавым для іншых! Васіль Быкаў у сваіх аповесцях піша пра тое, што бачыў і перажыў сам, што бачылі і перажылі яго баявыя сябры. Тыя, што вярнуліся з вайны, і тыя, што не вярнуліся. Іх памяць патрабуе, каб кожны радок быў праўдзівы. Асабісты вопыт, памножаны на надзвычай багатае творчае ўяўленне мастака, – сакрэт яго літаратурнага поспеху.

"Ненавіджу вайну" – гэта не проста дэкларацыя пісьменніка(,) не прыгожая фраза, разлічаная на людзей. Гэта яго сутнасць(,) яго філасофія(,) сэнс яго жыцця. Ён ненавідзіць вайну, таму што любіць чалавека і чалавецтва. Пра што і пра каго б ён ні пісаў, з кожнага яго радка крычыць боль за чалавека. Нават тады, калі ён піша пра такіх, як Рыбак.

Чаму Васіль Быкаў піша толькі пра вайну? Таму, што ён з пакалення тых, у каго вайна страляла ва ўпор. Тым, хто ўцалеў, хто вярнуўся з гэтага страшэннага пекла, яна вярэдзіць сэрца(,) памяць і сёння. У тым, што Васіль Быкаў піша толькі пра вайну, вінаваты не сам ён, а вайна.

Сёння яго творчасць на дзіва актуальная(,) надзённая(,) сучасная. Бо сёння няма больш важнага пытання, чым пытанне вайны і міру. Ён піша пра вайну, бо страсна не хоча, каб яна зноў паўтарылася.

Іменна за гэта і любяць яго мільёны чытачоў у нас і за мяжой.

М. Матукоўскі. "Я ненавіджу вайну…"

Растлумачце значэнне слова *дэкларацыя*.

Падказка. *Дэкларацыя* – афіцыйная або ўрачыстая праграмная заява (кніжн.) (ТСБЛМ).

Вызначце стыль тэксту і тып маўлення. Думку абгрунтуйце.

Прачытайце сказ (або сказы), у якім заключаны вывад.

Якія творы Васіля Быкава вы чыталі? Па якіх творах пісьменніка зняты мастацкія фільмы?

Падказка. "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Дажыць да світання", "Сотнікаў", "Воўчая зграя" і інш.

**4.** Прачытайце, назавіце азначэнні, растлумачце, чаму адны азначэнні аднародныя, другія – неаднародныя.

1. Янка Купала – адно з найбольш папулярных і самых любімых імён у Беларусі. Можна з упэўненасцю сказаць, што ад малога да старога кожнаму глыбока запалі ў сэрца пранікнёныя, усхваляваныя паэтычныя радкі Купалы, якія апяваюць жыццё народа, яго гераічнае змаганне за шчасце і волю, славяць дабро і зло.

П. Броўка. Народны пясняр.

2. Гартаючы старонку за старонкай багатай спадчыны вялікага беларускага пісьменніка Якуба Коласа, мы нібы робім падарожжа ў свет ідэй і вобразаў гэтага найвыдатнейшага мастака слова, у жыццё і працу чалавека высокай душы.

М. Лужанін. Падарожжа ў свет паэта.

3. "Вянок" застаўся першай і адзінай кнігай Максіма Багдановіча. Першай, але непераўзыдзенай, класічнай і вечна новай Кнігай у беларускай паэзіі.

Т. Чабан. Космас "Вянка".

4. У "Новай зямлі" паэзіяй стала сама проза жыцця, проза штодзённага сялянскага працоўнага быту.

А. Адамовіч.
Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы.

5. Марцінкевіч ведаў Беларусь. Маючы натуру жывую, цікаўную, жыццелюбівую, ён неаднойчы аб'ехаў край з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход.

І. Навуменка.
"Мужыцкі" эпас Дуніна-Марцінкевіча.

6. Яны розныя – заснавальнікі новай беларускай літаратуры: парывісты, тэмпераментны, узнёслы Купала і ўраўнаважаны, рэалістычны Колас.

Г. Бураўкін. Дзве зоркі.

Растлумачце сэнс словазлучэнняў *проза жыцця, запалі ў сэрца*.

З якой мэтай слова *Кніга* (у трэцім сказе) напісана з вялікай літары?

Падказка. Агульны назоўнік пішацца з вялікай літары, калі выкарыстаны як стылістычны сродак для падкрэслівання асаблівага стаўлення да чаго-небудзь.

Прачытайце сказы, якія можна было б выкарыстаць пры напісанні сачынення-разважання пра літаратурны твор, і сказы, у якіх аналізуецца творчасць пісьменніка.

Першы, другі, трэці сказы можна выкарыстаць у тэксце ў якасці канцэптуальнага ўступу. Які сказ можа быць кампанентам фактуальнага ўступу?

Падказка. 5-ы сказ (пра тыпы ўступаў гл.: Роднае слова, 2007, № 3, с. 49).

Растлумачце сэнс назваў цытаваных крыніц.

**5.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з аднароднымі членамі. Укажыце сродкі сувязі паміж аднароднымі членамі (злучнікі, інтанацыя пералічэння).

***Марына Сяргееўна Ржавуцкая*** *– мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (2000). Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1984). Настаўнічала ў Мінску, працавала асістэнтам кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. З 2004 г. – дацэнт гэтай кафедры. Даследуе пытанні мастацкага перакладу з блізкароднасных моў.*



Якуб Колас увайшоў у маё жыццё не адразу, а паступова. Вершы з чытанак, з хрэстаматый – гэта, фактычна, павярхоўнае, беглае знаёмства, гэта толькі ўсведамленне таго, што ёсць наш, беларускі паэт, які піша такія простыя, празрыстыя, звонкія вершы, апісвае тое, што знаёма з маленства кожнаму сялянскаму дзіцяці.

Потым прыйшла да мяне незвычайная па сіле і хараству паэма "Сымон-музыка", якую я пачуў з вуснаў свайго настаўніка. Ён чытаў нам паэму на ўроках, і яны мне запомніліся на ўсё жыццё. Чароўная музыка радкоў, цяжкі лёс таленавітага хлопчыка Сымонкі – усё гэта ашаламляла, пачынаючы з прысвячэння і канчаючы лірычнымі адступленнямі, у якіх паэт выказваў свой роздум над жыццём, лёсам свайго краю і народа, над лёсам адораных талентам людзей.

Паэма "Сымон-музыка" засталася для мяне назаўсёды такой, якою я пачуў яе з вуснаў настаўніка. А вось "Новая зямля" мянялася ў маёй свядомасці некалькі разоў. Мо таму, што "Новая зямля" – паэма больш складаная, з большым філасофскім падтэкстам, які не адразу знойдзеш і адчуеш, тым больш калі чытач яшчэ вучань, падлетак. Мне здавалася, што ўсё тое, пра што піша паэт, я ўжо ведаю, бачыў, чуў. Дый што цікавага можна знайсці ў нашым сялянскім жыцці?

Аднак у хуткім часе я зірнуў на паэму другімі вачыма. Яна адкрылася мне пасля таго, як я пакінуў вёску, перасяліўся ў горад. Якуб Колас адкрыў высокую паэзію ва ўсім, што акружае чалавека працы ў прыродзе, у жыцці, які звязаны з прыродай, з зямлёю, з гаспадаркай. Сам Якуб Колас, сялянскі сын, не мог не любіць гэтай роднай зямлі Беларусі, якая жыла ў яго сэрцы заўсёды, куды б ні кідаў яго лёс. Зямлі як радзімы і зямлі як кавалка поля, нівы, якая родзіць жыта і дае хлеб.

Якуб Колас – сапраўдны плодны колас на ніве беларускай культуры, які і сёння не перастае даваць новы плён, не спыняе свае высокае місіі служыць таму народу, з гушчыні якога ён выйшаў і якому аддаў усе свае сілы і талент.

У. Дамашэвіч. Колас роднае нівы.

Вызначце тэму, прызначэнне і адрасата тэксту.

Прачытайце сказ, які адлюстроўвае асноўную думку тэксту.

Як вы думаеце, чаму У. Дамашэвіч назваў свой тэкст "Колас роднае нівы"?

Прачытайце сказы, у якіх выказваецца ўласная аўтарская ацэнка, асабістае ўражанне ад твораў.

**6.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з аднароднымі членамі, укажыце: 1) іх сінтаксічную ролю ў сказе; 2) якой часцінай мовы выражаны; 3) сродкі сувязі паміж аднароднымі членамі; 4) від сувязі (дапасаванне, кіраванне, прымыканне) аднародных членаў з агульным членам сказа (для даданых членаў сказа).

На золаку XX стагоддзя, калі Расію ўскалыхнулі хвалі першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, на Беларусі заззяў вясёлкай цудоўны самародак, непаўторны талент, выразнік запаветных дум і светлых надзей народа – Янка Купала.

Здаецца, і ведаеш творы паэта, а ўсё роўна кожны раз, калі разгортваеш яго кнігу і пачынаеш чытаць, адкрываеш для сябе штосьці новае, нязведанае.

Чытаеш і нібы чуеш жывы голас паэта, прыглушаны цяжкай дарогай яго вандроўнага жыцця, бачыш яго вочы, то задуменныя, то з іскрынкамі спагадлівай усмешкі. Міжволі пачынаеш як бы гутарыць праз вершы з чалавекам, які і сёння наш сучаснік, старэйшы сябар, добры дарадца, спадарожнік нашых радасцей і нашых трывог, спадарожнік вечны, на стагоддзі.

Творы Янкі Купалы абуджаюць светлае жаданне ўбачыць увачавідкі тыя мясціны, што ўзгадавалі яго, тыя сцежкі, па якіх хадзіў вялікі песняр, выкрасаючы з сэрца асветленыя магутным роздумам радкі, што ўвабралі ў сябе гэтак шмат народных дум, людской журбы, радасных спадзяванняў і здзяйсненняў.

Багатую спадчыну пакінуў нам Янка Купала – паэт, драматург, палымяны публіцыст. Яго вершы жывуць, не цьмянеюць, будуць жыць праз стагоддзі. Час не мае над імі ўлады. У лірыцы яго засведчана асабіста перажытае хваляванне, выкліканае канкрэтнымі абставінамі. Амаль кожны верш як споведзь, як дзённік, па якім можна ўзнавіць увесь шлях паэта. Кожны твор поўны вялікай праўды жыцця, ён выклікае шчырыя парывы пачуццяў і новыя ўзлёты думкі. І ніводзін радок багатай Купалавай спадчыны не ашукае нашага даверу.

Народна-гутарковае слова і кніжнае ідуць у творах Янкі Купалы побач, яны падпарадкаваны адной мэце – паказаць духоўнае ўзвышэнне чалавека, якому наканавана было ладзіць новае жыццё, асветленае зарою вялікіх гістарычных перамен.

У. Юрэвіч. Янка Купала.

Дакажыце, што прапанаваны тэкст – гэта разважанне. Вылучыце кампазіцыйныя часткі тэксту, складзіце яго план.

Якія творы Янкі Купалы вы вывучалі на ўроках беларускай літаратуры? Якія з іх вам найбольш запомніліся і чаму?

Уладзімір Юрэвіч называе Купалу *"цудоўным самародкам"*, *"непаўторным талентам"*, а якія яшчэ перыфразы вы ведаеце?

Падказка. "Народны пясняр" (П. Броўка); "сапраўдны арыстакрат духу" (М. Шчаглоў); "бацька беларускай літаратуры" (П. Пруднікаў); "прарок беларускага Адраджэння" (У. Казбярук); "беларускай песні ўладар" (К. Камейша); "чарадзей роднага слова" (В. Вітка).

Кожны з відаў сачынення (у тым ліку і сачыненне-водгук) мае сваю спецыфіку. На нашу думку, дастаткова эфектыўным спосабам падрыхтоўкі да водгуку з'яўляецца аналіз тэкстаў з публіцыстычных твораў. Акрамя гэтага, у час падрыхтоўкі да напісання водгуку настаўнік можа выкарыстаць узоры раней напісаных іншымі вучнямі сачыненняў аднолькавай або аналагічнай тэматыкі. Аналітычная праца з узорным тэкстам дазваляе вучням зразумець не толькі, пра што ім трэба пісаць, але і да якога выніку імкнуцца.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

САКАВІК

*Працяг. Пачатак на с. 66.*

**21 сакавіка –** 110 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Серады (1901 – 1981), майстра народнага ткацтва

90 гадоў з дня нараджэння Аляксея Папова (1921 – 1974), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

70 гадоў з дня нараджэння Валерыя Фралова (1941 – 1991), габаіста, педагога, заслужанага артыста Беларусі

**22 сакавіка –** 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Зарыцкага (1911 – 1987), паэта, перакладчыка

90 гадоў таму пачала выходзіць грамадска-палітычная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку "Беларускі звон". Існавала да 24 лютага 1923 г.

90 гадоў з дня нараджэння Мікалая Куйчыка (1921 – 1987), жывапісца

**23 сакавіка –** 115 гадоў з дня нараджэння Льва Лейтмана (1896 – 1974), графіка, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

105 гадоў з дня нараджэння Ісаака Любана (1906 – 1975), кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Святланы Сенчанкі, мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

*Заканчэнне на с. 100.*

*Рыхтуемся да алімпіяды*

# КОНКУРС "ВУСНАЕ ВЫКАЗВАННЕ": РЭКАМЕНДАЦЫІ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ

Падрыхтоўка да алімпіяды – працэс адказны і складаны. Настаўнікамі накоплены багаты вопыт, арыентаваны на ўдзел вучняў у розных турах алімпіяды па беларускай мове і літаратуры. У дапамогу навукоўцамі прапануюцца досыць разнастайныя матэрыялы па беларускай мове для лінгвістычнага конкурсу, прафесійныя рэкамендацыі па напісанні водгуку на мастацкі твор. У той жа час досыць часта па-за ўвагай застаецца алімпіядны конкурс "Вуснае выказванне", менавіта ў ім выяўляецца адсутнасць і элементарных навыкаў вуснага прамаўлення, і планамернай падрыхтоўкі. Выступленні школьнікаў часта нагадваюць адцягненае разважанне на зададзеную тэму ці грунтоўны адказ на экзамене, бясстрасны і звышінфарматыўны.

Што вуснае выказванне патрабуе толькі канкрэтных ведаў па зададзенай тэме – меркаванне спрошчанае і памылковае. Як сведчаць крытэрыі ацэнкі, у ім прадбачыцца рознабаковае выяўленне асобы вучня. На конкурсе ацэньваецца ўменне быць прамоўцам, здольным зацікавіць адпаведнай інфармацыяй, уразіць формай яе падачы. У дадзеным выпадку вучням будзе карыснай інфармацыя па асновах аратарскага майстэрства. Гэтыя веды можна атрымаць на занятках па рыторыцы ці адпаведным факультатыве. Задача настаўніка-прадметніка: арганізавана правесці падрыхтоўку да конкурсу вусных выказванняў. Працу рэкамендуецца арганізаваць у некалькі этапаў.

**І. Знаёмства з агульнымі патрабаваннямі да вуснага выказвання, яго структурай.**

На дадзеным этапе неабходна даць агульнае ўяўленне пра вуснае выказванне, патлумачыць, што вуснае выказванне – від працы творчага характару, блізкі па сваіх канонах да сачынення-разважання і эсэ. На адну з прапанаваных тэм патрэбна даць разгорнуты адказ з выяўленнем набытых ведаў, улікам выхаванасці, узроставых асаблівасцей і жыццёвага вопыту.

Важна прадэманстраваць узор вуснага выказвання. У якасці прыкладу можа быць скарыстаны аўдыё- ці відэазапіс або арыгінальнае выступленне школьнікаў, што мелі вопыт удзелу ў алімпіядзе. Важна пазнаёміць і з друкаваным варыянтам выказвання, паказаць у ім такія структурныя кампаненты, як уступ, асноўная частка, заключэнне, абазначыць іх суадносны аб'ём.

Для гэтага этапу працы можна рэкамендаваць заданні і прыкладныя тэксты, у якіх патрэбна: ахарактарызаваць галоўную думку; вылучыць уступ, асноўную частку, заключэнне; скласці план-схему.

**ІІ. Знаёмства з крытэрыямі ацэнкі вуснага выказвання.**

На гэтым этапе неабходна звярнуць увагу вучняў на важныя моманты як у змястоўным напаўненні, так і ў фармальным выяўленні вуснага выказвання, ацэнка якога прапісана ў распрацаваных і зацверджаных спецыялістамі крытэрыях. Важна ўказаць на асобныя палажэнні крытэрыяў ацэнкі, такіх, як адпаведнасць выказвання абранай тэме, лагічнасць і будова выказвання, культура маўлення, дасканаласць прамаўлення.

Лагічна пачаць аналіз характэрных памылак з першага блока крытэрыяў, які патрабуе ад выступоўцы правільнага разумення тэмы вуснага выказвання, яе адэкватнага раскрыцця. Тыповымі памылкамі пры раскрыцці тэмы вуснага выказвання можна назваць наступныя:

– адсутнасць задумы, асноўнай думкі ці няўменне яе раскрыць;

– расшырэнне ці звужэнне тэмы выказвання, адыход ад прапанаванай тэмы, перагрузка падрабязнасцямі, якія не маюць значэння для раскрыцця тэмы;

– няўменне адабраць патрэбны матэрыял і сістэматызаваць яго, парушэнне паслядоўнасці яго падачы;

– неадпаведнасць зместу, кампазіцыі, формы адрасату выказвання ці ўмовам зносін.

Для набыцця навыкаў правільнага разумення і раскрыцця тэмы прамовы можна прапанаваць наступныя ўзоры заданняў: у дадзеным тэксце вызначыць асноўную думку, зрабіць падзел на структурныя часткі, знайсці лішняе; дапоўніць патрэбнай інфармацыяй; паправіць недакладна выкарыстаны аргумент ці аргументы.

Скласці план па дзвюх тэмах вуснага выказвання: "Здабыткі ў жанрах драмы і камедыі" і "Тэатральныя спектаклі ў пастаноўцы беларускамоўных тэатраў". Параўнаць кампазіцыйную схему названых тэм, указаць, якімі пунктамі яны збліжаюцца, якімі адрозніваюцца.

**ІІІ. Засваенне тэарэтычнага матэрыялу і арганізацыя працы па набыцці практычных навыкаў у стварэнні прамовы.**

Вуснае выказванне – гэта імправізаваная прамова. Каб зрабіць яе яркай, запамінальнай, неабходна валодаць канкрэтнай інфармацыяй па

належным афармленні ўступу, асноўнай часткі, заключэння. Пры гэтым можна парэкамендаваць вучням распрацаваныя навукоўцамі віды і формы выяўлення названых структурных кампанентаў прамовы.

Той, хто рыхтуецца да выступлення перад слухачамі, перш за ўсё павінен для сябе вызначыць, чаго ён хоча дасягнуць сваёй прамовай. Вызначэнне мэты (гэта значыць, уяўлення пра агульны вынік, які павінен быць дасягнуты ў працэсе выступлення) з'яўляецца важнай умовай любой добрай прамовы.

Вылучаюцца наступныя разнавіднасці мэт:

– інфармацыйная мэта (пры яе рэалізацыі ставіцца задача паведаміць слухачам новыя звесткі);

– натхняльная мэта (яе задача ўздзейнічаць на пачуцці, стварыць душэўны настрой);

– заклікальная мэта (у дадзеным выпадку вырашаецца задача схіліць да сваёй думкі, далучыць да пэўных дзеянняў);

– пераканальная мэта (для яе рэалізацыі ставіцца задача пераканаць слухачоў прыняць адпаведны пункт погляду).

Для ўмення правільна выбраць адпаведную мэту для вуснага выказвання можна прапанаваць наступнае заданне.

Да прыведзеных тэм падабраць адпаведную мэту і абгрунтаваць свой выбар:

1. Гісторыя і сучаснасць майго горада (вёскі).

2. "Вышэй за ўсё і перш за ўсё – чалавечнасць" (Я. Брыль).

3. "Калі ласка! – нашай роднай мовы шчырыя і ветлівыя словы" (П. Броўка).

4. "Той шчаслівы, хто зведаў каханне…" (П. Панчанка).

5. Беларуская літаратура пра Вялікую Айчынную вайну.

6. Патрыятызм – гэта ўпрыгожанне радзімы талентамі і справамі.

7. Трымаю хлеб на стомленых руках, нібыта візу ў новае стагоддзе.

8. Родны кут у творчасці беларускіх пісьменнікаў.

9. Багацце беларускай мовы.

10. "Раны гояцца часам, а дружбаю гора…" (А. Куляшоў).

11. Роля роднай мовы ў выхаванні нацыянальнай свядомасці.

12. Сучасная беларуская музыка.

13. Народныя святы.

14. Літаратура XX стагоддзя: тэмы і героі.

15. Расказ аднагодкам з замежных краін пра сучасную Беларусь.

16. Мой любімы беларускі паэт.

Другі блок крытэрыяў ацэнкі вуснага выказвання "Лагічнасць і будова выказвання" разгледжвае дасканаласць змястоўных і фармальных адзнак яго структурных частак: уступу, асноўнай часткі, заключэння. На жаль, школьнікі выяўляюць дастаткова павярхоўнае веданне нормаў і параметраў гэтых частак вуснай прамовы. У той жа час важным паказчыкам яе дасканаласці з'яўляецца правільна і ў належнай паслядоўнасці пабудаваная структура. Паводле агульнапрынятых канонаў тры часткі выступлення суадносяцца наступным чынам: уступ – 10 – 15%, асноўная частка – 75 – 85%, заключэнне – 5 – 10%. Дакладная структура – неад'емная ўмова паспяховай прамовы. Задача настаўніка – даць інфармацыю пра структуру вуснага выказвання, указаць на прапарцыянальную суадноснасць яго частак, на адпаведных прыкладах указаць на магчымыя для ўжывання ў вусным выказванні віды ўступу, заключэння, узоры магчымай будовы асноўнай часткі.

Уступ неабходны для таго, каб устанавіць кантакт са слухачамі, прыцягнуць іх увагу, падвесці да раскрыцця тэмы. Некаторыя дапаможнікі па аратарскім майстэрстве рэкамендуюць выкарыстоўваць ва ўступе чатыры важныя элементы:

– прывітанне і зварот да слухачоў;

– арыгінальны зачын;

– ідэю прамовы;

– тэматычна звязаны пераход да асноўнай часткі.

Прывітанне перад выступленнем вырашае дзве праблемы: дапамагае наладзіць кантакт з прысутнымі і (калі неабходна) указаць на канкрэтнага адрасата, калі ён асоба прыдуманая; дапамагае пераадолець хваляванне ў самым пачатку прамовы.

Важным момантам добрай прамовы з'яўляецца арыгінальны зачын. Можна рэкамендаваць як узор некалькі яго разнавіднасцей:

– выказаць свае ўражанні ("Сёння для мяне вельмі радасны дзень…");

– спаслацца на канкрэтную інфармацыю, дакладныя лічбы, што могуць быць звязаны з тэмай выказвання ("На Беларусі 20 тысяч рэк…");

– указаць на агульную далучанасць да нейкай праблемы ("Мы ўсе балюча ўспрымаем…");

– стварыць яркі вобраз ("Я ведаю такога чалавека, якога ўсе іншыя назвалі б дзіваком…");

– задаць рытарычнае пытанне ("Ці ведаеце вы, што…?");

– расказаць цікавую гісторыю, легенду, прытчу, якая падводзіць да разумення асноўнай думкі і тэмы выказвання ("Пра возера Свіцязь ёсць адно цікавае паданне…");

– выкарыстаць афарыстычнае выслоўе («"Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі!" –

вядомы многім беларусам заклік Ф. Багушэвіча…»);

– узгадаць гістарычны факт (“У 1863 – 1864 гг. на Беларусі адбылося паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага…”).

Пералік можа быць дапоўнены іншымі варыянтамі, але, як правіла, зручней для падобнага кшталту выступлення выкарыстаць зачын з прыведзеных узораў.

Абавязковымі ўмовамі належнага выяўлення асноўнай часткі вуснага выказвання з’яўляюцца тры важныя патрабаванні:

– самадастатковы змест;

– наяўнасць аргументаў, цытат, спасылак;

– лагічнасць, прадуманая паслядоўнасць выкладання матэрыялу.

У дачыненні да першага з патрабаванняў можна адзначыць, што для вуснага выказвання прыдатныя самыя розныя спасылкі і аргументы, абумоўленыя прапанаванай тэмай. Важна памятаць, што як і недастатковая колькасць аргументаў, так і перагружанасць імі выказвання – гэта магчымыя памылкі пры выступленні. Улічваючы рэгламент выступлення (5 – 7 хвілін), можна разлічыць, што для асноўнай часткі рэкамендавана выкарыстанне не менш за 2 і не больш за 5 аргументаў.

Для таго каб асноўная частка атрымала належную доказнасць, важна выбраныя аргументы падаць у пэўнай паслядоўнасці. У такім выпадку рэкамендуецца выкарыстанне адной з такіх разнавіднасцей кампазіцыйнай будовы:

– хранікальная (з захаваннем часавай паслядоўнасці);

– кантрасная (аргументы процістаяць адзін аднаму);

– лагічная (ад часткі да цэлага; ад простага да складанага; ад прыватнага да агульнага);

– спіралевідная (ад ключавой думкі да яе пашырэння);

– праблемная (вылучэнне розных аспектаў з аднаго актуальнага кола пытанняў);

– пытальна-адказавая (пастаноўка пытання і адпаведны адказ).

Заключэнне – не менш важны элемент выказвання, чым іншыя. Невялікі па аб’ёме (5 – 10% ад выказвання), ён павінен быць кампактным і змястоўным адначасова. Варта памятаць, што больш выразна выдзяляе ў выступленні заключную частку фраза-падагульненне тыпу “такім чынам”, што з’яўляецца яшчэ адным важным патрабаваннем вуснай прамовы.

Найбольш распаўсюджаныя варыянты заключэння:

– коратка сфармуляваныя асноўныя палажэнні;

– паўтарэнне першаснага тэзіса;

– указанне перспектыў;

– канцоўка-пажаданне;

– канцоўка-заклік.

Пры гэтым трэба ўлічыць, што любы з названых варыянтаў можа быць ілюстрацыйным, г. зн. сфармуляваным у выглядзе цытаты, вершаваных радкоў, крылатага выразу. Але і такая форма ўсё роўна патрабуе пэўнага падагульнення.

Для замацавання тэарэтычнага матэрыялу можна прапанаваць вучням наступныя віды заданняў: на аснове пэўнага тэксту стварыць прамову, выбраць мэту выказвання; сфармуляваць асноўную думку; выбраць належную будову для асноўнай часткі; адкінуць лішняе; падабраць адпаведны ўступ і заключэнне.

Па прапанаванай схеме скласці прамову на тэму “Тэматычная разнастайнасць паэзіі Рыгора Барадуліна”.

**План**

1. Рыгор Барадулін – яркі прадстаўнік пакалення “шасцідзясятнікаў”.

2. “Дзяцінства, апаленае вайной” у творчасці паэта.

3. Паэтызацыя Радзімы, маці, бацькоўскай хаты ў вершах Р. Барадуліна.

4. Хараство беларускай прыроды ў паэзіі Р. Барадуліна.

5. Выяўленне псіхалагізму, глыбіні пачуццяў у лірыцы кахання.

6. Філасофскія, духоўна-рэлігійныя шуканні паэта.

7. Асаблівасці паэтычнага майстэрства Р. Барадуліна.

Стварыць тэкст прамовы па адной з прапанаваных тэм, склаўшы адпаведны план, і падрыхтаваць выступленне:

1. “Словы без справы – шум ветру толькі” (М. Танк).

2. “Самая большая рана на маім сэрцы – гэта тая, якую пакінула несправядлівасць” (А. Вярцінскі).

3. Дзяцінства, дзяцінства, як роснае ранне…

4. “Між сварак, войнаў і парокаў паэт павінен быць прарокам” (У. Мазго).

**IV. Праца з тэмамі вусных выказванняў.**

Як сведчаць назіранні, гэты этап часта бывае адзіным у падрыхтоўцы да вуснага выказвання. Рыхтуючыся да конкурсу “Вуснае выказванне”, вучні загадзя ствараюць некалькі “хатніх” нарыхтовак па пэўных тэмах. На жаль, падобная па-свойму прадуктыўная праца не здымае, а, наадварот, стварае шэраг праблемных момантаў у конкурсным выступленні. Вучні, прывязаныя да канкрэтнай падрыхтаванай імі тэмы, не могуць, а часам не ўмеюць праявіць гнуткасці мыслення, каб выкарыстаць вядомы ім матэрыял у

дачыненні да канкрэтнай тэмы ў алімпіядным заданні.

Менавіта на гэтым этапе падрыхтоўкі настаўніку неабходна дапамагчы школьніку набыць навыкі ва ўменні правільна зразумець прапанаваную тэму, выбраць адпаведную ёй ідэйную пазіцыю, падабраць неабходныя аргументы для яе раскрыцця. Вучні павінны ўмець бачыць і выяўляць праблемныя напрамкі ў знешне блізкіх тэмах, выкарыстоўваць карэктна і прадумана вядомы ім матэрыял. Падрыхтоўка вучнямі так званых "хатніх" тэм – справа карысная, калі ёсць уменне правільна распарадзіцца вядомай інфармацыяй.

**V. Выканаўчае майстэрства.**

Важнае месца ў вусным выказванні займае майстэрства выступоўцы ў валоданні сродкамі тэхнічнай выразнасці вуснага слова (голас, дыкцыя, жэсты, міміка). Тут адыгрывае станоўчую ролю ўжо набыты ў выступленнях перад публікай вопыт школьніка, яго ўменне трымацца перад слухачамі, бачыць аўдыторыю. У значнай ступені на гэтым этапе будуць запатрабаваны навыкі па выразным чытанні. Але вуснае выказванне мае і шэраг асаблівасцей, на якія варта звярнуць увагу.

Найперш варта вызначыцца, стоячы ці седзячы будзе падавацца вусная прамова. Катэгарычнасці ў выбары быць не можа, многае залежыць ад манеры самога прамоўцы (актыўны, разняволены і да т. п.), ад мэты выказвання, урэшце, ад фізічнага стану, хвалявання.

Выступленне стоячы стварае патрэбны ўнутраны стан годнасці, большай упэўненасці, сілы, што, адпаведна, праяўляецца і знешне. Зрэшты, такое выступленне глядзіцца выйгрышна, калі папярэднія асобы гаварылі седзячы. Рукі ў час прамовы свабодныя спераду, можна трымаць свае тэзісы. Ногі трохі расстаўлены, адна крыху наперадзе: гэта дае большую свабоду для жэстыкуляцыі і руху.

Калі ж выступленне адбываецца седзячы, да яго таксама можна выказаць такія рэкамендацыі: корпус павінен заставацца прамым, галава прыўзнята, рукі пакладзены на стол ці на калені, у патрэбны момант дазваляецца дарэчная жэстыкуляцыя. Не пажаданы рухі назад-наперад, хістанне на крэсле і пад.

Варта памятаць, што вуснае выказванне не патрабуе акцёрскай ігры, пераўвасаблення, як пры выразным чытанні твораў, але пэўная доля артыстызму павінна прысутнічаць. Гэта датычыцца такіх момантаў, як цытаванне ўрыўкаў з твораў, абыгрыванне лагічных ці псіхалагічных паўз.

Важным патрабаваннем застаецца *адраснасць выказвання*. Неабавязкова адрасата называць, але ў прамове павінен адчувацца кантакт з прысутнымі. Для стварэння яго можна выкарыстоўваць своеасаблівыя звароты тыпу "як вам вядома", "вас не пакіне гэта раўнадушным", "як вы разумееце" ці ставіць рытарычныя пытанні тыпу "ці вядома вам, што…".

У падачы вуснага выказвання важную ролю адыгрываюць паняцці *тэмп мовы, паўза, інтанацыя*. Фарміраванне навыкаў па выразнасці вуснага слова адбываецца на занятках літаратуры пры мастацкім чытанні. Аднак рэкамендуецца замацаваць гэтыя навыкі на спецыяльных занятках пры падрыхтоўцы да вуснага выказвання.

**Прыкладныя практыкаванні**

Прачытаць прыведзены сказ як простую інфармацыю, а пасля:

– з пачуццём абурэння, смутку: "Жахлівыя карціны разбурэння і смерці малюе маё ўяўленне, калі прамаўляецца слова *вайна*";

– з пачуццём радасці і замілавання: "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць";

– насмешліва, жартаўліва: "Хутчэй пазбаўся ад граматык, нашто нам правілы? Зашмат іх!";

– з інтанацыяй пералічэння: "Што ад нас застанецца – ці песня, ці хата, ці дрэва, ці зямля, што навекі ва ўсіх адна?".

У вершаваным урыўку знайсці ключавыя словы і прачытаць іх у замаруджаным тэмпе, менш важныя – у паскораным:

"Для іншых вы – *ахвяры радавыя*
Крутых гадоў, бязлітасных судоў.
А для мяне – *вы маршалы*, якія
Камандавалі б арміямі слоў" (А. Куляшоў).

Прачытайце тэкст з захаваннем лагічных паўз паміж словамі і сказамі: «…думкі былі і такія: "Як нас тут многа! Якое мноства людзей у адным месцы! Кажуць, сорак пяць тысяч. Як гэта дзіўна, нябачана – з розных краін, розных расаў, з рознымі мовамі. І ў кожнага – як тая бабуля, гледзячы на полк салдатаў, казала – яшчэ ж і маці недзе ёсць!.. Яшчэ ж было таксама і маленства. Каб гэта выйсці яму нейкім цудам наверх успамінамі кожнага, – як расцвіла б яна, акружаная калючым дротам, кулямётамі, пражэктарамі, зямля, вясняная трава якой дашчэнту і надоўга вытаўчана горка-гуляшчымі нагамі!.."» (Я. Брыль).

Паспрабуйце перадаць сваімі словамі змест урыўка, захаваўшы ў патрэбных месцах паўзы.

**VI. Набыццё навыкаў па арганізацыі працы пры падрыхтоўцы вуснага выказвання на алімпіядзе.**

Важнасць гэтага этапу працы тлумачыцца тым, што практыка стварэння імправізаванай прамовы ў вучняў амаль адсутнічае. На жаль,

пытанню культуры вуснага выступлення мала аддаецца ўвагі і на занятках па мове і літаратуры. У канкрэтнай сітуацыі на алімпіядзе школьнікі дзейнічаюць спантанна, часта паспешліва, не да канца абдумваючы тое, пра што ім трэба гаварыць. Як правіла, вучні нерацыянальна выкарыстоўваюць час падрыхтоўкі да вуснага выступлення, не кажучы ўжо пра тое, што ў іх чарнавых лістах проста адсутнічае план выступлення.

Задача настаўніка навучыць правільна арганізаваць працу па падрыхтоўцы імправізаванай прамовы. Падрыхтоўку вуснага выказвання па зададзеных на алімпіядзе тэмах рэкамендуецца праводзіць у наступнай паслядоўнасці:

– выбар тэмы;
– вызначэнне мэты прамовы;
– фармулёўка і запіс асноўнай ідэі вуснага выказвання;
– складанне плана прамовы, выбар яе кампазіцыі і аргументаў;
– шліфоўка і карэкцыя выступлення, запіс найбольш важных фраз, імён, дат, цытат.

Падобная планамерная дзейнасць, як сведчыць ужо набыты вопыт, дазваляе рацыянальна выкарыстоўваць час, пазбегнуць непажаданых недакладнасцей у форме і змесце выступлення, зрабіць яго кампактным, яркім, запамінальным.

**Святлана ТАРАСАВА,**
старшы выкладчык
кафедры беларускай літаратуры
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя Янкі Купалы.

*У дапамогу настаўніку*

# СТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ АПАВЯДАННЯ “СТРАТА” ГЕНРЫХА ДАЛІДОВІЧА

Апавяданне “Страта” Г. Далідовіча вывучаецца на ўроках беларускай літаратуры ў V класе (Беларуская літаратура: вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання: у 2 ч. – Ч. 2 / Л. К. Цітова. – Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2009. – С. 70 – 87). З літаратуразнаўчага падыходу кампазіцыя твора празрыстая: вылучаецца шэсць частак, кожная з якіх раскрывае тэму апавядання. Архітэктоніка (знешняя форма пабудовы) і сюжэт развіваюцца паралельна, бо паслядоўнасць частак адпавядае паслядоўнасці апісаных падзей.

Сутнасць *моўнай кампазіцыі* апавядання, якая і будзе зместам даследавання, – у змене і чаргаванні розных тыпаў маўлення, што сінтэзуюцца ў “вобразе аўтара”. Гэты вобраз – славеснамаўленчая структура – вызначае ўзаемадзеянне ўсіх моўных элементаў макракантэксту.

Гэтаму твору ўласціва набліжанасць “вобраза апавядальніка” да “вобраза аўтара”. Яна выражаецца ў адсутнасці адметных стылістычна афарбаваных сродкаў. Пры чытанні тэксту ўяўляеш аўтара, які дзеліцца з чытачом дзіцячымі ўспамінамі і перажытым болем страты. Аднак “я” твора адназначна ўказвае на “вобраз апавядальніка”. Апавядальнікам можа быць хто заўгодна, у тым ліку і сам аўтар. Моўныя сродкі выражэння “вобраза апавядальніка” ў творы – займеннік *я* і формы 1-й асобы дзеяслова.

У пачатку твора апавядальнік Стась выступае носьбітам літаратурнай мовы і паэтычна адоранай натурай: “*Як цяпер, помню: Бокуці прыехалі ў нашу вёску ўвосень. У разлагоджаную, ціхую і сонечную часіну – у самае красаванне бабінага лета.*

*Казалі, дагэтуль Бокуць-бацька працаваў у горадзе, быў на добрай пасадзе, але сам папрасіў, каб яго назначылі дырэктарам нашага саўгаса. Разам з ім заявіліся яго жонка і двое дзяцей, хлопчык і дзяўчынка*”.

Выкарыстаны элемент экспрэсіўнага сінтаксісу – парцэляваная канструкцыя (*У разлагоджаную, ціхую і сонечную часіну…*), эпітэт *разлагоджаная*, ацэначны аддзеяслоўны назоўнік *красаванне*, які ўзмацняе сэнсавае напаўненне фраземы *бабіна лета*. Дэталь *разлагоджаная, ціхая, сонечная часіна* – ключавая для наступнага разгортвання вобразаў. Дзеяслоў *заявіліся* выражае няпэўнае стаўленне апавядальніка да навічкоў, але нечаканасць іх прыезду напружвае.

Апавядальны характар пачатку твора змяняецца апісаннем з ацэначнай лексікай. Дзеці Бокуцяў – трохгадовая Валя і пяцікласнік Міця. Пры характарыстыцы іх знешняга выгляду

ўжываюцца словы з эмацыянальна-экспрэсіўнай канатацыяй *маленькая, плашчык, кепачка*. Прыметнікі са значэннем колеру таксама выкарыстоўваюцца ў партрэтным стварэнні персанажаў: у Міці *руды* плашчык, *карычневая* кепачка, *чорны* гузік, *чорны* партфель. Выразная мастацкая дэталь (яна скразная ў творы, яднае тэматычнае поле апавядальніка і тэматычныя палі іншых персанажаў) – белізна твару хлопчыка. Міця быў *"надзвычай белы"*. Але ў пачатку апавядання не выяўляецца стаўленне Стася да гэтай белізны. У Міцевай маці – *светлы плашч, жоўтая касынка, жоўтыя туфлі*. Праз маўленне апавядальніка выяўляецца ацэнка прыезджых: *"Адмысловае адзенне, партфель, акуляры рабілі Міцю сур'ёзным, разумным і сталым – ледзь не маларослым дзядком"*; *"На галаве ў яе* (Міцевай маці. – ***Т. С.***) *красавалася прыгожая завіўка"*. Такая ацэнка сведчыць пра насцярожаныя адносіны да Бокуцяў, якія так не падобныя да тутэйшых вяскоўцаў. Выраз *красавалася прыгожая* (завіўка) плеанастычны. Праз дзеяслоў *красавалася* з кантэкстуальна адмоўнай ацэнкай перадаецца дастаткова негатыўнае, на погляд Стася, выстаўленне сябе напаказ. Прыгадаем пачатак твора, у якім гэты ж дзеяслоў мае іншае семантыка-стылістычнае значэнне (выраз *красаванне бабінага лета* адлюстроўвае шчырае захапленне чароўнасцю прыроды).

Пасля сюжэт з апісальнага шляху пераходзіць на апавядальны. Узмацняецца дынаміка радка дзякуючы ўжыванню дзеясловаў: *"Міця з маці спачатку* ***зайшлі*** *ў настаўніцкую, а пасля ўжо наша класная кіраўніца* ***прывяла*** *навічка ў пяты "А". Як і заўсёды перад пачаткам урока, мы* ***бегалі***, ***штурхаліся***, ***гаманілі***, *але пры Ірыне Вітальеўне і навічку* ***пацішэлі***, ***бачачы***, *што дырэктараў сын* ***будзе вучыцца*** *якраз у нашым класе: сын ранейшага дырэктара саўгаса, ганарлівец Артур, таксама* ***вучыўся*** *разам з намі і нямала* ***папсаваў*** *нам ды настаўнікам крыві. Які ж* ***будзе*** *гэты навічок, як ён* ***пачне паводзіцца****? Я* ***здзівіўся***, *можа, больш за ўсіх: класная* ***сказала***, *што Міця Бокуць* ***будзе сядзець*** *са мною на першай парце (мяне* ***пасадзілі*** *тут як летуценнага, не зусім уважлівага вучня, каб я заўсёды* ***быў*** *на вачах і каб настаўнікі ў любую часіну* ***маглі перапыняць*** *мае мары-мроі ды* ***вяртаць*** *да рэчаіснасці)"*.

У маўленні апавядальніка нарэшце з'яўляецца выразная ацэначнасць, якая адсутнічала ў папярэдніх сегментах тэксту, – нядобрая насцярожанасць: *"Калі пачаўся ўрок, я адчуў нейкую нядобрую насцярожанасць"*. Такое спалучэнне характарызуе ўнутраны стан апавядальніка, яго пакуты і перажыванні. У душы Стася адбываецца змаганне дабра са злом.

Стаўленне да Міці ілюструюць моўныя сродкі. Ізноў узнікае толькі канстатацыя факта: Міця *"па-ранейшаму быў непарушны, толькі, бадай, яшчэ болей ненатуральна белы, нібы не меў у сваіх жылах ні кроплі крыві"*. Слухаючы грунтоўны адказ Міці на ўроку беларускай літаратуры, апавядальнік непакоіцца: *«Я з нейкаю нават трывогаю адчуў: не, я так добра не адказаў бы, хоць быў, як казалі, "харошы" вучань»*. Такі непакой выклікаюць якраз станоўчыя рысы аднакласніка, выражаныя адпаведнымі лексемамі і спалучэннямі: *паэт*; *незвычайны*; *гаварыў абдумана, ясна і вельмі глыбока, нібы настаўнік*. Не кранае апавядальніка колер Міцевага твару, які нават пасля ўзрушанага адказу хлопчыка на ўроку і шчырага прызнання ў паэтычных спробах *"амаль не змяніўся; толькі там-сям на шчоках заружовіліся тоненькія жылачкі"*. Упершыню на твары з'явілася хоць кволая, але ўсё ж ружовасць. З'яўляецца нітка паяднання знешнасці Міці з такой звыклай для апавядальніка знешнасцю вяскоўцаў, паказанай у 1-й частцы (яны мелі *"чырвань ці ружовасць"* на твары). Белізна Міцевай скуры згадваецца і тады, калі нехта з класа запусціў у яго кавалачкам гліны: *"Яшчэ праз хвіліну я заўважыў, што па яго* ***белай*** *шчацэ пакацілася буйная слязіна"*. У маўленні апавядальніка ўжыта стылістычна афарбаваная (размоўная) адзінка, якая характарызуе Бокуця, – *цяльпук*.

У 2-й частцы твора эмацыйнасць маўлення апавядальніка звязана са зрокавымі вобразамі: *"Бокуці пачалі жыць у хаце нашага чалавека, які на час аддаў саўгасу сваю гаспадарку і паехаў з сям'ёю на цаліну. У ранейшага гаспадара быў вялікі сад, дык вось цяпер на зялёнай атаве на поплаўчыку пад ачахла зеленаватай яблыняю антонаўкаю, пад якой ляжала нямала апалых яблыкаў, і быў Міця. У кепачцы, у плашчыку, ён сядзеў на нейкім дзіўным, здаецца, сплеценым ці то з карэння, ці то з дубцоў крэсле, гайдаўся ўперад-назад, трымаючы на каленях загорнутую кнігу. Вочы яго былі заплюшчаныя, твар задуменны – ён шчодра быў асветлены ўжо нізкаватым, крыху жоўтым, блеклым, але ўсё яшчэ лагодным сонцам. Увесь зялёна-рудаваты сад быў азалочаны мяккім, пяшчотным і ў той жа час развітальным сумнаватым святлом. Восеньскія жаўтавата-рудыя ці чырвоныя мазкі на лісцях, на траве, а таксама паніжэлае, засмяглае неба, астылае сонца, лёгкае белае павуцінне ў паветры, апусцелыя палі – усё гэта выклікае ў душы харошую журботу. Міця, відаць, у гэтыя хвіліны якраз і быў у палоне нейкай узнёсласці ці занепакоенай задумлівасці"*.

Вакол зрокавых вобразаў групуюцца эпітэты *лагоднае* (сонца); *мяккае, пяшчотнае,*

*развітальнае, сумнаватае* (святло); *паніжэлае, засмяглае* (неба); *астылае* (сонца); *лёгкае* (павуцінне). Дзякуючы вобразным сродкам узмацняецца экспрэсія аксюмарана *харошая журбота*. Такая журбота ўзнікае не толькі ў прыродзе – змяняецца ўнутраны стан Стася, яго адносіны да аднакласніка. Усё ж застаўся *"нейкі гаркаваты след на душы"*, калі Віця пакпіў з хлопчыка, ужываючы словы *беленькі, смятаннік, сынок-пястунчык*. Стылістычна афарбаваныя лексемы набываюць у кантэксце адмоўную ацэнку. Азначэнне *белы* выкарыстоўвае ўжо не толькі апавядальнік, але і адзін з персанажаў твора – пяцікласнік-другагоднік Віця, і маці Стася (*"надта ж белы іх хлопец"*), і бацька (назоўнік з семай 'белы': *"кажуць, белакроўе ў яго"*). У гэтым бачыцца арганізацыйная роля "вобраза аўтара", які вызначае ўзаемасувязь усіх моўных адзінак апавядання. Лексема *белы* стварае адпаведны асацыятыўны фон, дазваляе ўбачыць кожнага персанажа праз стаўленне да незвычайнага, непадобнага да сябе.

Зближаюцца вобразна-тэматычныя палі прыроды і чалавечай сутнасці. Пяшчотнае святло восені гарманічна яднаецца з пяшчотай апавядальніка, які пасля размовы бацькоў вастрэй адчуў чужы боль: *"…я, канечне, не ўсё разумеў, не так глыбока адчуваў Міцева і яго бацькоў няшчасце, як адчувалі мае маці і бацька, але і дзіцячым сэрцам усвядоміў: не буду злы, няшчыры ці помслівы да Міці. Нейкая незразумелая мне самому пяшчота да хворага навічка агарнула маю душу, здаецца, напоўніла яе нечым новым, больш змястоўным"*.

Восень у творы, такім чынам, звязваецца з асэнсаваннем сталасці чалавечага розуму і пачуццяў. Стась пасталеў душой: *"Бадай, упершыню сваім яшчэ дзіцячым сэрцам адчуў тое, пра што раней, бадай, і не думаў, а калі і думаў, дык не з такім усведамленнем, – пра смерць. Адчуў яе пагрозны подых. У мяне аж сціснулася душа: сапраўды, як кажуць мае бацькі, чаму Міця, шчыры, далікатны, разумны хлопец, такі нешчаслівы? Адкуль, навошта прычапілася да яго такая страшная хвароба? Чаму яна ўвогуле ёсць? Я задаваў сабе гэтыя і іншыя пытанні, канечне, не знаходзіў на іх адказ, і гэта вельмі прыгнятала мяне. Здавалася, каб сказалі, што для Міцевага вылячэння трэба нешта аддаць – руку, нагу, вока, – дык я аддаў бы не задумваючыся. Я адчуў вялікі, небывалы дагэтуль прыліў спагады і шкадавання"*.

Пры характарыстыцы Міці выкарыстоўваюцца кантрасныя лексемы *шчыры, далікатны, разумны – нешчаслівы*. Адчуваецца спагада Стася да свайго аднакласніка. Маналог апавядальніка па моўных асаблівасцях у многім супадае з маўленнем цёткі Веры, Міцевай мамы: *"Дзяды, бацькі нашы, я, Мікалай Іванавіч – усе мы, дзякуй богу, здаровыя, а вось да Міці чамусьці прычапілася гэткая страшная хвароба… Ён змалку хварэе і хварэе, не бачыць дзіцячай уцехі, стаў дарослы… Ён усё ведае пра сябе, але, як сталы, умудроны які чалавек, трымаецца з усіх сіл, хоча быць такі, як і ўсе здаровыя дзеці… Сам бачыш: хвароба не зрабіла яго злым ці сумным. Наадварот, у яго гэтулькі дабрыні, шчырасці, што аж душа баліць: такі добры чалавек быў бы…"*

Як бачым, паўтараюцца выразы *прычапілася страшная хвароба, сціснулася душа* (*душа баліць*), ацэначнасць *шчыры* (*шчырасць*). Такое падабенства маўлення апавядальніка і цёткі Веры сведчыць пра "дарослаць" Стася ў асэнсаванні чалавечага болю. У канцы 5-й часткі апавядальнік прызнаецца: *"…нешта мяняецца і мяняецца ў маёй душы, прыходзіць тое, чаго я раней ці не ведаў, ці ведаў не ў такой меры"*. Дзеясловы цяперашняга часу, ужытыя ў 5-й частцы твора, выражаюць важную сэнсава-стылістычную танальнасць: Стась пасталеў, і гэтая сталасць застанецца з ім назаўсёды, незалежна ад фізічнага ўзросту.

У апошняй, 6-й частцы, Міця памірае. Яго пахаванне перадаецца апавядальнікам дзеясловамі прошлага часу: *"**Хавалі** мы яго ўсёй школай на нашых вясковых могілках, **плакалі** разам з дарослымі, шчыра шкадуючы, што **пайшоў** ад нас такі добры, але нешчаслівы хлопчык"*. У наступных сегментах (празаічных страфах) актывізуюцца дзеясловы цяперашняга часу, што сведчыць пра пастаянства невылечнага суму Стася, вытокі якога – у страце *"самага лепшага і надзейнага таварыша"*.

Па асаблівасцях успрымання рэчаіснасці і па асаблівасцях яе моўнага выражэння апавядальнікам у творы выступае сам пісьменнік. Аднак "вобраз апавядальніка" адносіцца да "вобраза аўтара" як прыватнае да агульнага. "Вобраз апавядальніка" выконвае толькі пэўную частку ідэйна-мастацкай нагрузкі, іншыя ж належаць вобразам персанажаў. У адзінае цэлае гэтыя часткі яднаюцца "вобразам аўтара". Такую важную функцыю не можа выканаць "вобраз апавядальніка".

У творы Генрыха Далідовіча "скразная" лексема (яна ўжываецца ў маўленні многіх персанажаў) *белы* набывае сімвалічны характар незваротнасці страты і адначасна вяртання да сябе, да сваіх найлепшых маральных якасцей.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА,**
кандыдат філалагічных навук.

Сяргей НЕСЦЯРОВІЧ

# ГЕНРЫХ БЁЛЬ, ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ: БІЯГРАФІЯ І ТВОРЧАСЦЬ (XI КЛАС)

### ГЕНРЫХ БЁЛЬ. ЖЫЦЦЯПІС І АГЛЯД ТВОРЧАСЦІ

1. Генрых Бёль нарадзіўся… (*у 1917 г. у Кёльне*).

2. Бацька быў… (*рамеснікам*), у сям'і строга прытрымліваліся… (*каталіцкай*) веры.

3. Юнак атрымаў гуманітарную адукацыю ў… (*Кёльнскай гімназіі кайзера Вільгельма*).

4. З ранняга ўзросту пісаў апавяданні, вершы, мабыць, таму не ўступіў (у Германіі быў ужо ўсталяваны фашысцкі рэжым) у… (*масавую юнацкую арганізацыю "Гітлерюгенд"*).

5. Летам 1939 г. Генрых з мэтай паглыбіць сваю адукацыю… (*паступіў у Кёльнскі ўніверсітэт*), але… (*у гэтым жа годзе быў прызваны ў вермахт*).

6. У гады Другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у баях… (*на Украіне і ў Крыме*).

7. Творы пісьменніка прасякнуты… (*антымілітарысцкім, антываенным*) пафасам.

8. Творчасць Генрыха Бёля звязана з лічбай 47: … (*першыя творы з'явіліся ў друку ў 1947 г.*), … (*у 1950 г. ён стаў членам літаратурнага аб'яднання "Група-47"*).

9. Асноўныя літаратурныя прынцыпы гэтага аб'яднання – … (*жыццёвая канкрэтнасць, стылістычная прастата, зразумелая, даходлівая мова*).

10. Славу аднаго з вядучых аўтараў Германіі прынеслі Генрыху Бёлю творы: … (*апавяданне "Чорная авечка", аповесці "І не прамовіў ніводнага слова", "Дом без гаспадара", "Більярд а палове на дзясятую", "Вачыма клоўна"*).

11. За раман "Групавы партрэт з дамай" Генрыху Бёлю ў… (*1972 г.*) была прысуджана… (*Нобелеўская прэмія*).

12. Цэнтральная тэма раманаў 70-х гг. XX ст. – … (*татальнае ўмяшальніцтва дзяржавы і прэсы ў асабістае жыццё чалавека, небяспека нагляду інстытутаў улады за грамадзянамі*).

13. Генрых Бёль быў папулярны ў Савецкім Саюзе, хоць і… (*выступаў як крытык савецкага ладу жыцця*).

14. Пісьменнік спрыяў выхаду ў свет за мяжой кніг пісьменніка-дысідэнта… (*Аляксандра Салжаніцына*).

*У №№ 9 – 12 за 2010 г. змешчаны літаратурныя дыктанты па біяграфіях і творчасці В. Быкава, Э. Хэмінгуэя, М. Стральцова, Н. Гілевіча, І. Чыгрынава, І. Навуменкі, Р. Барадуліна.*

15. Пасля гэтага творы Генрыха Бёля ў СССР… (*былі забаронены*).

16. Творчасць нямецкага аўтара цікавая… (*панарамным, праўдзівым паказам падзей вайны і пасляваеннай рэчаіснасці ў Германіі*).

### ГЕНРЫХ БЁЛЬ. РАМАН "ДОМ БЕЗ ГАСПАДАРА"

1. Пасля чытання кнігі ў памяці засталіся вобразы (карціны): … [*а) самалёт з транспарантам "Ці падрыхтаваны ты да ўсяго?"; б) стары форт на беразе Рэйна, у падвалах якога вырошчваюць грыбы; в) Нэла на кухні з кафейнікам, бутэрбродамі, бутэлькамі; г) ружовы водбліск ад рэкламнага пеўня на руках Нэлы; д) спевы фрау Барусяк*].

2. Вобраз цырульні і цырульніка, што завіхаецца каля кліента, выкарыстаў аўтар для… (*сатырычнага паказу былога нацыста Шурбігеля, які друкаваў вершы Баха – забітага на вайне мужа Нэлы*).

3. З успамінаў Нэлы найбольш запамінальны эпізод, калі… [*незнаёмец у кавярні (а гэта быў малады паэт па прозвішчы Бах – будучы муж Нэлы) параіў зняць, а потым сам зняў з яе карычневую куртку гітлерюгенда*].

4. Мірны час, раўнавага, спакой і вайна, гвалт нацысцкага рэжыму з асобы паказаны праз кантраст… (*пры апісанні старога форта. Там, дзе цяпер француз-прадпрымальнік вырошчвае шампіньёны, раней у казематах вермахта катавалі людзей. Самі грыбы, хваравітага бялёсага колеру, нібы ўвасабляюць жах мінулага. А наверсе, на даху, – зялёны газон, фантан і клапатлівыя матулі клічуць сваіх дзяцей*).

5. Да вайны сябры Раймунд і Альберт працавалі на… (*мармеладавай фабрыцы. Альберт маляваў плакаты, а Раймунд пісаў да іх рэкламныя тэксты*).

6. Драма Нэлы ў тым, што… (*яна не можа пазбыцца мінулага, жыве ўспамінамі. Каханы Рай загінуў на вайне, і яна яго бясконца аплаквае. Гэта ўжо непераадольнае жаданне: гаварыць пра яго, марыць, як бы яны жылі… Нэла існуе нібы ва ўмоўным ладзе, імкнецца павярнуць час*).

7. Выказванне "Кава, якую ніхто не вып'е, бутэрброды, якія ніхто не з'есць, – рэквізіт крывавай драмы" можна пракаментаваць наступным чынам: … [*мастацкія дэталі (кава, бутэрброды, піва) сімвалізуюць спустошанасць чалавека,*

*якому вайна перакроіла жыццё, прымусіла жыць у "доме без гаспадара". Усё, што робіць Нэла, не запатрабавана, калі няма Рая, няма сяброў, гучных кампаній*].

8. Альберт выклікае… (*добрыя, высакародныя пачуцці*), таму што… (*імкнецца перайначыць бязладнае жыццё Нэлы, прыбірае ў кватэры, клапоціцца пра яе сына, шчыра кахае, жадае толькі дабра, церпіць і выконвае яе капрызы*).

9. Вайна і яе наступствы для жанчын увасоблены ў крылатым выразе Нэлы – … (*"фабрыка ўдоў"*).

10. Альберт быў бы добрым бацькам для Марціна, сына Нэлы, бо… (*гэта спагадлівы і чулы мужчына. Ён добра разумеў, як цяжка дзіцяці прачынацца, снедаць у адзіноце, збірацца ў школу. Таму Альберт любіў класціся раней, каб уставаць разам з хлопцам*).

11. Юнак Марцін у творы паказаны… (*шчырым і добрым, спагадлівым хлопцам, з дапытлівым розумам, які добра бачыць і высакародства людзей, і амаральнасць. Ён шчыра моліцца, каб Бог паспагадаў у жыцці сябру Генрыху, у якога распусная маці, якому даводзіцца лічыць кожную манетку*).

12. У старым форце Альберт паказвае Марціну… (*месца, дзе фашысцкія штурмавікі забівалі, катавалі і яго, Альберта, і Раймунда, бацьку Марціна, забілі яўрэя Авесалома, які напісаў калісьці партрэт паэта Рая Баха*).

**ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ. СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ**

1. Яўгенія Янішчыц – … (*ластаўка, што вылецела аднойчы з гнязда палескай хаты, акрыленая і ўзнёслая, бескампрамісная і міласэрная, даверлівая і ранімая…*).

2. Заўчасная смерць паэткі ў… (*1988 г.*) застаецца… (*дагэтуль загадкавай*).

3. У 70 – 80-я гг. мінулага стагоддзя Я. Янішчыц была… (*адной з самых таленавітых аўтарак сярод жанчын*).

4. Назаўжды застануцца і будуць папулярнымі радкі любоўнай лірыкі славутай паэтэсы: … (*"Ты пакліч мяне. Пазаві. / Там заблудзімся ў хмельных травах. / Пачынаецца ўсё з любві, / Нават самая простая ява"*).

5. Нарадзілася Жэня Янішчыц у… (*1948 г.*) у вёсцы… (*Рудка*) (*Пінскага*)… раёна на… (*Брэстчыне*).

6. Пачатак яе творчага шляху такі: … (*школьны настаўнік Аркадзь Грэчка даў Жэні заданне падрыхтаваць верш да вечарыны, прысвечанай 80-годдзю Якуба Коласа. Гэта быў дарэвалюцыйны верш "За падаткі". Жэні захацелася прачытаць на вечарыне якое-небудзь іншае, сучаснае прысвячэнне класіку; у праграме такіх твораў не было – узнікла думка: напісаць самой…*).



***Сяргей Уладзіміравіч Несцяровіч** – настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі гімназіі № 10 г. Гомеля. Закончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны (1987).*

7. Яшчэ ў старэйшых класах Жэня перапісвалася з… (*пісьменнікамі, у прыватнасці з Нілам Гілевічам*).

8. Дзяўчына жыла паэзіяй, і натуральна, што яна паступіла на… (*філалагічны факультэт БДУ*), які скончыла ў… (*1971 г.*).

9. Першыя творы з'явіліся ў друку ў… (*1964 г.*).

10. Муж Яўгеніі Янішчыц – … (*Сяргей Панізнік, вядомы беларускі паэт*). На жаль, … (*шлюб з ім быў скасаваны*).

11. Яўгенія Янішчыц працавала… (*загадчыцай бібліятэкі, літкансультантам "Сельскай газеты"*). А ў 1983 г. загадвала… (*аддзелам паэзіі ў часопісе "Маладосць"*).

12. У зборніках 1970-х гг. … (*"Снежныя грамніцы", "Дзень вечаровы", "Ясельда"*) паэтка піша пра… (*Радзіму, сучаснасць, прызначэнне чалавека, сутнасць мацярынства, сяброўства, паэтызуе тэму кахання*).

13. У зборніку "Каліна зімы" вядзецца… (*шчырая размова з сучаснікамі, родным краем, людзьмі старэйшага пакалення і інш.*).

14. За кнігу "Пара любові і жалю"… (*паэтэсе прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы*).

15. На сваю 40-ю гадавіну Жэня прыехала… (*на Палессе да маці*). І ў застольнай размове… (*пачала нечакана развітвацца: "Беражыце адно аднаго, дапамагайце маме…"*).

16. Былая аднакурсніца Тамара Аўсяннікава згадвае, што Жэня ў інтэрнаце лічылася… (*матэрыяльна забяспечанай*), бо… (*адзін яе паэтычны радок каштаваў 8 капеек, на якія можна было купіць шклянку малака і кавалак чорнага хлеба*).

17. Жэня любіла пісаць… (*уначы, на падваконні, пры святле вулічнага ліхтара*).

18. Пасля трагічнай смерці Яўгеніі Янішчыц яе маці… (*пераехала да ўнука – Жэнінага сына – у Мінск*).

19. Вобраз маці для паэтэсы не толькі… (*генетычная повязь, сімвал Радзімы*), але і… (*мудрасць людскіх законаў, разуменне душы чалавека*).

20. Вобраз маці сустракаецца ў шматлікіх вершах паэткі: … (*“Мама”, “Мамчына сіла”, “Сустракаемся так рэдка”, “Мама падрэзала косы”, “Мама і птушкі”, “Ля ложка хворай маці”, “Марыя” і інш.*).

21. Мажорны пафас у лірыцы Янішчыц з часам змяняецца… (*на мінорны, сумны, трывожны*). Так, напрыклад, у вершы “Любоў мая…” … [*аўтарка нібы адштурхоўваецца ад тлуму і мітусні горада (“Вы без мяне ляціце, самалёты, / Вы без мяне імчыце, цягнікі”), яе любоў “і песня, і маркота, і спелы бор, і вольны гон ракі…”. Туга па мінулым, маленстве ўзмацняецца адчуваннем адзіноты (“Усё вастрэй – радні маёй прагалы, / Агеньчык дрогкі з маміных акон”). Век названы балючым, зямля – “зямля курганняў і удоў”*].

22. Усяляюць аптымізм, уздымаюць настрой паэткі… (*родныя*) вобразы. У вершы “Помню, помню праз гады…” – гэта… (*вобраз крынічнай ваколіцы з гаючай вадой. Гарэзліва ў вершы гучыць рэфрэн: “Выпі, золатца, вады, / Сэрца супакоіцца”*).

23. У вершы “Не воблака, а проста аблачынка” – … (*светлы і крыху тужлівы ўспамін пра дзяцінства занатаваны ў акварэльным вобразе дзяўчынкі, якая ляціць, як матылёк, над кладкай… Кладачка знікае, “яшчэ бяжыць дзяўчынка па кладцы той, якой даўно няма” – няма дарогі ў бесклапотнае дзяцінства…*).

24. Верш “Будзе слоту абвяшчаць прагноз…” уражвае… (*дасканаласцю формы і зместу, інтанацыйнай зладжанасцю*). Тэма… (*мовы*) раскрываецца… (*праз вобраз “песні, што расчуліла да слёз”, у рамантычным вобразе “зорнага крыжа Мацея Бурачка”, у згубным для мовы вобразе часу: “Час – вар’ят, шалёнае таксі”. Адчуванне драматызму лёсу мовы гучыць у заключных радках: “Кажаш, што магілы зараслі? / Памаўчы са мной па-беларуску”*).

*Вопыты літаратурнай творчасці*

“Роднае слова” прапануе ўвазе чытачоў часопісны варыянт раздзелаў дапаможніка “Вопыты літаратурнай творчасці: практыкум для VII класа” Вольгі Праскаловіч, які рыхтуецца да друку.

У артыкуле прадстаўлены камплект творчых заданняў да раздзела “Чарадзейная сіла мастацтва”. Поўнафарматны варыянт распрацоўкі і дадаткаў да яе можна знайсці на нашым сайце: www.rs.unibel.by.

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# ТВОРЧЫЯ ЗАДАННІ, НАКІРАВАНЫЯ НА АВАЛОДАННЕ ВУЧНЯМІ ВОПЫТАМ ЛІТАРАТУРНА-ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

## НА МАТЭРЫЯЛЕ ВУЧЭБНАГА ДАПАМОЖНІКА “БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА. 7 КЛАС”

*Чытачу патрэбен хоць невялікі вопыт “знаходжання” ў аўтарскай пазіцыі.*

М. Бахцін.

Змест сучаснай літаратурнай адукацыі ў агульнаадукацыйных установах ізаморфны зместу сацыяльнага вопыту і ўключае чатыры кампаненты: 1) веды; 2) уменні і навыкі; 3) вопыт літаратурна-творчай дзейнасці; 4) сістэму нормаў адносін да рэчаіснасці, да людзей, да сябе.

*Трэці кампанент* – вопыт самастойнай літаратурна-творчай дзейнасці – набываецца вучнямі ў працэсе паўнавартаснага першаснага ўспрымання тэксту на эмацыянальна-вобразным узроўні, самастойнай яго інтэрпрэтацыі, выяўлення ўласнага стаўлення да твора, навучання відам літаратурна-творчай дзейнасці, фарміравання ўменняў творчай інтэрпрэтацыі літаратурнага твора з дапамогай іншых відаў мастацтва.

У вучэбным дапаможніку “Беларуская літаратура. 7 клас”* паслядоўна і настойліва рэалізуецца адзін з асноўных прынцыпаў канцэпцыі літаратурнай адукацыі – стымуляцыя ўласнай культуратворчасці школьнікаў. Гэта забяспечваецца прадуманай сістэмай пытанняў і заданняў да твора. Прынцып творчага навучання праду-

* **Лазарук, М.** Беларуская літаратура: вучэб. дапам. для 7-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / М. Лазарук, Т. Логінава. – Мінск: Нац. ін-т адукацыі, 2010. – 304 с.

гледжвае выхаванне чытача, якi здольны да ўласнага меркавання аб прачытаным творы; уключэнне вучняў у самастойную лiтаратурна-творчую дзейнасць; творчы падыход да формаў, метадаў i прыёмаў, тэхналогiй* навучання лiтаратуры.

*Вольга Уладзіміраўна Праскаловіч* – *кандыдат педагагічных навук (2000), дацэнт кафедры рыторыкі і методыкі выкладання мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дактарант НМУ "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Дырэктар Вучэбнага цэнтра філалагічных паслуг філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займаецца праблемамі методыкі выкладання літаратуры, рыторыкі ў агульнаадукацыйных установах і ВНУ. Аўтар каля 100 артыкулаў у айчынным і замежным навуковым друку і шэрагу вучэбна-метадычных дапаможнікаў для студэнтаў, метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, дыдактычных матэрыялаў для вучняў.*



Прэзентаваны дапаможнiк для вучняў VII класа "Вопыты лiтаратурнай творчасцi: практыкум" складаецца з комплекснай сiстэмы творчых заданняў, скiраваных на актывiзацыю культуратворчай дзейнасцi рэцыпiентаў, на фармiраванне эмацыянальна-каштоўнасных адносiн да твора.

У практыкуме "Вопыты лiтаратурнай творчасцi" ўпершыню прапануюцца творчыя заданнi да кожнага з шасцi блокаў-раздзелаў вучэбнага дапаможнiка па беларускай лiтаратуры для VII класа: "Чарадзейная сiла мастацтва", "У вершах i ў прозе", "Загадкавая краiна паэзiя", "Цiкавае i захапляючае ў звычайным, паўсядзённым", "Паэзiя ў прозе i проза ў паэзii", "Мастацкая лiтаратура i навука".

Прапануюцца заданнi, якiя не паўтараюць, а дапаўняюць творчыя работы, прадугледжаныя вучэбным дапаможнiкам i метадычнымi выданнямi да яго**. Прыёмы i метадычныя ўмовы выканання большасцi з iх настаўнiку павiнны быць вядомы з практыкi работы, некаторыя ж запатрабуюць творчага i самастойнага падыходаў.

Заданнi накiраваны не столькi на кантроль i праверку вынiкаў вучэбнай дзейнасцi, колькi на фармiраванне самiх спосабаў камунiкатыўна-творчай дзейнасцi, на развiццё вобразнага мыслення i ўяўлення падлеткаў.

Прапанаваныя вiды прадметна-творчай дзейнасцi мiжвольна ставяць вучня ў пазiцыю аўтара i творцы, выхоўваюць назiральнасць i чуйнасць да слова, спрыяюць развiццю эўрыстычных (пошукавых) i нават крэатыўна-дызайнерскiх здольнасцей (пры стварэннi вэб-сайтаў, мультымедыйных прэзентацый, прысвечаных творчасцi таго цi iншага пiсьменнiка; мультымедыйных прадуктаў, напрыклад распрацоўка эскiзаў тэатральных афiш i праграм, запрашальных бiлетаў у музей, тэатр, камп'ютарнай версii рэкламы да спектакляў паводле твораў беларускiх аўтараў слова i да т. п.). Узоры, "ключы", "падказкi" да заданняў, iнструкцыi па iх выкананнi, алгарытмы пабудовы вучэбна-традыцыйных вiдаў работ пры гэтым выконваюць функцыю эталонаў для вучнёўскай лiтаратурна-мастацкай дзейнасцi, ствараюць умовы для супастаўлення ўласных прадуктаў слоўнай творчасцi з адпаведнымi культурна-гiстарычнымi аналагамi.

Спадзяёмся, што ўдалося закласцi асновы для распрацоўкi новага кiрунку ў навучаннi лiтаратуры: стварэнне мультымедыйных каментарыяў да лiтаратурных тэкстаў i выкарыстанне iнтэрнэт-рэсурсаў для развiцця вопытаў вучнёўскай лiтаратурна-творчай дзейнасцi. Менавiта мультымедыйны (а не лiнейны вербальны) каментарый будзе садзейнiчаць адэкватнаму прачытанню лiтаратурнага тэксту. Каментатар павiнен прапаноўваць чытачу (рэцыпiенту, успрымальнiку) тэкст, яго кампаненты менавiта ў тым выглядзе, у якiм яны былi задзейнiчаны аўтарам пры напiсаннi твора. Напрыклад, апеляцыя да мастацкiх фiльмаў, тэлеспектакляў i спектакляў, знятых паводле твораў беларускiх пiсьменнiкаў, павiнна "расшыфроўвацца" з дапамогай канкрэтных фрагментаў гэтых кiнастужак, тэлеспектакляў i спектакляў.

Прасоўванне ад рэпрадуктыўнай дзейнасцi да творчай прадвызначае абавязковую рэалiзацыю мiжпрадметных сувязей, паколькi яны ствараюць спрыяльныя ўмовы для развiцця пазнавальных магчымасцей вучняў, дазваляюць сродкамi розных прадметаў фармiраваць творчае мысленне. Мэтазгодна выкарыстоўваць магчымасцi сумежных вiдаў мастацтва, тым больш што жанравыя законы ў многiм супадаюць. Распрацаваныя заданнi па супастаўленнi класiчных узораў гэтых вiдаў мастацтва развiваюць творчае асацыятыўнае мысленне дзяцей, эстэтычны густ, садзейнiчаюць больш глыбокаму спасцiжэнню законаў мастацкай творчасцi. У гэтай сувязi апора на слоўныя (у тэксце практыкума) i наглядныя вобразы (у "Дадатку", дзе прадстаўлены рэпрадукцыi твораў жывапiсу, фотамастацтва, гравюры i да т. п.) дапамагае ажыццявiць актыўную працу ў гэтым напрамку.

* Напрыклад, кластары (графiчныя спосабы арганiзацыi матэрыялу), сiнквейны, дыяманты i iншае – прыёмы, скiраваныя на актывiзацыю творчай дзейнасцi, прапанаваныя аўтарамi *тэхналогii развiцця крытычнага мыслення* праз чытанне i пiсьмо (Ч. Тэмпл, К. Мерыдыт, Д. Стыл).

** **Логiнава, Т.** Беларуская лiтаратура ў 7 класе: дапам. для настаўнiкаў, якiя забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыi, з бел. i рус. мовамi навучання / Т. Логiнава, Т. Мароз. – 2-е выд., перапрац. – Мiнск: Сэр-Вит, 2007. – 336 с.

Прапанаваныя ў практыкуме літаратурна-творчыя заданні могуць быць выкарыстаны настаўнікам для ажыццяўлення розных відаў кантролю і ацэнкі якасці засваення вучнямі-чытачамі асноўнага вучэбнага матэрыялу і дынамікі змяненняў узроўню сфарміраванасці ў іх вопыту мастацка-творчай дзейнасці. Па выніках выканання заданняў можна меркаваць пра ступень сфарміраванасці творчых уменняў школьнікаў і кіравацца гэтым у далейшай дзейнасці. Акрамя таго, ажыццяўляецца запамінанне пры "навучанні з захапленнем".

Настаўнік з дапамогай гэтых заданняў можа ажыццяўляць кантрольна-ацэначную дзейнасць як усіх вучняў класа, так і групы навучэнцаў або канкрэтнага вучня.

Спосаб прэзентацыі матэрыялу дапамагае стварыць высокую матывацыю да пазнавальнай дзейнасці, развівае камунікатыўныя і творчыя здольнасці вучняў і цалкам адпавядае асаблівасцям узроставай псіхалогіі.

Прапанаваныя заданні могуць быць выкарыстаны на факультатыўных занятках і для правядзення школьных алімпіяд па беларускай літаратуры.

А каб не заблукаць у складаных лабірынтах загадкавай краіны "Творчасць", вучням на дапамогу прыйдуць такія рубрыкі, як "Заданні з выбарам", "Карысная інфармацыя", "Наша творчасць", "Дзённікназіранняў", "Малюем" (словамі, фарбамі, алоўкамі, фламастарамі), "Маршрут пошуку", "Інтэрнэт для кнігалюбаў", "Памятайце!", "Слоўнік да задання", "Літаратурная гульня", "Рэфлексія".

## РАЗДЗЕЛ І
## ЧАРАДЗЕЙНАЯ СІЛА МАСТАЦТВА

• Як вы разумееце назву раздзела падручніка "Чарадзейная сіла мастацтва"?

• Разгледзьце наступны кластар (англ. 'сузор'е', 'пучок', 'гронка' – графічная арганізацыя матэрыялу, ланцужок элементаў таго ці іншага паняцця). Дапоўніце яго і ўпішыце асноўныя віды мастацтва і сродкі, якімі яны карыстаюцца.




*Словы-памочнікі*: жывапіс (колер, фарба, адценне); музыка (гук, мелодыя); літаратура (слова) і да т. п.

• Паразважайце, ці маюць такія розныя віды мастацтва нешта агульнае. Прыгадайце творы, якія звяртаюцца да тэмы мастака і мастацтва.

• Алесь лепш за ўсіх разгадваў у класе загадкі. А вось над рэбусам, які яму загадалі сябры, задумаўся, бо не ведаў нават значэння гэтага слова. Растлумачце Алесю значэнне слова *рэбус.* Дапамажыце яму разгадаць рэбус*. Адгадку запішыце.

• Паразважайце, чаму мастацтва валодае вялікай сілай уздзеяння на чалавека? Прывядзіце прыклады.

• Падумайце, якія вобразы сімвалізуюць мастацтва ў літаратурных і фальклорных творах. Складзіце асацыятыўны ланцужок. З дапамогай малюнка (вобразнага, схематычнага, графічнага) і тлумачэнняў да яго (чаму такія вобразы, схемы, колеры вы абралі) удакладніце свае ўяўленні.

**Якуб Колас. "У яго быў свет цікавы…"**
(Урывак з паэмы "Сымон-музыка")

• Якім вы ўяўляеце Сымонку? Чым ён адрозніваецца ад іншых дзяцей? Намалюйце яго слоўны партрэт.

• Апішыце, як вам уяўляецца карціна адлёту жураўлёў, намаляваная паэтам у ніжэйпрыведзеных радках. Калі б вы валодалі здольнасцю перадаць напісанае Якубам Коласам у фарбах, што б вы намалявалі? Якія колеры пераважалі б на вашым палатне? Абгрунтуйце свой выбар.

Шнур жывы, загнуты крукам,
Ледзь чарнеецца ўгары,
І ўсё стада з смелым гукам
Журавель вядзе стары;
Плыўка, згодна ходзяць крылы,
Як адно, у тахт адзін –
Пакідаюць край свой мілы,
Родны кут глухіх лядзін.
Шнур знікае, тоне ў багне
Мора сіняга нябёс…

• Падрыхтуйце невялікае сачыненне-апісанне "Харство беларускіх пейзажаў" (на аснове вывучанага твора і самастойна выбранай рэпрадукцыі). Наладзьце разам з аднакласнікамі, сябрамі пошук неабходнай інфармацыі, адбор патрэбных крыніц. Калі не ўдалося, не трэба адчайвацца (рэпрадукцыі твораў пейзажнага жывапісу, фотамастацтва змешчаны ў дадатку 1).

***Карысная інфармацыя:***

*Жывапіс*: "Мая зямля": альбом (уклад. В. Трыгубовіч); "Беларускі пейзажны жывапіс": альбом (уклад. А. В. Аладава); мастацкае электроннае выданне "Радзіма Якуба Коласа": серыя палотнаў (У. Сулкоўскі).

*Фотамастацтва*: "Пакланіся прыродзе": альбом; В. Алешка. "Спатканне з лесам": альбом; С. Плыткевіч.

* Ілюстрацыйны матэрыял да артыкула змешчаны на сайце часопіса. – *Заўвага рэд.*

"Мая Беларусь": альбом; Г. Ліхтаровіч. "Добры дзень, Беларусь": альбом; У. Арлоў, З. Герасімовіч. "Краіна Беларусь: Ілюстраваная гісторыя": альбом; В. Бараноўскі "Белавежская пушча": альбом; А. Кляшчук "Пад небам Беларусі": альбом (на выбар).

***Памятка да сачынення-апісання:***

1) тэма твора;

2) агульнае ўражанне, пераважная колеравая гама;

3) пярэдні план малюнка, асноўныя вобразы, іх прасторавае і колеравае вырашэнне;

4) фон, дробныя дэталі;

5) ідэйная ўстаноўка аўтара.

• Да паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка" звярталіся многія беларускія кампазітары (Я. Глебаў, В. Іваноў, Л. Шлег), тэатральныя дзеячы (М. Пінігін) і інш. Паглядзіце (па магчымасці) спектакль па паэме Якуба Коласа "Сымон-музыка". Паспрабуйце падрыхтаваць (на выбар):

а) эскізы тэатральнай афішы і праграмы да спектакля;

б) рэкламны слоган, які, на вашу думку, зацікавіў бы гледача;

в) рэкламу (у газеце) спектакля;

г) камп'ютарную каляровую версію рэкламы спектакля;

д) водгук на спектакль.

***Слоўнік да задання:***

*Водгук* – выказванне ўражанняў, дзе аўтар дзеліцца думкамі пра мастацкі твор, спектакль, фільм і г. д. Асноўная мэта – зацікавіць, пераканаць у сваіх ацэнках. Водгук пішацца ад першай асобы.

Кампазіцыйная схема:

1. Уступ (тэзіс).
2. Доказ (аргументы).
3. Вывады.

### *Азбука тэатра*

***Афіша*** – (франц. *affiche* 'аб'ява'; ад *affichee* 'выстаўляць напаказ') – від рэкламы, паведамленне пра спектакль. Вывешваецца перад уваходам у тэатр і ў людных месцах (вуліцы, плошчы). Афішы бываюць шрыфтавыя (падаюць асноўныя звесткі пра спектакль, пастаноўку і выканаўцаў), маляваныя (змяшчаюць эмблему тэатра, сцэны са спектакля і асноўныя звесткі пра яго стваральнікаў) і змешаныя (з выкарыстаннем фатаграфій). Да прэм'еры складаюцца падрабязныя афішы: называюцца аўтары, выканаўцы, пастановачная група – рэжысёры, мастакі-дэкаратары, балетмайстры і інш. На Беларусі афішы з'явіліся ў сярэдзіне XIX ст., былі як друкаванымі, так і рукапіснымі. Сёння пераважна выкарыстоўваюць афішы-плакаты, у якіх у абагульненай форме, з выкарыстаннем сімвалаў і метафар, раскрываецца змест пастаноўкі.

Пазнаёмцеся з афішамі спектакляў (злева направа): Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Нацыянальнага тэатра оперы і балета, народнага тэатра г. Слоніма (дадатак 2).

***Праграма*** тэатральная – друкаваны паказальнік спектакля. У ёй змяшчаецца назва п'есы, указваецца аўтар, рэжысёр, пастаноўшчык, мастак, кампазітар і іншыя, пералічваюцца дзейныя асобы і выканаўцы роляў. Калі драматург у спісе дзейных асоб дае кароткія заўвагі пра іх, то гэтыя звесткі змяшчаюцца ў праграме (дадатак 3).

***Слоган*** – (англ. *slogan* 'лозунг, дэвіз') – кароткі лозунг, які выражае пэўны погляд або рэкламу; сціслая, лёгкаўспрымальная фармулёўка рэкламнай ідэі.

• На адной з самых прыгожых плошчаў горада Мінска, якая носіць імя Якуба Коласа, устаноўлены помнік. Пазнаёмцеся з фотаздымкам помніка (дадатак 4), а калі ёсць магчымасць, прыйдзіце на плошчу Якуба Коласа. Падрыхтуйце слоўнае апісанне помніка пісьменніку. Якім скульптар паказаў паэта?

***• Літаратурная гульня "Экскурсавод".*** Уявіце сябе экскурсаводам. Падрыхтуйце невялікае паведамленне пра помнік. Дамоўцеся з суседам па парце, пра каго з літаратурных герояў скульптурнай групы вы будзеце расказваць. Размяркуйце ролі экскурсавода і экскурсанта. Падрыхтуйце пытанні для экскурсавода. Прадумайце адказы на гэтыя пытанні. Разыграйце дыялогі ад імя літаратурных персанажаў.

***Памятайце!***

Пры падрыхтоўцы паведамлення можаце звярнуцца да прыёму завочнай экскурсіі (так бы мовіць, "падарожжа ва ўяўленні"). Актывізаваць уяўленне слухачоў магчыма не толькі з дапамогай наглядных сродкаў, але і вербальных (слоўных), невербальных (міміка, жэсты, позірк), паралінгвістычных (інтанацыя, тэмп маўлення, тэмбр голасу і г. д.). Натуральнымі ў аповедзе экскурсавода будуць выразы тыпу: "уявіце", "паглядзіце направа", "паглядзіце налева", "выйдзем на плошчу Якуба Коласа" і г. д.

***Карысная інфармацыя:***

Якуб Колас: жыццё і творчасць: альбом (склад. Д. Міцкевіч [і інш.]); Якуб Колас: жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў школе (склад. І. Курбека, М. Базарэвіч); Якуб Колас у творчасці мастакоў (склад. Ю. Карачун); Шчыракоў, М. Н. Творы выяўленчага мастацтва на ўроках беларускай літаратуры / М. Н. Шчыракоў. – Мінск, 1978; Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1986.

Падрыхтуйце мультымедыйную прэзентацыю "Зямля паэта". Дадатковы матэрыял вы можаце знайсці на http://litmuseums.iatp.by/kolas/ru, а таксама ў электронным выданні: "Радзіма Якуба Коласа": серыя палотнаў (У. Сулкоўскі) і інш.

*Працяг будзе.*



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Творчы лёс*

## ЯСЯЛЬДЗЯНКА З ПАЛЕСКАГА КРАЮ

**ЛІТАРАТУРНА-КРАЯЗНАЎЧЫ ВЕЧАР**

*У кожнага ёсць свой мілы сэрцу куток зямлі…*

*Куток гэты – тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства… Сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў – ён самы дарагі, самы шчымлівы.*

І. Мележ.

*Гучыць музыка.*

**1-ы вядучы.** Яўгенія Янішчыц… Прыродны паэтычны дар. І цяжкая жыццёвая дарога. Вялікая творчая ўдача, высокі лірычны ўзлёт. І глыбокая асабістая драма – трагічны зыход. Месяц з'яўлення – лістапад. І месяц знікнення – лістапад. Паміж днём народзінаў і трагічнаю датаю – сорак гадоў, толькі сорак…

Надмагільны помнік – прыгожая постаць з крыламі за спінаю. Таленавіты скульптар Леў Гумілеўскі зрокам мастака бачыў крылы яе натхнёнасці. А можа, адчуў "вечную прагу крыла"? Як бы ні было, крылы – вобраз яе паэзіі, ён з'яўляўся ў самых розных, самых нечаканых кантэкстах:

Але гудзе любові крылле:
Шчаслівы славячы прылёт,
Жыццё маё, і там, на схіле,
Ты ўсё – загадкавы палёт.

Чаму ж яны, Богам дадзеныя крылы, аднойчы не ўтрымалі яе над халоднаю скамянелаю зямлёю?

**2-і вядучы.** Здарылася страшная несправядлівасць: у сівой матулі не стала любай дачкі, яна павінна была б дагледзець яе старасць, – асірацела маці; у сына-школьніка не стала матулі, якая яго "ахоўнай арліцай была"; у паэзіі не стала самаадданай майстрыхі, якая ўмела "з нябачных промняў вобраз ткаць"; у народа не стала вернай дачкі-патрыёткі, якая падаравала яму "зорную тэму".

Усім, хто любіць яе, сумуе па ёй, застаецца суцяшэнне: энергія Яўгеніі Янішчыц непадуладная нябыту… Смерці ў паэта няма – ёсць нараджэнне.

Сённяшні вечар мы прысвячаем памяці Яўгеніі Янішчыц.

**1-ы чытальнік.**

**Добры вечар, землякі!**
Як жывецца без мяне,
Сонейка-крылацейка?
А ў палескай старане
Кожны сокал – брацейка.
Назбірала мех грахоў
Ды ў расу абулася.
Колькі зведала шляхоў –
Гэтак мне не чулася.
…Добры вечар, землякі!
Добры вечар, зелена!
Тут пазвоньваюць вякі,
Нібы мак даспелены.
Паўнагрудая кума
Празвініць абцасамі.
Тут прыдуман нездарма
Танец з выхілясамі:
Рукавочкам – да рукі,
Паяском – да пояса.
З вамі разам, землякі,
І ў зямлі не боязна!

**2-і вядучы.** З успамінаў Аркадзя Міронавіча Грэчкі, настаўніка Яўгеніі Янішчыц.

«Жыццё Яўгеніі Янішчыц пачалося на вясковым улонні. Нарадзілася яна ў вёсцы Рудка Пінскага раёна 20 лістапада 1948 г. у звычайнай сялянскай сям'і. Вясковая дзяўчынка, яна вырасла сярод штодзённых клопатаў і цяжкай сялянскай працы. Нічым спачатку не адрознівалася ад сваіх аднагодкаў: тоненькая, як бярозка, светлавалосая, яна гуляла, дапамагала бацькам па гаспадарцы, вучылася ў школе. Да сёмага класа яна вучылася ў Мерчыцкай сямігодцы. Я быў яе настаўнікам па беларускай мове і літаратуры, а таксама дырэктарам гэтай школы. Жэня брала актыўны ўдзел ва ўсіх школьных мера-

прыемствах. Ужо ў тыя гады мы, усе настаўнікі, прыкмецілі, што дзяўчына нейкая асаблівая: задумлівая, яе цягне да прыроды, вельмі паслухмяная. Вучні ў класе неяк групаваліся вакол яе, яна для іх была быццам магнітам.

Адкрыццё яе таленту адбылося ў сёмым класе, калі рыхтавалі вечарыну, прысвечаную 80-годдзю Якуба Коласа. Жэні далі падрыхтаваць верш "За падаткі", але ёй захацелася прачытаць сучасны верш, прысвечаны Якубу Коласу. Шукаць такі верш не было часу, таму паспрабавала напісаць сама. Так і пачалася яе плённая праца на літаратурнай ніве. Спачатку гэта былі вершы для школьнай насценгазеты, потым для раённай газеты "Палеская праўда". У першым паэтычным сшытку сямікласніцы былі вершы пра маці, пра нашу прыгожую прыроду, пра сваіх сяброўак і настаўнікаў.

У восьмы клас Жэня пайшла вучыцца ў Парэцкую школу, дзе сустрэла свайго духоўнага настаўніка – выкладчыка рускай мовы і літаратуры, заслужанага настаўніка БССР Фёдара Фёдаравіча Цудзілу. Менавіта ён выпеставаў талент сваёй вучаніцы. Яе вершы з'явіліся ў школьным альманаху "Ясельда", а потым у часопісе "Бярозка", на старонках "Палескай праўды", "Чырвонай змены"…

Тут, дзе хапае да хлеба і солі
І на сталах не канчаецца мёд.
Тут, дзе не скончыцца песня ніколі
І не ўпадзе на калені народ!

Гэтыя цудоўныя радкі з яе верша "Тут", які быў надрукаваны ў зборніку "Каліна зімы" ў 1987 г.

Яркай каметай пранеслася яна па высокім небе беларускай паэзіі, асвятляючы яго, і пакінула пасля сябе такі след, што доўга яшчэ будзем мы ўсе бачыць яго і адчуваць, будзем чуць яе голас празрыстай палескай крыніцы».

**1-ы вядучы.**

Паэты з'яўляюцца нечакана…

Невядомае імя – Жэня Янішчыц – пракінулася на старонках рэспубліканскага друку недзе ў сярэдзіне шасцідзясятых разам з імёнамі Алеся Разанава, Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна. А ў 1970 г. выйшаў яе першы зборнік "Снежныя грамніцы", праз чатыры гады – зборнік вершаў "Дзень вечаровы", які быў адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі (1978), потым – зборнікі вершаў "Ясельда" (1978), "На беразе пляча" (1980); "Пара любові і жалю" (1983), адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Купалы (1986); "Каліна зімы" (1987), кніга вершаў і паэм "У шуме жытняга святла" (1988).

Яўгенія Янішчыц была патрабавальнай да сябе як творцы. Вось у пісьме да Васіля Жуковіча яна пісала: "Мне неяк няёмка нават, што ў Мінску мяне лічаць сапраўднай паэтэсай. Часам смешна: я пакуль што настойліва шукаю сябе ў сваіх вершах".

**2-і вядучы.**

Паэзія Яўгеніі Янішчыц пачынаецца з любові і захаплення. З любові да свайго краю і ў першую чаргу да тых мясцін, дзе нарадзілася і вырасла паэтэса, да надзвычай блізкіх яе чуламу сэрцу людзей, да пявучай, мілагучнай мовы.

У размове з Пятром Васючэнкам Яўгенія Іосіфаўна так сказала пра спецыфіку авалодання роднай мовай, моўнай культурай народа: "Спецыфіка – гэта, бадай, занадта сухаваты тэрмін. Прасцей і дакладней будзе сказаць – жывая, кроўная повязь з усім тым, што фарміруе станаўленне чалавека, яго зрок і душу. Зрэшты, мне доліла нарадзіцца ў нялёгкі пасляваенны час. Але душа не магла не адчуць, не запомніць аб'ядноўваючай усіх шчырых людзей дабраты і спагады. Само сабой адбылося, што, калі я пачала пісаць вершы, гэтыя самыя розныя і непадобныя людзі і перад вачамі, і мысленна стаялі перада мной. І кожны не толькі сваёй постаццю, сваім абліччам, але перш за ўсё сваім голасам, інтанацыяй, песняй падказваў словы, думкі, пачуцці".

*Гучыць песня на словы Я. Янішчыц "Старана мая азёрная".*

**2-і чытальнік.**

**Я вас люблю**

"Я вас люблю" – няма каму сказаць?
А мне ў любві да скону не змыліцца:
Я вас люблю, лясы і сенажаць,
Старая вёска, новая сталіца.
Мы ў сэрцы носім радасць і грахі
І распраўляем пераможна крылы.
Я вас люблю, айчынныя шляхі,
Я помню вас, забытыя магілы!
І знаю: дзень пражыты нездарма,
Калі перажываю і хварэю,
Калі прад імяннной сцяной – сама,
Нібы сцяна, ад жудасці бялею.
Падлесак – сын мне, бор вячысты – друг,
Зіма зажурыць – развяселіць лета.
Цябе люблю, патрыярхальны плуг,
Цябе – у страшным космасе, ракета.
Люблю я вас, сівыя мацяркі,
Што аж дагэтуль гояць боль па дзецях,
Што вы мне ўсе – нібы мацерыкі,
Якія хочуць міру на планеце.

**3-і чытальнік.**

**Сінін**

Тут, дзякуй богу, ўсе здаровы,
Калі прывык хварэць калгас!
…На красавіцкі луг карова

Вядзе цялятка ў першы клас.
Дзівуецца зямляк з-за мора
На незвычайны ў вёсцы план,
Дзе ў кожнай хаце па шасцёра
Малых і шустрых сінінчан.
А вёска з попелу ўваскрэсла –
Пад Сініном Сінін крычыць.
Ды за бяседнай чаркай песня
Яшчэ з-пад кораня гучыць.
Нясе ўчэпіста вядзерца
Ў малой руцэ даярчын сын.
…Не прывядзі разбіць мне сэрца
Аб немату тваю, Сінін!

**1-ы вядучы.**

Роднае Палессе было неаддзельнае ад землякоў. Чытаючы зборнік вершаў Яўгеніі Янішчыц, сустракаемся з цёткай Клавай, дзедам Цімай, Усцінаю, цёткай Лідай Саўчуковай і інш. Паэтка невыпадкова прысвяціла верш вясковым жанчынам.

**Балада вернасці**

Да вас бяжыць знаёмая дарога,
Да вас вязу няпэўны свой настрой,
А вы адкуль з такою дабрынёй
І да мяне, і да майго малога?
Лаўлю ласкавы поціск вашых рук,
Што загрубелі ад работы трошкі,
А ці вядома пачуццё разлук
Вам, неразлучным, аж да самай дошкі?
Адкуль у вас пагэтульку святла?..
Ды схамянуся, тут не трэба словы.
Ў маім сяле яшчэ на паўсяла
Жывуць з вайной заручаныя ўдовы, –
І па начах яшчэ ім страшна спаць,
Гартаць жыцця пражытыя старонкі.
І незваротным промнем зіхацяць
На пальцах скамянелыя пярсцёнкі.

**2-і вядучы.**

Калі Яўгеніі Янішчыц задалі пытанне, што для яе значыць малая радзіма і як да яе твораў ставяцца аднавяскоўцы, яна адказала так: «Хіба на гэтае пытанне лацвей адказваць мне? Вяскоўцы ведаюць, канечне, мяне і як паэтэсу, але больш успрымаюць як аднавяскоўку, як чалавека ці проста Жэню. На вачах у многіх я расла і вырасла. Многім адпісвала пісьмы, і таму многія запомнілі мяне як “свайго нязменнага пісара”. Шкада толькі, што “Анэткам маім і Анюткам часу нямашка чытаць”. Мая малая радзіма – гэта мой лёс, мой боль – мая паэзія».

**4-ы чытальнік.**

**Апавяданне пра жытнёвы сноп**

Як жыцця твайго палова –
Выспеў жыта жоўты край.
Цётка Ліда Саўчукова,
Мне на шчасце колас дай.
Каб, як промень у кватэры,
Быў на ўсе мае гады
Ад усякае халеры,
Ад усякае бяды.
Цётка Ліда сноў калгасных
Назбірала мне снапок
І тугога перавясла
Зацягнула вузялок.
“Давязеш? – смяецца ясна
Мне суседка на хаду, –
Разарвецца перавясла –
Так і знай, што на бяду!..”
Сноп дарогаю даўгою,
Нібы сына, везла я,
Прытулілася шчакою
Да трывалага вузла.
Цётка Ліда Саўчукова
Твой дасціпны жарт нашу
І – калі шукаю слова,
І – калі яго пішу,
І калі ў жыццёвай прозе
Апускаю рукі ніц, –
Голас твой, нібы калоссе,
Над сталом маім звініць.

**1-ы вядучы.**

Ні адзін зборнік не выйшаў у свет без вершаў, прысвечаных маці і сыну. Мы не будзем гаварыць пра адносіны паміж дачкой і маці, паміж маці і сынам, а ўважліва ўслухаемся ў словы самой паэтэсы. «Самым моцным уражаннем жыцця, якое пакінула след у маёй паэзіі, з’яўляецца жыццё маёй мамы. Я заўсёды здзіўляюся ашаламляльнай энергіі ў зграбнай, прыгожай ды спрацаванай постаці пад… 68 гадоў. Яе лёс мог бы скласціся зусім іначай, каб не было вайны. Сем класаў польскай школы, скончаных на “выдатна”! Адукаваны і любімы муж, якога фашысты расстралялі ў 1944 годзе за сувязь з партызанамі. Цудам ацалела з грудным дзіцём на руках. Нечаканая смерць затраўленага бацькі – майго дзеда. Бескарыслівае служэнне сваім малодшым сёстрам: вывучыліся, дзякуюць ёй. Усё жыццё – праца, карпатлівая і чэсная праца».

*Гучыць песня “Калыханка маме” (словы Н. Мацяш).*

**5-ы чытальнік.**

**Ты вучыла мяне**

Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён
І цярплівасці вечнай – уголас не плакаць.
Апынуся калі сярод чорных варон, –
Я памру, ды не буду па-іхнаму каркаць.
Вось трывожна вядзерца нясу, як тады,
Як вучыла, нясу. Я нясу, каб суседка
Не сказала, што нават звычайнай вады
Прынясці не ўмее, не заліўшы сукенку.
Цвёрда мною завучан натруджаны крок
Твой, якому навек ўжо не саступіцца,
І душа мая часта, нібы матылёк,

На агонь вылятае, ды агню не баіцца.
Пішаш: "Век мой пражыты. Наперадзе – твой.
За мяне не хвалюйся. Я буду здаровай.
Да апошняй вячорнай зары палявой
І грыбочка апошняга ў нашай дуброве".
Мама сею не жыта я, сею не лён,
Але з лёну і жыта я словы складаю
І калі ўглядаюся ў парасткі дзён –
Чую крокі твае. І свае вымяраю.

**6-ы чытальнік.**

**Мама**

Не, усё-ткі не я: мама мая – паэтэса
Са шчымлівай грудною песняй,
З клопатамі пявучымі
Пра поле, балацявіну;
Пра тое, як спорна вучыцца
У горадзе меншаму сыну;
Пра старое гняздо буслішына,
Што разбурыў вятрыска…
Бачу: паўстала сцішана
З пяцімесячным на руках
У скромнай чорнай спадніцы.
Маму палохае страх –
Як жыць адной маладзіцы.
Мільгае за поўнач акно яе –
Удовай не спіцца:
Машынка стукоча. І мама пяе,
Абшывае сваю Велясніцу:
Каму – за пакосы, каму – за каня,
Каму – за шчырае дзякуй.
Сустракае яна прасветленасць дня
Усмешкай – адвыклася плакаць.
Позна класціся. Рана ўставаць.
Па-над загонамі шчыраваць,
Па-над калыскай маліцца.
У чарадзе праліўных нядзель –
Не прапусці грыбочка…
Кароткі, як шчасце, ухаджаны дзень,
Яшчэ карацейшая – ночка.
Дыхае вольнымі мама грудзьмі,
Калі вяртаемся з поля.
Ушчувае: "Драціну з дарогі здымі –
Іншаму ног не паколе".
Кажа: "Ападзіны дол замялі.
Выткаўся жнівень раскошны.
Здымі сандалікі, не бойся зямлі,
Не бойся, дзіцятка, пожні…"
Прыеду. Кветка чакання ў акне
Міргае-цвіце ў адзіноце.
А вершы баюся чытаць, каб мяне
На глухой не злавіла ноце
Мама – мая паэтэса.

**7-ы чытальнік.**

**Брат**

Калі акно прасвечваюць зарніцы
І град страляе з громам неўпапад, –
Няма ў сястры сардэчнае сястрыцы,
Ёсць толькі брат. Названы мною – брат.
Самоты гордай скінуўшы карону,
Укленчыўшы грашам, як абразам,
Я пазваню яму па тэлэфону!
Не, ён пачуе – і пазвоніць сам!
Бог ведае калі наступіць ранак
І будзе сэрцу кожны промень рад.
А ноч гудзе, і ў зарыве маланак
Танюткую рабіну лупіць град.
Будуе межы час і крошыць сцены,
Каб месцечка было для шчырых свят.
Мой дзіўны друг і дар мой неацэнны,
Мой чуйны брат. І дзякуй лёсу – брат!

**2-і вядучы.**

Шмат вершаў Яўгенія Янішчыц прысвяціла сыну. Як развітанне з ім, як апошні мацярынскі наказ, поўны пяшчоты і жалю, гучыць верш "На ўсякі выпадак".

**8-ы чытальнік.**

**На ўсякі выпадак**

Сын, як заўсёды,
Акуратна рабі ўрокі:
Дысцыпліна – харошая якасць
Не толькі поспеху ў школе.
Сынок, як і ўчора,
Паслужы няўцешным суседзям,
Адзіны сын у каторых
Нечакана загінуў ад кулі
На суровым полі заслоны!
Сыночак, чэсна, бы ўчора,
Прынось грашовую здачу
З прадуктовага магазіна.
Ды, на ўсякі выпадак,
Умей даць здачы
Подласці і няпраўдзе!
І яшчэ: будзь прывязан,
Як можаш, да верных сяброў па сэрцу
(Не дай табе божа мяняць іх на новых!),
Бо можа так здарыцца,
Што заўтра –
Не выйду табе на сустрэчу.
Мама.

**2-і вядучы.**

Паэзія Яўгеніі Янішчыц пачынаецца з любові і захаплення. Яшчэ з самых першых вершаў загучала і тэма кахання. Душэўная далікатнасць жанчыны, багацце эмоцый, чуласць да чужога болю, самаадданасць і высакародства ў каханні, самыя тонкія нюансы пачуццяў і мноства іншых праяў сардэчнага жыцця адлюстраваны ў інтымнай лірыцы паэтэсы.

**9-ы чытальнік.**

**Застаюся каханай**

Страшна ўвечары жыць
З незагоенай ранай.
Ты сказаў: "Адбаліць,
Заставайся каханай".

Страшна ноччу мне быць
З гаркатой апантанай.
Ты сказаў: "Адшчыміць,
Заставайся каханай".
Ах, нуда – не бяда
Ў цішыні расстралянай.
На праломе ільда
Застаюся каханай.
Валуны ды вуглы,
Даль дарогі калянай.
У праёме імглы
Застаюся каханай!

**10-ы чытальнік.**

**Пакліч мяне**

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві –
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві –
Нават ненавісць і агіда…
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць не магчыма.

**1-ы вядучы.**

З вершаў Яўгеніі Янішчыц паўстае ўнутраны свет сучаснай жанчыны, яе любоў да жыцця, працавітасць, шчасце мацярынства, хараство і дабрыня. Такое застаецца назаўсёды ў нашай памяці: паважаная паляшучка, або, як яна называла сябе ў лісце да В. Жуковіча, – "Ясяльдзянка".

Пасля смерці паэтэсы настаўніца Парэцкай школы Антаніна Паўлаўна Сідарук разам з Фёдарам Фёдаравічам Цудзілам пачалі работу па ўшанаванні памяці Яўгеніі Янішчыц. Так настаўнікі і землякі паэткі восем гадоў збіралі матэрыялы.

21 лістапада 1998 года ў Парэцкай школе адкрылі літаратурны музей Я. Янішчыц, а ў 2008 годзе Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт прысвоіў імя Яўгеніі Янішчыц установе адукацыі "Парэцкая дзяржаўная базавая агульнаадукацыйная школа Пінскага раёна".

Яўгенія Янішчыц жыве не толькі ў памяці землякоў, але і ў памяці вядомых беларускіх паэтаў.

**11-ы чытальнік.**

**Памяці Я. Янішчыц**

Трагедый зямных спасціжэнне
На хвалі скразной глухаты.
Як чорна і пуста мне, Жэня.
Душа захлынаецца –
Ты!..
Абудзяцца сны снегавыя
У далечы дня агнявой,
Я нёс табе кветкі…
Жывыя.
Астатнія кветкі…
Жывой.
Забыта, нішто не падскажа,
Ляжалі яны, гвазддзікі.
Сукенка – прачорная сажа!
І позірк цягучы, гняткі.
Згадаў – і душа схаладзела
На ўскраі жахотнай бяды.
З якой ты далечы глядзела
І сумам гукала – куды?
На скрытнай астатнай дарозе
Вініліся душамі мы.
Зардзела ярчэй на марозе,
Крывяней каліна зімы.

М. Мятліцкі.

**2-і вядучы.**

**Жэні Янішчыц**

На крылах душы адляцела,
Каб толькі ў песнях вярнуцца,
У сонечны "Дзень вечаровы",
У "Каліну зімы" захінуцца.
Ах, Жэня, навошта так раніць
Народу пакутнаму сэрца?
Ад Ясельды – вечная памяць,
Ад Белай Русі – бяссмерце.

Г. Дашкевіч.

Вялікі дзякуй усім, хто дапамог нам убачыць і адчуць цеплыню роднага краю вачамі Яўгеніі Янішчыц.

*Гучыць музыка.*

**Спіс літаратуры**

1. **Васючэнка, П.** Мой лёс, мой боль – мая паэзія / П. Васючэнка // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1998. – № 3.
2. **Жуковіч, В.** Святло зоркі / В. Жуковіч // Настаўніцкая газета. – 2005. – 11 студз.
3. **Янішчыц, Я.** Снежныя грамніцы / Я. Янішчыц. – Мінск : Беларусь, 1970.
4. **Янішчыц, Я.** Дзень вечаровы : лірыка / Я. Янішчыц. – Мінск : Маст. літ., 1974.
5. **Янішчыц, Я.** Ясельда : лірыка / Я. Янішчыц. – Мінск : Маст. літ., 1978.
6. **Янішчыц, Я.** На беразе пляча : лірыка / Я. Янішчыц. – Мінск : Маст. літ., 1980.
7. **Янішчыц, Я.** Пара любові і жалю : кніга лірыкі / Я. Янішчыц. – Мінск : Выш. шк., 1978.
8. **Янішчыц, Я.** Каліна зімы : кніга лірыкі / Я. Янішчыц. – Мінск : Маст. літ., 1987.

**Любоў МІСЮКАВЕЦ,**
выкладчык беларускай мовы
Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

## СЕЎРУКІ ГЕРБА "КУРЧ"

У нашым родзе ва ўсе часы знаходзіліся людзі, якія з вялікай любоўю і асаблівым хваляваннем вывучалі свае вытокі, сваё мінулае. Так, мы памятаем братоў Ілью і Паўла Карафа-Корбутаў, якія ў няпростыя часы першай паловы ХХ ст. не пабаяліся апісаць і захаваць генеалагічнае дрэва сваіх продкаў і родзічаў па некалькіх дваранскіх родах, якія жылі ў Бабруйскім павеце.

Такімі ж нераўнадушнымі да свайго мінулага былі кандыдат філасофіі са Слуцка Іосіф Ян Курчэвіч з Сотвы Сеўрук і тытулярны саветнік Васіль Міхайлаў Курчэвіч-Сеўрук, якія жылі ў XIX ст.

Васіль Міхайлавіч з гімназічнай пары захапіўся гісторыяй свайго роду і паходжання прозвішча. Сабранага ім матэрыялу хапіла на кнігу "Выводъ о происхождении прозвищъ: Севрукъ и Курчевичъ-Севрукъ", якая выйшла ў Мінску ў 1894 г., а ў 1897 г. – яе дапоўнены і выпраўлены варыянт. Не так даўно гэтае выданне, якое стала бібліяграфічнай рэдкасцю, мне ўдалося адшукаць у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу.

Іосіф Ян Курчэвіч закончыў у 1813 г. Віленскі ўніверсітэт, атрымаўшы званне кандыдата філасофіі. Выкладаў у Слуцкім дваранскім вучылішчы і зрабіў асноўны ўнёсак у збор дакументаў пра дваранскае паходжанне Сеўрукаў: падрыхтаваў у 1824 г. звесткі для Мінскага дэпутацкага дваранскага сходу пра 125 прадстаўнікоў роду.

Лёсам яму было адмерана толькі 43 гады жыцця. Пахаваны ў Слуцку. На магіле ляжыць вялікі камень з надпісам на польскай мове: "Святой памяці Іосіфа Сеўрука, прафесара Слуцкай гімназіі, мужа Праўды і Дабрадзейнасці 1836 года". З горыччу піша пра гэта Васіль Міхайлавіч Курчэвіч-Сеўрук: "Помнік усталявалі вучні і таварышы з павагі да яго асобы, а Сеўрукі не здагадаліся паставіць, як ён таго заслужыў…"



**Герб "Курч" роду Сеўрукаў.**

Варта ўзгадаць і пра іншых прадстаўнікоў роду, якія дапамагалі Іосіфу Сеўруку ў яго высакароднай справе, і найперш пра яго вучня Мацвея Пятровіча Сеўрука, які шмат зрабіў для пошуку сямейных дакументаў.

Так здарылася, што ў час збору дадатковых сведчанняў Мацвей Сеўрук у студзені 1838 г. памёр па дарозе з Мінска ў Слуцк. На апошнім этапе ў падрыхтоўцы дакументаў роду для падачы ў Мінскі дэпутацкі дваранскі сход браў удзел Павел Іванавіч Сеўрук, па словах Васіля Курчэвіча-Сеўрука, "арандатар маёнтка Галіцы, характару цярплівага, выпрацаванага і разважлівага".

Вось што піша на генеалагічнай схеме роду Курчэвічаў з Сотвы герба "Курч", якая захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, Васіль Міхайлавіч Курчэвіч-Сеўрук, абапіраючыся на даследаванне Стрыйкоўскага: "Курч ёсць герб Курчоў князёў рускіх, узяты ад Карыята, князя Наваградскага, аднаго з сыноў Гедыміна Віценіевіча, князя Літоўскага Карыята". Карыят Гедымінавіч, у хрышчэнні названы

*"Роднае слова" працягвае друкаваць часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш"* ***Анатоля Статкевіча-Чабаганава****, першы том якой рыхтуецца да выдання. Ужо змешчаны матэрыялы з летапісу беларускай шляхты «Некрашэвічы герба "Любіч"» (2010, № 4), «Сацкевічы-Статкевічы герба "Касцеша"» (2010, № 5), «Карафа-Корбуты герба "Корчак"» (2010, № 6), «Татуры герба "Дамброва"» (2010, № 7), «Забэлы герба "Тапор"» (2010, № 8), «Сыцько герба "Астоя"» (2010, № 9), «Ліпскія герба "Граблі"» (2010, № 10), «Рудзінскія герба "Прус III"» (2010, № 11), «Тычыны гербаў "Тучынскі" і "Трэска"» (2010, №12).*




**Фрагмент з генеалагічнай схемы роду Курчэвічаў з Сотвы Сеўрукаў герба "Курч", складзенай Васілём Міхайлавічам Сеўрукам.**
Захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі.

Міхаілам, нарадзіўся ў 1301 г. Меў сына па імені Юрый-Аляксандр-Фёдар-Глеб.

Аднаго з Курчоў, які жыў на Валыні ў маёнтку Сотва і зваўся ў прастамоўі Корташам, празвалі Сеўрукам, Сеўрукам-Северуком, што звязана з Северскім княствам, магчыма, з яго сталіцай Ноўгарад-Северскім. Як адзначае Васіль Міхайлавіч Курчэвіч-Сеўрук у згаданай намі вышэй кнізе-даследаванні, прозвішчы ў Паўночна-Заходнім краі бяруць пачатак ад мясцовасці, назваў маёнткаў і гарадоў. Прозвішча Сеўрук хутчэй за ўсё таксама пайшло ад назвы мясцовасці, як Пінчук – ад Пінска, Мінчук – ад Мінска, так і "Севрукъ – отъ Северщизны".

Гэты ж аўтар прапаноўвае нашчадкам з роду Сеўрукаў прадоўжыць справу даследавання сваіх каранёў і дае параду звяртацца ў пошуках да Валынскіх і Літоўскіх хронік. Дзякуючы яго намаганням звесткі пра род Сеўрукаў значна пашырыліся. Як адзначае даследчык, "у гэтым радаводзе [Сеўрукаў] 230 душ, думаю, што палавіна з іх жывыя: старыя і маладыя, колькасць значная; але, на мой вялікі жаль, вельмі мала тых, хто шанаваў сваё дваранскае званне, служылі на дзяржаўнай рускай службе, ваеннай, грамадзянскай, усяго толькі чатырнаццаць асоб, а іншыя на іх сорам… непісьменныя, цёмныя, дзікія, не вучацца, не служаць дзяржаве ні ў якіх установах, але хаваюцца ў цёмных хлявах ад святла навукі, як краты пад зямлёю. Сакавіка 2 дня 1889 г. Тытулярны саветнік Васіль Міхайлаў Сеўрук". Вось так! З аднаго боку, гонар за свой старажытны род, з другога – жаданне прысароміць і спадзвігнуць суродзічаў-сучаснікаў да вучобы і дзяржаўнай службы.

Хацелася б пазнаёміць чытача з найбольш значнымі, на мой погляд, старонкамі ўжо згаданай кнігі Васіля Курчэвіча-Сеўрука.

Васіль Міхайлавіч лічыў, што паходзіць род «Сеўрукаў ад двух родных братоў Мікалая Сеўрука, гараднічага Луцкага павета, і Караля Сеўрука, якія карысталіся гербам "Курч", ад якога і пайшло прозвішча Курчэвічы… Род Сеўрукаў з прыдомкам з Сотвы, які меў ва ўжытку герб "Курч", са старажытнасці вылучаўся ў польскім краі шляхецкай годнасцю і свабодаю». Прадстаўнікі роду служылі манархам і Радзіме на ваеннай і грамадзянскай службах, валодалі маёнткамі з падданымі. Гэта вядома з рукапісу Івана Сеўрука, які быў напісаны яшчэ за сто трыццаць гадоў да кнігі Васіля Курчэвіча-Сеўрука і ўнесены ў акты Наваградскага ваяводства 9 студзеня 1785 г.

З названага рукапісу відаць, што луцкі гараднічы Мікалай Сеўрук і яго жонка Крысціна з Альшэўскіх валодалі ў Луцкім павеце маёнткам Сотва, які змяшчаў сорак дзве валокі зямлі з сялянамі. Мікалай памёр у 1449 г., а маёнтак перайшоў да яго сына Івана, які, саступіўшы гэтую нерухомасць брату Луку, паступіў на ваенную службу пад сцягі падканцлера Сапегі. Пры дзядзьку сваім Рамане Сеўруку служыў канюшым спачатку вялікага князя літоўскага, а затым караля польскага Ягайлы, валодаў маёнткамі Касынічы і Шастакі, якія завяшчаў Івану Мікалаевічу Сеўруку.

Як лічыць Васіль Курчэвіч-Сеўрук, Мікалай і Караль Курчэвічы-Сеўрукі маглі тытулавацца князямі і па спадчынным тытуле ад князёў Курчэвічаў, але для гэтага патрэбна было яшчэ мець і пэўнае багацце, а іх сорак дзве валокі не адпавядалі гэтаму патрабаванню. Таму браты лічыліся не дужа заможнымі, а "княжацкі тытул бедным ёсць насмешка: голы князь, таму яны маглі перастаць тытулавацца князямі, як Сеўрукі… перасталі пісацца Курчэвічамі".

Такім чынам, мае продкі з роду Курчэвічаў з Сотвы лічаць сябе нашчадкамі Курча, які жыў на Валыні ў маёнтку Сотва, а прыдомак Сеўрук звязаны з назвай Северскага княства.

Меркаванне маіх родзічаў, якія жылі ў XIX ст. і лічылі, што Курчэвічы з Сотвы Сеўрукі – гэта нашчадкі княжацкага роду Курцэвічаў, не пацверджана дакументамі і патрабуе дадатковага абгрунтавання.

А вось што гаворыцца ў пастанове ад 7 лютага 1824 г. Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра паходжанне роду Курчэвічаў з Сотвы Сеўрукаў герба "Курч". Матэрыялы да сходу былі падрыхтаваны Іосіфам Янам Курчэвічам-Сеўрукам, кандыдатам філасофіі.

«…Прадстаўлены вывад прозвішча народжаных Сеўрукаў прыдомка з Сотвы Курчэвічаў… намі, дэпутатамі, у васьмі пакаленнях, а імёнах 125 за выключэннем пяці падпісаны, пры разглядзе якога высветлілася, што прозвішча Курчэвічаў з Сотвы Сеўрукаў карысталася гербам "Курч": у чырвоным полі быццам літара "Т" вялікая ўверх нагамі звернутая, канец яе зверху раздвойваецца, пад раздваеннем белы крыж, з левага боку таксама пад крыжам паўмесяц канцамі да літары павернуты, з правага боку насупраць паўмесяца шасцівугольная зорка, у шлеме тры страусавыя пёры, з даўніх часоў перавагаю шляхецкага паходжання ў Каралеўстве Польскім былі абаронены…"

Пачынаецца генеалогія прозвішча Сеўрукаў, як ужо адзначалася, ад двух родных братоў – Мікалая, гараднічага Луцкага павета, і Караля, якія жылі ў XV ст. і валодалі спадчыннымі маёнткамі Касынічы і Шастакі. Продкі Сеўрукаў часта пераязджалі з аднаго месца ў іншае, таму нашчадкам складана было знайсці звесткі пра першыя пакаленні. Тым не менш пэўная інфармацыя ёсць: "…рукапісны дакумент да гэтага часу захаваў прыдомак Сотва і ўласны герб, гэта прыводзіць да высновы, што прозвішча народжаных Курчэвічаў з Сотвы Сеўрукаў, якія цяпер доказ свайго знатнага паходжання прадставілі, ад аднаго з двух вышэйзгаданых братоў прамой лініяй ідзе… узяўшы за родапачынальніка роду Лявона-Густафія Змітровіча Курчэвіча з Сотвы Сеўрука ў першым пакаленні…"

Як сведчыць запіс ад 3 студзеня 1811 г. у актавай кнізе Слуцкага земскага суда, у час барацьбы з татарамі згаданы Лявон-Густафій Змітровіч быў разораны, а таму атрымаў 20 кастрычніка 1587 г. ад князя Юрыя Юр'евіча Алелькі прывілей на зямлю ў маёнтку Кутнева з будынкамі і трыма падданымі:

"Юры Алелька, князь кіеўскі, беларускі, слуцкі, капыльскі, чарнігаўскі, граф… азнамяноўваем гэтым лістом нашым цяпер і на пасля будучым людзям, каму пра тое ведаць патрэбна, што зямянін гаспадарчы Луцкага павета Лявон Сеўрук Змітровіч, які немалы час у войску польскім служыў і ад гэтага ж войска меў… добрыя доказы сваім адважным учынкам, цяпер для службы пад харугву ў нашае Слуцкае княства прыбыў, якому па прашэнні і просьбе як пацярпеламу ў баі і разаронаму агнём і мячом іншаземнага непрыяцеля ўсю яго маёмасць і маёмасць яго бацькоў, даю і дарую яму і маёнтку яго трох падданах цяглых і валок 6 зямлі з пабудовамі,названымі Кутнеў у Наваградскім ваяводстве Слуцкім княстве… ва ўсім зацвярджаю, што названы Лявон Сеўрук спакойна той зямлёй можа валодаць сам, а нашчадкі яго аж да апошняга калена мужчынскага полу…"




**Партрэт Васіля Міхайлавіча Курчэвіча-Сеўрука, змешчаны ў кнізе "Выводъ о происхождении прозвищъ: Севрукъ и Курчевичъ-Севрукъ", выдадзенай у Мінску ў 1894 г.**

Такім чынам наша галіна Курчэвічаў-Сеўрукаў уладкавалася пад Слуцкам у XVI ст., атрымаўшы ад князя Юрыя Алелькі маёнткі Кутнева і Чыжэвічы. Як бачым з пастановы Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу, родапачынальнікам стаў Лявон-Густафій Змітровіч Курчэвіч Сеўрук з Сотвы, што жыў у Луцкім павеце, таварыш і харунжы войска Каралеўства Польскага. Яго сын Якуб, уладальнік маёнтка Касынічы, стаў родапачынальнікам роду Сеўрукаў герба "Слепаворан".

Сын Лявона-Густафія Іван з'яўляецца прадаўжальнікам роду Курчэвічаў-Сеўрукаў герба "Курч". Дачка яго прапраўнука Аляксандра Іванавіча Сеўрука, які ў 1760 г. у споведнай ведамасці пагосцкай царквы лічыўся прыхаджанінам, Марыя Сеўрук выйшла замуж за двараніна Данііла Пількевіча з засценка Сыцянец, даўшы пачатак яшчэ адной галіне ў магутным дрэве роду Сеўрукаў.

Пляменнік Лявона-Густафія Аляксандр, паручнік яго каралеўскай міласці, вылучыўся ў Турэцкай, Маскоўскай і Шведскай ваенных кампаніях. Атрымаў 8 сакавіка 1617 г. у Вільні ад вялікага гетмана войскаў Рэчы Паспалітай галоўнакамандуючага Яна Караля Хадкевіча патэнт на чын ротмістра і ў якасці ўзнагароды за асаблівую мужнасць – месца вышэйшай ступені ў палку караля Уладзіслава. Пасля адной з бітваў у маёнтку Праходы Аляксандра Курчэвіча-Сеўрука здарылася няшчасце. Яго жонка, Яўжэ-



По описи утвержденныхъ дѣлъ №

ДѢЛО

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія

о дворянскомъ происхожденіи

рода Севруковъ

Первоначальныя опредѣленія Депут. Собранія

7 февраля 1824 г.

Указъ Правительствующаго Сената объ утвержденіи

отъ 18 года, за №

**Справа Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра дваранскае паходжанне роду Сеўрукаў герба “Курч” (1824).**

ба Іванаўна Пласкавіцкая, даведалася ад вайскоўцаў, якія прыбылі ў абозе з-пад Смаленска, што Аляксандр быў узяты ў маскоўскі палон і там нібыта забіты, пасля чаго “з гора захварэла і памерла”, пакінуўшы двух сыноў. Аднак на самай справе Аляксандр застаўся жывы і вярнуўся дадому пазней з іншым абозам. Праз некаторы час ён ажаніўся другі раз з Ганнай Керсноўскай. У іх нарадзіліся сыны Іван і Марцін.

Страціўшы здароўе ў бітвах, Аляксандр Курчэвіч-Сеўрук не змог працягваць ваенную службу, ён вярнуўся з-пад Нарвы, пакінуўшы ў лагеры караля Уладзіслава сваіх сыноў.

Захаваўся дакумент, у якім гаворыцца, што Аляксандр жыў у спадчынным маёнтку Сеўрукоўшчына, што каля Капыля, на мяжы з Цімкавічамі. Пасля ваенных паходаў ён вырашыў заняцца мірнай працай: насыпаў грэблю і пабудаваў млын, але так атрымалася, што гэта прывяло да частых затапленняў суседскіх цімкавіцкіх сенажацей. Гаспадар Цімкавіцкага княства пан Беркаш разам з натоўпам людзей тройчы нападалі на млын, патрабуючы разбурыць грэблю, але Аляксандр Сеўрук не выканаў іх патрабаванняў. Цікава, што млын выстаяў і пасля чацвёртага нападу. Неяк на “зялёныя святкі” (Тройцу) пан Беркаш і Аляксандр Сеўрук сутыкнуліся ў капыльскім касцёле на святочным набажэнстве. Пасля службы, выйшаўшы з храма, Беркаш, абураны незгаворлівасцю Сеўрука, выклікаў яго на дуэль, якой мой продак не хацеў, але быў вымушаны прыняць выклік.

У час паядынку ён знёс Беркашу галаву, затым, ускочыўшы на каня, паскакаў у свой фальварак. Закончылася трагічная гісторыя тым, што Аляксандр Сеўрук павінен быў выплаціць вялікую суму грошай сям’і загінулага ў гэтай недарэчнай дуэлі.

Пазней жонка памерлага Беркаша атрымала дакумент на пана Сеўрука, па якім той згадзіўся плаціць пагалоўшчыну. Аднак выплаціць адразу ўсю суму грошай не змог, таму заклаў свой фальварак Сеўрукоўшчыну ў 100 копах, а сынам прадаставіў права на 3 валокі зямлі ад таго фальварка.

16 снежня 1625 г. пакінуў тастамент, дзе ўсю набытую рухомую і нерухомую маёмасць раздзяліў паміж сынамі як ад першай, так і ад другой жонкі. Памёр Аляксандр у 1626 г. у маёнтку Праходы.

Сын Аляксандра Іван валодаў па завяшчанні бацькі гэтым маёнткам. За заслугі на вайсковай службе 10 верасня 1626 г. ад вялікага гетмана Сапегі ён атрымаў патэнт на чын ротмістра. Быў жанаты з Элізабэтай Узлоўскай. Адзін з сыноў Івана – Адам – стаў родапачынальнікам дзвюх галін Сеўрукаў герба “Гейштар”. Другі сын – Рафал – прадоўжыў род Курчэвічаў-Сеўрукаў. У сваю чаргу сын Рафала Іван прадаў у 1682 г. вотчынны маёнтак Праходы свайму дваюраднаму брату, каралеўскаму харунжаму Пятру Адамавічу Сеўруку.

На працягу многіх стагоддзяў прадстаўнікі гэтага роду вывучалі і захоўвалі свае карані, бо, як піша беларуская паэтэса Таіса Янучок, “сэнс жыцця, як крок за крокам, – у вяртанні да вытокаў”.

Я часта ўзгадваю пра Васіля Міхайлавіча Курчэвіча-Сеўрука, які, зрабіўшы значную працу па даследаванні свайго радаводу, не быў упэўнены, што нехта з нашчадкаў прадоўжыць яго справу па ўшанаванні сваіх каранёў: “Я сколько могъ, то и открылъ потемки для потомковъ, хотя быть можетъ ни одинъ не помянетъ и добрымъ словомъ за трудъ”. За больш чым 20 гадоў даследчай працы мне ўдалося адшукаць звесткі пра 657 прадстаўнікоў роду Сеўрукаў (14 кален), якія жылі з XV ст. на Валыні і з XVI ст. – на землях вакол Случчыны і Нясвіжчыны ажно да XX ст. Такім чынам, мара майго родзіча пра вывучэнне нашчадкамі свайго радаводу збылася. Хочацца верыць, што і ў наступных пакаленнях знойдуцца прадстаўнікі роду, шчырыя энтузіясты, якія прадоўжаць гэтую важную справу.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Актуальная тэма

Аляксандр ПАВІЛЬЧ

# КУЛЬТУРАЛАГІЧНАЕ І МАСТАЦКАЕ АСЭНСАВАННЕ ПРАЦЭСАЎ ТРАНСФАРМАЦЫІ ЭТНІЧНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

## КАМПАРАТЫЎНЫ ПАДЫХОД

Традыцыі і інавацыі заўсёды выконваюць ролю механізмаў, якія абумоўліваюць якасны змест культуры, асаблівасці і тэмпы яе развіцця. Традыцыі ўяўляюць устойлівыя з'явы ў сацыякультурнай прасторы і ахопліваюць паўсядзённасць, гаспадарчы ўклад і матэрыяльную культуру, спосабы і сродкі камунікацыі, стэрэатыпы паводзін і самасвядомасці, асаблівасці светаўспрымання, мову, мастацкую творчасць, звычаі, вераванні і інш. Традыцыі адлюстроўваюць гістарычны і сацыякультурны вопыт народа і акумулююцца на працягу многіх пакаленняў, пры гэтым падвяргаюцца розным ступеням трансфармацыі ці ўвогуле выцясняюцца культурнымі інавацыямі.

Сітуацыя працяглай статычнасці традыцый і нерухомасці каштоўнаснага зместу культуры характарызуецца як сацыякультурны застой. Яго прычынай можа стаць панаванне ідэалагічных і рэлігійных догмаў у прасторы культуры, вынікам чаго робіцца кансервацыя традыцыі і штучная замкнёнасць для працэсаў мадэрнізацыі і запазычанняў. Такая культурная сітуацыя была асабліва ўласціва эпосе Сярэднявечча і савецкаму перыяду. Разам з сацыякультурным застоем адрозніваюць сітуацыю ўстойлівасці, у якой традыцыі ў асобных сферах жыццядзейнасці людзей характарызуюцца стабільнасцю, нязмушанасцю, арганічнай злучанасцю з сацыякультурнай рэчаіснасцю і ўтвараюць трывалую аснову культуры ці знаходзяцца ў збалансаваных адносінах з інавацыямі. Культуры ўсходняга тыпу ў адрозненне ад заходняй цывілізацыі характарызуюцца большай актыўнасцю традыцый у сацыякультурным функцыянаванні. Але ў сучасным транзітыўным грамадстве трансфармацыя традыцый у той ці іншай ступені з'яўляецца непазбежнай для ўсіх сацыякультурных сістэм.

У рамане У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" вобраз старой расквітнелай грушы, якая, нічога не ведаючы, адбывала апошнюю часіну жыцця, можна разглядаць у якасці абагульненага сімвала традыцыі, што аджывае свой час, нягледзячы на веліч і хараство. *"І была яна такая магутная і свежая, так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што здавалася, не будзе ёй зводу і не будзе канца"* [1, с. 7]. Воды Дняпра, які, паводле У. Караткевіча, падкрадаўся да грушы *"спакваля, як разбойнік"* [1, с. 11], сімвалізуюць несупынную плынь сацыякультурных змен, многія з якіх зусім не прадказальныя.

Сузіранне зайздросных здабыткаў еўрапейскай культурнай спадчыны дало падставу В. Ластоўскаму паэтычна адлюстраваць у вершы "У Альпах" веліч гераічных ідэалаў, падкрэсліць знакавы сэнс гістарычных каштоўнасцей і адначасова выказаць шкадаванне пра іх недаўгавечнасць і зменлівасць:

> *Тут, на рубяжы двох светаў,*
> *двох культур,*
> *дзесь з вершадзі высокай,*
> *глядзя на рымскіх замкаў звалы*
> *тваёй мінуўшай славы,*
> *што ўжо не дасць натхнення,*
> *я не завідую табе,*
> *Італьская зямля!* [2, с. 212].

Этнічная культура як найбольш старажытны слой і падмурак нацыянальнай культуры ахоплівае абумоўленыя асяроддзем і шляхамі гістарычнага развіцця звыклы гаспадарчы ўклад і рамёствы, традыцыйнае харчаванне, сацыяльныя і сямейныя стасункі, звычаі, народную творчасць, міфалогію, рэлігійныя вераванні. У традыцыйным грамадстве рытуальна-культавая дзейнасць як ключавы складнік этнічнай культуры выконвала функцыю самаарганізацыі этнічнай супольнасці і з'яўлялася першаснай формай выражэння калектыўнай свядомасці. У сваім аўтэнтычным стане этнакультурныя традыцыі ўласцівы толькі архаічнаму і даіндустрыяльнаму грамадству. Надзеленыя сакральным сэнсам, яны адлюстроўваюць архетыпы духоўнасці народа, выражаюць яго асаблівасці як сацыяльнага адзінства.

Невыпадкова М. Бярдзяеў звязваў сутнасць культуры з яе рэлігійнымі вытокамі і культам продкаў. Па яго словах, "уся культура ёсць аб'ектывацыя містычных перажыванняў. Уся культура развіваецца з культу" [3, с. 105]. У сучасным грамадстве з пэўнай доляй цяжкасці даводзіцца ўспрымаць сэнс магічнага выразу, які вымаўляе герой У. Караткевіча Алесь Загорскі ўслед за бацькам, усведамляючы магільнік як неўміручую каштоўнасць: *"У мяне няма нічога, акрамя магіл, бо я ваш сын. <…> Я клянуся любіць вас"* [1, с. 68]. На рэштках паганскага капішча, што



***Аляксандр Аляксандравіч Павільч*** – *даследчык літаратуры, культуролаг. Кандыдат педагагічных навук (2001). Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1997), аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі (2000). Дацэнт кафедры культуралогіі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Вывучае праблемы параўнальнага аналізу культуры, педагагічны аспект твораў рэлігійнага пісьменства эпохі Сярэднявечча, пытанні культуралагічнай інтэрпрэтацыі старажытнай літаратуры і методыкі яе выкладання.*

ўвасабляе варты памяці і павагі культ продкаў, Алеся краналі не так словы бацькоўскага аповеду, як *"мёртвы сон камянёў, дрэў, будыніны, якую абкружалі, сціскалі дубы"* [1, с. 66].

У апавяданні "Кентэрвільскі прывід" О. Уайльда ў сімволіка-алегарычнай форме іранічна асэнсаваны статус традыцыі і містычнага пачатку культуры ва ўмовах трыумфу цывілізацыі і панавання рацыяналізму над свядомасцю чалавека. Камічная на першы погляд гісторыя пра тое, як сям'я пераязджае ў старадаўні замак і сваім занадта рэалістычным і прагматычным поглядам на жыццё даводзіць мясцовы прывід да псіхічнай знямогі, з'яўляецца даволі сумным вобразным увасабленнем татальных наступстваў навукова-тэхнічнага прагрэсу ў свеце.

Паняцце *народная культура* ў адрозненне ад этнічнай культуры значна шырэйшае і характарызуецца гетэрагеннасцю зместу, паколькі можа спалучаць спрадвечныя традыцыі і іншаэтнічныя элементы. Народную культуру часта вызначаюць як сукупнасць папулярных этнакультурных традыцый, якім уласціва кансерватыўнасць формаў і рухомасць зместу. У гісторыка-культурнай дынаміцы многія этнакультурныя традыцыі атрымліваюць пазачасавы сэнс, адрозніваюцца дынамічнасцю, здольнасцю трансфармавацца і адаптавацца да новай сацыякультурнай сітуацыі, у выніку чаго набываюць новыя функцыі, сэнсавыя і ідэалагічныя акцэнты. Народная культура адрозніваецца традыцыйнасцю, адценнем архаічнасці і даўніны. Асаблівасцю народнай культуры з'яўляецца калектыўны характар творчасці, паколькі асобныя традыцыі і творы майстроў пастаянна дапаўняліся і ўдасканальваліся наступнымі пакаленнямі, утвараючы гісторыка-культурныя наслаенні. Народная культура фарміравалася на аснове традыцыйнага сялянскага ладу жыцця і ахоплівае разнастайныя аспекты дзейнасці: фальклорную творчасць (паэтычную, музычную, тэатральную, харэаграфічную), звычаі, традыцыі, сямейныя і каляндарныя абрады, святы, рамёствы, гаспадарчую, выхаваўчую і медыцынскую практыкі, народную метэаралогію, а таксама іншыя папулярныя формы культурнай творчасці, што складаюць важны кампанент паўсядзённага жыцця.

Народная культура можа таксама ўключаць і інавацыйную творчасць, якая ўзнікае і развіваецца на аснове мадэрнізацыі і актуалізацыі традыцыі. Эвалюцыя традыцый народнай культуры суправаджаецца сінтэзам разнастайных элементаў, наслаеннем шматлікіх часавых прыкмет і рыс, напрыклад сумяшчэннем і арганічным адзінствам элементаў архаічнай і хрысціянскай культур. У народнай культуры могуць спалучацца фальклорныя традыцыі з элементамі самадзейнай і прафесійнай творчасці. Вытворчасць і распаўсюджанне асобных формаў народнай культуры не абмяжоўваецца традыцыйнымі спосабамі і сродкамі і нярэдка набывае характар масавай індустрыі, прадукцыя якой шырока транслюецца масавымі каналамі і з'яўляецца дастаткова запатрабаванай, напрыклад турыстычным рынкам, сферай вольнага часу і забаў.

У часавай прасторы этнакультурныя традыцыі праходзяць натуральны адбор, у якім заўсёды перамагаюць найбольш моцныя і мабільныя. Многія формы этнічнай культуры выцясняюцца і замяняюцца больш актыўнымі і адаптаванымі да сацыякультурнай сітуацыі аналагамі. Трансфармацыя традыцыі – гэта заканамерны працэс, які нагадвае адлушчванне мёртвых клетак і выражаецца ў разбурэнні непрыдатных да жыцця элементаў, выцесненых найбольш актуальнымі альтэрнатывамі. Гэта адбываецца з гаспадарчым і сямейным побытам, камунікатыўнымі адносінамі і сродкамі. Рэальным спосабам захавання этнічных традыцый у спрадвечным выглядзе можа быць толькі знаходжанне іх у мемарыяльнай плоскасці, але пры гэтым, без актыўнага выкарыстання і жыццёвай моцы, яны будуць не больш чым музейнымі экспанатамі. Нягледзячы на тое, што ў рознай ступені трансфармуюцца ўсе этнакультурныя традыцыі, найбольш жыццяздольнымі застаюцца традыцыі матэрыяльнай культуры, якія выходзяць з актыўнага ўжытку і робяцца аб'ектам камерцыйных адносін у розных сферах масавай культуры.

Разважанні пра разбурэнне традыцыйнай сацыякультурнай прасторы і прыроднага асяроддзя ў выніку навукова-тэхнічнага прагрэсу сталі вядучым праблемным полем мастацкай літаратуры пачынаючы з другой паловы XIX ст. У кантэксце паэтычнага бачання пісьменнікі закраналі праблемы экалогіі культуры як неад'емнай умовы захавання духоўнага асяроддзя чалавецтва. Зноў прыгадваецца сюжэт з рамана "Каласы

пад сярпом тваім" У. Караткевіча. Аповед Кастуся Каліноўскага на славутым свіслацкім кірмашы акрэслівае нечаканыя наступствы ранняй індустрыяльнай хвалі: *"Зямля збяднела. Лясы высеклі. У рэках вывелася рыба, у пушчах – звер. Раней-то, кажуць, усяго было: і звера, і птушкі, і дзікага мёду. Ідзі сабе, чалавек, у лес, расчышчай ляды. Сам ты сабе гаспадар. А цяпер адзін паратунак – горад"* [1, с. 244].

Вершы ў прозе І. Тургенева дазваляюць вельмі востра адчуць трывогу і перажыванні аўтара за будучыя стасункі чалавецтва з навакольным і культурным асяроддзем. Пісьменнік з глыбокім жалем канстатуе факт страты чалавекам здольнасці да сакральнага ўспрымання рэчаіснасці і сцвярджэнне спажывецкага тыпу свядомасці, якая сфарміравалася ў выніку адсутнасці меры і этыкі пераўтваральнай дзейнасці людзей. Адлюстраваны ў мініяцюры "Прырода" неспакойны вобраз грознай прыроды-маці, што асуджае празмерную рацыяналістычную і прагматычную жыццёвую пазіцыю чалавека, з'яўляецца сімвалічным выражэннем хвалявання і страху за наступствы тэхнагенных працэсаў і эгацэнтрычных памкненняў. Саманадзейнасць і неапраўданае ўзвышэнне над прыродай, згубнае ўмяшанне ў сацыякультурную прастору сталі вынікам таго, што паміж чалавекам, прыродай і соцыумам замест арганічных сувязей складваюцца дыяметральна супрацьлеглыя, варожыя стасункі. Ва ўмовах духоўнай адзіноты і ізаляцыі, якія наканаваны чалавеку з-за яго драпежніцкага стаўлення да свету, з'яўляецца непазбежным асэнсаванне тленнасці жыцця. У духу песімістычных разважанняў старазапаветнай кнігі "Эклезіяст" рускі пісьменнік схіляе лірычнага героя, захопленага спевамі чорнага дразда, асэнсаваць сутнасць сваіх творчых намаганняў і смелых памкненняў: *"…у яго песні не было нічога свайго, асабістага; ён быў той жа самы чорны дрозд, які тысячу гадоў таму вітаў тое ж самае сонца і будзе вітаць яго праз іншыя тысячы гадоў, калі тое, што застанецца ад мяне, можа, будзе круціцца нябачнымі пылінкамі вакол яго жывога звонкага цела, у павятраным струмені, парваным яго спевамі"* [4, с. 658]. Сімвалічны вокліч *"Памёр Вялікі Пан!"* у мініяцюры "Німфы" І. Тургенева атрымлівае касмічныя маштабы і становіцца вобразнай характарыстыкай катастрафічных наступстваў неапраўданай актыўнасці чалавецтва і прагрэсу цывілізацыі, якія ператварылі свет амаль у бязлюдны востраў з магільнікавай атмасферай, напоўненай моцнымі галашэннямі, стогнамі, працяглымі і жалобнымі ўсхліпамі.

На змену адносна аднародным і тыповым народным ідэалам, рэпрэзентаваным у этнакультурных тэкстах, у постіндустрыяльнае грамадства прыйшла хваля разнастайных каштоўнасных пераваг, якія вызначаюцца абсалютнай палярнасцю, супярэчлівасцю змястоўнага напаўнення і абумоўліваюцца суб'ектыўнымі, ідэалагічнымі, палітычнымі, эканамічнымі, канфесійнымі фактарамі. У адрозненне ад традыцыйнага соцыуму сучаснае масавае грамадства валодае дастаткова маштабнымі інфармацыйнымі магчымасцямі і тэхналогіямі папулярызацыі альтэрнатыўных культурных эталонаў. Традыцыйны этнакультурны дыскурс істотна заценены прадукцыяй масавай індустрыі, шоу-бізнесам і інтэрнэт-рэсурсамі, якія прапагандуюць прыярытэтнасць цялеснай прыгажосці і фізічнага задавальнення, падкрэсліваюць перспектыўнасць і прэстыжнасць ідэалу эгацэнтрычнага чалавека-драпежніка, нацэленага на ўласную выгаду, камфортнасць і задавальненне, лёгкія і ганебныя здабыткі. Сучасная медыяпрастора шчыра замацоўвае новую разнавіднасць ідалапаклонства перад эстраднымі выканаўцамі, акцёрамі, прадстаўнікамі свецкага бамонду і палітычнай эліты, надаючы ім статус новых культавых вобразаў. Безумоўна, што на фоне ўсяго гэтага класічныя персанажы фальклору, якія адлюстроўваюць эталоны духоўнасці з пункту гледжання гісторыка-культурнага вопыту народаў, уяўляюцца не больш як недарэчныя анахранізмы.

Вацлаў Ластоўскі пісаў пра свой народ і беларускую культуру наступнае: "Мы маем цела, але гэтае цела, каб ажывіць, патрэбен жывы дух, патрэбны ідэалы, раўнацэнныя ўсясветным, прапушчаныя праз нашу нацыянальную прызму" [2, с. 322]. Характарызуючы беларускую сацыякультурную сітуацыю, ён адзначаў, што ў беларусаў ёсць гісторыя, слабыя традыцыі і "зародышы ідэалаў", паколькі "агульналюдскія ідэалы куём не ў сваёй нацыянальнай кузні, а пераймаем іх ужо ператворанымі, перажаванымі, падсоленымі і падпечанымі гісторыяй, традыцыямі і кірункамі мыслі нашых старакультурных суседзяў" [2, с. 322]. Па меркаванні В. Ластоўскага, беларускаму народу поруч з руплівасцю яшчэ вельмі не хапае ўласных арыгінальных спосабаў вырашэння культурных праблем.

У свеце большасць праектаў і прапаноў, звязаных з ажыўленнем і выратаваннем этнакультурных традыцый ад пагрозы ўніверсалізацыі і асіміляцыі, уяўляюцца фармальнымі, наіўнымі і бессэнсоўнымі. Нельга ў кароткі тэрмін пабудаваць падмурак для засцярогі этнакультурных скарбаў, у той час калі на працягу многіх дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў адпаведныя свядомыя захады не ажыццяўляліся. Напрыклад, самая строгая палітыка ў сферы абмежавання моўных запазычанняў не здольна поўнасцю спыніць хвалю англіцызмаў у сучасным грамадстве, паколькі

заканамерныя сацыякультурныя тэндэнцыі не могуць быць прыціснуты цяжарам пастаноў і забарон у асобных краінах. Мова як звышчуллівая і пастаянна зменлівая з'ява тонка рэагуе на сацыякультурную рэчаіснасць і аб'ектыўна адлюстроўвае яе розныя бакі, як вартыя захаплення, так і не зусім прыемныя. Моўныя запазычанні з'яўляюцца заканамернасцю, актуальнай для ўсіх часоў і гісторыка-культурных эпох. Многія запазычанні выконваюць відавочныя прагматычныя функцыі і прыносяць карысць, паколькі запаўняюць безэквівалентныя паняційныя і тэрміналагічныя лакуны, тым самым забяспечваючы камунікатыўную стабільнасць. Камп'ютарны слэнг у тым ліку выступае ў ролі камунікатыўнага сродку, паколькі значна палягчае асваенне камп'ютарных тэхналогій і кіраванне імі. Істотнай нагодай для шкадавання і песімістычных роздумаў з'яўляецца скіраваны модай факт ператварэння паўсядзённай слэнгатворчасці (асабліва ў колах моладзі) у маштабнае захворванне маўлення.

У навуковых колах часта вядзецца гаворка пра забруджванне беларускай мовы такой формай народнай мовы, як "трасянка". Калі ўлічваць рэальную сітуацыю, то атрымліваецца, што яна выконвае і станоўчую захавальную функцыю. Беларуская "трасянка" як вынік лінгвістычнай інтэрферэнцыі ў сітуацыі беларуска-рускага двухмоўя ў краіне сёння – адзін з рэальных варыянтаў бытавання беларускай мовы. "Трасянка", безумоўна, з'яўляецца неўнармаванай, але затое жывой формай існавання мовы, распаўсюджанай сярод і вясковага, і гарадскога насельніцтва. Відавочна, што іншай, больш маштабнай, альтэрнатывы ў актыўным маўленчым ужытку не існуе. У паўсядзённых моўных зносінах беларускую літаратурную мову выкарыстоўваюць пэўныя катэгорыі людзей, у асноўным прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі: вучоныя, выкладчыкі, журналісты, акцёры (пераважна ў сферы прафесійнай дзейнасці і службовых абавязкаў), а таксама вымушаныя вучэбнымі задачамі ў межах адпаведных дысцыплін навучэнцы і студэнты.

Рэалізацыя прынцыпаў экалогіі культуры, якія прадугледжваюць разумную арганізацыю сацыякультурнай дзейнасці і абумоўліваюць асноўныя кірункі культурнай палітыкі грамадства, складае неад'емную ўмову захавання духоўнай глыбіні культурнай прасторы. Д. Ліхачоў лічыў захаванне культурнага асяроддзя і яго сакральнай атмасферы не менш істотнай і адказнай задачай за ахову прыроды. З гэтай нагоды ён пісаў: "Калі прырода неабходна чалавеку для яго біялагічнага жыцця, то культурнае асяроддзе столькі ж неабходнае для яго духоўнага, маральнага жыцця, для яго духоўнай аседласці, для яго прывязанасці да родных месцаў, для яго маральнай самадысцыпліны і сацыяльнасці" [5, с. 484].

**Спіс літаратуры**

1. **Караткевіч, У.** Каласы пад сярпом тваім : раман у 2 кн. / У. Караткевіч. – Мінск : Маст. літ., 1998. – 702 с.
2. **Ластоўскі, В.** Выбраныя творы / В. Ластоўскі. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 1997. – 512 с.
3. **Бердяев, Н.** Судьба России : сочинения / Н. Бердяев. – М. : Эксмо; Харьков : Фолио, 2004. – 736 с.
4. **Тургенев, И. С.** Сочинения : в 2 т. / И. С. Тургенев. – Самара : Парус, 1997. – Т. 1. – 672 с.
5. **Лихачев, Д. С.** Избранные работы : в 3 т. / Д. С. Лихачев. – Л. : Худож. лит., 1987. – Т. 2. – 496 с.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

САКАВІК

*Заканчэнне. Пачатак на с. 66, 74.*

**24 сакавіка –** 115 гадоў з дня нараджэння Веры Маслоўскай (псеўд. Мурашка; 1896 – 1981), грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, паэткі. Жыла ў Польшчы

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Гарбачова (1921 – 1981), рускага перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**25 сакавіка –** 140 гадоў з дня нараджэння Марыяна Абрамовіча (1871 – 1925), удзельніка рэвалюцыйнага руху, дзеяча культуры Польшчы і Беларусі

**27 сакавіка –** 160 гадоў з дня нараджэння Аляксея Сапунова (1851 – 1924), гісторыка, археографа і краязнаўцы

120 гадоў з дня нараджэння Валянціна Смышляева (1891 – 1936), рускага акцёра, рэжысёра, педагога, тэатральнага дзеяча, заслужанага артыста Расіі. У 1922 – 1926 гг. – мастацкі кіраўнік Беларускай драматычнай студыі ў Маскве

105 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Мухарынскай (1906 – 1987), музыказнаўцы, фалькларыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Спешнева (1911 – 1994), беларускага і расійскага кінадраматурга, кінарэжысёра

**28 сакавіка –** 110 гадоў з дня нараджэння Усевалада Былінскага (1901 – 1977), акцёра

70 гадоў з дня нараджэння Фелікса Гумена, мастака-акварэліста

**30 сакавіка –** 80 гадоў з дня нараджэння Аляксея Пяткевіча, крытыка, літаратуразнаўцы, краязнаўцы

**31 сакавіка –** 100 гадоў таму заснаваны Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні. Існаваў да 1917 г.

90 гадоў з дня нараджэння Анатоля Рудакова (1921 – 1990), акцёра, заслужанага артыста Беларусі

85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Ідэльсона, перакладчыка, сцэнарыста

80 гадоў з дня нараджэння Мікалая Несцярэўскага, мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

80 гадоў таму створаны Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. З 2008 г. – Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Віншуем юбіляра!*

# ЗАХОПЛЕНЫ НАРОДНАЙ МУДРАСЦЮ

## ДА 75-ГОДДЗЯ АНТОНА ГУРСКАГА



Што азначае быць фальклярыстам? Ці змянілася разуменне гэтай прафесіі ў параўнанні з мінулым ці нават пазамінулым стагоддзем? І наогул, фальклярыст – гэта прафесія ці прызванне? Згадваюцца імёны Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, С. Сахарава… Людзі, аднойчы далучаныя да народнай спадчыны, прысвячалі ёй усё жыццё. З алоўкам і сшыткам, ад вёскі да вёскі. Песні, казкі, паданні, загадкі… Усё зачароўвае і здзіўляе сваёй мудрасцю і хараством. Як у XIX стагоддзі, так і сёння. Гэтыя людзі абралі фальклор сваім лёсам; тут і захапленне, і тытанічная збіральніцкая праца, і належная эрудыцыя, і тэарэтычная падрыхтоўка.

Менавіта лёсам стала фальклярыстыка для Антона Гурскага. Антон Іванавіч нарадзіўся 14 студзеня 1936 г. у вёсцы Свінка Капыльскага раёна. Вясковы хлопец, ён з дзяцінства спазнаў цяжкасці жыцця (бацька ў 1938 г. рэпрэсіраваны), перажыў фашысцкую акупацыю, навучыўся ўспрымаць свет вачыма селяніна-земляроба. А гэта значыць – разумець і шанаваць зямлю, радавацца світанку, марыць… Натуральна, гэта не магло не паўплываць на будучыя працы вучонага. Антон Іванавіч яшчэ падлеткам падсвядома здолеў адчуць глыбокую філасофію народнага слова і песні. Юнацкае захапленне падштурхнула да прадаўжэння вучобы.

З 1954 да 1959 г. Антон Гурскі – студэнт Мінскага педагагічнага інстытута. 1 кастрычніка 1959 г. прыняты на працу ў сектар фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.

Пачалося новае жыццё – жыццё фальклярыста, штогадовыя экспедыцыі па ўсёй Беларусі. Цяжка прыгадаць раён, дзе не быў Антон Іванавіч. З кожнай паездкі – сшыткі і сшыткі запісаў. Зафіксаваны творы практычна ўсіх жанраў вуснай паэзіі – не дзясяткі і нават не сотні, – іх колькасць набліжаецца да дзесяці тысяч.

Асобна трэба сказаць пра шматлікія паездкі вучонага па вёсках, якія пацярпелі ад чарнобыльскай навалы. Сабраць, не даць адысці ў нябыт каштоўным россыпам народнай творчасці – вось асноўная мэта збіральніцкай дзейнасці фальклярыста. Падрыхтаваны том песеннай спадчыны вёсак з Чарнобыльскай зоны хутка ўбачыць свет.

Уласныя запісы паслужылі Антону Іванавічу для больш як 10 зборнікаў народнай творчасці беларусаў. Ім выдадзена чатыры тамы фальклорных твораў у серыі “Беларуская народная творчасць” (БНТ): “Загадкі” (1972), “Зімовыя песні” (1975), “Легенды і паданні” (1983), “Земляробчы каляндар” (1990). За ўдзел у стварэнні 30-томнага зводу беларускай народнай творчасці ў складзе аўтарскага калектыву Антону Іванавічу Гурскаму прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР у галіне навукі і тэхнікі.

Праца фальклярыста ўключае не толькі запіс (хоць гэта даецца не кожнаму і заслугоўвае павагі), але і грунтоўныя тэарэтычныя пошукі. Унутранае адчуванне народнай песні і рознабаковыя веды дазволілі А. І. Гурскаму абараніць кандыдацкую дысертацыю на тэму “Беларускія народныя песні. Калядкі і шчадроўкі (па запісах XIX – пачатку XX стагоддзяў)”. На той час ідэалагічнага ўціску і барацьбы з рэлігіяй зварот да такога жанру, як калядныя песні з перапляценнем у іх язычніцкіх і хрысціянскіх рыс, вымагаў цвёрдай грамадзянскай пазіцыі і навуковай мужнасці. Трэба адзначыць, што работа ўдалася. Зроблены ўпершыню ў айчыннай фальклярыстыцы навуковы аналіз каляднай абраднасці ўсходніх славян і беларускай каляднай паэзіі склаў аснову манаграфій “Зимняя поэзия белорусов” (1980) і “Святкаванне Калядаў на Беларусі” (1998).

Антон Іванавіч не абышоў увагаю і гісторыю беларускай фальклярыстыкі, ён аўтар манаграфіі, прысвечанай творчай дзейнасці Д. Булгакоўскага і П. Дземідовіча “З любоўю да народа” (1989).

У беларускай фалькларыстыцы менавіта Антон Гурскі шмат зрабіў для тэарэтычнага даследавання пазаабрадавай лірыкі, пра што сведчаць манаграфіі “Тайны народнай песні” (1994); “Семантыка і паэтыка сямейнай лірыкі” (2001). У іх аналізуецца народная песня, скрозь напоўненая шчырым пачуццём і глыбінёй думкі. У даследаваннях падаецца расшыфроўка складанай народнай паэтычнай сістэмы іншасказання, традыцыйнай песеннай сімволікі. У імкненні паказаць змястоўнае і ідэйнае багацце, светапоглядную глыбіню народнай лірыкі Антон Іванавіч не забываецца і на яе паэтычную вытанчанасць, мастацкую дасканаласць. У працах вучонага народная песня паўстае як каштоўны дыямент, што зіхаціць рознымі колерамі паэтычных адценняў.

Аўтар манаграфіі “Пазаабрадавая лірыка ўсходніх славян” (2008) сцвярджае, што ў народнай лірычнай песні адлюстраваліся новыя філасофскія, гуманістычныя, сацыяльныя, маральна-этычныя і эстэтычныя ўяўленні народа пра ідэал чалавека, узаемаадносіны паміж людзьмі, жыццё. Ідэйная накіраванасць лірычнай песні своеасаблівая: у мастацкай форме праўдзіва і шчыра перадаць пачуцці лірычнага героя, расказаць пра тое, што хвалюе і ўражвае яго, што адбываецца з ім і вакол яго. Пры дапамозе мастацкіх сродкаў выразнасці лірычная песня раскрывае складаны і супярэчлівы ўнутраны свет чалавека. Таму эмацыянальны элемент з’яўляецца галоўным кампанентам ідэйна-мастацкага зместу лірычнай песні.

У апошнія гады А. І. Гурскі ў навуковых росшуках заглыбляецца ў сэнсавыя характарыстыкі лірыкі. У манаграфіі “Чаму вучыць народная песня” (2007) прааналізаваны маральныя грамадскія погляды, якія па-мастацку выказаны ў вуснамоўнай народнай творчасці. Паказана выключная роля жанчыны-маці. На прыкладах традыцыйных каляндарна-абрадавых беларускіх песень падкрэсліваецца важная роля гуманных поглядаў народа ва ўсталяванні маральных прынцыпаў і нормаў у сучасным сямейным і грамадскім жыцці.

Глыбока і ўсебакова А. І. Гурскі даследаваў нацыянальную народную загадкатворчасць. У манаграфіі “Беларускія загадкі (Даследаванне жанру)” (2000) загадкі разглядаюцца як своеасаблівы, унікальны жанр фальклору, сплаў народнай мудрасці, дасціпу, аптымізму і паэтычнага погляду на сусвет. Разгледжаны гісторыя іх збірання і вывучэння, тыпы загадак і іх характэрныя рысы, функцыянальная адметнасць, паэтычныя сродкі пабудовы мастацкага вобраза, гукапіс, граматыка, сувязь з іншымі жанрамі фальклору і інш. У манаграфіі “Загадка ў славянскім фальклоры” (2009) прыцягвае ўвагу эўрыстычны падыход да агульнага ўсходнеславянскага пласта загадак з мэтаю высветліць іх агульныя семіятычныя ўласцівасці і адзіную семантычную аснову, аднолькавую міфапаэтычную накіраванасць. Загадкі – адзіны фальклорны жанр, дзе паэтызуюцца ўсе прадметы і з’явы рэчаіснасці аж да самых малых дробязей з жыцця і побыту чалавека, з навакольнага асяроддзя.

Тамы беларускай народнай творчасці і манаграфіі А. І. Гурскага паслужылі не аднаму фалькларысту ў яго навуковых росшуках. Распаўсюджванню ведаў пра народную творчасць спрыяюць і артыкулы ў энцыклапедычным друку. Вучоны апублікаваў у беларускіх энцыклапедыях і на старонках перыёдыкі каля 200 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, значная частка якіх прысвечана вывучэнню абрадаў і звычаяў народнага земляробчага календара і традыцыйнай абрадавай паэзіі. Гэтыя кнігі і артыкулы карыстаюцца вялікім попытам у настаўнікаў, студэнтаў, работнікаў дамоў культуры, у простых людзей, якім неабыякава народная спадчына.

Антон Іванавіч – часты госць на радыёстудыі. Яго аповеды пра народную культуру не пакідалі раўнадушнымі ніводнага слухача. Ёсць і яшчэ адна старонка творчай біяграфіі юбіляра. Ён складальнік фальклорных зборнікаў для дзяцей: “Бяздоннае багацце”, “Дрэва кахання”, “Сакрэт шчасця”, “Самае галоўнае”, “Музыка-чарадзей”, “Не сілай, а розумам”, “Прыстань ваўкалакаў”, “У ноч на Івана Купалу” і інш. Вучоны добра разумее, што выхаванне грамадзяніна-патрыёта пачынаецца з маленства. А што паслужыць гэтаму найлепш, як не далучэнне дзіцяці да незвычайнага хараства і мудрасці народнага слова. Тут варта прыгадаць і фальклорны зборнік для дзяцей і шырокага кола чытачоў “Мудрасць жыцця. Прыказкі і прымаўкі” (2007). У зборніку яскрава і пераканаўча паказана мудрасць беларускага народа ў дачыненні да разнастайных з’яў жыцця. Праз лаканічную мову парэмій выяўляецца дасціпны гумар і аптымізм народа ў яго поглядах на свет.

…Быць фалькларыстам няпроста. Гэта штодзённая праца, папаўненне і пашырэнне ведаў, экспедыцыі, сустрэчы. Але самае галоўнае – гэта шчырая любоў да народнай творчасці, захапленне ёю і тонкае яе адчуванне. Творчы лёс Антона Іванавіча Гурскага – найлепшае таму пацвярджэнне.

**Таццяна ВАЛОДЗІНА,**
кандыдат філалагічных навук,
загадчык сектара этналінгвістыкі і фальклору
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

*Свята народнай творчасці*

# "БЕРАГІНЯ" – ГЭТА БЕРАГ НАДЗЕІ

На сталічнай сцэне Мінскага палаца культуры і спорту чыгуначнікаў напрыканцы мінулай восені адбылася падзея, якая з'яднала некалькі важных і адметных праектаў у культурным жыцці нашай краіны. У рамках правядзення этнаграфічных канцэртаў "Фальклор беларускай глыбінкі", якія ладзяцца Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, была запланавана прэзентацыя Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня". Прэзентацыі фестывальных імпрэз папярэднічаў круглы стол па тэме "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы захавання, аднаўлення і трансляцыі", дзе абмяркоўваліся пытанні вывучэння і захавання традыцыйнай народнай культуры беларусаў, а таксама пераймання і трансляцыі нематэрыяльнай і матэрыяльнай культуры Бацькаўшчыны дзецьмі і моладдзю. Удзельнікам мерапрыемства былі прапанаваны выставы: «Фоталетапіс "Берагіні" ў творчасці Я. Пясецкага, "Краязнаўчай газеце", газеце "Чырвоны Кастрычнік"», "Сучасны стан і развіццё народнага мастацтва рэгіёнаў", "Народнае мастацтва Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці". Прайшлі таксама майстар-класы па традыцыйных відах народнага мастацтва Акцябршчыны і дэманстрацыя фестывальных фота- і відэаматэрыялаў. Самай цікавай і найбольш адказнай дзеяй стаў канцэрт-прэзентацыя аўтэнтычных і дзіцячых фальклорных калектываў, выступленні юных пераможцаў, удзельнікаў фестывалю папярэдніх гадоў.

Сярод нешматлікіх сёння фестываляў, якія праводзяцца ў нашай краіне, асаблівае месца займае менавіта фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня". Ён скіраваны на ідэалагічнае і патрыятычнае выхаванне моладзі і падлеткаў шляхам далучэння да спадчыны свайго народа. Пачынаючы ад фальклорных экспедыцый і да стварэння разнастайных самабытных творчых праграм падчас фестывалю ўдзельнікі аматарскіх калектываў навучаюцца старадаўнім народным танцам, ігры на музычных інструментах, ад носьбітаў мясцовых мастацкіх традыцый пераймаюць аўтэнтычныя песні, казкі, легенды, паданні.

Фестываль "Берагіня" заўсёды меў падтрымку міністэрстваў культуры і адукацыі, Гомельскага аблвыканкама, Акцябрскага райвыканкама, Беларускага фонду культуры. Апякуецца фестывалем і камісія па справах ЮНЕСКА ў Беларусі. Ён уключаны ў план мерапрыемстваў па рэалізацыі Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь ад 07.08.2002 № 218 рп., зацверджанай распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ужо шэсць разоў фестывальныя мерапрыемствы ладзіліся ў г. п. Акцябрскі Гомельскай вобласці.

На гэтай зямлі жывуць адважныя, мужныя людзі. Яны нікому не пакарыліся ні ў Першую сусветную, калі тут дзейнічала партызанская Рудабельская "рэспубліка", ні ў Вялікую Айчынную вайну, падчас якой тут працавалі школы, а партызанскі аэрадром прымаў самалёты з Вялікай зямлі. Больш за 80 помнікаў увекавечваюць памяць герояў ваеннага часу, 13 чалавек пры вызваленні раёна атрымалі званне Героя Савецкага Саюза. У навакольных населеных пунктах спалена амаль 6 тысяч мірных жыхароў. Дарагая цана Перамогі. Таму шануюць у гэтым краі памяць пра ўсіх загінулых і закатаваных, спаленых і расстраляных.

Мясціны Акцябршчыны, якія з'яўляюцца біясферным запаведнікам міжнароднага значэння і будуць узяты пад ахову ЮНЕСКА, захоўваюць найкаштоўнейшыя скарбы нашай духоўнай спадчыны. Тут жывуць так званыя носьбіты фальклору – выканаўцы аўтэнтычных твораў, якія не толькі зберагаюць, але і перадаюць маладым сваё дзівоснае майстэрства, што фактычна знікла ў еўрапейскіх краінах. Менавіта таму Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня" – цудоўная з'ява беларускай культуры, якая ўзнікла на аснове пакуль яшчэ жывой традыцыі народнай творчасці, харэаграфічнай і песеннай аўтэнтычнай культуры беларусаў.

Уздым незвычайнай зацікаўленасці народным мастацтвам назіраецца не толькі ў Беларусі, разам з тым глабалізацыя наступае. Яна непазбежная як у эканоміцы, так і ў культуры. Таму нездарма 31-я сесія Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА прыняла Сусветную дэкларацыю культурнай разнастайнасці, што заклікае да захавання ўсяго адметнага, што ёсць на зямлі, а значыць, найперш нацыянальнага. У 2003 г. ЮНЕСКА прыняла Канвенцыю аб нематэрыяльнай культурнай спадчыне, якую Беларусь ратыфікавала ў 2004 г. Невыпадкова, нягледзячы на татальнае скарачэнне (ледзь не ўтрая за апошнія гады) колькасці фестываляў, "Берагіня" атры-

мала дзяржаўную падтрымку і ўключана ў план мерапрыемстваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

…Магутная энергетыка народнай песні адразу ж перадаецца ў залу, і як быццам нейкая нябачная вібрацыя ўскалыхвае, абуджае гледачоў, падпарадкоўвае і хвалюе да слёз. Аднак гэта адбываецца толькі тады, калі гучыць не падробка пад фальклорную песню і нават не яе перапрацоўка. Песня, музыка павінны быць пераняты, дакладна скапіраваны, атрыманы з вуснаў у вусны, а ігра на гармоніку ці бубне – з рук у рукі, ад носьбіта да таго, малодшага пераймальніка, які праспявае, станчыць, перадасць потым гэты скарб дзецям і ўнукам. Слова "энергетыка" нашы продкі не ведалі, але яны выдатна разумелі, як уплывае, уздзейнічае голас, народны спеў, танец на чалавека, і выкарыстоўвалі гэта напоўніцу.

Адчувалі і падсвядома разумелі юныя артысты і сталыя ўдзельнікі "Берагіні", наколькі патрэбны іх старадаўнія палескія песні, танцы, гульні слухачам, што перапоўнілі вялікую залу. Падчас выканання гульняў ды танцаў сцэна падавалася цеснаватаю, але гэта ніяк не бянтэжыла дзяўчат і хлопцаў, бо яны прызвычаіліся танчыць на любой пляцоўцы – ці то ў сялянскай хаце, ці на падворку. Артысты не камплексуюць і не палохаюцца, калі нехта саб'ецца з нагі, а калі хто забудзецца якое слоўца, то адразу ж натуральна і нязмушана, з жартамі папраўляецца, падладжваецца пад музычны рытм і тэмп танца.

За амаль дзесяць гадоў, што прайшлі ад першага фестывалю, яго ўдзельнікі выраслі, і сёння былыя сямі-, васьмігадовыя танцоры і спевакі выступаюць у маладзёжных фальклорных калектывах. Яны абавязкова выконваюць карагод, дзе адчуваецца еднасць людзей, якія занятыя ў гэтым дзействе. Абавязкова танцуюць і кадрылю ці танец тыпу кадрылі: вальс, полькі шматфігурныя і шматкаленныя, "Матлёт" і "Лысага", кракавяк і, вядома ж, "Лявоніху". Адзін толькі пералік танцаў з розных рэгіёнаў нашай краіны заняў бы цэлую старонку.

Усе юныя ўдзельнікі фестывалю павінны ўмець спяваць абрадавыя і пазаабрадавыя песні, іграць на музычных інструментах: тут гучаць гармонік, дудка, ліра, бубен і інш. А яшчэ дзеці плятуць паясы, вышываюць свой рэгіянальны арнамент, выразаюць выцінанкі, плятуць з саломкі і лазы.

Вельмі важна, што на ўсіх фестывалях "Берагіня" поруч з дзецьмі спявалі і танцавалі дарослыя, былі побач, дапамагалі выкладчыкі, кіраўнікі гуртоў і калектываў, настаўнікі. А вядомыя майстры працавалі на цікава аформленых выставах разам са сваімі вучнямі.

Створаны і дзейнічае вельмі прадстаўнічы экспертны Савет фестывалю, куды ўвайшлі супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў, навукоўцы і выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, спецыялісты і практыкі. Як падкрэсліла старшыня экспертнага Савета, член Саюза кампазітараў Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Тамара Варфаламеева, фестываль "Берагіня" – гэта "магутная альтэрнатыва ўсёй той пошласці і пошасці, якая каторае дзесяцігоддзе так часта льецца з тэлеэкранаў, гучыць на шматлікіх радыёстанцыях, а тут нашы дзеці наталяюцца гукамі роднай зямлі, роднай песні, і ў гэтым таксама адна з асноўных задач мерапрыемства. Такі фестываль – нібыта чыстая крыніца, і гэта не банальная фраза. Тут адбываецца супрацьстаянне таму бруднаму патоку папсы, што хлынула на нашых дзяцей з усіх СМІ і інтэрнэту. На фестывалі назіраецца той нячасты выпадак, калі дзеці з задавальненнем бяруць тое, што дае ім народнае мастацтва".

Вельмі слушныя і дакладныя словы ў адрас Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня" выказаў доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан: "Сёння, калі на нашых вачах адбываецца страшэннае спрашчэнне масавай культуры, калі вялізная колькасць маладых і нават сталых людзей вяртаюцца да першабытнага прымітыву (нават ніжэй за першабытныя танцы, бо яны тады былі знакавымі, выяўлялі эмпірычны і міфалагічны сэнс), адраджэнне аўтэнтычнага фальклору пакідае надзею на надыход новай эры мастацкай культуры, прызначэнне якой – адухаўленне грамадскага і асабістага быцця чалавека на зямлі".

Намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі выказаў удзячнасць арганізатарам фестывалю і перш за ўсё яго ініцыятару, ідэйнаму натхняльніку, навуковаму кіраўніку Міколу Козенку, а таксама жыхарам і кіраўніцтву Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці, дзе кожная вёсачка з'яўляецца ўдзельнікам "Берагіні".

Знакаміты Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня", які будзе традыцыйна ладзіцца на Гомельшчыне ў сёмы раз, зноў папоўніцца юнымі ўдзельнікамі, а яго гледачы атрымаюць яркія ўражанні ад танцаў і спеваў, легендаў і паданняў, усяго таго, што з'яўляецца сапраўды народнай спадчынай нашай Бацькаўшчыны.

**Галіна СУША.**

*З гісторыі тэатральнага мастацтва*

# АРГАНІЗАЦЫЙНА-ТВОРЧЫЯ МЕХАНІЗМЫ ФУНКЦЫЯНАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ АНТРЭПРЫЗЫ

Артыкул прысвечаны новым тэндэнцыям у беларускім тэатральным мастацве XX – XXI стст. Вызначаюцца часавыя межы развіцця беларускай тэатральнай антрэпрызы, даецца агульная характарыстыка працэсу, і на аснове канкрэтных прыкладаў вылучаюцца асноватворныя прынцыпы функцыянавання творчых калектываў у кожным з перыядаў.

Напрыканцы XX ст. у развіцці тэатральнага мастацтва Беларусі адбываюцца значныя змены, якія выклікаюць хвалю антрэпрызнага руху. Працэсы дэмакратызацыі грамадства і перамена эканамічнай мадэлі ў краіне прывялі да прынцыповага перабудавання структуры мастацкага жыцця: узнік шэраг творчых аб’яднанняў, у тым ліку і тэатральных, якія самастойна дзейнічалі ў культурнай прасторы дзяржавы. На нашу думку, гэта былі заканамерныя з’явы ці нават неабходнасць, падрыхтаваная часам і гістарычным ходам.

Пэўную ацэнку характару развіцця сучаснай беларускай тэатральнай антрэпрызы далі вядучыя тэатральныя крытыкі і мастацтвазнаўцы ў перыядычным друку. У інфармацыйных і аналітычных артыкулах Т. Арлова, Л. Грамыка, Р. Альшэўскі, А. Ахметшын засяроджваюць увагу на мастацкім узроўні спектакляў антрэпрызы, асаблівасцях рэжысуры і акцёрскага выканальніцтва [1, 2, 4, 6]. Па-за ўвагай застаюцца пытанні ўтварэння прыватных калектываў і механізмы іх функцыянавання ў сучаснай тэатральнай прасторы.

Пачынаючы з сярэдзіны 1990-х гг. прыватная тэатральная дзейнасць на тэрыторыі нашай краіны стала набываць папулярнасць. Найбольш паказальнай з’ява ўтварэння новых драматычных калектываў была для сталіцы Беларусі, дзе максімальна сканцэнтраваны творчы і фінансавы патэнцыял рэспублікі.

Гісторыю развіцця сучаснай беларускай антрэпрызы можна ўмоўна падзяліць на два перыяды. Першы перыяд – 1997 – 2002 гг. – звязаны з дзейнасцю рэжысёраў сярэдняга пакалення (М. Пінігін, Я. Валабоеў, М. Абрамаў, В. Еранькова). Добра вядомыя гледачам па працы ў дзяржаўных тэатрах, яны стваралі спектаклі з удзелам вядучых беларускіх акцёраў.

Задуманая рэжысёрамі як разавы тэатральны праект для прафесійных беларускіх акцёраў, якія не заўсёды былі запатрабаванымі ў дзяржаўных тэатрах, антрэпрыза робіцца падзеяй значна большай за стварэнне і публічны паказ аднаго спектакля. Дзейнасць творчых калектываў М. Пінігіна “Нікола-тэатр”, М. Абрамава “Тэатральныя зоркі”, У. Ушакова “Віртуозы сцэны”, Я. Валабоева “Беларускія сезоны”, Мінскага Малога тэатра І. Забары мела адносна пастаянны характар [3]. Гэта праяўлялася ў тым, што кожны з названых калектываў меў у сваім рэпертуары не менш за тры спектаклі. З цягам часу стала назірацца тэндэнцыя запрашаць да ўдзелу ў рабоце над драматургічным матэрыялам пэўных акцёраў, якія супрацоўнічалі з рэжысёрамі на працягу некалькіх пастановак. Вядучымі артыстамі спектакляў М. Пінігіна становяцца С. Журавель, І. Забара і В. Манаеў; рэжысёр Я. Валабоеў працуе ў цесным кантакце з А. Палазковым, Г. Чарнабаевай і А. Балашовай; М. Абрамаў супрацоўнічае з С. Ніканчык, А. Кізіно, Л. Абрамавай.

Такім чынам, арганізацыйна-творчая структура першых сцэнічных калектываў уяўляла форму *антрэпрызы*, у якой спалучаліся прынцыпы кантрактнага рэгулявання вытворчых адносін, прыватнае фінансаванне праектаў, стварэнне рэгулярнай рэпертуарнай сеткі і больш-менш сталага акцёрскага складу.

Другі перыяд развіцця сучаснай беларускай антрэпрызы – 2002 – 2007 гг. – характарызуецца спробамі маладых рэжысёраў і акцёраў у эксперыментальным увасабленні класічнай і сучаснай драматургіі, пошукамі індывідуальнай эстэтыкі калектываў. Пры гэтым, безумоўна, узровень іх пошукавай працы не такі глыбокі і ідэйны, як гэта было ў дзейнасці студыйных тэатраў 1980 – 1990-х гг. (чыю спадчыну часткова ўспрыняла антрэпрыза), і накіраваны ў значнай ступені на прываблiванне публікі з мэтай атрымання прыбытку.

Арганізацыйная сістэма творчых аб’яднанняў другога перыяду вызначаецца самімі стваральнікамі як *прыватны тэатр*. Узніклыя ў гэты час Новы тэатр, Сучасны мастацкі тэатр, тэатр “Кампанія” фінансуюцца за кошт сродкаў фундатараў, маюць пастаянныя арэндаваныя тэатральныя пляцоўкі, працуюць па прынцыпе запрашэння акцёраў з розных тэатраў. Характэрныя для пер-




**Сцэны са спектакля “Камедыя” (1996) рэжысёраў У. Рудава і А. Андросіка. Мінскі Малы тэатр.**

шага этапу станаўлення тэатральнай антрэпрызы пастаноўкі камерных фармаў значна пашыраюцца і ўзбуйняюцца: рэжысёры ствараюць “шматнаселеныя” (да 16 акцёраў) спектаклі.

Неабходна яшчэ раз адзначыць, што падзел сучаснага беларускага антрэпрызнага руху на два перыяды і вылучэнне розных структурных адзінак у арганізацыі творчасці з’яўляецца ўмоўным і праз некалькі дзесяцігоддзяў можа запатрабаваць пераацэнкі. Гранічныя лічбы кожнага перыяду абазначаюць некаторыя адрозненні, уласцівыя гэтаму часу, але не абвяшчаюць пра іх знікненне на больш познім этапе. Так, дзейнасць М. Пінігіна і Я. Валабоева не абмяжоўваецца 1997 – 2002 гг., аднак усе наступныя спектаклі маюць рысы папярэдніх пастановак і таму разглядаюцца намі ў дачыненні да першага перыяду. Вызначаныя спробы эксперыментальнай працы над класічнай і сучаснай драматургіяй, характэрныя для другога перыяду развіцця нацыянальнай антрэпрызы, мелі месца і ў 90-я гг. XX ст. і былі звязаны з асобнымі рэжысёрскімі пастаноўкамі, падрыхтаванымі для ўдзелу ў Міжнародным тэатральным фестывалі “Маладзечанская сакавіца” ці ў межах уласнай творчай задумы.

Аналіз дзесяцігадовай (1997 – 2007) гісторыі развіцця беларускай тэатральнай антрэпрызы дазваляе вызначыць шэраг асаблівасцей, якія вылучаюць яе сярод падобных расійскіх і заходнееўрапейскіх праектаў.

У перыяд станаўлення беларускай тэатральнай антрэпрызы (1997 – 2002) фарміруюцца пэўныя асноватворныя прынцыпы, адны з якіх знаходзяць развіццё ў наступным перыядзе, а іншыя так і застаюцца здабыткамі свайго часу.

На этапе неабмежаванай творчай свабоды дзеячаў тэатра, у 1990-я гг., арганізацыйна-прававыя і юрыдычныя аспекты рэгулявання дзейнасці антрэпрызы заставаліся па-за ўвагай кантралюючых устаноў. У беларускім заканадаўстве не было палажэнняў, якія вызначалі б фармальны статус такіх арганізацый: ці гэта прадпрыемствы, ці грамадскія арганізацыі. Менавіта таму арганізацыйна-прававая форма першых беларускіх тэатральных антрэпрыз заставалася неідэнтыфікаванай.

Пэўныя змены ў юрыдычнай сферы назіраюцца ў перыяд з 2000 да 2006 г. Адкрытыя ў гэты час тэатральныя антрэпрызы маюць строга вызначаны статус некамерцыйных ці наадварот камерцыйных арганізацый. Да плыні некамерцыйных адносіцца створаная ў 2000 г. у юрыдычных рамках прыватнага ўнітарнага прадпрыемства тэатральная антрэпрыза “Беларускія сезоны” (з 2006 г. “Тэатральны каўчэг”). Структурным падраздзяленнем унітарнага прадпрыемства “Віртуозы сцэны” з’яўляецца Сучасны мастацкі тэатр. Тэатр “Кампанія” ўваходзіць у грамадскае аб’яднанне “Форціс”. У межах грамадскага аб’яднання “Беларускі фонд развіцця культуры” існуе аднайменная антрэпрыза. Да плыні камерцыйных арганізацый, скіраваных на атрыманне прыбытку, адносіцца таварыства з дадатковай адказнасцю Новы тэатр.

З першых крокаў свайго адраджэння ў новых сацыяльна-эканамічных умовах 1990-х гг. беларускія тэатральныя антрэпрызы былі пэўным чынам рэгламентаваныя ў рэпертуарнай палітыцы. Камерцыйны характар прадпрыемства, функцыянаванне якога залежыць ад прыбытку, патрабаваў пастаноўкі твораў максімальна блізкіх і зразумелых шырокаму колу гледачоў. Спектакль з пункту гледжання менеджменту – гэта тавар, які неабходна выгадна прадаць. У адрозненне ад дзяржаўнага, прыватнаму тэатру не-





**Сцэны са спектакля "ART" (1998) рэжысёра М. Пінігіна. Мінскі Малы тэатр.**

магчыма "спісаць" правальны спектакль. Такая пастаноўка мае канкрэтнае матэрыяльнае выяўленне – фінансавыя выдаткі, якія ў выніку абанкруцяць кампанію. Таму рэпертуар антрэпрызы фарміруецца ў адпаведнасці з густамі рэжысёраў, патрабаваннямі часу, чаканнямі і запытамі публікі. Менавіта характар рэпертуарнай прапановы з'яўляецца адным з найважнейшых фактараў росту наведвання спектакляў і адпаведна прыбытковасці тэатральнага прадпрыемства. Гледачы тэатра – гэта спажыўцы тэатральных паслуг. Набываючы білет у тэатральнай касе, яны тым самым дэманструюць прыхільнасць да таго ці іншага спектакля і тэатра.

Дзеля прыцягнення ўвагі найбольшай колькасці гледачоў дзеячамі беларускай антрэпрызы выкарыстоўваецца прынцып, які ўмоўна можна назваць *атракцыёнам*. Атракцыён (у літаральным сэнсе слова – *прыцяжэнне*) закладаецца ў сутнасць спектакля. Менавіта ён з'яўляецца важкім фактарам, што вылучае тэатральныя антрэпрызы сярод агульнай масы пастановак. Пры гэтым адзначаны прынцып прасочваецца і ў выбары беларускімі рэжысёрамі драматургічнага матэрыялу: п'есы з незвычайнай назвай і сюжэтам ("Танга ўтраіх", "Стрыптыз", "Дакрананне"), нязвыклае выкарыстанне папулярных беларускіх акцёраў са сфарміраванымі амплуа [С. Журавель (Марк) у спектаклі "ART", В. Манаеў (Франсуа Піньён) у спектаклі "Вячэра з дурнем", А. Палазкоў (Эрык Ларсэн) у спектаклі "Танга ўтраіх"], якія выступаюць гарантам якасці прапанаванай гледачу пастаноўкі. С. Журавель, В. Манаеў, І. Забара, У. Мішчанчук, З. Белахвосцік – самыя папулярныя імёны-брэнды беларускай антрэпрызы [6].

Абмежаваныя фінансавыя магчымасці садзейнічалі стварэнню сцэнаграфічнай эстэтыкі "беднага тэатра", а мабільны характар антрэпрызы вызначыў выбар формы камерных пастановак, разлічаных на трох-чатырох акцёраў ("Галасы" У. Гасцюхіна, "ART" М. Пінігіна, "Гэтыя вольныя матылькі" М. Абрамава і інш.). Адзначым таксама арыентаванне найлепшых рэжысёраў антрэпрызы на ўвасабленне сучаснай заходнееўрапейскай драматургіі, праз якую на сцэну выйшаў новы тып рэспектабельнага героя-эстэта ("ART", "Дакрананне" М. Пінігіна; "Танга ўтраіх" Я. Валабоева).

Для творчых пошукаў рэжысуры першага перыяду беларускай антрэпрызы ўласціва спроба наватарскага стаўлення да жанру пастаноўкі. Памкненні не абмяжоўвацца традыцыйнымі формамі сцэнічнай дзеі прывялі да ўзнікнення спектакляў у жанры "экзерсісу" і тэатральнай пародыі ("Знайсці Элізабэт" А. Гарцуева, "…Прывітанне, Дон Кіхот!" І. Райхельгаўза). Пошукамі ў сферы акцёрскай тэхнікі (адметнасць пластыкі, мімікі; валоданне словам) характарызуюцца пастаноўкі "Гульня ў джын" А. Гузія, "Камедыя" У. Рудава і А. Андросіка, "Знайсці Элізабэт" А. Гарцуева, "…Прывітанне, Дон Кіхот!" І. Райхельгаўза.

Другі перыяд развіцця нацыянальнай антрэпрызы вылучаецца з'яўленнем генерацыі маладых рэжысёраў, якія, адрынуўшы многія сцэнічныя традыцыі мінулых дзесяцігоддзяў, прызнаўшы іх безнадзейна састарэлымі і неадпаведнымі часу, пачынаюць уласныя творчыя пошукі. У адных выпадках ствараюцца праблемныя спектаклі на новым эстэтычным узроўні, у іншых – спробы выяўлення інакшай мастацкай вобразнасці выглядаюць самадастатковымі і прыводзяць толькі да самавыяўлення маладых творцаў.

Паралельна адбываецца працэс пераасэнсавання антрэпрызы як арганізацыйнай адзінкі.

Узнікаюць новыя прыватныя тэатры на чале з пастаяннымі рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі, якія захоўваюць антрэпрызны прынцып запрашэння акцёраў дзяржаўных труп да ўдзелу ў канкрэтнай пастаноўцы. Эстэтычныя пошукі рэжысёраў характарызуюцца імкненнем да арыгінальнага стылю калектываў. Адсюль яскравыя, відовішчныя пастаноўкі на мяжы з клаўнадай (Сучасны мастацкі тэатр); поўнае адмаўленне ад дэкарацый і канструяванне малюнка спектакля з улікам пластычных магчымасцей выканальнікаў (антрэпрыза Беларускага фонду развіцця культуры); асучасніванне класічнай драматургіі (Новы тэатр).

Сур'ёзныя работы вызначаліся стварэннем спектакля з уласнага арыгінальнага драматургічнага матэрыялу, а не інтэрпрэтацыяй вядомага твора. Найбольшых поспехаў у гэтым напрамку дасягнулі антрэпрыза Беларускага фонду развіцця культуры і Новы тэатр ("Больш, чым дождж…", "Балаганчык" П. Адамчыкава; "Майстар і Маргарыта" А. Кірэева).

Цікавыя знаходкі ў тэхналогіі акцёрскай творчасці звязаны ў першую чаргу з дзейнасцю рэжысёраў М. Лашыцкага і П. Адамчыкава, у чыіх спектаклях атрымала развіццё тэндэнцыя выкарыстання выразнай пластыкі і акцэнтуацыі пластычнага малюнка пастаноўкі ("Больш, чым дождж…", "Балаганчык" П. Адамчыкава; "Мяшчанскае вяселле" М. Лашыцкага).

Стварэнне драматургіі спектакля шляхам акцёрскіх імправізацый, імкненне да відовішчнасці тэатральнага дзеяння і скрупулёзнай прапрацоўкі мізансцэн характэрна для Сучаснага мастацкага тэатра.

У сферы акцёрскага выканальніцтва асноўная ўвага рэжысёраў канцэнтруецца на прыродных здольнасцях артыстаў: мімічных характарыстыках, рухах цела. Гратэск як акцёрскі і рэжысёрскі прыём эксплуатуецца тут найчасцей ("Мяшчанскае вяселле" М. Лашыцкага, "Дванаццатая ноч" К. Агароднікавай, "Майстар і Маргарыта" А. Кірэева).

Адзначым, што антрэпрыза Беларусі прадстаўлена ўсімі тэатральнымі жанрамі за выключэннем класічных оперы і балета. Пры гэтым большасць тэатраў існуе на мяжы жанраў: пастаноўкі насычаны прыёмамі пантамімы, клаўнады, эксперыментальнай танцавальнай імправізацыяй з выкарыстаннем літаратурна-музычнага матэрыялу. Ствараюцца своеасаблівыя мастацкія сімбіёзы накшталт спектакляў П. Адамчыкава ("Больш, чым дождж…", "Балаганчык").

Такім чынам, адраджэнне тэатральнай антрэпрызы ў 90-я гг. ХХ ст. стала прамым адлюстраваннем сацыякультурных працэсаў свайго часу. Спрашчэнне сістэмы кантролю за тэатральнай дзейнасцю, якая раней падпарадкоўвалася дзяржаўным органам кіравання, адкрыла новыя перспектывы для творчасці перад сцэнічнымі дзеячамі і дала магчымасць рэалізацыі арыгінальных рэжысёрскіх праектаў і эксперыментальнай праверкі новых мастацкіх ідэй. Змяншэнне бюджэтнага фінансавання тэатральнай сферы і прыцягненне фундатарскіх сродкаў прывялі да ўзнікнення мадэлі тэатральнай антрэпрызы, у якой назіраецца спалучэнне двух процілеглых прынцыпаў: творчыя пошукі ва ўмовах адаптаванага сэнсавага і мастацкага зместу сцэнічнага твора да інтэлектуальных і эстэтычных запытаў масавага гледача.

Арганізацыйная аснова беларускай антрэпрызы вызначаецца працай у адным сцэнічным праекце прадстаўнікоў розных тэатральных устаноў. Пры гэтым фінансавая незалежнасць ад дзяржавы і наяўнасць у пастаноўцы добра вядомых гледачам выканальнікаў (акцёраў-"зорак"), што забяспечвае эканамічны поспех прадпрыемства, з'яўляюцца характарыстыкамі камерцыйнай антрэпрызы.

Плённая сцэнічная дзейнасць, імкненне да стварэння выразнага аблічча кожнага творчага калектыву, якое на практыцы выявілася ў фарміраванні пэўнага кола акцёраў і рэжысёраў, што ўдзельнічалі ў прыватных пастаноўках, адносная сістэматычнасць у паказах – усе гэтыя аспекты, уласцівыя дзяржаўным прафесійным стацыянарным тэатрам, з'яўляюцца тэндэнцыйнымі для прыватных калектываў і характарызуюць іх як антрэпрызны тэатр.

**Спіс літаратуры**

1. **Альшэўскі, Р.** "Плюс" на "мінус" дае… Пастскрыптум да сезона 2002/2003 / Р. Альшэўскі // Культура. – 2003. – № 34. – С. 8 – 9.
2. **Ахметшин, А.** У сентиментализма есть будущее / А. Ахметшин // БДГ. – 1999. – 20 сент. – С. 22.
3. **Грамыка, Л.** Сучасны стыль. Некаторыя характэрныя рысы тэатральнага сезона / Л. Грамыка // Мастацтва. – 2001. – № 4. – С. 12 – 14.
4. **Грамыка, Л.** Мера шчырасці і мера фальшу / Л. Грамыка // Мастацтва. – 2001. – № 1. – С. 18 – 20.
5. **Орлова, Т.** Виртуальная реальность придуманного мира / Т. Орлова // Неман. – 2003. – № 4. – С. 155 – 160.
6. **Орлова, Т.** Нити, которые связывают поколения / Т. Орлова // Арлекин. – 2004. – № 1. – С. 5 – 13.

**Ганна СТЭЛЬМАХ,**
старшы выкладчык кафедры менеджменту
сацыяльна-культурнай дзейнасці
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта
культуры і мастацтваў.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам мастацтвазнаўства І. М. Скварцовай.*

*Дыялог з карцінай*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# РАМАНТЫК, ЯКІ АДЧУЎ НАСТРОЙ ПРЫРОДЫ*



***Наталля Васільеўна Шаранговіч*** *– мастацтвазнаўца. Дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Старшыня секцыі крытыкі і мастацтвазнаўства Беларускага саюза мастакоў. Лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Аўтар манаграфічных і мастацтвазнаўчых выданняў пра беларускіх мастакоў, а таксама пра сучасную беларускую скульптуру і жывапіс.*

Сёння заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Казакевіч – адзін з вядучых беларускіх пейзажыстаў. І не толькі таму, што прыгажосць прыроды ён умее перадаваць узнёсла і эмацыянальна. У сваіх найлепшых карцінах мастак здолеў спалучыць пачуццёвыя і рацыянальныя пачаткі пабудовы палатна. Строгасць вызначэння планаў у кампазіцыйнай канструкцыі супадае з непасрэднасцю натурнага назірання. Недарэмна аўтар так любіць выязджаць на пленэр, вандруе з эцюднікам па Палессі і Мядзельшчыне. Паэзія навакольных мясцін, убачаная ў яе непасрэднай прыгажосці, зачароўвае творцу. Але пры гэтым ён паспявае не толькі наталіцца цудам, народжаным прыродай, і занатаваць яе зменлівыя станы, але і загадзя прадумаць пабудову карціны і нават прымерыць яе да будучай экспазіцыі, каб работа не паўтарала іншыя і не расчаравала гледача.

*«Родам я з вёскі Дулебы Мінскай вобласці,* – згадвае мастак. – *Скончыў мастацкае вучылішча, тэатральна-мастацкі інстытут, меў магчымасць застацца працаваць у сталіцы. Але ў 1961 г. мой сябра Дзмітрый Алейнік, яго аднакурснік Міхась Навіцкі і я вырашылі паехаць у адзін з абласных гарадоў Беларусі і стварыць там моцны малады мастакоўскі калектыў. І Гомель, як нам падалося, падыходзіў для такой мэты найлепш. У той час гэта быў горад, не ахоплены выяўленчай творчасцю. Прафесійна працавалі там толькі Віктар Казачэнка і Барыс Звінагорскі, астатнія займаліся афарміцельскай і вытворчай дзейнасцю. Мясцовыя ўлады спачатку пазіралі на нас са здзіўленнем, магчыма, чакалі нейкага падвоху. А мы, дыпламаваныя жывапісцы, хутка пасля прыезду зрабілі выставу і падаравалі яе гораду. На такую акцыю адрэагавала мясцовая і рэспубліканская прэса, водгукі былі станоўчыя, і стаўленне да нас у Гомелі істотна змянілася. Усім далі кватэры, прадаставілі майстэрні. Каб павялічыць сціплыя шэрагі гомельскіх мастакоў, я ездзіў на абароны дыпломаў у Мінск, запрашаў выпускнікоў на працу. Так праз некалькі гадоў у Гомель прыехаў малады мастак Станіслаў Гарачаў. Нашы агульныя намаганні хутка далі плён: нараўне з віцебскай школай акварэлі загучала ў краіне гомельская школа жывапісу.*

*З удзячнасцю і цеплынёй згадваю свайго настаўніка на аддзяленні жывапісу – Віталя Цвірку. Ён ніколі не прымушаў моладзь падладжвацца пад уласны стыль. Але, калі студэнт яму падабаўся, меў звычку дапісаць у яго рабоце некаторыя дэталі, пакласці на палатно хоць колькі сваіх мазкоў. Аднойчы адбыўся такі цікавы выпадак. Я працаваў над дыпломнай карцінай “Уборка капусты”: на першым плане – поле з капустай, на другім – бярозавы гай. Прыйшоў Віталь Канстанцінавіч і сказаў: “Казакевіч, давай я табе дапамагу”. І пачаў пісаць бярозкі, ды ўсё бліжэй і бліжэй, урэшце раскідаў іх па ўсім капусным полі. Я гэта заўважыў і кажу: “Віталь Канстанцінавіч, тут жа ў мяне капуста”. “Няўжо?” – ён здзівіўся, адышоў, паглядзеў. І адказаў: “Ці не ўсё роўна? Абы глядзелася”. Мне было вельмі шкада жывапісных кавалкаў, якія прапісаў майстар, і я там-сям замаляваў капусту».*

Вядомасць жывапісцу прынесла карціна “Юнацтва”, што экспанавалася ў Маскве і была ўзнагароджана бронзавым медалём ВДНГ СССР. Здаецца, зусім просты сюжэт: дзяўчына і хлопец стаяць, нібыта ўглядаючыся ў будучыню за далягладам. Але колькі колеравай гармоніі, радасці, сонечнага святла было ў гэтым палатне. *«Згадваю, як з’явілася мая карціна “Юнацтва”. Мы былі на Валааме. Там, на поўначы, сонца больш мяккае, ёсць магчымасць пісаць блікі. Мне падабаўся эцюд: сосенкі, высокі бераг, прастора вакол. Уявіліся фігуры, такая нескладаная, але сімвалічная кампазіцыя карціны. Алоўкам зрабіў эскіз. Умоўна фігуры гэтыя выглядалі ў эскізе, як два слупкі. Сябры раілі яшчэ падумаць, штосьці перарабіць. Я спрабаваў іначай паставіць хлопца з дзяўчынай, спалучыць іх рукі, але прачытанне*

---

* Пачатак на апошняй старонцы вокладкі.

*тэмы атрымлівалася залішне прамалінейным. Знешнія эфекты перашкаджалі перадачы ўнутранага стану людзей. Так я і вярнуўся ў кампазіцыйнай будове да тых самых "слупкоў". А сёння мне здаецца, можна было яшчэ больш спрасціць кампазіцыю».*

Дарэчы, і ў далейшым палітра Мікалая Казакевіча заставалася на дзіва радаснай і яркай. Тэматычная карціна, якая патрабавала сацыяльнага абгрунтавання, у творчасці Казакевіча развіцця не атрымала. Ён і сам называе сябе мастаком-лірыкам: «*Да тэмы Чарнобыля ў мяне, па шчырасці, не ляжыць душа. За ўсе гады працы я напісаў толькі адну тэматычную карціну ў 1964 г. пад назваю "У тыле ворага". Намаляваў кузню, дзе рамантуюць гармату. Карціна з поспехам дэманстравалася на Усесаюзнай выставе. Мяне віншавалі, гаварылі, што я на правільным шляху, што можна, распрацоўваючы такую тэму, будуваць далейшую кар'еру. Работа, сапраўды, атрымалася пераканаўчай. Часта згадваю сваё дзяцінства: як закатавалі і спалілі маці ў роднай хаце, як зусім маленькім апынуўся ў партызанскім атрадзе… Пасля быў дзіцячы дом. Калі ўжо дарослым пісаў гэтую карціну, нібыта яшчэ раз перажыў тыя гады. Было так балюча, што я паставіў кропку на ваеннай тэматыцы. І пачаў пісаць лірычныя краявіды, хоць папулярнасць іх у савецкія гады была не вельмі вялікая. Напрыклад, у Маскве экспанавалі маю работу "Юнацтва", а побач тэматычную карціну Асядоўскага, прысвечаную Дзяржынскаму. Асядоўскі атрымаў сярэбраны медаль, а я – бронзавы. Але ці так гэта важна? Я застаўся верны тэме прыроды*».

У пейзажным жанры вялікае значэнне надаецца пластычнай форме, у ёй увасабляецца эстэтычная каштоўнасць твора. Гэта ў іншых жанрах выяўленчага мастацтва пераважаюць фабула, сюжэт, тэма і г. д. У пейзажы светаўспрыманне мастака перадае менавіта пластыка. У карцінах Казакевіча радуе не знешняя эфектнасць прыёмаў, а дзівосная здольнасць зразумець спрадвечную прыгажосць прыроды, уменне ісці ад канкрэтных уражанняў да вобразных абагульненняў. Мастак, калі малюе абуджаную стыхію вясны альбо квяцістае лета, карыстаецца ўсімі магчымымі прыёмамі стварэння адпаведнага ілюзорнага эфекту, віртуозна вар'іруе колеравыя масы. Строй яго работ – музычна-паэтычны, ён будуецца на кампазіцыі, колеры і святле.

*"Люблю пісаць з натуры, працаваць на пленэры. Разам з Алейнікам, а пазней і Ландарскім пешшу абышоў Беларусь: маляваў нарачанскі край, Браслаўскія азёры. Ездзіў на Салаўкі, на востраў Валаам. Адбывалася гэта так: здавалі вытворчую працу, атрымлівалі грошы і выпраўляліся на эцюды. Толькі на прыродзе адчуваеш незвычайны творчы ўздым. Пісалі мы палотны хутка, за некалькі сеансаў, дадому прывозілі ўжо закончаныя творы. Але гэта не значыць, што мы літаральна перамалёўвалі натуру. Проста былі маладыя, смелыя, працавалі з імпэтам, паспявалі абагульніць тэму за такі кароткі тэрмін, але пры гэтым адчуць і перадаць непасрэдныя ўражанні ад наваколля. Сёння, як і раней, люблю пісаць на прыродзе, але раблю гэта ўжо не так хутка. Шукаю для аднаго пейзажа розныя акцэнты ў сонечны і пахмурны дзень, каб дасягнуць не толькі настраёвасці, але і глыбіні, эпічнасці, абагульненасці".*

Мікалай Казакевіч у сваіх палотнах шукае прыгажосць і на гэтым шляху акцэнтуе ўвагу гледача на знешне не самых прыкметных матывах прыроды, імкнецца зразумець іх сапраўднае значэнне, схаванае ад павярхоўнага погляду. Можна адзначыць і некаторую фрагментарнасць адлюстравання, імкненне да гіпербалізацыі, рамантызацыі вобразаў. Але гэта рамантызацыя вобраза натуральна спалучаецца ў творчасці Казакевіча з натурным бачаннем, прырода для вызначэння яе характэрных рыс ператвараецца зусім мала, амаль незаўважна. Аналізуючы пластычныя асаблівасці карцін Казакевіча, мастацтвазнаўца Ларыса Салавей вельмі дакладна вызначыла прынцып яго каларыту: падабенства і супрацьстаянне. Момант сімвалізацыі выявы ў творчасці Казакевіча зусім нязначны, ён саступае месца колераваму трыўмфаванню, поўнай і глыбокай перадачы багацця прыроды.

З цягам часу колер у карцінах Мікалая Казакевіча не раствараецца ў пастознай серабрыстасці, а, наадварот, набірае моц. Згадваецца серыя "Край дзяцінства", за якую мастак у 2001 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. 16 палотнаў прысвечаны Віцебшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне – пейзажам роднага краю. Яны вельмі розныя па колеравай гаме: блакітныя, шэрыя, зялёныя. Колер нібыта свеціцца знутры. Асноўнае палатно цыкла называецца "Сны Галубелькі". Галубелька – гэта возера на паўночным захадзе ад Мінска. Мастак напісаў яго з вышыні пагорка, дзе возера здаецца вялізнай чашай, запоўненай туманамі. Аўтар тут не мог абысціся без натуры. Аднак натура – толькі імпульс да мастацкіх пераўтварэнняў. Знакавы вобраз возера, сам жывапіс мае аўтаномную партыю, асобнае гучанне, гучнае і важнае. Кампазіцыі Мікалая Казакевіча заўжды дапрацаваны да канца. На палатне няма пустых месцаў. Кожны мазок пакладзены з роздумам і душэўным хваляваннем, а моц яго свячэння адпавядае прыродным суадносінам. Здаецца, што голас мастака неаддзельны ад голасу прыроды.

Рубрыку вядзе
Зоя Падліпская

# *“ЛЮБІЦЕ ГЭТЫ СВЕТ ТАКІМ, ЯК ЁСЦЬ!..”*



Дзмітрый Пятровіч – сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нарадзіўся 29 красавіка 1971 г. у Заслаўі Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча № 2 (1991), музычна-педагагічны факультэт (1996) і факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2010). Вучыцца ў магістратуры пры гэтай навучальнай установе.

Друкаваўся ў “Краязнаўчай газеце”, “Настаўніцкай газеце”, штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, часопісах “Роднае слова”, “Маладосць”, у калектыўных зборніках і альманахах. Аўтар паэтычнага зборніка “Белая квецень кахання” (2010). Дзмітрыем Пятровічам напісана каля 100 песень на словы Я. Купалы, У. Караткевіча, Я. Янішчыц, Т. Трафімавай, Н. Гальпяровіча, М. Шабовіча, М. Башлакова, В. Шніпа, А. Аўруціна і інш.

Жыве ў Мінску. Працуе вядучым стылістычным рэдактарам газеты “Звязда”.

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

* * *

Усе жывём пад купалам нябесным…
Пасля зімы чакаем мы прадвесня,
І першы гром з маланкай-бліскавіцай,
І смак сцюдзёнае-гаючае жывіцы,
Якая дорыць людзям маладосць…
Любіце гэты свет такім, як ёсць!..

* * *

Абняўшыся,
стаялі удваіх
Яна і Ён
на белае сцяжынцы…
І рэй зімова-гарадскі заціх
У снежна-асляпляльнай павуцінцы…
Вясновай чысцінёй
любоў цвіла.
Яна і Ён
зліліся ў пацалунку…
Скарыцца перад імі ты магла,
Зіма!..
Яны стаялі…
Не шукалі паратунку…
Ў дзівосна-белай квецені зімовай –
Дзве кветачкі кахання…
І не гас
Агонь гарачых
сэрцаў,
рухаў,
словаў…
Яны адны…
Яны
Спынілі
Час…

* * *

Яшчэ адзін дзянёк мой
дагарэў…
Стамлёна-ціхі,
ніца-трапяткі,
Ён сонцам
пракаціўся паміж дрэў,
Растаў туманам
шоўкава-прадкім.
На чорным полі,
зорна-залатое,
Рассыпана зіхоткае
насенне.
Няхай спявае
сэрца маладое,
Хоць на дварэ
рапсодыя асенняя…

**ПРАЛЕСКІ**

Яшчэ туман бялеецца на ўзлеску,
І першы санцапромнік спіць
на ўсходзе,
Я шпарка крочу з Вязынкі ў Пралескі.
Прачніся, лес! Драмаць-шаптаць
ды й годзе!

Ты адгукніся песняй салаўінай
І шумам голля – звонкаю манетай!
Рупліўца дзятла трэлі-пералівы
Дадуць пачатак новаму санету.

Я назбіраю кветак на узлеску –
Букет вялікі для маёй матулі.
…І вось яны, любімыя Пралескі –
Куточак райскі і душы прытулле!

# КРЫЖАВАНКА

## ПЕСНІ ЗІМЫ




**Па гарызанталі: 1.** … *хаты студзіць – рана гаспадароў будзіць* (прык.). **4.** “Беларуская зямліца! Беларускі наш …!” – з верша “З Новым годам!” Я. Купалы. **9.** Пушны звярок. **10.** Ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці. **11.** Вечар, які з песнямі, танцамі адзначаецца напярэдадні Новага года. **14.** Выгада, карысць. **15.** “Ой, … ідзе, каляду нясе, тры кускі сала, каб каза ўстала” – з калядный песні. **16.** Дзіцячая зімовая гульня. **19.** Жаночае футравае паліто. **20.** *У лютым вострый … – кароткая зіма* (прык.). **23.** “І Млечнага Шляху паблеклы … у холадзе дрэмле” – з верша “Ноч пад Новы год” Я. Коласа. **25.** Прэснаводная рыба. **27.** Ганаровае месца ў хаце пад абразамі, куды ставілі куццю да заходу сонца. **29.** “Мне воўк і … у паслугах” – з верша “Мароз” Я. Купалы. **31.** “Ўзрывайце ж іх санямі, …!” – з верша “Зімой” М. Багдановіча. **32.** Вялікі гармонік. **33.** … *матка, чужына – мачаха* (прык.). **34.** … *– зімы палавіца* (прык.).

**Па вертыкалі: 1.** Верш-песня беларускага паэта У. Мазго (“Белым снегам замятае лёд трывог…”). **2.** “Люблю зіму з яе марозам, што вокны прыбярэ ва …” – з верша “Люблю” К. Буйло. **3.** Хвойнае дрэўца. **5.** Коса пастаўленая падпорка. **6.** … *снежная – лета дажджлівае* (прык.). **7.** Гераіня казкі “Снежная каралева”. **8.** Адна з народных назваў планеты Венеры ў ранішняй бачнасці. **12.** “Сняжыначкі-… ляцелі матылькамі” – з верша “Сняжынкі” З. Бядулі. **13.** Вячэрняя гулянка. **17.** “Дай Бог людзям Новы …, навагодні вечар” – з верша “Пад Новы год” Я. Коласа. **18.** Асабістая вядомасць, рэпутацыя. **21.** Купальская песня. **22.** Летняя пабудова для адпачынку. **24.** *Калядкі – добрыя …, але мароз праклятый* (прык.). **26.** “Люблю я зімы з маразамі, … белыя ў палях” – з верша “Песні зімы” Я. Коласа. **27.** Тое, з чым людзі спяшаюцца разлічыцца да Каляд. **28.** “… пад сярмяжкай на санях клубком” – з верша “Зімовая ноч” Я. Купалы. **30.** “І лятуць мае лёгкія …, унашуся я ў сінюю даль” – з верша “Зімовая дарога” М. Багдановіча.

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Студзень. **4.** Народзе. **9.** Янот. **10.** Імжа. **11.** Шчадроўка. **14.** Рахуба. **15.** Пан. **16.** Снежкі. **19.** Манто. **20.** Мароз. **23.** Пракос. **25.** Язь. **27.** Покуць. **29.** Мядзведзь. **31.** Коні. **32.** Баян. **33.** Радзіма. **34.** Грамніца.

**Па вертыкалі: 1.** “Снягурка”. **2.** Узор. **3.** Елачка. **5.** Раскос. **6.** Зіма. **7.** Герда. **8.** Зарніца. **12.** Пушыначкі. **13.** Вечарынка. **17.** Год. **18.** Імя. **21.** Купалка. **22.** Альтанка. **24.** Святкі. **26.** Завеі. **27.** Пазыка. **28.** Янка. **30.** Сані.

Склаў **Лявон ЦЕЛЕШ.**

Установа «Рэдакцыя часопіса “Роднае слова”». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад’езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ “Белінвестбанк” г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 06.01.2011. Фармат 60x84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура “Minion Pro”. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3507 экз. Зак. 47.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва “Беларускі Дом друку”».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.